— Па загадзе генерал-маёра Аляксандра Сапегі! — адказаў улан, і Пранціш ускінуўся: вось дык шанец!

— А дзе зараз найяснейшы пан Сапега?

— А табе што за справа, немчык? — пагардліва кінуў улан, і нават палаш з похваў трохі высунуў, каб пастрашыць падшыванца. Пранцысь жа забыўся, у якім ён зараз аблічча. Але пазбаўляцца шанцу сустрэцца з Сапегам было немагчыма. Вырвіч саскочыў з брычкі, наблізіўся да ўлана і пачаў тлумачыць пра таемнае і тэрміновае пасланне.

— Нядаўна да пана Сапегі прыехаў малады казак, увесь аброслы... Давялося яго пагаліць, каб прачытаць на ягонай чэрапаўцы напісанае квасцамі пасланне. У цябе таксама нешта падобнае? — насмешна папытаўся улан. — Ты ж разумееш, што калі ветрам гандлюеш, нашыя шаблі хутка праветраць твае вантробы.

Пранціш паклаў руку на сваю зброю:

— Слова шляхціца! Калі неадкладна праводзіце да пана Сапегі мяне і майго доктара, генерал толькі рады будзе.

А за ягонай спінай ужо дыхаў Лёднік, гатовы абараняць маладога гаспадара. Пфальцман выціраў насоўкай спацелы лоб, уцяміўшы, што патрапіў у рукі ворагаў свайго кліента, не менш магутных, чым той, а побач грувасцілася захінутая палотнамі жалезная чарапаха.

## Раздзел шосты.
## КАШЧЭІ СЛУЦКАГА ЗАМКА

Для людзей занадта мітуслівых, якія хапаюцца, як немаўля за бразготкі, адразу за некалькі спраў, мысляры мінулага раілі разводзіць у доме траву ядранец, альбо каменяломку, якая прыводзіць вадкасці цела да гармоніі і супакойвае. Вакол князя Аляксандра Сапегі ядранцу з ягонымі пяшчотнымі белымі ды юлёвымі кветкамі належала прарасці праз усе сцены. Можа, тады гэты недарослы, шчуплы чалавечак з вялікім носам

і блізка пасаджанымі вачыма, у недарэчна вялікім парыку і парчовым жустакоры з сумётамі брабанцкіх карункаў прысеў бы хоць на хвілю ды спыніўся б на адным са шматлікіх сваіх планаў. На партрэтах Сапега выглядаў як малады антычны бог з паблажлівым паглядам. Але цяпер Пранціш нават не раўнаваў чароўную Паланэйку, ад якой перадаў князю ліст з дасканала адноўленай пячаткай. Вядома, калі трэба да алтара ісці, нават самы плюгавы магнат падаецца практычным дамам прыгажэй за самага гожага ды дужага шляхціца-шарачка, але ж тым плюгаўцам пасля і рогі ахвотна настаўляюць з гожымі і дужымі. А ўспомніць яшчэ пра ваевадзянку Сапегу, якая ўлагоджвала сына каралеўскага амарата...

Сапега раздражнёна кінуў ліст ад Багінскіх на столік са срэбным прыборам для кавы.

— Лёгка сказаць — «з дапамогай Дзевы»! А як да той дзевы дабрацца, я што, штурмаваць павінен Слуцкі замак? Досыць, бацька наваяваўся, ледзь палову маёнтасці не страціў! — крычаў Сапега, намякаючы на нядаўнюю ўнутраную вайну, калі магнаты аб'ядналіся супраць роду Сапегаў, які надта набіраў магутнасці. — А гэты лысы паскуднік Радзівіл чхаў нават на Трыбунал!

На шпалерах з залатымі кветкамі слізгалі дзівосныя цені, спароджаныя прабяганнем князя перад кандэлябрамі. Лёднік пачціва кашлянуў, каб прывабіць увагу гаспадара.

— Магу я мовіць слова да яснавяльможнага пана? Магчыма, варта змяніць тактыку, per fas ac nefas? Можна паспрабаваць пранікнуць у замак таемна, у чужым абліччы.

Сапега злосна зірнуў на Лёдніка. Доктар выглядаў, як мае быць: акуратны белы парык, таксама выкуплены ў Пфальцмана, нямецкая вопратка, капялюш, перавязаны чыстай шаўковай белай стужкай, шабля... Нават твар згодна свецкім звычаям доктар напудрыў і румянец наклаў, ад чаго выгляд у яго быў фанабэрысты да немагчымага. Ведаў бы князь, што гэты важны муж

вучоны ўсяго толькі пажыццёвы і бясправўны слуга маладога шляхціца Вырвіча, на якога Сапега не звяртаў аніякае ўвагі... Ад гэтай думкі Пранціш вышэй задзёр падбароддзе і пашкадаваў, што ў яго яшчэ не растуць вусы.

Сапега спыніў позірк шэрых вачэй на доктары.

— Вы што, гер Лотман, думаеце, у мяне ў слуцкім замку шпегаў няма? Ды тут уся зямля нашпігаваная шпегамі, як шынка — часныком. Шпегі тут, шпегі там, двайныя, трайныя... І ўрэшце ўсё ўпіраецца ў тое, хто каго першы прадасць і купіць. Мне данеслі, панна Саламея Рэніч, якую, як вы сцвярджаеце, добра ведаеце, жывая. Але дзе князь яе трымае — ніхто не здагадваецца.

Лёднік не стрымаў уздыху палёгкі, а Сапега толькі махнуў рукой.

— Але ці можна гэтаму верыць? І ў любым выпадку яе сцерагуць так, што падабрацца немагчыма.

Лёднік сціснуў вусны.

— Але я змагу! Радзівіл мне паверыць. Я цяпер — немец, што прыехаў разам з панам Пфальцманам дэманстраваць новую магутную зброю, я — вядомы доктар, што пацвердзіць той жа Пфальцман... Мае паслугі могуць спатрэбіцца ўсім, нават князю Гераніму.

Сапега адбегся ў другі кут пакоя і пачаў калмаціць свой парык, раздумваючы. Вырвіч скарыстаўся момантам, каб высветліць адносіны са слугою.

— Што значыць — «я змагу»? А я?

— Твая місія закончана! — Лёднік быў суровы, як вецер у лютым. — Ліст перадаў, дукаты атрымаў... Усё! Гэта мая асабістая справа! Няма ніякай патрэбы рызыкаваць жыццём высакароднага шляхціца дзеля беднай мяшчанкі...

— А я не дазваляю табе выпраўляцца без мяне! — выразна шапнуў Пранціш, дастаўшы на хвілю з кішэні складзеную паперу аб куплі алхіміка.

— Дурное хлапчо! — прасычэў Лёднік, ягоны худы твар ажно плямамі пайшоў. — Застанешся тут!

— А не табе загадваць! Вось я — захачу і зусім нікуды цябе не адпушчу! — з задавальненнем прасычэў у адказ Пранціш, які нізавошта не хацеў упускаць магчымасці паўдзельнічаць у небяспечнай і цікавай прыгодзе. — Табе ж нельга совацца ў замак, бо можа нехта пазнаць нават у нямецкім строі.

— Маё жыццё нічога не каштуе! — доктар ледзь жоўцю са злосці не пляваўся.

— Ну як жа, каштуе! — шматзначна прамовіў Пранціш, намякаючы на свой шэлег. Алхімік нарэшце заторкнуўся, злосна пазіраючы на шкаляра. Сапега вярнуўся да стала, не зважыўшы на раз'ятранае перашэптванне гасцей.

— Можа быць, і варта ўзяцца за чапялу, калі меч зламаны... Але тады я павінен адпусціць да Радзівіла машыну, якую вы называеце смяротнай зброяй! А ён немаведама што з ёю наробіць! — Сапега адсёрбнуў са срэбнага кубка кавы. Тая, відаць, зусім астыла, таму што ён скрывіўся і выплюнуў яе назад, але слугу клікаць не стаў, не жадаючы, відаць, лішніх вушэй.

— Ваша княская міласць, наколькі я змог разгледзець, гэтая машына занадта марудная і неразваротлівая, — напружаным голасам загаварыў Лёднік. — Эфектнасці ў ёй больш, чым рэальнай карысці. Новы вадзяны рухавік — рэч ненадзейная, такія цягам эксперыментаў часта ўзрываліся. Хуткасць такой машыны будзе не хутчэй за тры вярсты ў гадзіну, чалавека не абгоніць. Да таго ж на сваім паліве праедзе не больш паўвярсты. Яна будзе палохаць, але не забіваць арміі.

— Што ж... — Сапега зноў забегаў туды-сюды, краталючы рукамі то посуд на стале, то кандэлябры, то ўласны нос. — На такую рызыку можна было б пайсці, калі б я быў упэўнены, што вам удасца прывесці да мяне дачку полацкага кнігара жывой...

— Я вызвалю яе, альбо памру сам! — запэўніў Лёднік такім тонам, што сумніву ўзнікала не больш, чым у намерах кулі, што ляціць да твайго ілба.

— І прывядзеш сюды!

— Але толькі пры адной умове, прабачце маю дзёрзкасць, ваша мосць...

— Якой умове? — нахмурыўся Сапега.

— Калі вы дасцё сваё шляхецкае слова, што ў вашых руках панне Саламеі нічога не пагражае, што яна не стане палонніцай і вы не змусіце яе ні да чаго супраць ейнай волі!

Лёднік пачціва схіліўся, але было зразмела, што не адступіцца.

— Слова Аляксандра Сапегі — я нічым не пакрыўджу дзеўку.

Пранціш заўважыў, што князь трохі скрывіўся, што азначала, што даваць слова яму не з рукі, і задаў яму пытанне, што само сабой узнікала:

— Ваша княская мосць, але ж мы найлепей выканаем сваю місію, калі будзем ведаць, што насамрэч патрэбна высокім панам ад Саламеі Рэніч? Ну не абараніць жа правы полацкай мяшчанкі? Ваша мосць, вы можаце нам давяраць, бо мы ўжо сваім жыццём рызыкавалі, гнеў Радзівілаў выклікаўшы, і надалей нас смяртэльная гульня чакае.

Пранціш ведаў, што супроць ягонага даверлівага тону і ўмольнага пагляду шчырых блакітных вачэй ніхто не вытрывае. Сапега слізгануў вачыма па гасцях, аббег пакой, зазірнуўшы пад парцьеры, нават вызірнуў за дзверы... Наблізіўся да Лёдніка і Вырвіча ўшчыльную, Пранцысю аж казытнула ў носе ад рэзкага паху моднай парфумы з мускусам і лавандай, загаварыў шэптам.

— Калі я стаў ваяводам полацкім і першы раз прыехаў у места, мне распавялі пра ягоныя дзівосы.... І пра сутарэнні. Многія спрабавалі там шукаць — бібліятэку Сафійскага сабора, скарбы... Папа рымскі Георгій, Іван Жахлівы, езуіты перапаролі ўсё, што маглі. Прызнаюся, спрабаваў і я пасылаць людзей у сутарэнні. Але далёка ні разу не прайшлі, то вада, то завалы. А аднойчы палезлі ў ход ды чацвёра ад кепскага паветра задыхнуліся.

І мне параілі звярнуцца да мясцовага купца Івана Рэніча, які любіць па гэтых сутарэннях лазіць. Але гэты махляр не прызнаўся, што нешта знайшоў.

Лёднік шумна выдыхнуў, але стрымаў гнеў ад гэткага непаважлівага водгуку пра ягонага настаўніка.

— Трэба было гэтага купчыну не выпускаць з-пад нагляду... — з прыкрасцю зазначыў Сапега. — Але ён падаўся мне такім дзівачным! А тут пачалася пошасць, і толькі пасля таго, як яна скончылася, і Іван Рэніч памёр, мне даклалі, што, падобна, ён знайшоў уваход у сховішча. А там не толькі бібліятэка Сафійскага сабора, але і адна... рэліквія... Інакш Марцін Радзівіл да яго асабіста не прыязджаў бы.

— А што за рэліквія, ваша мосць? — пацікавіўся Вырвіч. — І ў каго яна цяпер?

Сапега павагаўся, але працягнуў шаптаць, толькі яшчэ больш ціха. — Пра падскарбія Аляксандра Солтана чулі?

— Гэта які трыста год таму стаў рыцарам Гроба Гасподняга? — удакладніў Лёднік.

— Так, ён самы... — Сапега зноў крануў сябе за нос. — Солтан з'явіўся да Папы са скаргай, што ў Вялікім княстве Літоўскім уціскаюць праваслаўных. І Папа даў яму даручэнне... Узамен якога абяцаў падтрымку. Прывезці з Ерусаліму адну святыню... Яна патрапіла туды з Чэхіі. Калі Сігізмунд Люксембург ваяваў з жаўнерамі Гуса, каб выратаваць найвялікшыя рэліквіі Прагі ад ерэтыкоў, схаваў іх на двух вазах з рыбай і адправіў у Нюрнберг. Але па дарозе вазы перастрэлі, і самая найвялікшая святыня была забраная. Кажуць, гэта ўчынілі пражскія разэнкрэйцэры і перадалі забранае ў Ерусалім, у Храм Гроба Гасподня.

— Разэнкрэйцэрам, якіх ніхто толкам не бачыў, прыпісваюць самыя неверагодныя ўчынкі, — заўважыў Лёднік. — Я б не ўсяму верыў, Ваша мосць. Я жыў у Празе, бываў у Нюрнбергу, чуў пра два вазы з рыбай... Але пра крадзеж рэліквіі — нічога.

— І не павінен быў чуць, — раздражнёна патлумачыў Сапега. — Каб не нарабілася шуму, скрадзенае падмянілі падробкай. І цяпер Папа хацеў сапраўдную святыню вярнуць сабе. Але Аляксандр Солтан, пабываўшы ў Ерусаліме, у Рым не вярнуўся. Паехаў у Партугалію, Францыю, Англію... А калі вярнуўся на радзіму, каталікі яго з амбонаў у Вільні сабакам абзывалі. І ніякай граматы ад Папы ў яго не мелася пра заступніцтва. Затое ў Полацкай Сафіі за здароўе Солтана пачалі кожны дзень служыць малебны. Значыць, туды святыню перадаў, спадзеючыся абараніць братоў па веры, а манахі яе схавалі ў сутарэннях.

— Дык што гэта за святыня, ваша княская мосць? — з нецярплівасцю прашаптаў Пранцысь.

Сапега адвёў вочы.

— Яна доўга пераходзіла з рук у рукі, з'яўляючыся часткай імператарскіх рэгаліяў. Імператар Канстанцін, Отан Вялікі, Карл Вялікі, Барбароса... Усе з ёй у руках каранаваліся. Карацей, уладальнік гэтай рэліквіі — уладар над уладарамі! — голас Сапегі аж узвысіўся ды сарваўся на дыскант ад захаплення. — Калі б хтось у Рэчы Паспалітай яе займеў! Тады і Багінскія, і Чартарыйскія, і Пацы — усе збяруцца пад ягоны сцяг!

Сапега відавочна ўяўляў на месцы шчасліўца сябе.

— Рамфея! — выдыхнуў уражаны Лёднік здагадку, і Сапега кінуў на занадта абазнанага доктара засцярожлівы позірк.

— Няважна... Галоўнае, Іван Рэніч ведаў, дзе яна знаходзіцца. І сабе яе дакладна не забраў. Але толькі абраны чалавек можа прайсці ў сутарэнні, і такі чалавек можа прывесці свайго пераемніка толькі добраахвотна, пасля належных выпрабаванняў. Таму Марцін Радзівіл і ўгаворваў Рэніча па-добраму... Але калі той памёр, захавальніцай полацкай таямніцы стала ягоная дачка.

— Чаму вы так у гэтым упэўнены? Яна сама прызналася? — напружана папытаўся Лёднік. Сапега выпрастаўся, відаць, зусім знудзіўшыся вымушаным знаходжаннем

у адной паставе, і зноў забегаў па пакоі, загаварыўшы на поўны голас.

— Прызналася, не прызналася — больш няма каму! Паміж захавальнікамі павінна быць альбо крэўная, альбо духовая еднасць. Таму й паненка пакуль жывая, і, напэўна, здаровая. Цяпер Геранім Радзівіл спадзяецца стаць захавальнікам... і ўладальнікам рэлscore. А гэтага дапусціць нельга!

Сапега нарэшце спыніўся, у сваім узбітым хмаркай парыку падобны да вушастага красналюдка-гнома.

— Вырашана — адпраўляецеся з Пфальцманамі! Пастарайцеся ўвайсці да Гераніма ў давер, хоць гэта практычна немагчыма. У замку можаце разлічваць на дырэктара тэатра Пучыні. Радзівіл ягоную жонку змусіў разам з іншымі актрысамі ўвасабляць мармуровыя статуі багінь падчас балю. Небарака не вытрымала ганьбы й памерла. Зрэшты, усе слугі, прыслужнікі і прыдворныя свайго пана ненавідзяць люта, — пасміхнуўся Сапега. — Але ж усе запалоханыя да мышынага віску. І яшчэ адзін чалавек вам прыдасца... Пайсці з вамі не зможа — там яго добра ведаюць, але ж каб дастаць князя Гераніма, жыцця не пашкадуе.

Сапега высунуўся за дзверы і гукнуў:

— Ігнась!

Праз хвілю ў кабінет зайшоў высокі дужы шляхцюк у сармацкім строі, з пышнымі светлымі вусамі і доўгім чубам. Вочы шляхцюка пазіралі ўпэўнена, як у дасведчанага воя.

— Знаёмцеся, пан Ігнась Мянчынскі! Брат апошняй жонкі князя Гераніма. Калі прыехаў заступацца за сястру, князь адправіў яго назад у карэце на авальных колах. Так?

— Так! — скрозь сцятыя зубы адказаў шляхцюк, і ягоныя вочы — нават у цьмяным святле свечак гэта было відно — палыхнулі агнём нянавісці за перажытую ганьбу.

— Сястра пана Мянчынскага зараз у бяспецы, у бацькоў, таму пан Ігнась нічым не звязаны. І дапаможа вам, калі што, са сваймі жаўнерамі...

Твар пана Мянчынскага нават засвяціўся ад прадчування помсты — было зразумела, што паляціць за ворагам, калі даць сігнал, як выжал за дзіком... Пранціш шчыра пазайздросціў вусам пана Ігнася. А яшчэ крыўдна зрабілася пры думцы, што Лёднік, як заўсёды, разумее ў пачутым куды больш за свайго гаспадара.

У цемры і дажджы агні паходняў здаваліся размытымі плямамі. Пфальцманы былі шчаслівыя і перапоўненыя ўдзячнасцю — бо ўпэўненыя, што толькі дзякуючы сувязям высакароднага юнака іх адпусцілі. Фраў Эльза гладзіла Пранціша па непаслухмяных кудзерах з сапраўднай мацярынскай ласкай, відаць, прыкідваючы, што магла б мець такога гожага сына. Можна было спадзявацца, што сапраўдных імёнаў сваіх калегаў яны не выдадуць. Чакаць, пакуль развіднее, ніхто не стаў. І праз гадзіну жалезная чарапаха ўкацілася ў браму слуцкага замка.

Лёдніка і Пранціша, прабачце, гера Лотмана і ягонага асістэнта Франца Магнуса пасялілі ў пакоі малога палаца Ніжняга замка, побач з Пфальцманамі. Не ў самым шыкоўным пакоі, але там усё-ткі меўся вялізны ложак на саксонскі манер, які Лёднік, як належала слузе, саступіў Пранцысю, а сам, падкурчыўшы доўгія ногі, улёгся на атаманцы ля каміна.

Нібыта было ўтульна... Суха, цёпла... Лепей, чым дома ў Падняводдзі, дзе Пранцысь і бацька спалі на цвёрдых лаўках. А бацька часта яшчэ, дзеля выхавання шляхецкага духу, будзіў сына з першымі пеўнямі, а то і сярод ночы стрэлам у столь, так што тая нагадвала рэшата. І камін тут нядаўна тапілі. Але шкаляру здавалася, што ён ляжыць не на пярыне, а на тонкім лёдзе, які вось-вось можа растаць, і правалішся ў славутыя сутарэнні-катавальні. Нават у начной цішы ўгадваліся прывідныя крыкі. Пранцысь, змагаючыся з дрымотай, ледзь дачакаўся, пакуль Лёднік прамармыча належныя вечаровыя малітвы, вымавіць «Амін!» і ўляжацца, і папытаўся:

— А што такое рамфея? З-за чаго ўвесь гэты бабілонскі кірмаш?

Лёднік нецярпліва крутануўся на атаманцы:

— Дзіда. Дзіда святога Маўрыкія. Некаторыя лічаць, што гэта менавіта тая зброя, якой сотнік Лангін на Галгофе прабіў бок Госпада нашага Ісуса Хрыста, калі той канаў на крыжы. Але хутчэй за ўсё яна належала святому Маўрыкію з хрысціянскага рымскага легіёна, знішчанага па загадзе імператара. Паводле легенды, варты ўладання гэтай святыняй чалавек набудзе асаблівую мудрасць і Боскае апякунства.

Недзе завыў сабака, потым захліпнуўся, завішчэў, нібы яго моцна перацялі, і ўрэшце змоўк. Пранцысь памаўчаў, падумаў:

— А як цэлую дзіду можна было перахоўваць, туды-сюды вазіць?

— Гаворка ўсяго толькі пра наканечнік! Састаўлены з двух паловаў і цвіка ад крыжа Гасподня, абкручаных па загадзе Отана Першага срэбным дротам. Усё? Я магу нарэшце заснуць, мой пан? — атрутай у голасе доктара можна было забіць усіх пацукоў слуцкага замка. Але Вырвіч ужо звык да шыпення і крыкаў свайго слугі, і загаварыў зноў:

— Доктар, а, доктар! А ты не думаеш, што, хоць Сапега і даў слова, калі мы перададзім Саламею ў іхнія рукі, атрымаецца з печкі на патэльню? Ад яе ж усё роўна будуць патрабаваць выдаць таямніцу...

На гэты раз Лёднік не вылаяўся і адказаў, памаўчаўшы, халодным, як лязо, голасам:

— Думаю. Мае мазгі так ужо зладжаныя, што не могуць не думаць. Але напачатку трэба вырашыць адну праблему, а потым брацца за наступную.

Зноў памаўчаў і прамовіў цяпер ужо зусім загадна:

— І калі вы зараз жа, гаспадар, не змоўкнеце і не дасцё мне скарыстацца з магчымасці можа апошні раз у жыцці нармальна выспацца, я не пагляджу на ўсе тонкасці адносін сюзерэн-раб і адлупцую вас па тым самым месцы,

якое вы не аднойчы, мусіць, падстаўлялі вашым бедным настаўнікам.

У Пранціша не знайшлося сілы на абурэнне дзёрзкасцю слугі, вочы зліпліся, нібыта іх склеілі смалой Начніцы, і шкаляр праваліўся ў сон.

Сніліся яму бясконцыя анфілады пустых пакояў са шпалерамі ў залатыя кветкі, па якіх лунала ў шырачэзнай сукенцы-рагоўцы, расшытай перлінамі, паненка Паланэйка. Ваевадзянка срабрыста смяялася, увесь час то набліжаючыся, то аддаляючыся ад Пранцыся, які спрабаваў ухапіцца хоць за крысо ейнай сукенкі. А калі яму нарэшце ўдалося ўзяцца за краёчак бязважкай блакітнай тканіны, з яе пасыпаліся перліны... І з дробным стукатам пачалі сыпацца, сыпацца, усё хутчэй, зліваючыся з рогатам паненкі, і ўрэшце Пранцысь з жахам заўважыў, што ўся паненка рассыпаецца на дробныя перлінкі, ейная постаць вытанчаецца, растае... І ўрэшце на падлозе засталіся роўным слоем ляжаць толькі перліны, а смех панны ўсё гучэў, гучэў... І перлінаў усё прыбаўлялася... Іх насыпалася столькі, што шарготкія сумёты падняліся па калені Пранцысю, вышэй, вышэй... Вырвіч ужо не мог ісці, разграбаў непаслухмяныя гурбы з перлінаў рукамі... А Багінская ўсё смяялася... Гучней... Гучней...

Пранцысь прачнуўся ад крумкання варон. Падобна, гэтыя птушкі будуць праследваць яго цяпер па жыцці. Ёсць жа такая прымха, нібыта кожнаму чалавеку адпавядае не толькі тэмперамент, вызначаны перабольшаным утрыманнем у арганізме пэўнай вадкасці — вады, крыві, флегмы альбо жоўці, — але й нейкая жывёла, расліна, мінерал, колер, лічба... Па ўсім падобна, што Пранцысева птушка — не арол, не голуб і не ластаўка, а варона... Вось жа ганьба, каб толькі хто не даведаўся.

Лёднік галіўся перад трумо з чорнага дрэва, схіліўшыся над мядзяным тазікам. Ён прабуркатаў нешта падобнае да «нарэшце васпан зрабіў ласку ўстаць» і працягваў плённы занятак. Пранцысь з расчараваннем правёў да-

лоняй па сваім гладкім падбароддзі, нібыта спадзяваўся, што за нач на ім пачала расці барада. Споўз з ложка, мімаходзь адзначыўшы, што дробных крывасмокаў, якія так псуюць начлег нават у палацы, тут амаль не было, нібы нават блохі ды клапы пачуваліся ў гэтых сценах няўтульна... Наблізіўся да невялікага, скругленага наверсе акна, за якім чулася крумканне. У акне былі шыбы са шклом, не якая-небудзь зашмальцаваная папера альбо бычыны пухір... І праз гэтае шкло хлопец пабачыў прывязаныя да слупоў не зусім свежыя трупы.

Ясна, што памерлыя адышлі смерцю гвалтоўнай і пакутніцкай і па волі князя. Па рэштках адзежы можна было зразумець, што гэта не сяляне. Варона ўселася на чэрап з парэшткамі сівых валасоў... Пранцысь адвярнуўся. Лёднік кінуў востры погляд на ягоны збляднелы твар, спаласнуў рукі ў тазіку, акуратна выцер рушнікам — кожны палец асобна, як, відаць, прывучыўся за час лекарскай практыкі.

— Значыць, так, юнача. Гулі скончыліся. Цяпер мы таньчым са смерцю. Князю Гераніму ў вочы не глядзець, кланяцца як мага часцей і ніжэй, не пераломішся, на каленькі падаць таксама не саромся. Не забывайся: ты — немец. Тупы нямецкі недавучаны студэнт, бурш, які ні слова па-тутэйшаму не разумее. Паколькі пры двары, і асабліва ў гарнізоне, на нямецкай мове гавораць амаль усе, калі давядзецца адкрыць рот, фразы паўтарай толькі тыя, якія мы з табой вывучылі. Калі што, я сам усё за цябе скажу. Ясна?

Пранцысь глядзеў на суровы твар Лёдніка і адчуваў, як па спіне пабеглі халодныя дрыжыкі. Раптам у замкавым двары нешта заляскатала, загрукатала... Наставаў час жалезнай чарапахі.

Вырвічу не давялося доўга гадаць, чаму Лёднік так пільна павучаў яго, як паводзіцца з гаспадаром гэтага замка. Працей было дагадзіць істэрычнай паненцы, якая адначасова патрабуе зачыніць акно, бо дзьме, і свежага паветра, бо задушна. Цяжка было і ўстрымацца ад небяспечнага выразу твару пры поглядзе на князя. Бо яму

сапраўды найбольш падыходзіла найменне «дзікі», як казалі пра яго тыя, хто ад яго не залежаў. Князь Геранім быў у сармацкім строі: цёмна-сіні кунтуш з залатымі шнурамі, кармазынавы жупан з дыяментавымі гузамі падперазаны шыкоўным літым пасам, такія ткалі тут жа, на славутай слуцкай персіярні, сабаліная шапка з велізарным дыяментам. Шабля-карабэла пералівалася рубінамі і смарагдамі. На бледнай з жаўтізной скуры недарэчна выглядалі чорныя густыя бровы і чорныя вочы, што блішчэлі, як у вар'ята. Нервовыя ноздры раздзімаліся, як быццам князь увесь час чакаў нападу — хаця хутчэй за ўсё менавіта так і было. Доўгія чорныя з сівізной вусы хавалі вузкія вусны. Відовішча яшчэ больш дзічэла, калі князь здымаў шапку, бо галава яго была зусім лысая, бліскучы чэрап нагадваў востры канец яйка. Дадаць яшчэ, што ўсё княскае аблічча пакрывалі зморшчыны, як пусты кашэль, пры гэтым сам князь быў шчуплы, але з вялікім жыватом, які звісаў над пасам, плечы прыўзнятыя, як у ваўка, што збіраецца скочыць на ахвяру... Ён нагадваў пракаветнага Кашчэя, людажэрнае паганскае боства пушчы.

Пранцысь, паціраючы спрацаваныя за раніцу важджаннем з жалезным нутром нямецкай машыны рукі, сціпла стаяў за спінай Пфальцмана, які захоплена на сумесі нямецкай, польскай і беларускай тлумачыў прызначэнне асобных дэталяў жалезнай чарапахі, якая ва ўсёй красе блішчала пасярод двара і сапраўды магла выклікаць захапленне і спалох. Гэткі жалезны шкілет цмока з калёсамі і рычагамі ўнутры і паднятым «задам» — катлом і цыліндрам рухавіка. Не дарэмна Лёднік і Пранцысь сёння завіхаліся, дапамагаючы немцу падрыхтаваць машыну да дэманстрацыі.

— Хачу п-паглядзець, як яна п-працуе! — заікаючыся, высокім па-бабску голасам запатрабаваў князь. Слугі, што стаялі ў двары, усе як адзін падаліся назад, заазіраліся.

— Як загадае ваша мосць! — раскланяўся Пфальцман. — Толькі няхай прынясуць порах і ядры для гарматы!

Пранцысь заўважыў, што Лёднік зноў спахмурнеў: так было, калі ўсёведны доктар раніцай уцяміў, што папярэдне не заўважыў узброенасці чарапахі, на якую маглі ўсталёўвацца маленечкія гарматы. Цяпер, ясна, дакараў сябе, што не дааצаніў вынаходніцтва аднакурсніка.

Як дамаўляліся, у чарапаху залезлі Лёднік і Пфальцман, папярэдне распранушыся да кашуль. Пранцысеваму слузе дасталася самая няўдзячная частка працы: ён павінен быў падтрымліваць агонь у катле, які награваў вялізную металічную колбу з вадой, адкуль пар ішоў у цыліндр. Усё сапраўды рабілася вельмі марудна. Пакуль вугаль распаліўся, закіпела ў колбе вада... Пакуль ціск пары зрабіўся дастатковы, зрушыліся з месца шатуны, скрануліся колы і колцы... Пфальцман ірвануў на сябе падважнікі, і металічныя шчыты чарапахі самкнуліся, так што машына разам з рухавіком аказалася пад бліскучым панцырам з вузкімі шчылінамі дзеля агляду, праветрывання і стральбы з пісталетаў. У машыны было мноства маленькіх колаў на рухомых восях, што, як меркавалася, зробіць яе неверагодна ўстойлівай і дазволіць мінаць перашкоды. З «галавы» чарапахі валіў чорны дым, яна свістала, сіпела, гула... Колы з ляскатам зрушыліся, а паколькі на кожным з іх была зробленая бліскучая металёвая налепка, здавалася, што пачвара перабірае лапамі, як велізарная сараканожка.

— Пайшоў! Пайшоў! Цмок пайшоў! — спалохана зашапталіся вакол. Крок, другі... Пахолкі і пахолікі, гайдукі і паюкі, венгрынкі і гусары, машталеры і турчаняты, што сабраліся ў двары, пачалі адыходзіць, хрысціцца, некаторыя ўчынілі гэтак жа, як камянецкія мужыкі, якія збеглі ад Пфальцмана. Жанчыны і дзеці вішчэлі... Здавалася, жалезную пачвару не стрымаюць ніякія сцены. Потым чарапаха застыла, з яе «пысы» высунулася маленькая кароткая гармата, скіравалася да ўсходняй сцяны...

— С-страляй! Валі! — узбуджана крычаў Геранім Радзівіл, прытопваючы нагой. Гармата выплюнула ядро... Сцяна вытрымала ўдар, хаця ў ёй утварылася заўважная

выбоіна. Апошняя чэлядзь з крыкам рассыпалася ўбакі, двор апусцеў.

— С-слаба! Мала! — крычаў князь. Металёвая пласціна адыйшла, у адтуліну высунуўся спацелы, счырванелы твар Пфальцмана.

— Ваша мосць, гэтая машына можа быць узброеная дванаццаццю такімі гарматамі, па ўсім перыметры, якія змогуць з дапамогай адмысловых прыстасаванняў страляць адначасова, наносячы ворагу вялікую шкоду!

— Ну д-дык і ўсталюй іх! — супакоіўся пан Геранім, зацікаўлена аглядаючы сваю новую зброю. — У Слуцку лепшыя людвісарні ў краі! Будзеш тут жыць, пакуль да ладу ўсё не давядзеш.

Над замкавым дваром кружлялі спалоханыя вароны.

— Пфальцман не ведае, у што ўвязаўся, — ціха прамовіў таксама расчырванелы ад знаходжання ў пякельнай машыне Лёднік Пранцысю на вуха, калі яны ішлі ў палац, адстаўшы ад іншых. — Мне тут распавялі, як князь выпісаў быў швейцарца, які мусіў паставіць яму ў Слуцку конны помнік. Але пан Геранім так замучыў майстра парадамі і кантраляваннем, да таго ж прыставіў да яго адмысловых людзей, каб не давалі ўжываць віно, што майстар збег. А на развітанне пакінуў гаспадару цыдулку, у якой выказаў, што той не мае ніякага ўяўлення ні пра ліцейную справу, ні пра архітэктуру. Князь ледзь жоўцю не захлынуўся ад злосці. Так што цяпер наўрад Пфальцманам удасца ўцячы.

Доктар памаўчаў, пакуль Пранціш ціха смяяўся, і дадаў:

— А машына ўсё-ткі марудная і неразваротлівая. Ідэю вадзянога рухавіка мы з Якубам разам абмяркоўвалі — цяпер з ёй носіцца малады Кюньё. Той марыць перасоўваць французскую артылерыю з дапамогай паравых машын, а Пфальцман аб'яднаў усё ў адным: гарматы, рухавік і абарончыя збудаванні. — Лёднік уздыхнуў нават трохі зайздросна, і Пранцысь зразумеў, што алхімік усё-ткі аддае належнае вынаходніцкаму таленту аднакурсніка. — Але з та-

кой малой хуткасцю і кароткай дыстанцыяй — ну колькі таго вугля можна з сабой у машыну прыхапіць? — яна пакуль не надта зручная. І дзякуй Богу. — І паглыбіўся ў звыклыя любамудрыі: — Ведаеш, я думаю, Леанарда да Вінчы не змог здзейсніць ніводнае са сваіх вайсковых вынаходніцваў яшчэ і таму, што тады ў вайскаводцаў існаваў пэўны кодэкс гонару: ганебным лічылася б заваяваць перамогу вось такой прыладай, а не хітрай стратэгіяй і мужнасцю вояў. Хаця, можа, я іх ідэалізую, і яны проста былі недавукамі, як наш Аўгуст — Пфальцман жа яму напачатку праект пасылаў, але кароль нават не адказаў. Затое пра машыну даведаўся князь Геранім...

Нямецкія вучоныя былі ўдастоеныя гонару абедаць у Вялікім палацы, які таксама знаходзіўся ў Ніжнім замку і быў перабудаваны з таго, што ўзводзіла яшчэ колішняя гаспадыня Слуцку Анастасія Алелькавіч. Стол абедзены ледзь не тых часоў, з дубовых дошак таўшчынёй у руку не самага кволага чалавека, змяшчаў паводле сармацкага звычая чалавек сто. Колькі выпіта было пад гэтымі высокімі зводамі, колькі віватаў гучэла, колькі зухаватых шляхціцаў проста з-за стала адпраўляліся на двубой! А пасля, калі маглі гэта зрабіць, вярталіся ў залю, каб выпіць міравую... Альбо той, хто выжыў, піў адыходную за спачылага. Колькі старажытных ваярскіх песень тут прараўлі моцныя глоткі!

Але такога магнацкага застолля, як цяпер ладзіў Геранім Радзівіл, нідзе больш нельга было пабачыць. Тут панавала цішыня — іголка ўпадзе, пачуеш. Пасля таго, як гаспадар усеўся за асобны столік і за ягонай спінай стаў пахолак, чый абавязак быў спрабаваць кожную страву і пітво, што падаваліся князю, і гайдук, які па звычаі трымаў панскі палаш, зайграла цудоўная музыка. Заслізгалі за спінамі гасцей слугі ў блакітных пералівістых жупанах з залатымі гузікамі, за пояс кожнага былі засунутыя ласёвыя рукавіцы. Але гучна прамаўляць насмельваўся толькі той, да каго князь звяртаўся. Астатнія час ад часу толькі

перашэптваліся, намагаючыся не наклікаць падазрэнне гаспадара. Пілі з каштоўных крышталёвых кубкаў з залатымі налепкамі ў выглядзе звяроў так, каб не ап'янець — Радзівіл Жорсткі дужа не любіў п'яных. І гэта ў той час, калі добрым лічылася, каб госці валіліся пад стол, перацалаваўшыся з келіхам. Ніхто не прамаўляў велягурыстых тостаў, не пілі з чаравічка прыўкраснай дамы... Дый дам за сталом зусім не было — бо Геранім Радзівіл іх таксама не любіў, дакладней, пагарджаў і асцерагаўся «фарбаваных лісіцаў». Толькі статуі белых антычных багінь прыкрашалі пакой, а між статуй гэтак жа нерухома стаялі гранд-мушкецёры князя Гераніма, у сініх мундзірах з белымі вылогамі, у капялюшах з пёрамі, са шпагамі, на похвах якіх блішчэлі каштоўныя камяні... Пранціш успомніў расповеды пра прыгонных актрыс, якіх прымушалі выяўляць статуі, прыгледзеўся... І праўда, мармуровыя багіні дыхалі! Насупраць Лёдніка і Пранцыся сядзеў тоўсценькі чалавек у блакітным камзоле, з жывымі чорнымі вачыма. Пранцысь пачуў, як Лёднік ціха звяртаецца да чалавека «сеньёр Пучыні», і зразумеў, што гэта і ёсць агент Сапегаў, дырэктар opернай трупы слуцкага тэатра. Значыць, доктар ужо наладзіў патрэбную сувязь... Як дасведчаны шпег.

Пан Геранім быў у незвычайным гуморы, калі меркаваць на радасных тварах прыдворных. Падобна, новая цацка ў выглядзе жалезнай чарапахі яму дужа спадабалася, і ён ужо планаваў, як з ейнай дапамогай карае ворагаў, а сярод іх значыліся нават усе князевы сваякі. Пфальцман зноў красамоўна апісваў магчымасці свайго вынаходніцтва, але князь спыніў погляд на другім немцы, а менавіта Лёдніку.

— А ў чым т-твой вучоны калега аб-базнаны?

На шчасце, пра адмову аднакурсніка ад астралогіі гер Якуб быў папярэджаны. Таму Пфальцман, не крывячы душой, распісаў выдатныя лекарскія здольнасці гера Лотмана, якому выкладчыкі Лейпцыгскага ўніверсітэта прарочылі славу новага Парацэльса. І тут патрапіў ключ

у замок. Князь належаў да людзей, што падазраюць у сабе кучу ўсялякіх хваробаў. Гэта спалучалася з пастаянным падазрэннем, што яго труцяць, няправільна лечаць, сурочваюць і гэтак далей. Таму князь увесь час меў патрэбу у дактарах, але дактары пры ім доўга не затрымліваліся... І не заўсёды ім удавалася з'ехаць ад капрызнага пацыента. Часцяком яны проста зніклі. Вось і цяпер князь застаўся практычна без лекараў — двух ацалелых ад княскага гневу няшчасных італійскіх клісцірнікаў Геранім бачыць не жадаў, і яны сядзелі, замкнуўшыся ў пакоях, і пілі адвары валяр'яны. Таму нямецкі доктар быў тут вельмі дарэчы. Настолькі, што чорныя вочы Радзівіла загарэліся дзікім агнём, і князь адразу запатрабаваў, каб гер Лотман яго агледзеў і вынес свой вердыкт. Лёднік кінуў на стол сурвэтку і пакорліва нахіліў галаву. Пранцыся паслалі па Лёднікаву дыхтоўную скураную валізку з абавязковым наборам інструментаў і лекаў, пазычаную ў Сапегаўскага доктара.

Калі князь і Лёднік зніклі за дзвярыма з арламі ў суправаджэнні двух гвардзейцаў, запанавала ціша, якую парушалі толькі асцярожныя пастукванні лыжак аб модныя парцалянавыя талеркі, ды часам баязлівы шэпт гасцей. Спалох на тварах шмат сказаў Вырвічу. Ясна, усе непакояцца, што доктарскі агляд князя раззлуе, бо так, відаць, здаралася часцяком, і тады дастанецца ўсім. Нават жывыя статуі задыхалі часцей, адна аж пераступіла з нагі на нагу, і тут жа замёрла пад злосным позіркам княскага прыдворнага маршалка, тлустага, як рапуха, які павінен быў сачыць за дасканаласцю дэкарацый.

Вырвіч адчуваў у жываце ледзяны камяк. Тым больш і сіньёр Пучыні паглядаў на яго спачувальна. Прайшла, відаць, цэлая гадзіна... Ніхто не насмельваўся ўстаць з месца, горш за ўсё даводзілася нерухомым мушкецёрам ды скульптурам. Музыкі распачалі граць чарговую мелодыю, якой Пранцысь з прычыны сваёй музычнай неадукаванасці пазнаць не мог, але гучэла яна дужа жаласна, як быццам кагосьці на ланцугу па пакутах вадзілі, нават

месціліся словы з карчомнай песенькі пра сіротку Дароту. Кавалак у горла не лез, хаця стол быў багацюшчы: такіх пачварын, якія красаваліся на срэбных блюдах, Вырвіч ніколі не бачыў. Птахі з выкручанымі крылцамі і шыямі, фаршыраваныя грыбамі і садавінай... Шчупакі, з галавы адвараныя, у сярэдзіне запечаныя, з хваста засмажаныя... Парсючкі з прыстаўленымі крыламі... Срэбныя сервізы — складаныя канструкцыі з талерак на вытанчаных маленькіх калонах, упрыгожаныя выявамі антычных багоў, прыпадабняліся славутаму рогу казы Амалфеі, на іх навалілі ўсялякае смакоцце, ад лімонаў да марцыпанаў. На ніжняй талерцы паціху плавіліся «італьянскія лёды», і кожны сервіз стаяў на круглым люстэрку. Раскоша!

А есці не хочацца.

Грукнулі дзверы... Князь Геранім увайшоў у залу парывістым крокам, ягоныя вусны крывіліся задаволенай усмешкай, а ўсміхаўся князь у апошні раз, відаць, калі сабакі на ягоных вачах рвалі зашытых у мядзвежыя скуры правадыроў Крычаўскага паўстання. Уся зала адначасова нібыта выдыхнула з палёгкай, як толькі столь не прыўзнялася. За князем з каменным фанабэрыстым тварам крочыў Лёднік.

— Неад-дменна сёння ж усе вашыя ад-двары мусяць быць гатовыя! — абвясціў на нямецкай князь Геранім і ўрачыста ўсеўся на месца. — Зоймеш п-пасаду майго асабістага д-доктара! Італійцаў вон! Д-дваццаць дукатаў у месяц даю! Я заўсёды к-казаў, што нямецкая мед-дыцына самая лепшая! — і перайшоў на беларускую: — Зараз жа п-падаць мне аўсянай кашы і к-кавалак ад-дварной ялавічыны...

— Толькі ўсё ешче без солі, ваша княская міласць! — сваім нізкім голасам па-нямецку прамовіў Лёднік, і можна было зразумець, што гэта прапісаную ім дыету князь пачаў неадкладна спраўджваць.

— Чуеце, невукі? Без солі! Т-толькі атручваць мяне зд-дольныя вэнджаным д-ды смажаным! Пры маіх хворых нырках!

Пахолкі забегалі з такім жахам на твары, нібыта кавалак ялавічыны зараз выражуць з іхніх сцёгнаў. Цяпер уся ўвага засярodзілася на цуда-доктары. Лёднік быў на вышыні. Ён тарабаніў па-нямецку пра солі і мінералы, жыццёвыя сокі і энергію Месяца так пераканаўча, што нават Пранцысь, які разумеў з пятага на дзясятае, зацікавіўся.

Раптам князь рэзка ўзняўся, музыка зараз ж сціхла, як перарэзалі струны, і кінуў у бок Пфальцмана і Лёдніка:

— Хадземце, немчукі, мне п-патрэбныя парады добрых знаўцаў.

Пфальцман паспеў увярнуць нешта пра тое, што ягоная мосць князь Радзівіл і сам найвыдатны знаўца ўсіх навук і рамёстваў, але на князя найшла істэрычная прага дзеяння. Ён, зразумела, пад прыглядам чатырох янычараў у наматаных паўзверх бабровых шапак белых чалмах, цягаў немцаў па ўсім палацы, распавядаючы пра грандыёзныя задумы, якія часткова пачаў здзяйсняць. Вялікі палац Ніжняга замку быў сапраўды велізарны, але аднапавярховы, крыты гонтай — драўлянай чарапіцай, з высокім цокальным паверхам. Пры князе Гераніме тут даданіся дзве алькежы — бакавыя прыбудовы, паўкруглы выступ з фасада, падраслі дзве вежы — князь відавочна імкнуўся дагнаць у раскошы свайго слуцкага жытла нясвіжскага пляменніка Пане Каханку. А Радзівіл усё яшчэ шмат планаваў, пра што натхнёна і распавядаў сваім нямецкім спадарожнікам: зладзіць аранжарэю з кактусаў, дзівосных калючых раслінаў з Амерыкі, каб раслі аж пад самую столь, правесці перагаворныя трубы, каб з любога пакоя гукнуць у такую — і пачуюць у самым далёкім памяшканні. Зрабіць шкляны пакой, у якім будзе штучнае мора, каб назіраць за жыццём марскіх пачвараў — пераплюнуць Пане Каханку, у якога рыбы над шкляной столлю плавалі... Паказаў паноптыкум, у якім сабраў дзівосы — ад васковых лялек у чалавечы рост, што

ўмелі таньчыць і прамаўляць, да заспіртаваных двухгаловых цялятаў, вялізны глобус і нават мадэль сонечнай сістэмы — мядзяная зямля на ёй магла рухацца вакол пазалочанага сонца, бронзавы месяц — вакол зямлі. І Пранцысь, які паслухмяна насіў за Лёднікам ягоны доктарскі саквояж, раптоўна пабачыў перад сабой іншага чалавека, таго, які б мог адбыцца — але застаўся толькі часткай натуры разбэшчанага дэспата. Чалавека дапытлівага, смелага ў здагадках, прагнага да ведаў... Так, ён у звычайных абставінах быў бы таксама не самым дасканалым чалавекам — крыўдлівы, лёгка раздражняўся б... Але калі ён павінен быў бы займацца нейкай карыснай, канкрэтнай справай, то ў пачвару, якая пакутуе сама і мучыць іншых, ператварыцца б не змог.

Уласна кажучы, ад немцаў патрабавалася толькі згаджацца і захапляцца. Нарэшце князь спыніўся ў нядаўна адбудаванай галерэі, завешанай фамільнымі партрэтамі і габеленамі з выявамі слаўных бітваў, у якіх бралі ўдзел Радзівілы, бліснуў дзікімі чорнымі вачыма.

— А цяпер я пакажу вам Сільфіду. Я зляпіў яе сам, прывабіў мудрасцю сваёю. Але тут, на зямлі, у грубым матэрыяльным асяроддзі, Сільфіды пачуваюцца нядобра. І вы, гер Лотман, павінны параіць, як падлячыць гэтую нябёсную істоту, якая зараз прыняла аблічча і цела зямной жанчыны. Гаварыць з ёй я вам забараняю, але агледзець, толькі асцярожна і ў маёй прысутнасці, вы яе зможаце. Але запомніце: калі пасля вашага візіту гэтая істота надалей расхварэецца, я вельмі, вельмі расчаруюся ў вас, мае шаноўныя немцы.

Пфальцман збляднеў і выцер лоб насоўкай, працягваючы захоплена-прыніжана ўсміхацца. Лёднік толькі моўчкі схіліўся, а Пранціш зноў адчуў ганебны для шляхціца страх: вар'ят! Гэты Геранім сапраўдны вар'ят! Не менш, чым ягоны брат. Ці справіцца на гэты раз Лёднік? Гэта ж не чалавека лячыць... Што за пачвару ці прывіда князь у сябе трымае?

## Раздзел сёмы.
## СІЛЬФІДА СЛУЦКАГА ЗАМКА

Да Сільфіды трэба было падымацца на верхнюю пляцоўку правай вежы. Там знаходзіліся акаваныя жалезам дзверы з замкамі і засовамі, ды яшчэ два вартавыя мэнчыліся. Пфальцман застаўся на лесвіцы, справядліва лічачы, што чым менш магнацкіх таямніцаў ведаеш, тым даўжэй пражывеш. Дзверы цяжка расчыніліся, нібыта вечка ўсыпальніцы. Першым зайшоў князь, за ім — Лёднік і Пранціш.

Убранне невялікага пакоя было падобным да ўсходняй казкі: пяшчотных колераў шаўковыя шпалеры і покрывы, карункавыя фіранкі, чырвоны пухнаты кілім, на ім рассыпаныя яркія аранжарэйныя кветкі... Святло прасявалася скрозь вітражы — малюнак на іх выяўляў кветкі лілеі. Паветра, здавалася, можна пакратаць рукою, бо ў ім таньчылі, звіваліся, раставалі струменьчыкі дыму ад усходніх курэнняў. Дадавала прыкрага мёртвага водару нібы знятая з вітража вялізная кветка лілеі ў срэбнай вазе. Але ўся гэтая раскоша не заўважалася пры поглядзе на істоту, што нерухома сядзела на засланай белым кілімам канапе і безуважна пазірала перад сабой вялізнымі сінімі вачыма. Пранцысь аж спатыкнуўся... Яму стала б крыўдна за Паланэйку Багінскую, якая на фоне гэтай жанчыны, нашмат за яе старэйшай, здавалася гэткай звычайнай кірпаносай дзеўчынёхай, каб ён загадзя не ведаў, што мае справу з істотай незямнога паходжання. Сільфідзе — можна быць такой гожай.

Стыхійны дух быў апрануты па апошняй палацавай модзе — белая сукенка з шоўку і карункаў, неверагодна тонкі стан, зацягнуты ў гарсэт, высокі парык, упрыгожаны перлінамі, набелены і нарумянены твар, падведзеныя чорным выгінастыя броўкі, мушка на правай шчацэ... Дыяменты ззялі на дасканалай скуры пані гэтак натуральна, як раса на пялёстках белай ружы. У яе

абліччы былі і вытанчанасць, і веліч, якая можа сыходзіць толькі знутры, з душы. Праўда, калі першае захапленне прайшло, Пранцысь заўважыў, што Сільфіда сапраўды пачуваецца не дужа добра: на твары з тонкімі, нібыта вытачанымі рысамі заўважныя дарожкі, якія ўтвараюцца на пудры ад слёз, вялікія вочы з даўжэзнымі чорнымі вейкамі пачырванелыя, дасканалыя вусны — з горкай складкай... А рукі такія тонкія, белыя, аж празрыстыя. І нат не зварухнулася, позірк не перавяла, як быццам зусім страціла ахвоту да жыцця.

Князь Геранім загаварыў, намагаючыся змягчыць голас:

— Даражэнькая, я прывёў выдатнага доктара. Яго завуць гер Барталамей Лотман, ён немец, не разумее ні слова па-нашаму, так што не спрабуй з ім загаварыць, не траць дарма сілаў. Але ён неадменна дапаможа табе пачувацца больш бадзёра! У нас жа яшчэ столькі спраў, дарагая мая панна!

Пры апошніх словах гаспадара палаца Сільфіда трохі падала прыкметы жыцця, куточкі яе вуснаў пакрывіліся. Лёднік, які, падобна, быў уражаны выглядам незямной істоты яшчэ больш за Пранцыся, да зласлівай радасці апошняга, наблізіўся да стыхійнага духу і павольна апусціўся перед ім на калена, так, што ягоны твар апынуўся проста перад сінімі сумнымі вачыма... І тыя раптоўна пашырыліся, у іх нешта палыхнула, ад чаго Сільфіда падалася яшчэ больш прыгожай. Яна перарывіста ўздыхнула і трохі адкінулася назад.

— Не бойся, даражэнькая, доктар не зробіць табе нічога кепскага, — супакойваюча прагаварыў князь Геранім. Але Пранцысь бачыў, што ў вачах Сільфіды быў не спалох, а... нешта іншае. Між тым Лёднік асцярожна, як быццам дакранаўся да крохкага крышталю, узяўся за тонкую руку Сільфіды. Намацаў пульс, пяшчотна-пяшчотна, нібы лашчачы злоўленую птушку... Потым праверыў пульс на другой руцэ... Пранцысь стаяў збоку, таму мог бачыць, у адрозненне ад князя, што Лёднік і Сільфіда

неадрыўна глядзяць адзін аднаму ў вочы, нібыта вядуць нячутную іншым размову. Вось жа доктар-прайдзісвет... Нават са стыхійным духам паразумеўся!

Між тым Лёднік асцярожна адпусціў руку Сільфіды, Пранцысю падалося, нават злёгку яе паціснуўшы, і схіліўся ніжэй... Як нейкі святарны покрыў, адгарнуў наверх падол сукенкі з белай шорсткай парчы, адкрыўшы ножкі панны ў мізэрных, шытых срэбнымі нітамі, туфліках. І Пранцысь пабачыў, што да левай ножкі незямнога стварэння прымацаваны тонкі бліскучы ланцуг, які другім канцом заходзіў пад канапу. Лёднік асцярожна памацаў ножку, зняволеную бранзалетам ад ланцуга, і павярнуўся да князя:

— Ваша княская мосць, ці не можна на нейкі час зняць гэтае ўпрыгожванне з нагі панны? Я адчуваю тут запаленне... На маю сціплую думку, Сільфідзе непрыгожа кульгаць, а гэта непазбежна, калі запаленне не залячыць.

Радзівіл незадаволена кіўнуў слузе, той адамкнуў бранзалет наназе Сільфіды, якая не зварухнулася, працягваючы вывучаць аблічча доктара. Лёднік — вось жа вольнасці рамяства! — правёў рукамі ўверх па ножцы, раз — і шаўковая панчошка ў ягонай руцэ... А на назе Сільфіды, трохі вышэй шчыкалаці, адкрылася трохі паджыўшая рана — такая магла б утварыцца, калі б стыхійны дух, не зважаючы на боль ад жалеза, якое ўпівалася ў цела, ірваўся прэч з ланцуга, спрабаваў узляцець у неба, да родных аблокаў... Пранцысь так яскрава ўявіў гэтую карціну, што мімаволі пачаў шукаць вачыма, дзе за спінай Сільфіда хавае крылы.

Лёднік даў знак Вырвічу падаць саквояж, пакорпаўся там і дастаў слоічак з паскуднай на выгляд зялёнай маззю. Калі слоічак быў адкаркаваны, выявілася, што мазь яшчэ і смярдзіць балотам. Лёднік пачаў наносіць гэтыя грубыя зямныя лекі на ножку Сільфіды. Тая пакорліва сядзела, глядзела, як быццам гэта доктар быў стыхійным духам, незразумелым чынам прываблены на зямлю... А Лёднік схіліўся нізка, ледзь не носам вадзіў па белай скуры

пацыенткі... А пад канец — Пранцысь мог прысягнуць — незаўважна для князя дакрануўся да ножкі вуснамі, а Сільфіда — зноў нічога, толькі ружовыя пульхныя вусны трошачкі здрыгануліся.

«Трэба станавіцца доктарам і лячыць прыўкрасных паненак!» — з зайздрасцю падумаў Вырвіч, уявіўшы на месцы Сільфіды — Паланэйку, а на месцы Лёдніка — сябе.

Лёднік яшчэ і праслухаў Сільфіду з дапамогай кароткай трубкі з пашырэннем на канцы, і горла ёй памацаў, і ў вочы зазірнуў блізка-блізка...

«Яшчэ трохі — і на смак яе пакаштуе», раздражнёна падумаў Пранціш.

Лёднік, аднак, разумеў, што не варта выпрабоўваць цярпенне Радзівіла, устаў і пакланіўся пану.

— Калі дазволіць ваша мосць, я распавяду вынікі абследавання, — голас доктара рыпеў, як у рэктара падчас лекцыі — ніякіх эмоцый, толькі ветлівы інтарэс. — Я заўважаю прыкметы выснажэння, баланс вадкасцяў у целе парушаны. Паколькі ў істотах сільфідаў павінна быць шмат паветра, я б рэкамендаваў часцей праветрываць гэтае памяшканне, і не запаўняць яго дымам. Найлепей трымаць акно заўсёды трошачкі прыадчыненым, каб Сільфіда адчувала сваю сувязь з роднай стыхіяй і гэта змяншала яе меланхолію. Трэба ўмацоўваць лёгкія і павышаць утрыманне ў крыві жалеза. Я б рэкамендаваў дыету з курынага булёну і адварнога птушынага мяса, можна індычыну, больш гародніны і садавіны, валошскія арэхі і разынкі. Не зацягваць гэтак шчыльна шнуроўку на гарсэце, што перашкаджае паненцы, у якой і так саслабелыя лёгкія. І па магчымасці даць спакой параненай назе.

— А каб кроў пусціць? — нецярпліва прагаварыў Радзівіл. — Усе мае дактары лічылі гэта найлепшым сродкам!

Лёднік пачціва пакланіўся.

— На маю нявартую думку, крывапусканне яшчэ больш саслабіць арганізм. Калі мне будзе дадзеная магчы-

масць лекаваць паненку прынамсі цягам тыдня, абяцаю, што да яе вернецца жыццёвы тонус і распрастаюцца крылы. Вядома, тут найлепей правесці кансіліум, калі б мне перагаварыць з доктарам, які назіраў за ёй раней...

Геранім Радзівіл нецярпліва тупнуў нагой.

— Крылы ейныя мне без патрэбы! Зрабі, как усміхалася і не губляла прытомнасць! А са сваім папярэднікам ты і так ужо знаёмы — ён тыдні два вісіць на слупе ў двары. Так што кансіліум праводзь, колькі хочаш! А зараз мне трэба, каб гэты... дух змог устаць на зямныя ногі, і не кульгаючы, з прыемным выразам твару, прайшоў туды, куды я захачу!

Сільфіда перарывіста ўздыхнула, нібыта стрымліваючы выкрык абурэння. Лёднік зараз жа захінуў яе ад погляду князя.

— Прыкладу ўсе намаганні!

І прыняўся корпацца ў сваім саквояжы, застукаў слоікамі... Пахолкі былі пасланыя па ваду і шклянкі. Лёднік паіў Сільфіду мікстурамі, і Пранцысю здавалася, што ён назірае нейкі складаны рытуал, сэнс якога яму няўцямны. Князь нецярпліва хадзіў па пакоі, падбіваючы нагой рассыпаныя па падлозе кветкі.

Нарэшце доктар зачыніў саквояж і павярнуўся да князя. Сільфіда ўзнялася, горда выпрасталася. Цяпер яе вочы гарэлі сінім пагардлівым агнём, і князь злавесна ўсміхнуўся.

— Вось гэта іншая справа! Падправіць паненцы выгляд!

Зараз жа падляцела прыслуга, якой раней не было бачна, нібыта слугавалі тут таксама стыхійныя духі, што прымалі цялесныя аблічча па першым загадзе гаспадара. Кабета прыпудрыла пухоўкай твар Сільфіды, паправіла парык, складачкі на сукенцы...

— Усё, пайшлі адведаем дурня! — уладна скамандваў князь і кінуў Лёдніку: — Сачы за ёй, і як толькі ўбачыш

зноў прыступ меланхоліі — лякуй! І помні, шалберства не пацярплю!

Сільфіда была амаль аднаго росту з Пранцысем, у яе стройнай фігурцы адчувалася не толькі вытанчанасць, але і сіла — як у таненькай вярбе, якую, аднак, не пераломіш. Панна зусім не кульгала, але туды, куды яе вялі, відавочна не чакала нічога прыемнага. І Вырвічу было так шкада прыгажуні, што выбіў бы, здаецца, першае ж акно ды выпусціў палонніцу ў неба.

Ісці ім давялося на верх левай вежы, у такое ж памяшканне, у якім была Сільфіда. Таксама дзверы, замкнёныя на шмат замкоў ды засовак, варта... Але ўнутры не было ніякіх шаўкоў і кветак — наадварот: голыя каменныя сцены і падлога, драўляны насціл у куце, які мусіў замяняць ложак адзінаму насельніку, таксама не добраахвотнаму. Замест прыгожага вітража ў шыбах — краты. Шчуплы чалавечак з дзіўна прыплюснутым тварам, з вачыма, якія знаходзіліся на розных узроўнях, апрануты ў брунатны выцерты камзол, убачыўшы гасцей, ускочыў, на ягонай назе грукнуў ланцуг. Геранім Радзівіл завёў за руку ў пакой Сільфіду і расцягнуў вусны ў прывідзе ўсмешкі:

— Ну што, Марцін, бачыш, мая Сільфіда са мною! І пасвячае мяне ва ўсе таямніцы!

Шчуплы чалавечак ашчэрыў зубы, якія не ўсе былі ў наяўнасці, і кінуўся да гасцей, ланцуг нацягнуўся.

— Яна мая! Ясна табе? Мая! І яе таямніцы мае!

— Але ж гэта не я сяджу на ланцугу, а ты, браце!

Пранціш схаладнеў. Марцін Радзівіл, аддадзены пад апеку свайго брата князя Гераніма! Які прымушаў Лёдніка выклікаць яму Сільфіду! Ён жа зараз яго пазнае! Доктар, відаць, гэта выдатна разумеў, таму і спыніўся сціпла ў самых дзвярах, апусціўшы галаву. Пранцысь пастараўся, як мог, закрыць яго сабою. На шчасце, Марцін глядзеў толькі на Сільфіду.

— Не гавары яму нічога! Ён няварты!

Геранім злосна закрычаў, зрываючы голас:

— Гэта ты няварты! Калі не хочаш сядзець надалей на хлебе і вадзе, гавары, дзе ўваход у сутарэнні! Тады я дазволю табе пабыць з Сільфідай і скарыстацца з яе вабнасці!

Князь моцна ўхапіў прыгажуню за руку і дэманстратыўна правёў перад Марцінам.

— Ну, згодзен? Ты ж так марыў пра сувязь са стыхійным духам, столькі грошай убіў на шарлатанаў, якія абяцалі яго выклікаць!

Марцін глядзеў на Сільфіду, як паміраючы ад смагі на струмень вады, яго вырачаныя вочы блішчэлі, як у рыбіны.

— Ну што?

Марцін раптам засмяяўся сухім здзеклівым смехам, у якім не чулася вар'яцтва.

— Ты ніколі не атрымаеш жаданага, брат! Бо ты — кавалак лайна, якое ўсе абягаюць падалей, каб не ўпэцкацца. У наступным жыцці ты будзеш рабаком, якога раздушыць мой абцас.

— У цябе не будзе хутка нават і гэтага жыцця! — зароў Геранім. Сільфіда стаяла нерухома, як вытанчаная парцалянавая статуэтка. Марцін махаў рукамі і лаяўся. Ягоны погляд спыніўся на Лёдніку і загарэўся па-вар'яцку:

— Гэта ўсё ты! Для мяне не пастараўся, а яму выклікаў! Будзь ты пракляты! Пракляты!

На шчасце, у агульнай лаянцы ягонае пазнаванне доктара прайшло незаўважным.

Дзверы зачыніліся, а Геранім Радзівіл усё тросся ад злосці. І прамовіў да Сільфіды:

— І ты падумай, даражэнькая, раптам брат пагодзіцца на маю прапанову раней, чым ты, тады мне давядзецца выканаць, што яму абяцаю! І будзеш яго ўлагоджваць!

Сільфіда маўчала, адсутна гледзячы сінімі вачыма ў нікуды, і вартаўнікі павялі яе назад. Князь крыкнуў услед:

— Акно не зачыняйце, няхай дыхае роднай стыхіяй! І камін не тапіце.

— Але ж яна застудзіцца! Ночы халодныя... — насмеліўся прамовіць Лёднік. Князь зараз жа вырачыў на яго шалёныя цёмныя вочы, зрабіўшыся раптам падобным да свайго брата Марціна.

— Памерзне, дык, можа, пачне цаніць тое цяпло, якое ёй давалі. А ты... немец... вучыць мяне ўздумаў?

Князь маланкава выхапіў шаблю і прыставіў да горла Лёдніка.

Пранцысь з сорамам успомніў падобную ж сітуацыю з ягоным удзелам. Няўжо і ён мог бы ператварыцца ў такога вось... дэспата? А што тут неверагоднага? Каб яму дасталася багатая спадчына, ды мітусіліся вакол адданыя слугі... Каб усе вакол казалі безупынна, які ён, Пранцысь Вырвіч, мудры, дужы, прыгожы... І любы капрыз зараз жа кідаліся выконваць... Адно што такія, як Лёднік, моўчкі пагарджалі б, але ж таксама схіляліся, бо жыць хочацца. Хіба ў гэтым ідэал шляхецтва? А як жа «пане-браце», роўнасць, гонар, сармацкія звычаі?

Доктар, не выказваючы страху, пакорліва чакаў, што будзе ўгодна князю. Геранім чыркануў лязом па шыі Лёдніка, пакінуўшы драпіну, і прыбраў шаблю.

— Няхай гэта будзе табе памяткай! Тут ёсць толькі адна воля — мая!

Кроў з драпіны афарбавала бялюткі каўнер.

— Ніколі гэтага больш не забуду, ваша княская мосць! — ветліва прагаварыў Лёднік.

— Каб усе лекі былі да раніцы гатовыя! І ўсе пакаштуеш сам, на маіх вачах!

Калі Геранім Радзівіл сышоў, нібыта нават сцены ўздыхнулі з палёгкай. Пранціш і Лёднік не насмельваліся загаварыць, пакуль за імі не замкнуліся дзверы іх пакоя. Доктар нават абапёрся на іх знутры абедзьвюма рукамі, шумна выдыхнуўшы, як быццам па той бок засталася пагоня. Пранцысь паваліўся на ложак, шкаляра злёгку

патрэсвала. Лёднік наліў вады з мядзянага збана ў місу для ўмывання, зачарпнуў, энергічна спаласнуў твар, змыў кроў з шыі, злосна сцягнуў парык і цяжка ўсеўся на атаманку. Абодва шпегі адчувалі сябе, як быццам пабывалі ў бойцы з медзвядзём.

— А ты ад Сільфіды зусім галаву страціў, — скрозь стому дакорліва прагаварыў Пранціш. — А сваю купчыху калі шукаць збіраешся?

— А я яе ўжо знайшоў, — глуха прагаварыў Лёднік і дадаў, падпусціўшы атруты ў голас. — А вялікі і абазнаны пан Вырвіч, значыць, свята паверыў, што пазнаёміўся з духам паветра? Так, гэта князь удала прыдумаў — выдаваць Саламею за Сільфіду... Шпегаў з толку саб’е, яшчэ і брата памучае.

Пранціш разгубіўся. Не тое, каб ён успрыняў словы Гераніма Радзівіла ўсур’ёз... Прыгажуня, урэшце, была цалкам зямной, зняволенай і няшчаснай... І ўсё-ткі аднachасова па-незямному прыгожай. Вочы яе пазіралі занадта мудра для кабеты... Ну так жа хочацца ў васямнаццаць гадоў паверыць, што сутыкнуўся з нечым надзвычайным! А ўжо супаставіць чароўны вобраз, што адкрыўся за жалезнымі дзвярыма з мноствам засавак, са старой дзеўкай з Полацка, дачкой звычайнага купца і сяброўкай дзяцінства Лёдніка... Не тое, каб у Пранціша не мільганула і думкі пра Саламею Рэніч, але ён гэтыя думкі рамантычна адагнаў.Таму цяпер і пачуваўся абсалютным дурнем.

— І як ты мог адмовіцца ад такой? — вырвалася ў Пранціша.

— Я яе не варты, — зноў глуха прагаварыў Лёднік улюбёную фразу і перавярнуўся на спіну, стамлёна заплюшчыў вочы.

Але Вырвічу гэтае самапрыніжэнне надакучыла.

— У нас, калі езуіты ў хор запісвалі, таксама ўсе пачыналі гаварыць: «Вой, ойча, у мяне слыху няма, голасу няма, я б і рады, але ж спяваць не ўмею, шаноўную публіку абражаць буду... Няварты я такога гонару». А насамрэч

проста нікому не хацелася лішніх клопатаў: вольны час на рэпетыцыі траціць, падчас канцэртаў залівацца салавейкам...

Лёднік нічога не адказаў на гэтую рэпліку, відаць, яна дастала да балючага. Ляжаў нерухома, маўчаў хвілін дзесяць. Потым азваўся сухім голасам:

— Гэты вар'ят яе замучыць. Трэба неадкладна брацца за справу.

Справа — гэта значыць, ратаваць Рэнічаўну? Але як? Пранціш нічога не сказаў, каб не падацца баязліўцам, але пакуль ніякага прыстойнага плана яму ў галаву не прыходзіла. Па стромай сцяне вежы нават ён не змог бы ўскараскацца. А варта ў палацы на кожным кроку... Лёднік, відаць, пра гэта таксама думаў, таму й быў змрочны, як апошні цмок у возеры.

Па іх прыйшлі з загадам, што новы доктар павінен перабрацца ў пакоі старога. І тут з'явіўся цень надзеі, бо вылучаны ім пакой, падзелены на дзве часткі, з ложкам пад аксамітным балдахінам колеру старой лістоты, з камінам, аблямаваным плінфай з выявамі чорных арлоў і зялёных вінаградных гронак, быў у Вялікім палацы, і знаходзіўся якраз побач з вежай. Пранцысь заўважыў, як прасвятлеў твар Лёдніка, але па-ранейшаму не мог уцяміць, чым гэта дапаможа... Да акна Рэнічаўны можна было ўзляцець толькі на крылах! Хіба стралу ў яго паслаць з вяроўкай? Пранцысь высунуўся з іх акна, прымерыўся... Не, ніяк не атрымаецца, відаць толькі самы край аконнага праёму... А стаць сярод двара і цэліць у акно, ці лесвіцу падстаўляць да сцяны, пад якой і ўдзень і ўноч праходзяць гвардзейцы — можна адразу самому на слуп прыбіцца, каб катаў не турбаваць.

Назаўтра Лёднік абвясціў невыносна камандзірскім тонам:

— Табе, пан Вырвіч, дастанецца самая прыемная частка нашай прыгоды: пойдзеш са мной у тэатр. Мяне запрасілі падлячыць некалькі артыстаў.

— І што я там павінен буду рабіць? — ажывіўся Пранціш.

— Проста паглядзіш на рэпетыцыю. Атрымлівай асалоду, пакуль ёсць магчымасць, — усміхнуўся Лёднік. — І не ўздумай нешта рабіць сам па сабе. А галоўнае — што б ні рабіў я, не зважай. Адыдуся — не круці галавой, не пытайся, куды падзеўся. Я сам за табой вярнуся. Ясна?

У тэатры, перабудаваным з судовага дома, было шыкоўна — не параўнаць з залай менскага езуіцкага калегіюма. Сцены і ложы абцягнутыя зялёным сукном, упрыгожаныя гірляндамі штучных кветак. У праходах пунсовыя дываны. Аркестровая яма, цяжкі аксамітны занавес... Лёднік усадзіў Пранціша пасярэдзіне трэцяга рада і знік за кулісамі з доктарскім саквояжам у руках. А на сцэне рэпеціравалі нямецкую оперу, да якіх Геранім Радзівіл быў вельмі ахвочы. Дэкарацыі ўяўлялі з сябе пастаральныя пейзажы з гаёчкамі, лужочкамі ды авечачкамі, і былі намаляваныя дасканалымі майстрамі на вялізных палотнах. Але нават на неспрактыкаваны погляд Вырвіча, меліся ў рэпетыцыі дзіўноты. Артысты былі пры ўсім парадзе, прыбраныя, як падчас прэм'еры, і так старaліся — як жаўнеры на пляцы. Жаўнеры, дарэчы, таксама на сцэне былі. Пры ўсёй выкладцы, яны, падобна антычнаму хору, стваралі фон для пастаральных спеваў закаханых пастушка і пастушкі, час ад часу дэманструючы практыкаванні муштры. Дый сярод сцэнічных пейзан Пранцысь пазнаў некаторых жаўнераў, бачаных у замку. Такім чынам спектакль уяўляў з себе нейкую дзіўную сумесь оперы і вайсковай падрыхтоўкі. Акрамя дарослых, у балеце ўдзельнічалі і дзеці — у Слуцку мелася балетная школа. Дзеткі, худзенькія, як трэсачкі, набеленыя і нарумяненыя, рухаліся, як завадныя. А яшчэ сярод іх было некалькі маленькіх мурынаў — у белых парычках, гэткія ж худзенькія, старанныя...

Усё было вельмі прыгожа... Як у музычным куфэрку. Асабліва ўразіла Пранцыся, калі ў дзеянне ўключыліся

Купідоны і алімпійскія багі — як і належыць бажаствам, яны спускаліся з неба і вольна луналі ў паветры над усёй сцэнай. Вырвіч адразу нават пералякаўся: ці не водзяцца тут і сапраўды духі?! Але, пільна прыгледзеўшыся, зразумеў, што артыстаў носяць над сцэнай адмысловыя механізмы, да якіх Купідоны і багі падвешаныя з дапамогай таненькіх вяровак, якія практычна не заўважныя... З чаго, цікава, тыя вяровачкі зробленыя?

Але нечакана дзейства перарвала страшэнная лаянка на нямецкай. Падобны да жабы пан выскачыў на сцэну і пачаў лакіраванай кульбачкай з усяе моцы біць па руках і нагах артыстаў, якія, на яго думку, памыліліся. Даставалася і дзецям, яны, аднак, як і дарослыя, не плакалі і не ўхіляліся ад удараў, а застывалі ў недарэчных скульптурных паставах. Асабліва перападала самай прыгожай і зграбнай дзяўчыне, якую пан-жаба называў «Міхалішыўна», дадаючы непрыстойнае слова.

Ніхто не ўскрыкваў, не стагнаў, гучала толькі лаянка і глухія ўдары. І Пранцысю зрабілася млосна ад такога мастацтва. Шкаляр напляваў на загад свайго слугі і выправіўся яго шукаць за кулісы. Галоўнае, не забыцца, што ён сам — немец... Шырокая ўсмешка, наіўныя блакітныя вочы, запытальнае: «Гер Лотман?», і ўрэшце Вырвіча скіравалі ў пакойчык, дзе стаіліся Пучыні і Лёднік. Доктар адчыніў дзверы з самым зверскім выразам твару, але шчырая ўсмешка Вырвіча змусіла яго прастагнаць ды адступіць ад дзвярэй.

— Я, відаць, нават у пекле ад вас не схаваюся! Не бойцеся, сіньёр Пучыні, пан Франц Магнус ва ўсё пасвечаны...

Пучыні зачыніў дзверы і звярнуўся да Лёдніка:

— Мой пан, як дарэчы з'явіўся ваш малады калега! А я якраз гаварыў, што нам патрэбны хтось лягчэйшы за вас!

— Я не тоўсты, — скрозь зубы прагаварыў Лёднік. — І спраўлюся сам.

— Мой дружа, вы нармальнага складу мужчына, моцны і высокі. Таму пры ўсім жаданні не можаце быць вагой з падлетка.

— Шнур вытрымае, — упарціўся былы алхімік.

— Вас аднаго — магчыма... А падвойны груз? Я б не рызыкаваў. Калі ёсць выбар...

— Выбару няма! Хлопца туды не пушчу! Урэшце, я проста магу застацца там і не спускацца! — халодна сцвердзіў Лёднік.

— Я ніколі не меў справу з самазабойцамі, разумееце, — раззлаваўся нарэшце і Пучыні. — З такімі намерамі я магу паслаць вас толькі ў вашу жалезную пачвару.

Наспявала сварка, і Пранцысь умяшаўся.

— Я ўсё-ткі не мэбля, можаце звяртацца і да мяне наўпрост, спадары! І патлумачце мне, нарэшце, пра што вы, халера на вас, гаворыце?

Лёднік і дырэктар дружна паглядзелі на юнака, доктар, відаць, змагаўся з палкім жаданнем выставіць Пранцыся за дзверы, але італьянец падсунуў таму пад нос аркушык з чарцяжом:

— Вось, пан Магнус... Усё, што пакуль удалося прыдумаць.

На аркушыку красавалася схема нейкага механізма: нацягнуты між двума блокамі шнур, вугал адхілення, контуры сцяны з аконнымі праёмамі... Да Вырвіча дайшло: гэта ж план выратавання Сільфіды!

— Забраць яе звычайным шляхам немагчыма, — неахвотна загаварыў Лёднік. — Тут цэлае войска павінна прабівацца — праз варту на кожным паверсе, праз жалезныя дзверы... Нават калі ўявім тут новую Трою — узяць Слуцкі замак за ягоную гісторыю не ўдалося яшчэ нікому, ні татарам, ні маскоўцам, ні сваім жа магнатам. Адзінае на нашу карысць — гэта што нас пасялілі ў адным будынку з Рэнічаўнай, і вокны выходзяць на адзін бок.

— Але, на жаль, не на адной лініі! — загаварыў Пучыні. — Таму ад выканаўцы патрабуюцца проста акрабатычныя здольнасці. І шмат шанцавання!

— Вы хочаце выкрасці яе праз акно? — усклікнуў Вырвіч. — Ты спецыяльна ўвёў князю ў вушы, каб

у Сільфіды праветрываць! Раз так, лазіць па вокнах і дахах я — лепшы знаўца!

Лёднік не забыўся хмыкнуць на гэтую рэпліку. Але Пучыні задаволена хітнуў галавой.

— Што ж, значыць, давядзецца скарыстацца з вашага ўмення, юнача.

— Гэты хлопец і без таго мае з-за мяне непрыемнасцяў на сваю ўпартую галаву! — пахмура заявіў Лёднік. — Ён — юнак высакароднага паходжання, і я за яго адказваю. Я не магу на гэта пагадзіцца. Няхай лепей мне дапаможа ваш брат Джавані.

— А я твайго дазволу і не пытаюся! — ганарыста прамовіў Пранціш. — Ён за мяне адказвае! Забыўся, хто ты і хто я? Шляхціц сам вырашае, ісці ў бойку ці не!

Лёднік падціснуў вусны і панурыўся. Пучыні са здзіўленнем паглядзеў на абодвух, з уздыхам падсунуў да сябе аркуш, пацёр нос-бульбіну і працягнуў размову-змову, на гэты раз ледзь заўважна, але пачціва схіляючыся ў бок Пранціша, які прызнаўся ў сваім высакародным паходжанні:

— Пакуль што наш план утвараецца з некалькіх амаль невыканальных задач. Калі б мне прынеслі ставіць такую п'есу, я б адразу сказаў, што яна непраўдападобная, і сюжэт выратуе толькі «бог з машыны».

— Смеласць замяняе любую машыну! — фанабэрыста заявіў Пранцысь. — Мне здаецца, вы тут усё ўскладняеце. Схемы намалявалі...

Доктар нервова сціснуў пальцы:

— Адна справа, калі зняволены можа дзейнічаць сам. А Саламею наўрад з ланцуга адпусцілі. Перадаць ёй напільнік, вяроўку, нават цыдулку ці словам перамовіцца — немагчыма, за кожным маім рухам у яе прысутнасці назіраюць, яе самую абшукваюць. Адзіная наша надзея — што ў тэатры ёсць адмысловыя прыстасаванні для палётаў Купідонаў. Бачыў?

Пранцысь кіўнуў галавой.

— Шнур сплецены са сталёвых валокнаў, ён зусім тонкі, але трывалы і гнуткі. Калі слотнай ноччу ён павісне на сцяне, ніхто не заўважыць.

— Раніцай заўважаць. Варты тут болей, чым простых слуг. Слуцак трэба пакідаць у тую ж ноч. Іначай — усё... Мыш не праслізне. І часу на другую спробу не будзе, — папярэдзіў Пучыні. — Карацей, трэба яшчэ раз усё вымераць, разважыць...

— Ну, добра, перамераеце вы сцены палаца... А як уцякаць з замка? — пацікавіўся Пранціш. — Валы, мост, на кожнай браме варта...

— Тут нам дапамогуць звонку, — няўважна сказаў Лёднік. — Пра гэта турбавацца будзем потым. Усё, сіньёр Пучыні. Мне яшчэ лекі рыхтаваць, да Пфальцмана трэба наведацца. Да таго ж мы і так выклікалі падазрэнне сваімі доўгімі размовамі за зачыненымі дзвярыма. Так што прывядзіце да мяне яшчэ некалькі артыстаў на агляд...

— Тым больш ім цяпер лячэнне спатрэбіцца, — з’едліва сказаў Пранціш.

Пучыні запытальна глянуў на юнака. Вырвіч пагардліва пакрывіў вусны.

— Я толькі што бачыў, як у вашым тэатры выхоўваюць таленты. З дапамогай палкі.

Дырэктар спахмурнеў.

— Гер Пільшчын... Ён старанна выконвае распараджэнні княскае мосці. Што зробіш — насамрэч я не маю ніякай тут улады... Тэатр, здавалася б, раскошны, а які таленавіты мясцовы люд... Прыгонная дзяўчына, вырасла ў курнай хаце, і раптам — таньчыць як антычная багіня, і перадае ўсе тонкасці перажыванняў царэўны Наўсікаі, і ўглядаецца ў чаканні Адысея ва ўяўную марскую далячынь так, што свецкая публіка плача, змываючы пудру. А тая дзяўчына і мора не бачыла! Як добра ўсё пачыналася, на якім энтузіязме... Але хіба гэта храм мастацтва? Калі гаспадар патрабуе толькі муштры... — дабрэнны твар італьянца перакрывіўся ад нянавісці. — Артыстаў вярбуем

паўсюль — у Кёльне, Вене, Кракаве, Варшаве... Але ніхто сюды ехаць не хоча, бо начутыя пра норавы. Князь можа хворага артыста на сцэну выгнаць, калі схібіць — у карцэр пасадзіць. Закупілі партыю мурынаў — прывезлі іх проста ў жалезных клетках, як звяроў. Таксама іграць прымушаюць. Дзеці ў балетнай школцы паміраюць, як не лічаныя... Забіраюць іх ад бацькоў, сялян ды простых месьцічаў — гвалтам... На сцэну жаўнераў выводзяць! Ва ўзбраенні! Якому-небудзь ротмістру могуць галоўную ролю распісаць — бо добра маршыруе. Калі б я не меў надзею на помсту... даўно б адсюль...

Пучыні адвярнуўся, спрабуючы супакоіцца.

— А што, сіньёр Пучыні, вы трымаеце тут якое-небудзь адмысловае італьянскае віно?— роўным голасам папытаўся Лёднік.

Дырэктар неўразумела паглядзеў на яго.

— Вы хочаце выпіць? Але князь не дазваляе...

— Мы хочам выпіць, — падкрэслена прамовіў Лёднік. — Дакладней, менавіта гэтым мы з вамі і займаліся апошнюю гадзіну. Нават чаркі недапітыя не схавалі... Вось такое парушэнне дысцыпліны. Князь, вядома, раззлуецца, але ж не да сячэння галоў...

— Што ж, ваша праўда, лепей такое тлумачэнне для шпегаў, чым ніякага, — італьянец падыйшоў да сакратэру з чырвонага дрэва, павярнуў ключ. За дзверцай весела блiснула пузатая бутэлька.

— Тасканскае... Каштую ў самыя горкія моманты жыцця.

Паставіў на стол тры чаркі, наліў да паловы.

— Ну што ж, за поспех!

— За поспех! — адгукнуліся Лёднік і Вырвіч.

Апошні глыток віна італьянец не дапіў, выплюхнуў на паркет, прамармытаўшы:

— Табе, Лаўрэнсія... — і звярнуўся да Лёдніка.

— Дарэчы, гер Лотман, даўно хацеў у вас папытацца, чым гэта вы так улагодзілі князя падчас першага агляду? Магія?

Лёднік усміхнуўся.

— Напаіў яго добрай супакаяльнай мікстурай. Ільвіная трава, півоня, валяр'яна... І трошачкі маку. Я з такімі кліентамі не раз сустракаўся. Уяўляеце, ён нават паказаў мне дыярыюш, які ўвесь час з сабою носіць і ў ім замалёўвае іголкі, цвікі, аскалёпкі шкла, якія яму дадаюць у стравы.

Калі Пранцысь і Барталамей адсмяяліся, італьянец параіў:

— Паболей маку цяпер дабаўляйце ў князевы адвары, мой дружа.

— Пастараюся, — сур'ёзна прамовіў Лёднік.

## Раздзел восьмы.
## ПАЛЁТ СІЛЬФІДЫ

Як сцвярджаў Парацэльс, Сільфы і Сільфіды — элементы паветра, па-сяброўску настроеныя да людзей, і нават былі выпадкі, калі яны запрашалі звычайнага чалавека пажыць на сваіх паветраных астравах.

Але чалавек занадта цяжкі, каб жыць на паветраных астравах. Яму патрэбна грувасціць камяні на камяні, змацоўваючы збудаванае чужой крывёю.

Лёднік, Пранцысь і малодшы брат сіньёра Пучыні Джавані, чарнавусы вясёлы спявак, любаваліся скрозь прыцемак Слуцкам, які ляжаў пад іхнімі нагамі — у прамым сэнсе гэтага слова. Бо названыя персоны стаялі на даху кутняй вежы, на тым яе схіле, які быў больш пляскаты. Вакол іх грувасціліся прыстасаванні, неабходныя для астранамічна-астралагічна-медычных рытуалаў, мелася нават невялікая падзорная труба, усталяваная на трох дрогкіх ножках, як пачварная жамярына. Санлівае восеньскае сонца амаль схавалася, і заходняе неба фарбавала дахі і муры ў барвовае адценне, нібыта памячала ілбы будучых ахвяр крывёй. Брамнік Капыльскай брамы

празваніў ужо першую чвэрць шарай гадзіны, і жыхары горада пачалі гасіць агонь у сваіх печках. Толькі там-сям свяціліся вокны — рамеснікам дазвалялася працягваць працу пры святле каганцоў і свечак. Замыкаліся нават корчмы. Калі ж які-небудзь наведнік, асабліва натхнёны сустрэчай са шкляным богам, не жадаў пакідаць прыветныя сцены карчомкі, рызыкаваў назаўтра апынуцца на вале і цягаць там зямлю разам з жабракамі, непачцівымі жанчынамі альбо дзёрзкімі падмайстрамі, якіх адправілі на вал у пакаранне за тое, што выпала ім шчасце жыць у слаўным беларускім горадзе Слуцку.

— А калісьці гэты замак належаў Алелькавічам, — задумліва прагаварыў Лёднік. — Вялікі палац пачынала будаваць княгіня Анастасія, удава, якая з мячом у руках стаяла на гэтых мурах... Потым тут пакутвала ціхая княжна Сафія, чакаючы з бясконцых паходаў свайго ганарлівага мужа, Януша Радзівіла. А сёння...

— Сёння тут пануе шалёны тыран! — злосна азваўся Джавані, які гаварыў па-беларуску практычна без акцэнту, і Лёднік спыніў на ім зацікаўлены позірк.

— А чаму вы ўвязаліся ў нашу небяспечную справу, Джавані? Вы былі так прывязаныя да жонкі вашага брата? Выбачайце, што пытаюся, але ж мы не на баль збіраемся...

Джаванні сціснуў сківіцы, яго твар раптам набыў жорсткія, вострыя абрысы, як у рымскага легіянера.

— Вы проста не разумееце, у якім жаху мы тут жывем. Паглядзіце на слупы з мерцвякамі... Гісторыя з Лаурэнсіяй — гэта дробязь, князь усяго толькі хацеў пакараць яе мужа, які не выканаў ягоныя распараджэнні па спектаклю. Гэты вар'ят проста не ў стане ўявіць, што чужое жыццё чагосьці вартае... Думаеце, каб мы маглі з'ехаць, тут заставаліся б? — Джавані горка засмяяўся. — О, мадона, колькі разоў мы думалі збегчы! І не толькі мы. Некалькі год таму два курляндскія афіцэры самавольна пакінулі службу ў князя. Дык той не паленаваўся войска падняць. Небарак схапілі, інсцэніравалі смяротнае па-

каранне, у апошнюю хвілю памілавалі, і больш пра іх ніхто не чуў... Да ўчарашняга дня. Знаёмы мушкецёр расказаў, што начальнік турмы атрымаў прашэнне: тыя два афіцэры прасілі замяніць ім вопратку і абутак, бо старое ўсё пагніло. Уяўляеце, дзе яны сядзяць, калі нават абутак гніе? — Джавані сплюнуў уніз. — Не хачу сказаць, што я такі смелы, што не баюся патрапіць у такія сутарэнні... Але адзіная надзея для нас — знайсці іншага апекуна. Сапегі абяцалі брату, што абароняць, дадуць працу, узнагародзяць. А калі давядзецца загінуць... Я — мужчына і неапалітанец. Галоўнае, каб хутка.

Лёднік моўчкі кіўнуў галавой і агледзеўся вакол. Слуцкі замак быў падзелены на дзве часткі: Верхні замак і Ніжні, з'яднаныя мастом. Ад Верхняга засталася адна толькі вежа, ператвораная ў турму. Яна злавесна ўзвышалася над горадам, як увасобленая постаць смерці, альбо хутчэй яе адзіны гнілы, але ўсё яшчэ моцны зуб... Абарончыя пабудовы былі, як пры прадзедах, з зямлі і дрэва. За земляным валам у восем метраў вышынёй злучаліся рэкі Случ і Бычок, стаяла лазня. Галоўны выхад з замка быў праз чатырохярусную браму з гадзіннікам і звонам. На яе вежы красаваўся флюгер з двума арламі — чорным і чырвоным. Па абодва бакі ад брамы месціліся памяшканні для варты. Яшчэ адна брама была паўночней, між двума палацамі Ніжняга замка, ля лазні. Вакол самога Слуцка таксама былі валы і равы, праз якія вялі пяць брам. Пры гэтым Радзівіле горад ператварыўся ў моцную крэпасць. Жаўнераў гарнізона муштравалі ў цытадэлі, якая знаходзілася за межамі замка, і ключ ад якой начальнік гарнізона Карлінг прыносіў асабіста князю кожны вечар. Пранцысь шчыра не разумеў, як можна спадзявацца адсюль уцячы, калі нават просты слуцкі мяшчук, пакуль дойдзе да свайго дома, некалькі разоў адкажа варце, хто такі, дзе быў і куды ідзе.

Джавані ціха заспяваў арыю пра Царыцу Ночы... Сапраўды, імкліва цямнела, паказалася першая зорка,

падобная на здзіўленае вока: што робяць трое дзівакоў на даху?

— Ну, усё... Трэба пачынаць, а то хтосьці з назіральнікаў дакладзе князю, што мы тут проста вочы лупілі, як праўдзівыя шпегі.

Алхімік у святле ліхтара з дрогкім сэрцам свечкі расставіў на пацямнелай ад часу гонце сасуды з рознымі вадкасцямі, прыклаўся да трубы, якую скіраваў у нейкую вядомую толькі яму кропку, змрочна прабурчаў:

— Галоўнае, каб усе звыклі, што нямецкі доктар, апантаны сваёй навукай, кожную ноч падымаецца на дах, каб з дапамогай сілы зорак і эманацый эфіру рыхтаваць незвычайна моцныя лекі.

— Не хвалюйцеся. Заўтра ўвесь замак будзе ведаць з маіх слоў, якія складаныя і страшныя рытуалы вы тут праводзіце, — пасміхнуўся Джавані. — Людзі вочы падымаць на дах у гэты час збаяцца!

— Толькі ні пра якую чорную магію не гавары! — трывожна папярэдзіў Пранцысь. — Не хапала яшчэ, каб князь запісаў нас у ведзьмакі.

І пачаў акуратна даставаць са дна доктарава сакваяжа невялікае прыстасаванне з колцамі... Блок, праз які ў першую ж слотную ноч пройдзе выратавальны сталёвы шнур.

Калі верыць прагнозам Лёдніка, такая ноч надарыцца ў наступную пятніцу.

Дні цягнуліся, як смаўжы па магільнай пліце, пакідаючы агідны след на душы. Лёднік вяртаўся з лекарскіх візітаў да Сільфіды з такой фізіяноміяй, што хацелася чыста ад шкадобы яго прыстрэліць. А ён жа ўмеў хаваць пачуцці... Пранцысь толькі раз насмеліўся папытацца, як там панна Рэніч. Лёднік кінуў:

— Кепска.

І зноў паглыбіўся ў нейкія вылічэнні ды крэмзанні.

Калі князь Геранім пакідаў у спакоі свайго новага доктара, гера Лотмана часам клікалі да сур'ёзна хворых. Тады ён змяняўся — зусім забываўся на свае клопаты

і думаў толькі, як найлепш скласці патрушчаную галёнку альбо ачысціць пратокі жоўцевага пухіра... Нагадваў ён у такія моманты гетмана на полі бітвы, ягоныя каманды выконваліся бягом, нават Пранцысь не насмеліўся б аслухацца свайго слугу... А калі ўдавалася выратаваць чыёсьці жыццё, Лёднік ззяў, паблажліва пазіраючы на не такі ўжо паганы свет. А пасля пахмурнеў і браўся чытаць пакаяльныя малітвы: бо ўспамінаў, колькі змарнаваў часу, які мог прысвяціць выратаванню бліжніх. Дзівак!

А Пранцысь глядзеў рэпетыцыі тэатра, і яму ўсё больш падабалася гожая танцорка Міхалішыўна — у яе рухах была незвычайная плаўнасць, выразнасць, здавалася, яна размаўляе жэстамі... І часам перадае нямецкаму юнаку з сінімі вачыма, што сядзіць у куце залы, шчырае прывітанне. Потым наведваў гера Пфальцмана, які ўсё больш змрачнеў, але нават выказваць сваю незадаволенасць і трывогу ўжо не асмельваўся. Фрау Пфальцман крадма плакала. Для жалезнай чарапахі, якую паставілі ў стайні ля Малога замка, на мясцовай людвісарні адлівалі гарматы па чарцяжах Пфальцмана, і ён справядліва непакоіўся, што калі ў іх выявяцца хібы, вінаватым найперш апынецца ён. І, відаць, праклінаў глупства караля Аўгуста Саса, які ў свой час адхіліў ягоны праект, чым даў магчымасць Гераніму Жорсткаму стаць працадаўцай нямецкага вынаходніка. Пакуль што гер Якуб адладжваў лёгкасць руху сваёй машыны, змазваў шарніры і колцы адмысловым алеем. Пранцысь за працу, вядома, не браўся, таму што лічыў, што яна не сумяшчальная са шляхецкай годнасцю — за рамесніцтва шляхціца маглі й шляхецкай годнасці пазбавіць, гэта ж не тое, што высакародна араць сваё поле альбо гнаць гарэлку. Апошняе шляхціцу дазвалялася. У Статуце ж было сказана, што «кгды б шляхціч, заняхаўшы імення і звычая свайго шляхецкага або праз худобу сваю шукаючы сабе пажывення, сышоў бы да места і мешкаў там, торг месцкі ведучы або і шынок у дому маючы і локцем мерачы,

або рамяство робячы на варстаце, такі ўжо з вольнасцей шляхецкіх весяліціся не маець».

Локцем мераць, гэта значыць, прадаваць тканіны і працаваць на варштаце Вырвіч не збіраўся, але назіраць і распытваць любіў. А, паназіраўшы, пераконваў сябе, што для ўласнага задавальнення шляхціц можа і з жалеззем пагуляцца. Вунь Пане Каханку выточвае ўласнаручна куфэрачкі, якія дорыць прыдворным. Чаму б і Вырвічу не падкруціць пару гаек? І хутка перамазваўся алеем па вушы, і абыходзіўся з самымі складанымі механізмамі звыкла, як з шабляй.

Было ў ягоных візітах на стайню і добрае. Жалезная чарапаха па-ранейшаму ўганяла мясцовых у пракаветны жах. Будынак з дэманскай машынай, адкуль час ад часу выляталі клубы чорнага дыму і даносілася страшнае сіпенне, абыходзілі як мага далей. Машталеры, што глядзелі коней у стайнях побач, хрысціліся, сплёўвалі, трымалі пальцы рожкамі... Тое ж пераносілася на стваральніка цмока, ягонага слугу Генрыха і памочніка новага княскага доктара Франца Магнуса. Таму і Вырвіча абыходзілі, як карослівага. Што давала яму магчымасць ухіляцца ад размоваў.

Вырвіч шчыра зайздросціў Пфальцманам і Лёдніку, якія маглі тут вольна размаўляць на сваёй нямецкай, на якой размаўляла большасць гарнізону і ўвесь тэатр. А школяр аказаўся пазбаўлены самай галоўнай сваёй зброі — добра падвешанага языка. Нават з прыгожанькай артысткай Міхалішыўнай пазнаёміцца толкам не ўдалося, хаця Пранціш не раз падміргваў ёй і абменьваўся ўсмешкамі.

Калі цямнела, Пранцысь цягнуў на дах падзорную трубу і з усё меншай цікаўнасцю назіраў маніпуляцыі доктара, які старанна змешваў вадкасці і парашкі і адначасова рабіў нейкія нябёсныя вымярэнні. А па вяртанні ў пакой школяр яшчэ мусіў вучыцца адмыкаць замкі з дапамогай сагнутага дроціка і нават трохі фехтаваць. Былы алхімік настаўнікам быў дрэнным, прынамсі, на погляд Пранцыся, бо не шкадаваў крыўдных слоў...

Не лаянкі, не — проста самыя звычайныя словы ён мог вымавіць так, што хацелася выць ад крыўды — на яго і на сваё няўмельства.

— Abend studia in moris, — нудзіў былы алхімік. — Як казаў ангельскі мудрэц Бэкан, слабы розум можна ацаліць адпаведнымі навукамі гэтак жа, як адпаведнымі практыкаваннямі вылечваюцца нашыя цялесныя хваробы. Кеглі добрыя для камянёў у мачавым пухіры і хворай паясніцы, стральба — для хворых грудзей, нетаропкі шпацыр для страўніка, язда конна дзеля галавы. А таму, калі чалавек з благой памяццю, няхай вывучае матэматыку, калі не назіральны, няхай вывучае логіку, бо яна — cymini sektores, збіральніца кмену, калі ж хто не можа даказваць адно праз другое, не заўважаючы падабенства, няхай вывучае права.

Такім чынам, Пранцысю прадпісваўся поўны курс усіх навукаў.

А па начах не давалі спаць крыкі, што даносіліся з сутарэнняў. Можа, збольшага яны мсціліся — але ж Вырвіч дакладна ведаў, што тут ёсць каму крычаць.

Дарэчы, за распіццё віна на працоўным месцы і доктар, і дырэктар тэатра атрымалі велізарныя штрафы ў дзесяць дукатаў. Грошы мусілі быць вылічанымі з іхніх заробкаў. Хто данёс — невядома.

Пятніца пачалася з дажджу... Апоўдні вецер выў так, што здаваўся яшчэ адным вязнем слуцкага замка. Перад тым, як адправіцца на дах, Лёднік прачытаў канон Прасвятой Багародзіцы, а тады абкруціў вакол сябе тонкі сталёвы шнур, схаваўшы яго пад камзол. Цяжар быў салідны, не лягчэй за рыцарскі панцыр. У гэты момант Пранцысь і Лёднік, напэўна, не супраць былі б належаць да прасветленай расы Сільфаў, якія ўмеюць лётаць і рабіцца нябачнымі.

А ноч была сапраўды жудасная. Халодны дождж ліў так, нібыта дзесьці сівабароды Ной ужо зладзіў каўчэг і загнаў туды апошнюю пару тварын Божых. Цёмна — руку

выцягні, не ўбачыш. Толькі няўцямны юрад мог расчыніць акно, каб упусціць у цёплы пакой, з камінам, аблямаваным плінфай з выявамі чорных арлоў, суровую стыхію.

Але акно давялося расчыніць, таму што між дахам і пакоем доктара нацягнулася сталёвая нітка. Лёднік яшчэ раз праверыў, ці добра замацаваны на шкаляры адмысловыя рамяні, з дапамогай якіх артыстаў слуцкага тэатра ператваралі ў Купідонаў. Яшчэ раз шэптам прагаварыў апошнія настаўленні... Як толькі праз двор прайшлі няшчасныя мушкецёры, якім выпала несці варту ў такую слату, доктар прашаптаў:

— Давай! З Богам...

Пранцысь ступіў на падаконнік. Лёднік крутануў за ручку пазычанага ў тэатры механізма: шнур бязгучна накручваўся на барабан, пры кожным павароце надзейна фіксуючыся, так што не трэба было напружвацца, каб утрымліваць груз. Пранцысь злёгку адштурхнуўся нагой, і адчуў, што яго пацягнула наверх. Шкаляр адразу вымак, як упушчаная ў ваду хустка. Але холаду не адчувалася: не да таго, калі кроў ад хвалявання бурліць.

На вылічанай вышыні шнур замёр. Цяпер трэба было аслабіць яго, моцна разгайдацца і дастаць да акна Сільфіды. Скрозь дождж і цемру агні, што гарэлі ў памяшканнях варты, на валу, здаваліся цьмянымі вачыма паміраючага драпежніка. Вада цякла ў рынах з глухім рэвам, як зняволеная рэчка. Нарэшце Пранцысю ўдалося зачапіцца пальцамі за адкос аконнай нішы. Так, закінуць нагу... Перачакаць, каб суцішылася шалёнае сэрцабіццё — Лёднік увесь час паўтараў, што трэба выхоўваць здольнасць да канцэнтрацыі, сачыць за дыханнем і пульсам. Цяпер трохі пасунуцца...

Пранцысь расшпіліў пасы і саскочыў на падлогу. Але працяла думка, што памыліўся: ногі сустрэлі не пухнаты кілім, а голыя дошкі. Не было й паху ўсходніх курэнняў і водару кветак... Холад, амаль як на вуліцы. Пранцысь асцярожна ступіў углыб пакоя.

Цёмна, як цмок праглынуў. Ён напружана прыслухоўваўся: ці дыхае нехта побач?

— Хто тут? — ледзь чутны шэпт ударыў па напружаных нервах, як стрэл гарматаў.

— Панна, я ад Бутрыма...

— Гэта вы, такі мілы хлопчык, што з ім прыходзіў? — у шэпце чулася хваляванне. Пранцысь наблізіўся, выцягнуўшы рукі, і за ягоную руку ўхапіліся халодныя пальчыкі.

— Хлопчык, вы павінны зараз жа сысці, пакуль вашая авантура не мела непапраўных наступстваў! Я ўсё адно на ланцугу...

— Нічога... Дзе замок?

Пранцысь усляпую, як яго вучыў доктар, калупаўся сагнутым дротам у замку ад ланцуга хвіляў дзесяць, якія падаліся бясконцымі. На лесвіцы ўвесь час мсціліся крокі. А што, калі зараз скрыгатнуць засаўкі, і ў пакой уварвецца сам князь! Па спіне шкаляра цёк халодны пот пры адной думцы, што не справіцца і давядзецца вярнуцца да Лёдніка ні з чым... Сільфіда маўчала, дыхаючы так ціха, што часам браў сумнеў, ці яна зямное стварэнне. Нарэшце ў замку нешта шчоўкнула, і ланцуг апынуўся на падлозе. Сільфіда ўзнялася, зашаргатала тканіна. Хаця ўсяе раскошы ва ўбранні пакоя гаспадар непакорлівую палонніцу пазбавіў, на ёй яшчэ была неабдымная сукенка-рагоўка. Пранцысь пацягнуў Сільфіду за руку да акна:

— Хадземце!

— Чакай... — жанчына паваждалася, і спадніца, нацягнутая на тры абручы з кітовага вуса, разам з абручамі з мяккім шоргатам апусцілася на зямлю.

— Усё...

І дух паветра вылецеў у вольную стыхію.

Лёднік падхапіў сяброўку свайго дзяцінства на рукі... Пранцысь сціпла адвярнуўся, хаця ў цемры ўсё роўна толькі мог пачуць усхваляванае дыханне абодвух ды няўцямны шэпт — «Гэта ты! Гэта ты!»

«Не, цмок з Белага возера», — пакрыўджана адказаў у думках Пранцысь паглынутым адзін адным палачанскім мяшчукам.

Акно завесілі чорнай аксамітнай парцьерай, і можна было запаліць свечку і нарэшце адзін аднаго ўбачыць. Сільфіда з палёгкай сцягнула з сябе высокі парык, znізаны перлінамі, і яе чорныя валасы бліскучымі хвалямі рассыпаліся па плячах. У такім выглядзе, няхай з цёмнымі кругамі пад вачыма і схуднелая, яна выглядала яшчэ прыгажэй... Лёднік паднёс ёй адвар:

— Выпі зараз жа... Гэта дасць сілаў.

— Дзякую! — прамовіла Саламея Рэніч, прымаючы гарачы кубак з вохкім зеллем у далікатныя далоні — такія маглі б належаць шляхцянцы, якой з маленства адзявалі і ўдзень і ўначы трохі завузкія пальчаткі, каб пальцы былі тонкімі. — Каб не твае лекі, я за апошнія дні застудзілася б зусім...

Па твары доктара прайшла цень нянавісці:

— Разбэшчаныя юрады з радавымі гербамі замест мазгоў... І Бог у іх інакшы, чым у народа, якім кіруюць, і мова інакшая, і мараль інакшая... Bene natus et possessionatus et catholicus...

— Чым абражаць шляхту, ты б расказаў, што рабіць далей! — прамовіў Вырвіч.

Саламея ласкава ўсміхнулася разззлаванаму шкаляру, чамусьці толькі на адной яе шчацэ, левай, утварылася ямінка, Пранціш сумеўся.

— Гэта твой вучань, Бутрым?

— Не зусім... — Лёднік паглядзеў на Пранцыся амаль бездапаможна, але Вырвіч не збіраўся прыніжаць яго ў вачах прыгажуні. Тым больш папера пра куплю алхіміка засталася ў Сапегі, перададзеная на захаванне ягонаму камердынеру ў невялікім клунку асабістых рэчаў, разам з нататнікам Вараняці і шляхецкай шапкай Вырвічаў. — Гэта... гэта высакародны юнак, якога даверылі мне дзеля выхавання. Ягонае сапраўднае імя — Франтасій.

— Пранціш, — ганарліва ўдакладніў шкаляр. — Пранціш Вырвіч, герба «Гіпацэнтаўр».

Сільфіда нават уздрыгнула, пачуўшы гучнае шляхецкае імя, яшчэ раз усміхнулася шкаляру, на гэты раз больш скавана, і схілілася ў паклоне.

— Прабачце, ваша міласць, я не ведала, хто вы. І вы рызыкуеце дзеля мяне, ваша міласць...

Пранціш пацiснуў плячыма і прыняў важны выгляд, хаця яму больш было да спадобы, каб Сільфіда называла яго і надалей «мілы хлопчык». Але тая глядзела на доктара.

— Даўно хацела цябе спытаць... Гэта адкуль?

Яе пальцы кранулі шнар на ілбе алхіміка.

— Адзін шляхціц распісаўся, — незадаволена адказаў Лёднік.

— А гэта? — Саламея асцярожна правяла пальцам па яшчэ свежай драпіне на шыі.

— Другі шляхціц распісаўся.

— І шмат на табе такіх... арыстакратычных роспісаў? — у голасе Сільфіды пад насмешкай чуліся шкадоба і горыч.

— Не мае значэння... Урэшце, за тое, чым я займаўся, трэба расплочвацца. І дзякуй Госпаду, што спыніў мяне... — Лёднік перахрысціўся. — Чым глыбей мы былі ў прорве — тым мацней нас трэба цягнуць наверх. І вялікая няўдзячнасць — скардзіцца, калі ад моцнай выратавальнай рукі засталася пара сінякоў.

Доктар спыніў непрыемную размову і дастаў з-пад ложка клунак, у якім аказалася нейкая дзіўная вопратка: шаравары з паркалю, кацавейка, стракатыя анучы...

— Павінен засмуціць цябе, Саламея, у бліжэйшыя гадзіны ты будзеш мурынкай.

Тая ціха засмяялася.

— Пасля ролі Сільфіды ты мяне нічым не засмуціш.

Хутка замест Саламеі Рэніч у пакоі стаяла дзіўнае стварэнне, захутанае ў танную стракатую тканіну,

наматаную паўзверх тоўстай кацавейкі. Лёднік задаволена агледзеў кабету:

— Постаць непазнавальная. Цяпер фарба...

Намацаў у клунку круглы слоік, зняў накрыўку...

— Вырвіч, гэта што?

Пранціш схіліўся над слоікам. Нават у прыцемку было відно, што фарба — не чорная і не брунатная, а чырвоная. Шкаляр засмуціўся.

— Джавані паказаў, дзе браць, сказаў, будзе напісана «для эфіёпаў».

— Гэта, па-твойму, слова «эфіёпы»? — злосна прашыпеў Лёднік. — Невук! Гэта для індыянаў! Чырвонаскурых!

Але не было часу высвятляць адносіны. Алхімік выклаў трохі фарбы ў сподак, затым дастаў з кішэні маленькую бутэлечку, высыпаў у фарбу яе чорнае змесціва з рэдкімі залацістымі іскрынкамі, перамяшаў проста пальцам, і скамандваў Саламеі:

— Павярніся да мяне!

Правёў па яе шчацэ цёмны пасак, акуратна расцёр, правяраючы адценне, асцярожна прыбраў пазногцем залатую іскрынку.

— Заўсёды марыў беспакаранна перапэцкаць твой тварык!

— Бутрым, што ты робіш? У каміне навалам сажы! А гэта ж... — Пранцысь зразумеў, што за бутэлечку апрастаў Лёднік.

— Гэта ўсяго толькі попел, і тут яму самае месца, — цвёрда сказаў Бутрым, размазваючы па белым твары сяброўкі дзяцінства алхімічнае золата, за якое аддаў дзесяць гадоў жыцця і сябе самога ў дадатак.

Цяпер у цемры твар Саламеі можна было, бадай, прыняць за мурынскі, калі б, вядома, не сінія вочы. На галаву ёй накруцілі палатно. А зверху Лёднік накінуў радно:

— Прыкрывай твар і рукі, каб дождж фарбу не размыў. Аснова тлустая, але ўсё-ткі лепш не рызыкаваць. І вочы свае валошкавыя не падымай.

Можна было б над гэтым маскарадам пасмяяцца, але не цяпер...

Лёднік узяў свечку, падыйшоў да акна, сарваў аксамітную парцьеру, правёў свечкай справа налева нейкую загагуліну і зараз жа патушыў агонь. Дзесьці далёка ў цемры запаліўся агеньчык, які таксама апісаў зігзаг і згаснуў.

— Усё, цяпер будзем напагатове...

Дождж адбіваў шалёны рытм нялюдскіх скокаў. Заставалася няшмат часу, а пытанняў было, як маку ў смаргонскім абаранку.

— Як ты даведаўся, дзе я знаходжуся? — прашаптала Сільфіда. — Я думала, самлею, калі пабачыла цябе...

— Калі мяне арыштавалі за шарлатанства, — усміхнуўся Лёднік, — то дэкляравалі, што будуць судзіць разам з яшчэ адной... вядзьмачкай.

— Мне трэба было быць асцярожней... — сумна прашаптала Саламея. — Падарожны папрасіў дапамогі. Маўляў, вочы забалелі, моцы няма. І я ж бачыла — нармальныя вочы, можа, кулаком нацёртыя. Дала слабое содавае расчынне — абы адчапіўся. Гэта ж зусім бясшкодна, хоць пі, хоць умывайся... А назаўтра — усё, цягнуць у суд. Аслеп! І аказалася — падарожны са Слуцку, адзін з княскіх паюкоў. Ясна, што адмыслова падасланы... Толькі дзядзька Лейба, аптэкар наш, засведчыў, што я бясшкодныя лекі дала, але яго добра пужанулі, каб змоўк. Дый што ягонае сведчанне ў судзе каштуе. І мяне хуценька звезлі ў Слуцк, бо я пакалечыла слугу слуцкага ардыната.

— А ваявода полацкі ўзяў ліст ад Трыбунала, каб цябе вярнуць у Полацак. Цябе не дзівіць такая ўвага?

Сільфіда прамаўчала, і Лёднік скрушна ўздыхнуў.

— Ясна... І як спадару Івану пашчасціла патрапіць у такую гісторыю, ды яшчэ і цябе ўцягнуць? Што за блёкат пра захавальнікаў дзіды?

— Бацька зрабіў вялікую памылку, — прагаварыла Саламея. — Ён вынес з сутарэнняў некалькі скруткаў...

І не ўтрымаўся, паказаў знаёмаму гандляру. Не мог без захопленых слухачоў.

— Чакай... Дык ён усё-ткі знайшоў полацкую бібліятэку?

Саламея неахвотна адказала:

— Менавіта так той гандляр і вырашыў. А бацька, замест таго, каб усё адпрэчваць, давай рабіць намёкі, цану сабе набіваць... Ну, ты яго ведаў. Прабач, і сам такі раней быў, як пачнеш разважаць пра Вялікае Дзеянне, аурумаргентум, хоць над вухам выстралі, хоць пацалуй — не заўважыш, — Саламея ціха засмяялася, відаць, успомніўшы нейкі не самы ганаровы для Лёдніка выпадак. — Вось і пайшлі чуткі, чым далей, тым болей фантастычныя. Гандляр данёс Марціну Радзівілу, які даваў самую высокую цану за любую магічную лухту.

Пранціш расчаравана ўдакладніў:

— Дык няма нічога? Ні рамфеі, ні місіі яе захавальніка?

Але Лёднік не быў такі легкаверны. Ягоны голас не стаў менш напружаным.

— Саламея, ты разумееш ці не, што стала важнай фігурай у буйной палітычнай гульні? Што сама прысутнасць цябе ў стане таго ці іншага магната нібы дае яму больш правоў на карону? З-за Прыўкраснай Алены, між іншым, Троя загінула і куча небаязлівых дужых мужыкоў. Ты валодаеш нейкімі ведамі?

Саламея адказала крыху змененым голасам, у якім чулася нават уладнасць:

— Не кожнай ведай можна валодаць, дарагі мой, як валодаюць каштоўным камянём альбо ўніверсітэцкім дыпломам. Не кожную веду можна перадаць па сваім жаданні, як перадаюць права валодання домам альбо рабом. Вось я ведаю, што я — ліцвінка... Што ў мяне ёсць радзіма, за якую варта памерці, што я — са слаўнага вольнага горада. І бацька гэта ведаў. Але як перадаць гэтую веду таму, хто не можа яе падзяліць?

— Ты лічыш, што я моцна змяніўся, і не заслугоўваю больш даверу? — намагаючыся гаварыць спакойна, папытаўся Лёднік. — Што я перастаў любіць свой горад?

— Ты занадта доўга жыў на чужыне, і занадта лёгка пакінуў радзіму, — прагаварыла Саламея. — І я памятаю, як за скрутак з формулай ты гатовы быў душу закласці, і пайшоў бы ў навучанне хоць да Харона, калі ён адкрые табе, як рабіць гамункулусаў... Ведаеш, як бацька цябе называў у часы тваёй адсутнасці? Фауст. Наш бедны Фауст. І цяпер, калі ты знік, а тваю маёмасць распрадалі, я вырашыла, ты зноў падаўся ў далёкія падарожжы.

Пранцысь адзначыў пра сябе, што Лёдніку ўдалося схаваць ад землякоў здзелку з панам Агалінскім.

— Што ж, я заслужыў такія словы. Але мяне можаш не баяцца, я на твае веды не прэтэндую — бо адмовіўся нават ад сваіх, — з цяжкасцю, нібы яму было балюча, прагаварыў Лёднік.— Так, я ўсё мог аддаць за новыя веды... Акрым душы. Верыў, што вось, няхай навучаюся ў бязбожнікаў, якія гавораць пра перасяленне душаў і сцвярджаюць, што зносяцца з духамі, але ж я толькіназіраю, і выбіраю, што варта пераймаць, і заўсёды змагу спыніцца, не пераступіць мяжы... Як быццам, ступіўшы ў брудную лужыну, можна выбраць сухое месца. І мне страшна ўявіць, як далёка я мог бы зайсці па дарозе ў бездань... Але ўсё ў волі Госпада, я зразумеў, што браць на сябе ролю абранца і носьбіта таемных ведаў — найвышэйшая праява гардыні. Я больш не алхімік і не астролаг. Я... лепш табе не ведаць, наколькі я мала цяпер значу.

Дождж ударыў у шыбу мяккай нябачнай лапай, нібыта аб чымсьці папярэджваў.

— Бутрым, я зусім не лічу сябе абранніцай ці цябе нявартым... — засмучона прагаварыла Саламея. — Я ж памятаю, як мы хадзілі ў Сафійку, сядзелі над Дзвіною, і як ты мне распавядаў пра Рагнеду і Уладзіміра, пра Еўфрасінню і Скарыну... І пра тое, як Іван Жахлівы заваёўваў наш горад, а тады Стафан Баторы. Як мы лазілі па мурах і сутарэннях,

і як знайшлі іржавы рыцарскі меч з выявай вершніка... Павер, усё, што я маю, і я сама — належыць табе. Акрамя таго, пра што ты пытаешся. Проста гэта не мая таямніца, я яе не прасіла, і я над ёю не ўладная!

— Няважна... — прамовіў Лёднік. — Я за сваю гардыню расплочваюся напоўніцу. І не хачу, каб ты, няхай далучаная не па сваёй волі, расплацілася таксама. Бо калі нам нейкім цудам удасца выбрацца з замка — цябе зграбуць іншыя прагныя рукі... Сапегаў, Багінскіх, Чартарыйскіх, Панятоўскіх... Каго заўгодна. А я не дзеля таго спрабую цябе вызваліць.

— А дзеля чаго? — папыталася Саламея. Лёднік уздыхнуў, як студэнт на іспыце, да якога не падрыхтаваўся.

— Ты павінна быць вольнай... Жыць, як хочаш...

— Ты ведаеш, чаго... дакладней, каго я хачу, — голас кабеты гучэў нават насмешна. — Уласна кажучы, я ж дачакалася — ты прыйшоў! Мой бедны Фаўст...

І калі б доктар у гэты момант пачаў казаць, што яе нярварты, Пранцысь перастаў бы яго паважаць. Але ў прыцемку, які пачаў трохі-трохі, кропляй белі, рабіцца святлейшым, Лёднік толькі паднёс да вуснаў руку жанчыны, нібыта дзюбнуў носам. У Вырвіча ў чарговы раз варухнулася крыўда: і чаму гэтага страхалюднага недарэку кахаюць самыя прыгожыя кабеты? І яшчэ мільганула думка: а Паланэя Багінская напэўна ж хоча займець тую рэліквію! Можа, з дапамогай рамфеі, дзіды Святога Маўрыкія, мяккі па характары, але адукаваны і схільны да мастацтваў князь Міхал Багінскі стане каралём Рэчы Паспалітай? Гэта будзе, напэўна, куды лепей, чым чарговы саксонец, расейскі стаўленік ці вар'ят Геранім Радзвіл... І што, калі тую рамфею дастане шляхціц Пранцысь Вырвіч? На трон яго самога, вядома, наўрад пасадзяць, трэба нават у марах ведаць межы... Але ён можа ўрачыста перадаць святыню будучаму каралю і тым як бы ўзвесці яго на трон. Пранцысь Вырвіч, дабрадзей караля! Тады юная Багінская паглядзіць на яго, як на роўнага!

Вырвіч сам не заўважыў, як ад салодкіх мрояў прыдрамаў, і сніліся яму залатыя фанфары, якія бязгучна гралі славу герою, высоўваючыся з аблокаў, як трубкі з вялізнай дуды. Пранціш стаяў проста на хмарцы пад дажджом з бязважкіх ружаў, створаных з завіткоў пары, і намагаўся расчуць хоць урывак урачыстай мелодыі ў свой гонар. Ён ведаў, што фанфарам падпявае анёльскі хор, але яго таксама не было чутно. Ціха, падаюць, як снегавыя камякі, ружы. Растаюць у паветры... Раптам слых пачаў улоўліваць асобныя гукі... І яны сталі складацца ў пахавальны марш. Ад абурэння Вырвіч прачнуўся... А яшчэ ад таго, што Лёднік тузаў яго за рукаў.

Магчыма, сонца і падумвала вынырнуць з бездані начы, але не наважвалася, бо хмары так шчыльна засцілалі неба, што праз іх усё роўна немагчыма было паказаць сваю бліскучую гожасць упэцканай восеньскай слатой зямлі, а ці варта тады турбавацца?

Між тым ля брамы пачуліся нейкія гукі, замільгалі агні...

— Усё, час! — здушаным голасам прамовіў Лёднік.

— Ты так і не сказаў мне... — ціха прамовіла палачанка, ператвораная ў мурынку.

— Я быў дурань, — проста прызнаўся былы алхімік. — Не ведаю, ці прабачыш ты мяне. Ты — лепшае, што магло б са мной адбыцца. Але цяпер ужо запозна.

— Ніколі не бывае запозна, павер, — упэўнена прагучэў глыбокі нізкаваты голас Саламеі Рэніч.

Каля брамы адбывалася нейкая мітусня і чуліся незразумелыя жаласныя выкрыкі, не падобныя да чалавечых. Лёднік ішоў наперадзе, выпрастаўшыся, як палкаводзец, Пранцысь нёс за ім валізу з лекарскім інструментарыем, мурынка, угнуўшыся, спяшалася за імі дробным крокам. На падыходзе да брамы Лёднік пачаў выкрыкваць на нямецкай:

— Загад яго княскае мосці!

Усе спалохана рассыпаліся ў бакі. Лёднік падыйшоў да начальніка варты і незадаволена папытаўся:

— Гэта выпадкам не цюленяў і слана прывезлі?

— Дакладна так! — з палёгкай адказаў начальнік варты, немалады рудаваты прусак, на твары якога чыталася такая разгубленасць, якой не магла выклікаць самая жорсткая і безнадзейная баталія. — Ніхто нічога зразумець не можа. Прыезжыя крычаць, каб зараз жа далі ім падводы, бо слон здохне, цюлені разбягуцца, мурыны таксама... Кажуць — яго княская мосць замаўляў гэты звярынец ажно ў Гамбургу, вось яны прыехалі, слон захварэў, затрымаліся ў Трайчанах, да раніцы чакаць не могуць, бо цюленям патрэбныя новыя бочкі з вадою, старыя разбіліся... Правадыр, нахабны малады чалавек, патрабуе, каб зараз жа даклалі пра іх прыезд князю, іначай той угневаецца. Але калі яго міласць князя пабудзім, што, не ўгневаецца? Майн гот, што такое цюлені, гер Лотман? Гэта драпежнікі?

— Марскія жывёлы, і калі блізка да іх не падыходзіць, не з’ядуць. Князь як раз даў мне распараджэнні наконт гэтага звяр’я, — уладным голасам тлумачыў Лёднік. — Бяссоннем пакутваў яго мосць, і ўспомніў, што павінны цюленяў прывезці, крыкі якіх супакойваюць бурленне крыві. Але даў указанне, якіх тварын пускаць у замак, а якіх не. Дайце мне перагаварыць з гасцямі.

— А мурынка вам нашто? — падазрона папытаўся начальнік варты.

— Ну, калі вы, гер афіцэр, ведаеце мурынскую мову, гэтая кабета нам сапраўды не спатрэбіцца. Вы замест яе дапаможаце нам паразумецца з мурынамі ды афрыканскім сланом, якіх князю прывезлі, — у голасе Лёдніка было столькі атруты, што афіцэр махнуў рукой, і доктар са сваімі спадарожнікамі прайшлі наперад, да выхаду з брамы. Па той бок моста бачылася некалькі вершнікаў і падвода, на якой нешта варочалася і жаласна па-нялюдску крычала.

— Апусціце мост, я павінен перагаварыць з тым чалавекам, — загадаў Лёднік. Афіцэр пераклаў загад, жаўнеры кінуліся выконваць. Маладзён, размахваючы паперай, перабег мост, і Пранцысь са здзіўленнем пазнаў Ігната Мянчынскага ў адзежы купца і з барадою.

— Панове, вось ліст князя Радзівіла! Няўжо вы асмеліцеся не пусціць у замак купленых ім жывёлаў?

Лёднік холадна папытаўся, ці гаворыць пан па-нямецку, і купец паўтарыў усё на ламанай мове бюргераў.

— Спакойна, пан, не спяшайцеся! — ледзяным голасам прагаварыў Лёднік. — Па-першае, князь у вас яшчэ нічога не купіў, нават канарэйкі. Па-другое, з таго, што вы прывезлі, князь загадаў адабраць жывёлаў і мурынаў пэўнага гатунку. Яго мосць даведаўся, напрыклад, што цюлені з асаблівай формы белай плямай і мурыны з асаблівым кляйном могуць быць звязаныя з дэманамі. Карацей, пойдзем, я сам усё прывезенае агледжу, а гэтая мурынка разбярэцца са сваймі адзінапляменнікамі.

Мянчынскі развёў рукамі, нібыта з прыкрасцю, і моўчкі пакланіўся.

— Гэта непадалёк, ваша мосць. Можаце скарыстацца нашай падводай — на ёй толькі маленькі цюлень, мы яго навязалі, ён бясшкодны. А гэтую дзікунку я пасажу на свайго каня.

Мянчынскі схапіў Саламею за руку і павёў да коней. Пранцысь рушыў следам. Лёднік павярнуўся да варты:

— Я прышлю сказаць, колькі патрэбна падводаў і бочак з вадой.

— А пякельнай карэты за табой не прыслаць? — раптам пачуўся здзеклівы голас. Аднавокі жаўнер асвяціў ліхтаром твар Лёдніка. — А я думаю, што за голас знаёмы? Вось пан Юдыцкі ўзрадуецца!

— Не разумею, пра што спадар гаворыць,— па-нямецку адказаў Лёднік, не мяняючы голасу, і павярнуўся, каб сысці...

— Хапай шпега! Гэта не немец, гэта — Баўтрамей Лёднік, чарнакніжнік, што ад Юдыцкага збег! — загарлаў жаўнер. — І памочнік яго шпег! Трымайце!

Жаўнеры выхапілі шаблі, начальнік варты цвёрда прамовіў:

— Застаньцеся, пан доктар. Гэты чалавек сцвярждае, што вы — не той, за каго сябе выдаяце. Мы лёгка выявім, ці ён ілжэ.

— Толькі пасля таго, як я выканаю загад князя, — запярэчыў Лёднік. Афіцэр вагаўся, у той час, як жаўнер крычаў:

— Ды гэта ж ён мяне вока пазбавіў! Навалач паганая! Паглядзіце на ягоны лоб — пан Юдыцкі прыклаў!

Прусак крануў рукой шаблю, што ўсе палічылі знакам да трывогі.

— Эй, вы, таксама стойце! — крыкнуў адзін з афіцэраў тым, хто ўжо апынуўся па той бок моста, і нехта з жаўнераў рушыў, каб іх затрымаць.

— Рабіце, што павінны! — крыкнуў з усяе сілы Лёднік і выхапіў шаблю. Мянчынскі яго зразумеў, ускочыў на каня, і, моцна трымаючы ў абдоймах мурынку, пусціўся намётам. Трое, што былі з ім, таксама прышпорылі коней і выпусцілі пару куль у бок пераследнікаў, каб суцішыць іхні імпэт. А ў жаўнераў Радзівіла на выхадзе з брамы аказалася перашкода ў выглядзе аднаго, але баявітага доктара, шабля якога мільгала, як крылы шалёнага ветрака.

Лёднік разумеў, што пры ўсёй упартасці і добрай стратэгічнай пазіцыі хопіць яго ненадоўга, але кожная выйграная секунда дадавала пясчынку на шалі, што ўзважвалі верагоднасць выратавання Саламеі Рэніч. Шлях на той бок маста быў не для яго. Раптам побач пачуўся зухаваты крык, і жаўнеры сустрэліся з яшчэ адной шабляй. Лёднік прастагнаў скрозь зубы:

— Вырвіч! Якога ражна ты вярнуўся!

— Я сваю маёмасць не кідаю! У мяне не так яе многа! — з вясёлым цынізмам пракрычаў Пранцысь, радуючыся, што нарэшце развітаўся са сваім «нямецкім маўчаннем», і што можа заняцца праўдзівай шляхецкай справай і выпрабаваць сваю фехтавальную навуку.

У замку пратрубілі трывогу. Зазванілі званы... Падобна, выявіўся і пабег Сільфіды. Цяпер узнімецца ўвесь гарнізон.

Лёднік і Пранцысь стаялі ўнутры брамы, плячо да пляча, задыханыя, потныя... А на іх скіравалі рулі стрэльбаў столькі жаўнераў, колькі змагло змясціцца ў праёме.

— Ну нашто ты вярнуўся... — неяк тужліва прагаварыў Лёднік. — Сапсуў мне ўсё, дурны хлапчыска. Я б зараз мог...

Ён не дагаварыў, але Вырвіч зразумеў: Лёднік планаваў біцца да апошняга, выжыванне ў гэтыя планы не ўваходзіла. А цяпер з-за Вырвіча ён не можа так учыніць, і давядзецца здацца, а далей — сутарэнні, што горш за смерць...

— Я таксама змагу! — адчайна крыкнуў Пранціш, і з шабляй ірвануўся на ружжы:

— З дарогі, гнюсы! Гіпацэнтаўр ідзе!

Лёднік паспрабаваў апярэдзіць хлапца, па звычцы захінуць... Але кулі ў двух самазабойцаў не паляцелі, значыць, нехта паспеў аддаць загад — браць шпегаў толькі жыўцом. Шыхты ўзброеных стрэльбамі мушкецёраў расхінуліся, і на двух ваякаў накінулі сеткі.

Калі іх скруцілі, Пранціш са свежападбітым вокам фанабэрыста заявіў:

— Рукі прэч, халопы! Я шляхціц! Я патрабую, каб да мяне адносіліся адпаведна майму званню!

— Для шляхціцаў, ваша мосць, у нас ёсць адмысловыя яміны ў сутарэннях! — здзекліва адказаў адзін з жаўнераў.

А Лёднік, неверагодна злуючы канваіраў, мройна ўсміхаўся. Ён быў упэўнены, што Сільфіда ў гэты жудкі замак не вернецца.

## Раздзел дзявяты.
## У СУТАРЭННЯХ СЛУЦКАГА ЗАМКА

У кожнага ў дзяцінстве ёсць нейкае ўяўнае страхоцце, якое абрастае падрабязнасцямі і палохае больш, чым нешта рэальна небяспечнае. Дзед Бабай з лупатымі

чырвонымі вачыма, што гараць, як полымя, і жоўтымі ікламі да калень, які па начах ходзіць на гарышчы, куды страшней, чым чорнае вока палонкі, у якое зазіраеш, стоячы на падталым лёдзе, альбо спакусна бліскучыя ягады ваўчанкі. Хаця няшчасны Бабай яшчэ не забіў нікога, а ў палонцы загінуў не адзін цікаўны малёнак...

Сапраўдная небяспека ніколі не выглядае гэткай страшнай, як уяўная.

Пранціш столькі разоў уяўляў сабе жудасці сутарэнняў Гераніма Радзівіла, што, патрапіўшы туды, адчуў нават незразумелую палёгку: ну вось і здарылася тое, чаго баяўся больш за ўсё на свеце.

Памяшканне са скляпеністай столлю, дзвюма каменнымі калонамі і камінам, куды заштурхнулі палонных, не было ў самым нізе, пад зямлёю, наадварот — яно было першым ад уваходу, гэткі чысцец перад спускам у пекла, парадны пакой Аіда. Не мелася крывавых пацёкаў на сценах ці шкілетаў па кутах. Шэры камень, цёмны мох у шчылінах. Тут цалкам маглі б захоўвацца мяшкі з зернем, кубельцы з салам альбо іншыя мірныя звыклыя рэчы. Хіба што для асвятлення пакою не пашкадавалі нават чатырох ліхтароў, па адным у кожным куце — відаць, каб не прапусціць і найменшы рух вязня. Мелася і маленькае вакенца, у якое віднеўся шэры ашмётак неба і сіратлівы куст травы, які згінаўся ад павеваў мокрага ветру. Значыць, крыкі адсюль маглі радаваць князя Гераніма, нават калі б ён не прысутнічаў на допыце, а знаходзіўся ў сваіх пакоях. Пранцысь уявіў, што кожная такая камера з вакенцам — адмысловы музычны інструмент болю, з якога складаецца сапраўдны, а не тэатральны, аркестр Слуцкага замка...

А князь Геранім напэўна да іх заявіцца! Каб асабіста задаць пытанні... Пранцысь, відаць, пры гэтай думцы замарудзіў крок, бо яго падштурхнулі ў спіну. Шкаляр у чарговы раз пракрычаў:

— Я шляхціц! Паветлівей, сабачыя морды!

— Ды мы нічога кепскага высакароднаму пану не зробім, — здзекліва запэўніў Пранціша таўсманы

турэмшчык. — Вось сюды прысядзьце, ваша мосць, на гэтую лаву...

Вырвіча ўсадзілі на каменную лаўку ля сцяны справа ад акна і надзелі на рукі кайданы, прымацаваныя да сядзення, так што Пранціш мог дастаць да свайго носу толькі нізка нахіліўшыся. Двое турэмшчыкаў адышліся палюбавацца сваёй працай:

— Ну вось, зручна пану? Не цісне нідзе?

Пранціш ганарыста закінуў галаву:

— Я ўласнаручна спушчу скуру з вашых спінаў за абразу шляхецкага гонару!

Але на яго ўжо не звярталі ўвагі... Бо займаліся Лёднікам, і менавіта яму, падобна, адводзілася галоўная роля ў мяркуемым спектаклі ў многіх дзеях. І Пранцішу дужа не спадабалася тое, што з ягоным слугою рабілі. Лёдніку загадалі распрануцца да пояса і разуцца, што ён і зрабіў не спяшаючыся, і вопратку сваю склаў акуратненька, стосікам, на сухім месцы ля сцяны. На ягоным жылаватым, падцягнутым целе меліся і «шляхецкія роспісы» — відаць, пан Агалінскі выхоўваў даўжніка, і шнары, пакінутыя шаблямі ды кулямі, што канваіры палічылі доказам ягонага маскараду: адкуль такое ў звычайнага доктара? Калі турэмшчыкі яшчэ пабачылі на грудзях Лёдніка срэбны праваслаўны крыж, дадаткова раз'юшыліся, аблаялі «маскоўскіх сабакаў», праклятых шпегаў, але здымаць крыж і біць вязня не сталі, відаць, таму, што пакуль не атрымалі ніякіх распараджэнняў наконт яго. Толькі паюк з задавальненнем патаптаўся бруднымі ботамі па акуратна складзенай Лёднікавай вопратцы. За гэты час адзін з канваіраў распаліў камін, і наўрад дзеля таго, каб вязням было цёпла. Тым больш у куце ля каміну грувасціліся страшныя жалезныя прылады, зусім не падобныя да звычайнай качаргі.

Доктара паставілі між двух каменных слупоў тварам да акна і прыкавалі ланцугамі за рукі і ногі, так, што ён нагадваў малюнак ідэальнага чалавека Леанарда да Вінчы, хаця такога носа ў ідэальнага чалавека дакладна

быць не можа. Лёднік маўчаў, на ягоным худым твары нельга было прачытаць нічога, акрым грэблівай абыякавасці. Затое Пранцысь мімаволі пачаў дрыжэць і не ведаў, ці зможа годна вытрымаць відовішча, якое тут рыхтавалася. Нарэшце ўсе выйшлі, пакінуўшы вязняў адных. Ліў дождж, ягоны шум здаваўся злавесным, бо крыкі і стогны з глыбінь сутарэнняў ён заглушыць не мог, і яны больш не былі прывіднымі.

— Пранцысь! — цвёрда прамовіў Лёднік. Вырвіч з цяжкасцю змусіў сябе падняць вочы.

— Паглядзі на мяне! — уладным голасам прагаварыў доктар. — Што б зараз ні адбывалася, проста заплюшчы вочы і думай пра іншае. Пра Паланэю Багінскую, пра лацінскія спражэнні... Ды хоць пра сябра свайго Вараня. Памятаеш, як мы практыкаваліся — канцэнтрацыя, лічыш свой пульс, сочыш за дыханнем... Памятаеш?

Пранцысь кіўнуў галавой, спрабуючы праглынуць даўкі камяк страху.

— І галоўнае, што б са мной ні рабілі — маўчы! З'ясаваў? — працягваў настаўленні Лёднік, і Пранцысь зноў змог толькі кіўнуць галавою. Доктар зразумеў ягоны стан і ўсміхнуўся шчыра, шырока, як ніколі раней не ўсміхаўся, нават аблічча яго памаладзела і папрыгажэла.

— Ну, вышэй нос, Гіпацэнтаўр! Мы выберамся!

Бразнулі засовы, дзверы адчыніліся, і ўвайшоў чалавек, якога бачыць Пранцысь хацеў бы яшчэ менш, чым князя Гераніма — аднавокі жаўнер. Ягоны мяккі твар з падвойным падбароддзем зусім не падыходзіў вою. Страчанае вока прыкрывала чорная павязка, а другое — гарэла лютай нянавісцю. Аднавокі не звярнуў ніякай увагі на Пранцыся. Ён павольна абыйшоў вакол доктара, відовішча пэўна прыносіла яму асалоду.

— Што ж, ты чалавек, як відаць, цёрты... Не просты доктар-клісцірнік. Ваяваў, бізуноў каштаваў... І, напэўна, нічога і нікога не баішся... Так?

Спыніўся перад вязнем, наблізіўся амаль ушчыльную.

— Ты думаў, я здохну? Думаў мяне болей не пабачыць, а, вядзьмак? Ты памыліўся, мы, мужчыны з роду Прашковічаў, жывучыя... А яшчэ мы нічога не забываем. — Рот аднавокага расцягнула невясёлая ўсмешка. — Мой дзед быў жаўнерам у войску Станіслава Ляшчынскага, калі той ваяваў на баку шведскага караля. І аднойчы аднапалчанін абыграў дзеда ў косці, перад гэтым напаіўшы гарэлкай з прыгожых такіх маленькіх шкляных чарак з выявамі райскіх птушачак, якія насіў на шчасце ў адмысловай пушцы, набітай саломай. Падліваў, падліваў — за сяброўства, казаў, нельга не выпіць. І дзед, каб адыграцца, нават стрэльбу паставіў. А назаўтра на шыхтаванні, на якое дзед, натуральна, прыйшоў без стрэльбы, яго адлупцавалі, ледзь не расстралялі. А аднапалчанін смяяўся... Як ты, калі кінуў мне ў вока гэта...

Прашковіч рэзкім рухам падняў проста перад тварам вязня бронзавы стрыжань.

— Пазнаеш? — мяккі твар Прашковіча быў зусім блізка ад змрочнага твару Лёдніка, а бліскучы, старанна завостраны канец старажытнагрэцкага сціла, якое калісь належала шкаляру Вараняцы, ледзь не дакранаўся вока доктара. — Дык вось... Мой дзед выжыў, і ягоны шчаслівы супернік таксама. Яны па-ранейшаму лічыліся сябрамі. Той паскуднік нават на знак прымірэння і сяброўства падарыў дзеду адну чарачку з райскімі птушкамі. Па дарозе дадому яны спыніліся ў карчме і замовілі свіныя скабкі з фасоляй. Пасля якіх у аднапалчаніна пачаўся крывавы панос. Таму што ў ягоную талерку дзед мой высыпаў даўно падрыхтаванае libre ператоўчанае на пыл шкло ад тае самае чаркі. Аднапалчанін памёр там жа... Нібы ад нястраўнасці. Карчмара аштрафавалі — за нядобрую ежу. Табе падабаецца такая гісторыя, вядзьмак?

Пранцысь хацеў было выказаць сваю думку пра гнюснасць і подласць пачутай гісторыі, але сустрэўся з цвёрдым позіркам Лёдніка і стрымаўся.

Прашковіч гаварыў, нібыта муркатаў кот, які падбіраецца да птушкі, што патрапіла ў сіло. Раптам голас

ягоны змяніўся, засычэў па-змяінаму, сціло дакранулася да шчакі Лёдніка, нібы ўджаліла...

— Як бы я хацеў выкалаць гэтай штукай абодва твае нахабныя вочы! — цяпер Прашковіч аж трosся ад нянавісці, падманлівая мяккасць пакінула ягонае аблічча. — Ці загнаў бы яе ў тваю пячонку, і глядзеў бы гадзінамі, днямі, як ты павольна канаеш!

На хвілю Пранцысю падалося, што жаўнер спраўдзіць свае словы, але той адвёў сціло і вымавіў:

— Але яго княская мосць захоча атрымаць цябе цэлым. Таму я не магу істотна папсаваць твой выгляд.

— Дык, можа, табе варта прапусціць князя наперад? — іранічна папытаўся Лёднік.

Прашковіч злосна рассмяяўся.

— Пасля князя мне ўжо нічога не застанецца, дурань. Ні вяршка цэлай скуры. Тваё шчасце, што яго княская мосць тэрмінова з'ехаў перамаўляцца з вашым гаспадаром Сапегам. Але супраць таго, каб цябе трохі прыгладзілі, падрыхтавалі, князь нічога не мае. І ты сто разоў пашкадуеш, што кінуў у мяне гэты цвік!

Прашковіч узняў вастрыём уніз сціло, якое, відаць, шчыра лічыў цвіком, і з крыкам асалоды ўсадзіў яго ў грудзі Лёдніка, скіраваўшы, каб стрыжань прайшоў пад скурай. Лёднік стрымаў стогн, толькі дыханне яго на імгненне перарвалася. Кат адыйшоўся, паназіраў... Потым асцярожна, нібы выконваў тонкую рамесніцкую працу, пачаў падштурхоўваць відочны канец сціла так, каб вастрыё паказалася з-пад скуры... Ухапіўся за яго, выцягнуў, як шавецкую іголку. Па грудзях Лёдніка пабег тонкі цёмны струменьчык.

— Ніякай істотнай шкоды, праўда? — голас Прашковіча агідна дрыжэў ад задавальнення. — Але ж балюча не меней, чым калі б я сек цябе шабляй. Я вышыю гэтай іголкай на тваім целе ўвесь свой боль, паскуднік!

І ўсадзіў сціло ў плячо доктара. Зноў працягнуў яго скрозь рану пад скурай. Павольна-павольна, ловячы найменшыя праявы болю...

Вырвіч злавіў злосны пагляд Лёдніка і паслухмяна заплюшчыў вочы. Пастараўся ўспомніць усмешку Паланэйкі... Сінія вочы Сільфіды... Грацыёзныя рухі Міхалішыўны... Лічыў удары ўласнага сэрца... Але чуў толькі няроўнае дыханне Лёдніка, якое час ад часу замірала. А тут яшчэ аднавокі жаўнер, не перапыняючы сваёй жудаснай працы, пачаў напяваць знаёмую песню:

— З вушак будуць нажнічкі,
З вушак будуць,
Лігіцігі-лігірулі, вой ды з мазурамі,
Нажнічкі.
З зубоў будуць пацеркі,
З зубоў будуць,
Лігіцігі-лігірулі, вой ды з мазурамі,
Пацеркі...

Самае брыдкае, што кат ні пра што не пытаўся, яму не патрэбна было ад вязня нічога, акрамя болю... Вырвічу падалося, што гэты жах цягнецца бясконца. Закрычаць? Адцягнуць увагу на сябе? Але Лёднік не дасць гэтага зрабіць, спецыяльна раззлуе мярзотніка, і станецца яшчэ горш. Да таго ж, сапраўдныя катаванні чакалі наперадзе, чарга мусіла дайсці і да маладога шляхціца.

На двары пачуліся крыкі, нехта загадваў адчыніць браму... Забразгалі дзверы ў сутарэнні. Песня пра мазура і здохлую кабылу змоўкла.

— Цяпер ты мяне запомніш! І цвік твой вяртаю...

Пранцысь адплюшчыў вочы: аднавокі стаяў за спінай Лёдніка і зноў арудваў сцілом, павольна заганяючы яго пад скуру вязня. Але даставаць не стаў, пацёр рукі і сышоў, задаволены, п’яны пакутамі ворага. Дзверы ляснулі, як сківіцы людажэра. Палонныя зноў засталіся адны.

Доктар выглядаў... Кепска выглядаў. Ён амаль вісеў на ланцугах, цёмныя зліплыя валасы закрывалі апушчаны твар.

Пранцысь здушаным голасам прагаварыў:

— Доктар... Гэй, доктар...

Лёднік страсянуў галавой, выпрастаўся, цвёрда стаў на ногі.

— Гэты гіцаль зусім не ведае анатоміі, — голас ягоны не змяніўся зусім — такім толькі лекцыі нядбайным студэнтам чытаць. — Абазнаны ў знаходжанні болевых кропак чалавек мог учыніць куды болей шкоды.

— Ты — як?..

— Як зацыраваны бот.

Пранцысь ледзь не засмяяўся з палёгкай, каб слёзы не душылі.

— Шкада, ты не забіў гэтую навалач тады, у карэце!

— Ніколі не трэба шкадаваць, што не адабраў у кагосьці жыццё, — павучальна прамовіў Лёднік. — Не ты ж яго даваў. А такіх, як Прашковіч, я лічу хворымі. У Парыжы бачыў я купку разбэшчаных людзей, сапраўдных вар'ятаў, якія называлі сябе «лібертэнамі». Яны падчас оргій сцябалі адзін аднаго бізунамі, утыкалі ў целы іголкі... Найбольшую асалоду, аднак, атрымлівалі, калі па-нялюдску здзекваліся над безабароннымі ахвярамі. У Прашковіча тыя ж сімптомы, што ў іх, ён нават сліну пускаў, калі адчуваў, что мне балюча. Так што тэарэтычна і я мог бы мець задавальненне ад ягоных маніпуляцый.

Пранціш не мог не ўсміхнуцца ад іранічнага тону доктара. Але зараз жа наваліўся ганебны страх. Першая дзея скончаная. А далей? Ясна, што словы «мы выберамся» былы алхімік кінуў проста, каб супакоіць гаспадара. За дзвярыма камеры, на калідоры, нешта грукатала, чуліся здушаныя ўскрыкі, быццам нехта развітваўся з жыццём.

— Доктар, а калі чалавеку наканавана памерці ў катоўні, гэта ў гараскопе прадказваецца? І на далоні напісана?

— Выкінь гэткія думкі з галавы! — бразнуў ланцугамі Лёднік. — Яшчэ нядаўна бег з шабляй на стрэльбы з крыкам «Гіпацэнта-а-аўр», а цяпер? Нават лініі на руцэ могуць мяняцца, калі іх уладальнік не губляе галавы ў самай адчайнай сітуацыі.

— Ага, зараз Сільфы да нас прылятуць, альбо Красналюдкі праз зямлю прарыюцца... А можа, Гіпацэнтаўр у дзверы ўломіцца?

Дзверы расчыніліся са страшэнным ляскатам, вялізная фігура намалявалася ў праёме, а нечае цела кулём упала на падлогу.

Прыхадзень зрабіў крок у ярка асветлены пакой, святло ліхтароў засеребрылася на бровах і павеках, заблукала ў бяздонных вачах незразумелага колеру. Герман Ватман! Пранцысь не верыў сваім вачам. Перавёў позірк на таго, хто нерухома ляжаў на падлозе... Аднавокі «лібертэн» Прашковіч!

Між тым Ватман са сваёй звычайнай жорсткай усмешкай няспешна абыйшоў вакол Лёдніка.

— М-да, неяк не наважыўся б я хадзіць лекавацца да доктара, які так часта трапляе ў падобныя сітуацыі.

— Пан прыйшоў праверыць, у якой я сітуацыі? — холадна пацікавіўся Лёднік.

— Не паверыш, але адгадаў! — Ватман патрос звязкай ключоў, прымерваючыся, які з іх — ад ланцугоў.

— Вас прыслала Паланэя Багінская? — ускрыкнуў з радаснай надзеяй Пранціш. Ватман кінуў на юнака насмешны позірк.

— Пан... Вырвіч, калі не памыляюся? Вы па-ранейшаму лічыце, што свет круціцца вакол вашай каштоўнай персоны, і панне Паланэі больш няма пра каго ўспамінаць, як пра недавучанага шкаляра?

Пачаў адмыкаць ланцугі Лёдніка.

— Справа вельмі простая... Яго княжая мосць Геранім Радзівіл не сумняваўся, што адна зніклая з яго замка пекная асоба апынулася ў князя Сапегі. І прыскакаў да яго на перамовы, прыхапіўшы мушкецёраў. Вось такая там дыспазіцыя... Сапега з пэўнай асобай не можа пакінуць кавалергардыю, але да яго, даведаўшыся зноў такі пра прысутнасць пэўнай асобы, прыехаў на дапамогу мой пан, ваявода Аляксандр Багінскі са сваімі жаўнерамі. А пэўная

пекная асоба, вельмі, дарэчы, дзёрзкая, абвясціла панам Сапегу і Багінскаму, што перадасць цікавую ім рэч толькі ў абмен на жыцці двух асоб, якія знаходзяцца зараз у гэтым пакоі. Гэтага мы, вядома, не лічым... — Ватман кіўнуў у бок Прашковіча. — Таму Сапега адмовіўся весці перамовы з Радзівілам, пакуль той не прадаставіць дакладных звестак, што асобы жывыя і здаровыя... А пан Багінскі даручыў праверку мне. Вось я і прыехаў. З лістом ад князя Гераніма Лысага, Як Калена. Ну і з таемным даручэннем паспрабаваць вас вывезці.

— Тады твой пан будзе галоўным прэтэндэнтам на таямніцу пэўнай асобы? — папытаўся Лёднік, з палёгкай апускаючы вызваленую руку.

— Дакладна так! Вось я і зайшоў сюды... З двума праважатымі. Толькі ў іх адразу за дзвярыма ногі падвярнуліся і шыі скруціліся. Такая вось няёмкасць. А тут гэты... пад руку трапіўся. Пазнаў мяне, верашчаць пачаў, што я шпег...

— Вы яго забілі? — папытаўся Пранцысь без асаблівай шкадобы да Прашковіча.

— Затое цяпер у яго дакладна абодва вокі. На тым свеце калекаў жа няма, — павучальна прамовіў Ватман.

Упаў апошні ланцуг з Лёдніка, і доктар стамлёна абапёрся рукамі аб слуп. Праз якую хвілю быў вызвалены і Пранцысь. Шкаляр падбег да доктара і зірнуў на ягоную спіну: сціло было ўторкнутае пад левай лапаткай. Вырвіч асцярожна дастаў тонкі скрываўлены стрыжань і хацеў грэбліва адкінуць убок, але Лёднік затрымаў яго руку:

— Дай сюды...

Ватман шматзначна перхануў:

— Калі паны нікуды не спяшаюцца, я магу іх пакінуць у гэтым прыемным месцы. Але, баюся, што якога-небудзь нябожчыка ў гэтых калідорах мне не ўдалося схаваць як след, і зараз проста да нас з’явяцца праблемы... са стрэльбамі, шабелькамі і шастапёрамі. Разумееце, дзе ні прайду апошнім часам, — сціпла заўважыў найміт, — вакол

мяне свежанькія нябожчыкі з'яўляюцца. Планіда, відаць, такая.

Лёднік усцягнуў на сябе адзенне, прычым малады гаспадар на гэты раз не пагрэбаваў сам яму дапамагчы.

— Доктар, ты хоць можаш рухацца? — на ўсялякі выпадак папытаўся Вырвіч, якога бянтэжыла, што кашуля яго слугі адразу афарбавалася чырвонымі плямамі.

— Перастаньце хвалявацца з-за некалькіх драпін! — раздражнёна адказаў доктар, зашпільваючы чорны камзол, пад якім схавалася запэцканая кашуля, як быццам ніякай страшнай сцэны і не было.

За акном прагрукаталі па брукаванцы колы...

— Гэта мае хлопцы прыехалі. Хадзем! — скамандваў Ватман, узяўшы ў адну руку пісталет, у другую шаблю. Зброя аднавокага па праве таго, хто выжыў, дасталася Лёдніку.

Ватман ішоў, як дужы звер, трохі ўгнуўшы галаву, нібыта збіраўся прабіваць ёю сцены. Нікога жывога па дарозе не сустрэлася... Мёртвыя — так, былі. Часцей за ўсё з пераламанымі шыямі — відаць, улюбёны прыёмчык Ватмана. А вось калі дзверы з сутарэнняў прыадчыніліся, Ватман расчаравана ўздыхнуў. На выхадзе стаяла купка жаўнераў, якія паказвалі пальцамі ў бок нейкай павозкі, якую зараз абшуквалі. Усё паліваў панылы дождж.

— Уліплі мае хлопцы. Трэба прыдумваць іншы план, — шапнуў Ватман Лёдніку і Пранцысю, якія хаваліся за дзвярыма, над трупам вартаўніка ватманскай работы. — Усіх мне не перабіць.

У голасе найміта, калі ён вымаўляў апошнюю фразу, чулася задумлівая шкадоба.

— Калі б прабіцца да Малога палацу, да стайні... Вось туды... — прамовіў доктар, паказаўшы на дзверы, за якімі Пфальцман даводзіў да ладу жалезную чарапаху. Ватман кіўнуў галавой.

— Можам дабегчы. Калі вы будзеце ў мундзірах, — паказаў на труп вартаўніка. — І калі сюды раней часу не

зойдзе нехта — звонку ці знізу. Скажу шчыра — калі б вас адвялі ніжэй, а дзе заканчваюцца гэтыя сутарэнні, я не ведаю, — нават у мяне магло нічога не атрымацца. Ну калі патрапілі б у вежу Верхняга замку — усё, панове, магіла.

Скрозь залеву постаці ў замкавым двары здаваліся размытымі, няпэўнымі, як адлюстраванні на вадзе. Калі трое трохі знерваваных жаўнераў наблізіліся да малога палаца, з Капыльскай брамы шалёным намётам, расплюхваючы дождж, слату і трывогу, уляцела кавалькада. Той, хто ехаў першым, гарлаў, як рэзаны:

— Загад князя! Шпегаў у вежу! Доктара з мальцам! Сцерагчы! Не чапаць!

— Усё, даклалі вар'яту пра гандаль, — прасіпеў скрозь зубы Ватман. — Будзе нам вяселле з расколатай дзяжой...

— Хутчэй! — выкрыкнуў Пранцысь і кінуўся ў стайню, прыстасаваную пад майстэрню.

Здавалася, сутарэнне слуцкага замка бязгучна завыла ім у спіны, як галодная пачвара, са сківіц якой выкараскалася амаль з'едзеная смачная ахвяра.

## Раздзел дзясяты.
## АПОШНІ ШЛЯХ ЖАЛЕЗНАЙ ЧАРАПАХІ, АБО НАРАДЖЭННЕ СЛУЦКАГА ЦМОКА

Жалезная чарапаха была на месцы, і Пфальцманы ў поўным складзе з іхнім слугою Генрыхам у дадатак. Толькі аніяк нельга было сказаць, што праца ў іх віруе, хаця з чарапахі ішла пара, відаць, гер Якуб правяраў працу рухавіка. Фрау Эльза злосна плакала на плячы ў мужа, вусаты Генрых, падобны да пазбаўленага хаткі бабра, панурыўшыся, як над труною, мучыў у руках шапку, а насупраць злосны пан у мундзіры палкоўніка радзівілаўскага войска выгаворваў сурова:

— За ўкрывальніцтва шпегаў! За здраду яго княскае мосці!

Двое паюкоў шматзначна пакручвалі ў руках шаблі, час ад часу баязліва, з затоенай цікаўнасцю касавурачыся ў бок «цмока».

Бойка была нядоўгай. Ватман грэбліва выпусціў з рук два целы з разбітымі галовамі, і цяпер іхнія вызваленыя душы няўцямна азіраліся дзесьці побач — што гэта з імі адбылося? Лёднік акуратна схаваў скрываўленую зброю ў похвы і змрочна паглядзеў на пераляканых Пфальцманаў. У Пфальцманавай жонкі быццам адпусціла нейкую спружыну, яна кінулася на Бутрыма з кулакамі:

— Усё з-за цябе, пракляты ерэтык!

Пераключылася на Пранцыся, нацэлілася худымі пальцамі да ягоных шчырых воч:

— Ілжэц! Ілжэц!

Вынаходнік схапіў фрау ў абдоймы, што мала дапамагло, і з адчайным запытаннем, туды-сюды хістаючыся воляю сваёй фрау, паглядзеў на аднакурсніка. Той паціснуў плячыма.

— Парадаваць няма чым. Калі не сыдзем адсюль — смерць чакае ўсіх пакутніцкая і непазбежная. Геранім Радзівіл нічога не даруе.

— Што ж рабіць? Што рабіць? — вусны Пфальцмана трэсліся, як халадзец на вясельным стале падчас скокаў.

— Магу адразу прырэзаць, каб не пакутавалі, — ветліва прапанаваў немцу Ватман, як быццам прапаноўваў нюхацельную соль. Пфальцманы ягоны своеасаблівы гумар не ацанілі, і фрау пачала са збляднелым тварам валіцца на зямлю.

— Значыць, з бабы трэба пачынаць, вунь якая дохлая, толку ад яе... — меланхалічна заўважыў Ватман, і фрау хуценька ўстала на ногі, працінаючы злосным позіркам пукатых шэрых вачэй найміта Багінскіх.

— Якуб, твая машына падрыхтаваная? — мякка папытаўся Лёднік. Пфальцман спалохана зміргнуў, румянец вярнуўся на яго азызлыя шчокі.

— Ты хочаш... Ты хочаш... Каб мы...

— А нічога іншага не прыдумаць. Давай выпрабуем тваю машыну, наколькі яна вартая.

Якуб разгублена паглядзеў на жонку, але тая часова страціла здольнасць даваць парады, і наважыўся, чаму нямала паспрыяла тое, што ў замкнёныя на засаўкі вароты стайні пачалі настойліва грукацца.

— Сядайце! Хаця цеснавата будзе ўсім... І горача.

— Пацерпім, не васковыя! — азваўся Лёднік.

Калі Пфальцман усеўся за рычагі свайго вынаходніцтва, адразу змяніўся: рухі і голас набылі ўпэўненасць, нават рысы твару падцягнуліся. Тым больш жонка ляжала цяпер літаральна ў яго пад нагамі, да якога становішча, як відаць, не звыкла. Але іншага месца для яе не знайшлося — усе і так цІснуліся адзін да аднаго, як арэхі ў горле каляднай гусі.

Падтрымліваць агонь у катле паставілі Ватмана — хаця ірваўся Лёднік, які па звычаі не жадаў прызнаць сябе пакалечаным і не самым дужым. Доктара ўсадзілі на скрыню з вуглём. Пранцысь і фурман Генрых прымасціліся з бакоў, там, дзе былі гарматы, іх паспелі ўсталяваць усяго восем. Між спінамі шкаляра і фурмана быў заціснуты бочачка з порахам і скрыня з ядрамі.

Агонь у топцы гудзеў, вада ў катле, які знаходзіўся звонку, закіпела, запахла распаленым жалезам, чарапаха выплюнула струмень пары...

— Шнэль! — гукнуў Пфальцман, тузануў падважнікі, крануліся з месца шатуны, як быццам перабірала нагамі вялізная жамяра. Закруціліся колы і колцы, ляскатнулі шчыты чарапахі, змыкаючыся, ад чаго ўнутры стала цёмна і горача, як у лазні.

Відаць, ляскат, які ўтварала чарапаха, пачулі звонку, таму што вароты ламаць перасталі.

— Франц, страляй! — загадаў Пфальцман, і Пранціш запаліў фіціль мініяцюрнай гарматы, якая знаходзілася ў спецыяльным жолабе наверсе, так што яе аддача не рабіла шкоды.

Ядро ўрэзалася ў створкі варот, і тыя разышліся, загайдаліся, як быццам таксама жадалі ўцячы...

А потым пачаўся мясцовы Апакаліпсіс.

Пра тую падзею сведкі доўгімі зімовымі вечарамі расказвалі сваім унукам і праўнукам, а тыя перадавалі далей. Расповед пра беларускага цмока-людажэра, з ноздраў якога ішоў чорны дым, набыў жаласлівы сюжэт, узбагаціў рэпертуар лірнікаў і дадаў адукаваным асобам скептыцызму наконт магчымасці выправіць міфалагічную свядомасць тутэйшага цёмнага люду з перажыткамі паганскага светапогляду.

Вядома, калі б радзівілаўскія слугі не разгубіліся, каб дзейнічалі, як належыць, шанцаў у маруднай машыны не было б. Але ўсе проста разбегліся са знаёмымі да зубнога болю крыкамі: «Цмок! Цмок!». Тым больш цяпер чарапаха магла страляць ва ўсе бакі, а вось ейныя бліскучыя шчыты ніякія кулі не бралі. Вакол машыны віўся дым, які выглядаў бы яшчэ больш застрашліва, каб яго не прыбіваў зараз жа дождж, як рупная гаспадыня — заляцелую муху. А тут яшчэ да бурлівай бяседы далучыліся нябёсныя сілы — позняя навальніца спаслала на Слуцак цэлы крылаты гусарскі атрад маланак, і прысутныя ў двары Ніжняга замку неадменна ўвязалі гэтую з'яву з жалезнай пачварай.

Чарапаха з хуткасцю звычайнага мінака кіравалася ў бок брамы каля лазні, дзе быў апушчаны мост. Не, яго пачалі падымаць тыя, хто не страціў зусім галаву... Але пару стрэлаў з гарматы — і імпэт старанных вартаўнікоў растаў, як соль у юшцы.

Дзесьці стукаў малаток збройніка, абыякавага да мітусні чалавечай — майстар высноўваў чарговую прыладу для абароны ад смерці, дарагі кальчужны панцыр, які высакародны шляхціц зможа апрануць пад сармацкую чугу, перш чым ісці на сойм, што неадменна ў гэтай няшчаснай дзяржаве скончыцца сечай. А побач, у кузні, завіхаўся малаток каваля, які каваў чарговую

прыладу смерці — шастапёр, булаву з вострымі рабрынамі, якая не зважыць на тонкі панцыр і шчыра пераламае рэбры шляхціцу ў сармацкай чузе, які прагаласуе не за таго кандыдата альбо скарыстаецца са свайго «liberum veto» і сарве сойм, як вяселле, з якога збегла нявеста.

Дождж ліў, жалезная пачвара, дыхаючы агнём, з рэвам паўзла па Слуцку, месцічы зачынялі шыбы і чыталі малітвы. Пра тое, што робіцца ў князевым замку, даўно хадзілі самыя жудасныя чуткі, і калі адтуль выпаўз цмок, гэта нікога не здзівіла. Мяшчукі лёгка паверылі б і ў тое, што падобнае аблічча прыняў сам князь. Жаўнеры, павінныя выконваць свой доўг, цягнуліся за страшыдлам на бяспечнай адлегласці і час ад часу пастрэльвалі ў яго з-за будынкаў. Чарапаха плявалася ў адказ адзіночнымі стрэламі з пісталетаў.

Машына набліжалася да рынку, зараз пустога — не таму, што гандляры збаяліся цмока і страляніны, не, слуцкіх гандляроў не напалохаў бы і дождж са смалы, калі б пры гэтым нехта, хоць рагаты, працягваў купляць агуркі і сала. Але ў такую залеву надзей на пакупнікоў не было, нават на русалачных. Хаця некалькі падводаў з бочкамі стаялі, ад іх за вярсту ішоў водар падгнілых селядцоў. Ватман унюхаў гэты пах здаля і крыкнуў Пфальцману:

— Гер як там цябе, твая калымажка можа пракаціцца сама па сабе хоць колькі сажняў?

— У прынцыпе, можа... Калі распаліць добра рухавік, і я замацую рычаг... — пракрычаў у адказ Пфальцман.

— Тады ўвага, цывільныя! Зараз мы параўняемся з падводамі, на якіх стаяць бочкі. У бочках, міль пардон, не зусім свежыя селядцы. Па маім знаку прыадкрываецца шчыт з гэтага боку, усе выскокваюць, як пацукі з печкі... Хто можа незаўважна залезці ў бочку, лезе і ратуецца. Хто марудзіць, грэбуе ці баіцца — папярэджвайце адразу, але павінен сказаць, што вугаль усё роўна заканчваецца.

Натуральна, ніхто не прамовіў ні слова.

— Падмяні мяне трохі, зацыраваны, — папрасіў Ватман Лёдніка, прыпаў да адной са шчылін і свіснуў неяк асабліва.

— Ну, калі, сучыя дзеці, не выканалі загад і разбегліся, прыб’ю...

Свіснуў яшчэ раз... Нарэшце пачуўся свіст у адказ. З-за рынкавых прылаўкаў высунуліся пераляканыя фізіяноміі, недаверліва ўглядаючыся ў жалезнага цмока.

— Вырвіч, стрэльні добранька ва ўсе бакі, акрамя гэтага!

Густое воблака чорнага дыму на хвілю абкружыла чарапаху, праследнікі пахаваліся. Нікога не здзівіла, калі падводы з бочкамі, што стаялі каля рынку, ашалелыя коні панеслі некуды на бакавую вулку. Чарапаха бадзёра прапаўзла яшчэ дзесяць сажняў і паволі спынілася, пагрозна выпускаючы клубы пары. Яе маленькія шматлікія колылапкі пагрозна застылі, нібыта рыхтуючыся да нястрымнага рыўка.

Пагоня стаілася. Чаго чакаць? Новых стрэлаў? А можа, у цмока зараз вырастуць крылы, высунецца галава на доўгай шыі і пачне пляваца агнём? Адукаваныя афіцэры справядліва меркавалі, што ўцекачы рыхтуюць нейкі подлы план па выкарыстанні таемнай смертаноснай зброі. Асабліва палохала, што калі па чарапасе зноў пачалі пастрэльваць, яна ў адказ маўчала.

Нехта прапанаваў павесці перамовы. Праклятым немцам-чараўнікам раілі пакінуць металёвае чэрава машыны і здацца, іначай... У адказ — цішыня. Тым часам прыкацілі дзве гарматы — Амальфею і Даменіку, адну нават знялі з галоўнай брамы. Яшчэ раз папярэдзілі бунтаўнікоў... Некаторыя нагадвалі, што князь нібыта загадаў не чапаць доктара-чарнакніжніка, але камендант Карлінг, раз’юшаны да ўскіпання мазгоў тым, што ягоны горад-крэпасць ледзь не здаўся ўласнаму пастраху, хаця з жаўнераў любы пострах павінен быў быць даўно выбіты шпіцрутэнамі і муштрой, асабіста аддаў загад. І гарматныя

ядры — сур'ёзныя, вялікія, не тое, што ў чарапахі, — паляцелі ў страшыдла. Недалёт, пералёт... На месцы, дзе нядаўна стаялі падводы, і замест часткі рынку ўтварылася яміна. Па сцяне суседняга дома прайшла трэшчына, як па сакавіцкім лёдзе. З наступнага стрэлу ўдалося патрапіць дакладна. Выбух атрымаўся выбітны, бо ў чарапасе ўтрымліваўся яшчэ добры запас пораху, а ў катле была пад ціскам пары. Узляцелі наверх дэталі, колы, колцы, рычагі... Рэшткі жалезнага дажджу случане яшчэ доўга збіралі на сваіх вуліцах, дахах і гародах. Знайсці такую цмокаву костку лічылася дрэннай прыкметай.

За гэты час, нягледзячы на строгі загад каменданта нікога не выпускаць з горада, з Віленскай брамы выехалі тры паводы з бочкамі гнілых селядцоў, якія з княскае кухні былі адпраўленыя ў суседні маёнтак, на корм свінням. Магчыма, варта не ўбачыла нічога падазронага ў грузе, і не захацела, каб побач знаходзілася такое смярдзючае суседства, а магчыма, афіцэры былі падкупленыя... Але разбірацца пасля ніхто не стаў, таму што ўся гаворка ў горадзе ішла вакол гібелі жалезнай чарапахі і чарнакніжнікаў... І пра гнеў князя Гераніма на тых, хто гэта дапусціў.

А дзесьці сярод ліцвінскага восенькага лесу, на глухой палянцы, зарослай верасам, вельмі смярдзючыя людзі ахвотна падстаўлялі сябе халоднаму дажджу, а невысокі тоўсценькі немец бяссіла трос кулакамі, нібыта пагражаў самому небу, і лаяўся так адмыслова і вялягурыста, што волат з белымі валасамі і шмат разоў кепска склееным носам з павагай паківаў галавою, падыйшоў да аднаго з фурманаў, што вызвалялі ад бочак павозкі.

— Мартын, засталося што ад корму свінням? Давай сюды...

Дужы вусаты фурман паважна кіўнуў галавою, залез некуды пад калёсы, дастаў адтуль цяжкі скураны вацок, кінуў правадыру. Белагаловы ўзважыў вацок у руцэ:

— Дукатаў сто, сто дваццаць засталося. Здаецца, яшчэ колькі каменьчыкаў там павінна блытацца.

Перадаў немцу, чыя жонка ў перапэцканай сукенцы, з каптуром набакір тут жа кінулася прагна пералічваць манеты і разглядаць на святло дыяменты, якія сапраўды меліся ў мяшэчку.

— Гэта няшмат, — прамовіў белагаловы. — Але калі даедзеце да палаца князя Багінскага, будзьце пэўныя, вас узнагародзяць напоўніцу. Галоўнае, нідзе не называйцеся сапраўднымі імёнамі, прыдумайце сабе іншую гісторыю... Памятайце, што Пфальцманаў на свеце больш няма. А ўвогуле, радуйцеся, што выбраліся жывымі. Параіў бы вам замест зброі перайсці на музычныя машыны.

Да белагаловага падыйшоў высокі чарнавалосы чалавек з худым змрочным тварам, на фоне волата ён выглядаў нават вытанчана.

— Пан Ватман, Пфальцманы ад'язджаюць?

Найміт пацiснуў плячыма.

— А нашто яны нам? Замінішча... Вунь фурманы адвязуць іх. А ў нас з вамі яшчэ шмат важлівага, доктар.

Блакітнавокі юнак з дзёрзкім тварам умяшаўся ў гаворку:

— Не забывайцеся, Ватман, што доктар — мой слуга! Без майго дазволу ён нічога рабіць не будзе!

— Ну што вы, як жа без вас... — белагаловы па-блазенску схіліўся. — Пакуль што выбірайце сабе па кані — не глядзіце, што яны ў мужыцкія вазы запрэжаныя, мы адбіралі самых хуткіх. І рушым...

— Куды? — пацікавіўся Лёднік.

— Пакуль што непадалёк. Менш пытаецеся — дольш жывяцё.

На паляне, зарослай верасам, валяліся там-сям гнілыя селядцы, нібыта іх прынёс дождж. Ватман, не звяртаючы ўвагі на фраў Эльзу, распрануўся да пояса, расцёр вадзяныя струмені па спаласаваным баявымі шнарамі целе, засмяяўся ад асалоды. Пранціш скептычна агледзеў свайго слугу, той, змрочны і напружаны, стаяў у сваім

чорным камзоле, зашпіленым на ўсе гузікі да горла, тузануў яго за рукаў:

— Там ручаіна ёсць, за алешынамі, я пабываў. Вось кашуля і світка — фурман даў узамен маёй кашулькі, хоць салёнай, але з каруначкамі. Не строй з сябе стоіка Сянеку, ідзі, нармальна вымыйся і пераапраніся. Як ты сядзеў у расоле, са сваймі ранамі...

Лёднік дзіўна паглядзеў на Вырвіча, яго вусны здрыгануліся, узяў адзенне:

— Дзякую...

Нават не бурчэў. Пранціш паціснуў плячыма і падставіў твар даждж: як жа добра жыць! Moliter vivit! Нават у раздрайную шалёную эпоху — а хто сказаў, што на гэтай зямлі здараюцца лягчэйшыя? Як добра быць ліцвінам і шляхціцам, і мець прыўкрасную даму, і шаблю, хоць і чужую, і герб «Гіпацэнтаўр»! І невыносна буркатлівага, неверагодна абазнанага і неверагодна мужнага Лёдніка побач...

Праз гадзіну тры вершнікі ўз'ехалі на невялікі ўзгорак, які, хутчэй за ўсё, меў гордае найменне Лысая гара — бо на беларускіх землях Лысых гор, падобна, не менш, чым лысых ліцвінаў. Тут была толькі закінутая паляўнічая хатка, больш падобная да будана. Затое з просекі відарысы адкрываліся на Случчыну выбітныя — дождж прыпыніўся, шэрае неба перастала нагадваць суцэльны сувой, цяпер у ім былі прасветы з пухнатых белых аблокаў, а кастрычнік шчодра раскідаў чырвань і золата па чорнай зямлі, хаця ведаў, што гэтую гожасць ніхто не ацэніць... Ватман пільна ўглядаўся некуды ў той бок, дзе бачыўся чырвоны дах кавалергардыі, у якой сабраліся аж тры магнаты дзяліць адну Сільфіду.

— Доктар, бліжэй да мяне! — скамандваў Ватман. Лёднік пад'ехаў, спыніў каня побач.

— Глядзі ў той бок! — Ватман паказаў пальцам у кірунку кавалергардыі. І нават памахаў камусьці рукою, хаця з такой адлегласці ніхто ўбачыць іх не мог.

— Што цяпер? — ветліва папытаўся Лёднік.

— Цяпер — мы адпачываем, чакаем і не задаем пытанняў.

Ватман лёгка саскочыў з каня і пазяхнуў.

— Туман падымаецца... Гэта добра. Ну што стаіш, шчаўлік, ідзі навяжы коней, а потым вогнішча развядзі, пакуль дажджу няма! Умееш?

Пранціш хацеў абурыцца, бо шчаўлікам абазвалі менавіта яго, але Ватман быў дваранінам і вайскоўцам, а вайсковая навука змушае нават самых радавітых займацца бруднай справай. Кожны вой павінен умець зацыраваць бот, натачыць лязо шаблі, перавязаць рану. Гэта магнатаў, кшталту Пане Каханку, вывозяць у юнацтве на вайну, як на парад, разам з кухарамі, лёкаямі і шаўковымі намётамі. А вось Андрэй Рымша, чые творы вывучалі ў калегіюме, так пісаў пра вяртанне гетмана Крыштофа Радзівіла па мянушцы Пярун у лагер падчас Лівонскай вайны, калі ваявалі з маскоўцамі:

Пан прыехаў — трасецца, як пячкур у меху,
Што казаці — было тут пану не да смеху:
Затушыў дождж кастрышчы, дровы не прасохлі,
Ляжа ў адзенні, да касцей прамоклы.

А калі пераходзілі ліцвіны Мядзвежае балота, дык

Не пазнаць было, хто там гетман, хто паняты:
У гразі ўсе таўкліся, быццам парасяты.

Усё гэта вельмі падыходзіла да іх сённяшняга становішча, таму Вырвічу, які марыў пра вайсковую славу, не пасавала скардзіцца. Ён сапраўды на вайсковы погляд быў шчаўлікам, якога трэба вучыць. Урэшце, пасля сутарэнняў слуцкага замка нават будан на вяршыні Лысай гары падаваўся райскім палацам.

Пакуль відно, можна набраць грыбоў, пашукаць якіх арэхаў... Яны з Лёднікам, прынамсі, так і рабілі калісьці. Але Пранцысь пабачыў, як нязломны доктар літаральна ўпаў

на наваленае ў будане адсырэлае сена, і зразумеў, што лепей яго не турбаваць. Але зрабіў яшчэ дурней, бо пачаў цікавіцца радаводам гера Ватмана. На гэтую тэму любілі разважаць усе, бо шляхціц з маленства вывучваў свой радавод да драбніцаў, і часцей за ўсё можна было ў такіх размовах упэўніцца ў сваяцтве з чарговым «панам-братам» праз якога-небудзь згубленага ў вяках князя ці караля. Сам Вырвіч збіраўся пахваліцца, што галінкі ягонага радаводу цягнуцца аж да князя Палямона. Бацька Вырвіч увесь час паўтараў, што калі ляхі не мелі гербаў сваіх, ліцвіны ўжо шляхтай былі — ад старых рымлянаў. Але Ватман толькі пасміхнуўся:

— Да Палямона, кажаш? А я — сын маркітанкі! Нарадзіўся на полі бою, хрышчаны пад кулямі. Дваранства заслужыў шабляй. Ёсць у мяне і баронства — ад караля Густава, і шчэ пару ардэнкоў, якія ўмацоўваюць маю шляхецкую годнасць як сталёвае лязо, і нават замак у Сілезіі, дзе мяне гадоў сем чакаюць вернападданыя нявесты на права першай ночы. Герб мне намалявалі з грыфонамі. Але мне на гэта на...ць.

Лёднік адабральна хмыкнуў, і Пранцысь пакрыўджана адыйшоўся ад гэтых хамаў, якія не разумеюць высакародных гутарак.

Знізу падымаўся сівы туман, нібыта збіраўся штурмаваць Лысую гару. Цяпер можна было не баяцца, што іх вогнішча заўважаць. Лёднік ляжаў ніцма, нерухома, і гэта было дрэнна. Добра хоць, не на зямлі — на дошках, прыкрытых сенам. Яшчэ ў будане знаходзіўся вузкі стол, упрыгожаны двума старымі глінянымі місамі з прэлым лісцем і здохлымі мухамі, і рэшткі ад лаўкі. Па другі бок стала на мокрым сене ляжаў, падклаўшы пад галаву руку, Ватман.

Пранціш прысеў побач з Лёднікам.

— Доктар, табе лепей бліжэй да агню. Непадалёк расце дуб, можна кары надраць... Ад запалення скуры заварыць. І галінкі асіны можна ўзяць... З хінінам... Ад гарачкі...

— Вывучыў, шкаляр, залічана, — Лёднік з цяжкасцю прысеў. — Давай, нясі... Яшчэ знайдзі смалы-жывіцы.

І во-ось тых чырвоных ягад нарві. Усім прыдасца ад магчымай застуды.

Ватман пагардліва выгукнуў:

— Цывільныя! Жаўнер у снезе начуе і не застужаецца.

— Яшчэ як застуджаецца, шаноўны, і колькі я ў такіх герояў у Прусіі ды Чэхіі адрэзаў адмарожаных рук ды ног — на воз не змясціліся б. Пілаваў і пілаваў, — не змаўчаў Лёднік.

Наймі́т ашчэрыўся, як звер:

— От я б зараз не адмовіўся ад добрага кавалка мяса.

Зрабіў застрашлівую паўзу, і дадаў супакаяльна-насмешна:

— Не, не чалавечага.

Зарагатаў, а потым ціха завёў прыемным хрыплаватым голасам мілую песню пра дзяўчыну, якая чакала з вайны свайго каханага, чакала, а той вярнуўся ў выглядзе прывіда і завёз яе з сабой у цёмную сырую магілу.

«— Ой, ці не страшна табе са мной?

— Ой, мне не страшна, мой герой!

— А косткі мае не надта грымяць?

— За пацалункам іх не чуваць!

— А хутка і вусны мае згніюць!

— А зубы ж не хутка выпадуць!».

Спіна Лёдніка, які зноў ляжаў ніцма, пачала трэсціся, як быццам ад ліхаманкі. Ён перавярнуўся і, не хаваючыся, зарагатаў, а потым пачаў падпяваць чорнавясёламу Герману:

«— А што, калі ўсё разваліцца?

— Тады з костак булён зварыцца!»

І Вырвіч зразумеў, што ўсё будзе добра.

А калі туман амаль дапоўз да верху, з ягонай прывіднай глыбіні пачуўся свіст. Уцекачы з'ехалі з гары, і да іх далучыліся пяцёра вершнікаў, у якіх знайшлася для вымачаных у селядцовым расоле новая вопратка. Атрымалі зграладалыя мужчыны і прыпасы ў дарогу. Пранціш проста седзячы ў сядле ўпіўся зубамі ў кавалак вяндліны.

— Рушылі! — скамандваў Ватман.
— Куды? — спытаўся, жуючы, Пранціш.
— У Менск, у кляштар бернардзінак!
І сэрца шкаляра забілася мацней: да Паланэйкі!
А Лёднік упарта закінуў галаву:
— Я нікуды не паеду без адной асобы!
Вершнік, невысокі, стройны, наблізіўся да яго ўшчыльную, прыўзняў белы твар з вялікімі вачыма і прамовіў няроўным ад радаснага хвалявання голасам:
— Думаю, гэта не праблема, мой бедны Фауст!

## Раздзел адзінаццаты.
## ЯК ПРАНЦЫСЬ У ЖАНОЧЫМ МАНАСТЫРЫ ЖЫЎ

Гэтае лета было ў слаўным горадзе Менску не самым спакойным. Пане Каханку ўсю столь у зале Трыбунала ў ратушы расстраляў на рэшата. Потым ягоны амарат пан Міхал Валадковіч горад на вушы паставіў, праходу панам радцам не даваў.

Усе чакалі сечы, а любая шляхецкая звада адбівалася на месцічах самым сумным чынам. Трыбунальскі віцэ-маршалак Марыконі пакляўся, што прымусіць Валадковіча адказваць па законе за ўсе бясчынствы. А які закон можа быць для пана, без якога ўсемагутны Пане Каханку кроку ступіць не можа, у лоб цалуе і братам называе? Нясвіжскі ксёндз Аблачынскі, якога ледзь не святым парафіяне лічаць, вунь паспрабаваў быў у Марыінскім саборы бузяша прысароміць, дык той яму праз тыдзень імшу сарваў. Прывёў на плошчу музыкаў, цыганоў з мядзведзямі і малпамі ды бочку віна выкаціў. Асабліва радаваліся навучэнцы езуіцкага калегіюма. Пранцішу тады ўдалося пабыць у натоўпе, скарыстацца з выбітнага відовішча і дармовага віна. Тады ён шчыра зайздросціў зуху Валадковічу і марыў стаць падобным

да яго. Захацеў каму бізуноў даць — даў, захацеў пекную кабету памацаць — хай ейны муж церпіць... Сёння, успамінаючы шалёныя вочы Валадковіча і ягоны чырвоны, спіты твар — хаця пан быў яшчэ малады — Пранцысь не быў упэўнены, што гэта ягоны ідэал.

З вокнаў кляштара бернардзінак добра бачыўся Марыінскі сабор з дзвюма вежамі, якія ўпрыгожвалі два званы, адлітыя з велізарнага звона па імені Ян Салагуб, прывезенага з Караляўца і занадта вялікага для карыстання на мясцовай званіцы. Бачыўся і такі да болю знаёмы будынак езуіцкага калегіюма. Дзесьці там, у інтэрнацеканвенце, засталася радавая шабля Вырвічаў, з выгравіраваным на дзяржальне «Гіпацэнтаўрам». Лірнік пад акном заспяваў баладу пра магутнага гетмана Радзівіла, чым, напэўна, параніў бы сэрцы высакародных прастаўнікоў роду Багінскіх, каб тыя лічылі вартым прыслухоўвацца да спяванняў нейкага жабрака:

— Радзівіл князь выязджае,
Веліч нібы сонцаззяе
Моц і слава зямлі літоўскай
Па-над ім лятае.

Моладзь і высока панства,
Рыцары — Літвы ваярства,
Коні рвуцца пад імі,
чуюць вершнікаў штукарства.

Пранціш пацягнуўся да акна бліжэй... Толькі пры пані ігуменні асабліва па баках не пакруцішся. Маці Альжбэта, мажная і ўладная, сурова глядзела на гасцей, хаця й чаканых і добра аплочаных пляменнікам. Двое мужчын, да таго ж схізматыкаў, і кабета ў мужчынскай адзежы — у яе манастыры!

— Як хочаце, але ў келлях я іх пасяліць не магу! — строга сказала маці Альжбэта белагаловаму волату з перабітым носам, канфідэнту ваяводы Багінскага.

— Але ж, цётачка, яго княская мосць мой пан брат дужа прасіў... — мілым галаском прамовіла маладзенькая паслушніца з троху кірпатым носікам, ружовымі вуснамі і гарэзнымі не як у мнішкі вачыма. — Яго княская мосць запэўнівае, што госці гэтыя вельмі важныя, і іх бяспека — справа нашага сямейнага гонару і...

— Сціхні, сарока, — раздражнёна спыніла пляменніцу маці Альжбэта. — Каб не так — не пусціла б у святыя муры гэтую банду.

Агледзела яшчэ раз прыхадняў, як гаспадыня — няўдалыя булкі:

— Значыць, так... Паселіцеся ў левым крыле, дзе скарбніца. Туды хадзіць усім забаронена, ключ толькі ў мяне, маецца выхад праз сутарэнні... Самае то. Жанчыну — у верхні пакой, дзе складзеныя габелены. І каб замыкалася на ключ! Мужчынам прыдзецца начавацьпад лесвіцай. Спадзяюся, не трэба папярэджваць, што тут — прытулак цнатлівасці...

— Я сама прасачу за іх паводзінамі, цётачка! — паслушніца пацалавала ігуменню ў руку.

— Ты ўжо прасочыш... — у голасе маці Альжбэты скрозь радражненне чулася паблажлівая любоў. — За табой сачыць трэба, гарэза. А клапаціцца пра гасцей і праўда давядзецца табе. Бо лішніх вачэй і вушэй нам тут не трэба.

Спынілася поглядам на госці ў мужчынскім касцюме, чый апякаюча прыгожы твар быў такі бледны і змучаны, быццам зараз пані паваліцца, зірнула на ладнага юнака з нахабнымі вачыма і яго старэйшага спадарожніка, з разумным саркастычным абліччам, занадта разумным і занадта саркастычным для добрага хрысціяніна, нахмурылася...

— Распарадзіся, Паланэя, каб нагрэлі вады. Пахад гэтых мужыкоў, як ад гнілых селядцоў. Дзеўка хай кладзецца ў ложак. І на ключ замыкайся, чуеш! Плюгаўства нейкае робіцца... Мужчыны ў жаночым кляштары...

На развітанне паслушніца падміргнула Пранцысю так, што ў яго радасна зайшлося сэрца.

Спаць Лёдніку і Вырвічу належала на сенніках, кінутых на падлозе пад вітой лесвіцай. Але й гэта было добра. Гэта было нават раскошна. Яшчэ ў іх распараджэнні мелася лесвічная пляцоўка цокальнага паверха ўнізе, але ўсе дзверы пакояў — і там, і вышэй — былі надзейна зачыненыя, зберагаючы дабро бернардзінак. Можна было ўзняцца па лесвіцы на самы верх, на гарышча, да круглага вакенца. Ход у сутарэнні закрываўся плітой у падлозе, і сэнсу ірвацца туды пакуль не было.

Раніцай Саламея спусцілася ўніз, пераапранутая ў простую брунатную сукенку, наўрад з гардэробу ваевадзянкі, хутчэй, якой простай паслушніцы. Як пры гэтым яна ўмудралася па-ранейшаму прыпадабняцца Сільфідзе, была загадка. Пранцысь назіраў за яе плаўнымі рухамі, сачыў тонкія абрысы твару, ганарыстую постаць... І крамольныя думкі ўзнікалі: чым гэтая мяшчанка горшая ад шляхцянкі? Пастаў побач яе і любую магнатку, недасведчаны чалавек менавіта ў палачанцы пазнае блакітную кроў. А Міхалішыўна са Слуцкага тэатра, такая ж вытанчаная і гожая, увогуле з прыгонных!

Выратавальная думка вярнула пахіснуты свет на месца: а хто сказаў, што ў гэтых паненках няма блакітнае крыві? Ну, далі плён пазашлюбныя забавы магнатаў... Справа звычайная. Можа, і ў Лёдніка, сына гарбара, такі выбітны розум менавіта таму, што ягоная маці ці бабуля спадабаліся высакароднаму пану. А кроў — не вада!

— У мяне для вас падарунак!

Сільфіда ласкава ўсміхнулася — менавіта ад такой усмешкі Мінатаўры пачынаюць прысаромлена прыгладжваць космы на звярынай пысе і ўспамінаюць, калі апошні раз чысцілі іклы — і перадала ў рукі Пранцысю знаёмы клуначак. Шляхецкая шапка з аблезлым собалем і дыяментавым гузам, фамільны сыкгнет Вырвічаў, мяшэчак з дукатамі ад Паланэйкі, да якіх цяпер можна было далучыць ажно сто дукатаў ад ейнага брата... Эх, сюды б яшчэ і дзядоўскую шаблю! Далей у клунку былі

доктарскі дыплом Баўтрамея Лёдніка з Пражскага ўніверсітэта, ягоны ж дыплом з Лейпцыгскага ўніверсітэта, некалькі шкляначак-бутэлечак з зеллямі і доктарская трубка, перавязаны суровай ніткай стосік аркушыкаў, спісаных драбнюткім почыркам, малітоўнічак, ясна, таксама Лёднікавы, ягоны ж аловак, нататнік Вараняці, і — папера аб продажы даўжніка Баўтрамея Лёдніка, полацкага мяшчука, ва ўладанне шляхціцу Пранцысю Вырвічу.

— Гэта мне ягоная княская мосць Аляксандр Сапега перадаў — калі ўпэўніўся, што вы загінулі — знак таго, што вы былі ягонымі пасланцамі, і я мушу яму давяраць, — патлумачыла Саламея.

— Ты бачыла нас, калі мы стаялі на Лысай гары, — спытаў-сцвердзіў Лёднік.

— Так. У падзорную трубу, — пацвердзіла палачанка.— Пан Багінскі перайграў усіх. Я паставіла ўмову — спушчуся за рамфеяй у сутарэнні толькі для таго, хто выратуе вас. Князь Багінскі ціхенька паабяцаў, што гэта зробіць, і калі пакажа мне вас жывымі і ў бяспецы — я мушу таемна сысці з ягонымі слугамі, каб Сапега не даведаўся. Калі людзі Багінскага мяне вывелі з кавалергардыі, акно пакінулі адкрытым, а ўнізе там рэчка. Каб абвесціць, што я з гора, што мой жаніх... прабач, Бутрым, так цябе назвалі, — загінуў, скінулася праз акно. Так што для ўсіх, акрым некалькіх змоўшчыкаў, мы мёртвыя.

— Гэта не самае горшае становішча ў гэтым паганым свеце, — ціха прамовіў Бутрым. — Шкада толькі тых, хто ў Слуцку застаўся.

Пранцішу зрабілася трохі непамысна ад звесткі, што ён лічыцца нябожчыкам, аднак у галаве адразу пачалі ўзнікаць цікавыя планы, як можна падаваць сябе ў выглядзе прыхадня з таго свету, і што вясёлага і карыснага з гэтых з'яўленняў паймець.

Рэнічаўна падыйшла да Лёдніка і памацала яму лоб:

— Фаўст, у цябе гарачка!

— Глупства... — прабурчэў Лёднік, але Пранцысь, які ўчора меў сумніўнае задавальненне бачыць на целе слугі

вынік працы старажынагрэцкага сціла, калі яны па чарзе мыліся ў падрыхтаванай манашкамі балеі з гарачай вадой, рашуча прамовіў:

— Бутрыма трэба было б змазаць якім бальзамам для зажыўлення ранаў. На Лысай гары ён прыкладваў адвар кары дуба і жывіцу, але...

— Што з табой зрабілі? — ускінулася Саламея да Лёдніка, а той толькі фыркаў і адварочваўся:

— Нічога страшнага і небяспечнага для жыцця.

— Я цябе ведаю, Бутрым, — ледзяным голасам прамовіла Рэніч. — Можа, ты і здабыў філасофскі камень, але не здольны выцягнуць сябе нават з маленькай лужыны. А я, хоць і не атрымала дыплом лекара, магу пазнаць, калі чалавек сапраўды хворы, але ад дурнога гонару храбрыцца.

Пранцысь задаволена ўсміхаўся: знайшоўся хтосьці, хто мог лёгка ставіць Бутрыма на месца. Хутка Саламея раздабыла праз Паланэю бальзам, які рыхтавалі тутэйшыя манашкі.

— Распранайся!

Лёднік падазрона скасавурыўся на слоік з жоўтым смярдзючым рэчывам, схіліўся, прынюхаўся:

— Аснова з драўлянага алею… Восем гран жоўтага воску, пяць белага, дзесяць гран жывіцы, адзін гран ладану, адна частка сметанковага масла... Здаецца, не пераварылі залішне. Давай, я сам.

— Ты ўжо шмат чаго зрабіў з сабою сам, — цвёрда вымавіла Саламея. — І з гэтага выйшла мала добрага. Не забывайся — я шмат гадоў, як і ты, лекавала людзей. Ці ты хочаш, каб табе мазаў спіну сам пан Вырвіч?

Лёднік злосна скасіў вочы на Пранцыся, які прадаваў зубы, седзячы на сваім ложку, і пацягнуўся расшпільваць кашулю. Калі палачанка пабачыла яго без адзення, прамовіла толькі два словы, якія не вельмі падыходзілі да пекных вуснаў, але выразна абмалёўвалі становішча:

— Ёлуп хвашчоўскі!

Пасля буркатлівы доктар быў напоены адварамі... Твар ягоны трохі паружавеў, а панна Саламея рэшткі мазі панесла да сябе наверх. Пранціш здагадаўся, навошта. Ехалі яны сюды ўсю ноч і раніцу, а панна — вершнік не надта вопытны, трымалася пад канец дарогі ледзьледзь, на адной упартасці, якой ёй таксама не пазычаць... І цяпер ходзіць з цяжкасцю. Эх, Лёднік, зоркавед няшчасны... Пад носам нічога не заўважае.

На змену радасці ад вырАтавання, такога малавераготнага, зноў прыходзіў цяжар чакання і невядомасці. Яны ў чарговы раз апынуліся вязнямі, на гэты раз у Багінскіх. Каб не жорсткі рытм заняткаў — ад матэматыкі да фехтавання — Пранцысь бы знудзіўся, як непрыгожая дзеўка, якую ніхто за ўвесь баль не запрасіў на танец. Ясна, што князь Міхал вырашыў перачакаць, пакуль пра страчаную полацкую таямніцу забудуцца Радзівілы і Сапегі. Але ж у Полацк ехаць змусіць. Панна Саламея па-ранейшаму захоўвала маўчанне наконт спадчыны бацькі, так што не было зразумелым, наколькі небяспечна і рэальна здабыць рэліквію, і як з ёй найлепей абысціся.

Палачане ўвесь час пад'южвалі адзін аднаго, размовы ў іх былі цікавыя і рэзкія, частку іх вучоных бяседаў Пранцысь увогуле не разумеў, але за словамі вымалёўвалася такая еднасць душаў, што завідкі бралі. Часам доктар і Сільфіда змаўкалі і, здавалася, што ў гэты час яны і вядуць самыя важныя размовы праз погляды, жэсты, стук сэрца і дыханне.

А вось амурныя справы самога Пранцыся патрабавалі рашучых дзеянняў. Асабліва крыўдна было ведаць, што ў гэтым жа будынку поўна прыгожых самотных дзяўчат, а яму ад гэтага ніякай карысці. Часам да шкаляра даляталі малітоўныя спевы, з вакна ён мог бачыць постаці ў шэрых базыльянскіх сукнях. Магчыма, сярод іх ёсць тая, якую аддалі жорсткія сваякі ў кляштар гвалтам, і яна марыць адсюль збегчы, альбо хаця б не супраць перакінуцца слаўцом з гожым юнаком. Але да мнішак не было дабрацца

аніяк, у гэтую частку кляштара яны не заходзілі, а старая Дамініка, што прыносіла ежу, не лічылася.

Вядома, асноўнае месца ў мроях займала Паланэя Багінская, якая ў сваім паслушніцкім строі больш не здавалася такой недаступнай. Чаму б не выманіць паненку Паланэю для размовы ў які ціхі і бязлюдны куток кляштара, ну хоць на гарышча? Скарыстацца тым, што ваевадзянка, сасланая да цёткі дзеля адбыцця нейкай епітыміі, тут сумуе, і ў адсутнасці баляў і кавалераў можа задаволіцца і гаворкамі з блакітнавокім шкаляром. Цікава, што ж яна такога натварыла, што брат адправіў яе сюды? Хаця такая што заўгодна ўчыніць можа...

Яны з Багінскай сядзелі ля круглага ваконца і глядзелі на Менск, які патанаў у вечаровым змроку, як магутны карабель з белымі ветразямі храмаў і каржакаватай мачтай ратушы. Паланэйка прыладзілася проста ў аконнай нішы, з-пад шэрага крыса манаскай сукенкі паказвалася яе ножка ў цалкам свецкім, вышытым зялёнымі каменьчыкамі чаравічку на высокім выгнутым абцасіку. Пранцысь прыстроіўся ніжэй, ля ног сваёй чароўнай дамы, і млеў ад шчасця і гонару: ён, сын шарачка Вырвіча з Падняводдзя, які пасвіў каровы ды ўласнаручна раскідваў на полі гной, сядзіць сам-насам з Паланэяй Багінскай, што гайдалася ў залатой калысцы і ела з дыяментавых талерак! Шкаляр толькі што закончыў квяцісты расповед пра свае подзвігі ў страшным Слуцкім замку, выратаванне Сільфіды, уцёкі ў жалезнай чарапасе, атрымаў сваю долю зацікаўленых усмешак і цяпер спадзяваўся на нешта большае, чым дукаты.

Дзесьці далёка, на Кальварыйскіх могілках загарэліся агеньчыкі на магілах, нагадваючы, што мінаюць Дзяды. У Траецкім мігцела свечка ў ваконцы нядаўна адчыненай аптэкі Шэйбы — вось Лёднік бы там параскашаваўся, сярод зелляў. Цьмяна свяціліся вокны храмаў. Нават Жоўтай царквы, якая пасля пажару зусім заняпала, у пачарнелых сценах засталося ўсяго некалькі мнішак. Але Пранцысю раптам захацелася апынуцца ў тым

напаўзруйнаваным храме, ля кволага агеньчыка, запаленага ў імя Госпадне...

— А чаму ты не перайшоў ва ўніяцтва? — амаль абыякава папыталася Паланэя, у якой так міла з-пад шэрай хусткі паслушніцы выбіваліся неслухмяныя пасмачкі валасоў — як лёгкі дымок.

— Бацька кажа, нядобра адмаўляцца ад таго, што дзяды берaглі, — памаўчаўшы, ціха адказаў Пранцысь, зусім не жадаючы нарвацца на багаслоўскія спрэчкі пра перавагу той ці іншай веры. Не пераказваць жа расповеды бацькі, як палачане садралі з гарадской брамы ўніяцкія абразы, і войт скардзіўся каралю, што яны «лжат, дэспектуюць, дзяруць, топчуць, насмейваючыся», і тым абразам «насы вышарпваюць», а потым у праваслаўных паадбіралі храмы.

— Дзяды лічылі, што мыцца шкодна, — насмешна прамовіла Паланэйка. — А твой доктар нам з цёткай цэлую лекцыю прачытаў пра «гігіену чыстага цела».

— Ён можа... лекцыю... — сярдзіта прамовіў Пранцысь — і тут нельга абысціся без Лёдніка! Затое добра, што тэму памянялі, і можна ўзяць галантную ноту. — Я ўпэўнены, што асабліва пекныя паненкі маюць прыродную чысціню і надзвычай прыемны водар, як кветкі. Вось скура ваша, мая панна, пахне найлепшымі ружамі... — Пранціш насмеліўся схіліцца да ручкі паненкі. Паланэйка міла зморшчыла носік і ручку сціпла прыбрала.

— Пан, напэўна, забыўся, што нават ружы растуць на зямлі, якая насычаная зусім не пекнымі водарамі. Трэба заўсёды памятаць, што мы з зямлі выйшлі і ў зямлю сыдзем.

Багінская відавочна паўтарала павучанні цёткі, і яшчэ ўздыхнула пры гэтым удавана скрушна.

— Няўжо паненка ў манашкі збіраецца? — галантна здзівіўся Вырвіч. Паланэйка засмяялася, зубкі яе, белыя, акуратныя, чамусьці здаваліся вострымі, як у драпежнага звярка.

— Спадзяюся, гэтая доля мяне праміне. Ды я ўжо і прасватаная.

— За каго? — трохі нацягнута папытаўся Вырвіч, хаця ясней поўні было, што шарачок у якасці жаніха для сястры магната і прэтэндэнта на карону падыходзіў не больш, чым драбіны да калыскі, і любая праява рэўнасці тут недарэчная.

— За Адама Чартарыйскага, падчашага, — легкадумна адказала Паланэйка.

— Ён жа... стары, — буркатнуў Пранціш.

— Ну і што? — какетліва паціснула плечыкамі паненка, як быццам яны былі дэкальтаваныя, а не хаваліся пад шчыльнай тканінай паслушніцкай сукенкі. — У яго тры мястэчкі, дзесяць маёнткаў, душ, мабыць, сотня тысяч. А суцешыць сэрца я знайду з кім!

— Як бы я хацеў суцешыць сэрца паненкі — хоць цяпер... — па ўсіх правілах куртуазнасці прагаварыў Пранцысь, але сустрэў халодны насмешны позірк.

— Можа быць, калі пан Вырвіч пачне з'яўляцца пры двары... На балях...

Пранціш пачырванеў, нешта балюча заварушылася пад сэрцам, як быццам ён зноў пачуў выгукі на калідорах езуіцкага калегіюма: «Гнаявік! Гнаявік!». Так не павінна больш быць! Ён перарос гэтае вартае жалю становішча.

— Але ж гэты каралеўскі двор можа быць вашым, мая панна! Калі я, рызыкуючы ахвярна жыццём сваім і не шкадуючы крыві сваёй, прынясу ягонае княскае мосці, пану Міхалу Багінскаму, рамфею, дзіду святога Маўрыкія, рэліквію, якая надае мудрасці і вялікасці, і ён стане каралём... Можа быць, пры вашым двары знойдзецца месца і для мяне?

Паланэйка паглядзела на Вырвіча зверху, і ён на хвілю жахнуўся, бо твар яе падаўся яму тварам антычнай багіні, больш мармуровым, чым удавалі прыгонныя актрысы Гераніма Радзівіла.

— Безумоўна, брат узнагародзіць вас шчодра, і знойдзе пачэснае месца. Напрыклад, мог бы зрабіць вас кавалерам... Праз тры гады навучання вы атрымалі б

неабходны свецкі бляск і годныя манеры і маглі б працягнуць сваю кар'еру.

Пранціша як абліло халоднай вадой. Пры магнацкіх дварах заўсёды былі кавалеры, інача й — пажы: юнакі са шляхецкіх сем'яў тры гады служылі, як загадаюць, насілі за панам зброю, за пані — малітоўнік. Калі напаскудзяць — атрымлівалі па спіне карбачамі, на дыване, вядома. Праз тры гады гаспадар даваў такому юнаку поўху, прапіваў з ягоных рук чару, узнагароджваў зброяй і чым яшчэ ад шчодрасці сваёй, і лічылася, што юнак спасцігнуў свецкую ды вайсковую навукі. Раней Пранцысь мог толькі марыць пра такое. Але няўжо гэта ўсё, чаго Паланэйка лічыць Пранціша вартым? Нават пасля таго, як ён з шабляй бег на ўзброеных стрэльбамі жаўнераў у Слуцкай браме, ва ўпэўненасці, што зараз гераічна загіне?

Злосць і крыўда падымаліся з глыбіні душы крывавым туманам... Можа, проста справа ў тым, што ён занадта галантны, а жанчыны любяць рашучых? Вунь як яна зняважліва згадвае пра свайго «мяккацелага», баязлівага брата, якога трэба ў спіну штурхаць, нават каб на невялікі ўзгорак узышоў, і які ад боязі перад невялічкім такім скандальчыкам пры каралеўскім двары саслаў сваю сястру сюды, нудзіцца і адмольваць зусім даравальныя высакароднай паненцы грахі. Сябар пана Міхала, рускі пасол Рапнін, яго ледзь не ў вочы называе мокрай курыцай, а князь церпіць. Adonis in Eskarpnis, Адоніс у лёгкіх чаравіках, а не сармацкі рыцар. На месцы расейскай прынцэсы Паланэя таксама б такога ў сэрца не ўпусціла!

Вырвіч жа не быў мокрай курыцай... І паспрабаваў сарваць з вуснаў паненкі пацалунак. Урэшце, ён быў яму дакладна абяцаны! Яшчэ тады, у карчме.

Але пацалунак не атрымаўся, хаця Пранцысь лічыў сябе ў гэтай справе спрактыкаваным, як стары паляўнічы — у стральбе. Паненка скрывілася, нібыта датыкнулася да жабы, адштурхнула хлопца і папыталася насмешна, колькі ў ягонага бацькі прыгонных, колькі вё-

сак і гарадоў... І як даўно пан удзельнічаў у прыдворнай каруселі — рыцарскім паядынку. І ці не ён быў у першым шэрагу каруселі ў Кракаве, у чорных даспехах, на арабскім скакуне з зялёнай збруяй? Не? А пан увогуле каня мае?

Яна сапраўды шчыра лічыла такіх, як Вырвічы, людзямі іншай, ніжэйшай пароды. Гэтаксама, як Вырвічы пагардліва глядзелі на простых мужыкоў, няхай тыя побач з імі аралі зямлю і смяяліся за вочы «Два паны — адны штаны». Але калі маленькі Пранцысь гуляўся ў яшчара і чыжа з сялянскімі дзеткамі, старэйшы Вырвіч пільна сачыў, каб мужыцкія лапы не выцялі шляхецкага сына, а пасля гульні каб кожны пацалаваў руку малодшага Вырвіча ды падзякаваў панічу за ласку пагуляцца з імі. Што, праўда, не заўсёды выконвалася, асабліва наконт кухталёў, якімі малечы зазвычай абменьваліся, не зважаючы на тытулы.

— Гнаявік! Гнаявік! — гучэла ўвушшу Пранцыся, і мсціліся ля сценаў постаці, што затыкалі сабе насы пры ягоным набліжэнні.

Такі дасканалы свецкі тон, які крышыў годнасць суразмоўцы на дробныя ашмёткі, быццам бліскучае лязо турэцкай шаблі — пераспелы гарбуз, Вырвіч чуў упершыню. Але злавацца на паненку было ўсё адно, што на залеву, якая цябе вымачыла — а няма чаго выходзіць пад нябёсны вадаспад. Ён проста адчуваў сябе мізэрным, няўклюдным, нікчэмным, і разумеў, што якія подзвігі ні здзейсніў бы ў будучым — у вачах гэтых Сапегаў, Багінскіх, Радзівілаў усё адно застанецца Гнаявіком. Не панам-братам, а «братоўчыкам»... Цяпер ён разумеў цынічны тон Ватмана ў адносінах да тытулаў — прусак ведаў, што хоць ён барон, хоць герцаг, гаспадары баяцца, паважаюць і адначасова грэбуюць ім.

— Пан Вырвіч, што здарылася? — настаўніцкім тонам папытаўся Лёднік, калі Пранціш моўчкі паваліўся на свой сеннік. Яшчэ знайшоўся апякун... Калі Вырвіч — гной пад нагамі Багінскай, дык доктар — гной пад нагамі Пранціша! Так, кантроль за дыханнем, лічыць пульс...

— Вырвіч, я задаў пытанне!

— Не твая справа... — толькі і змог прасіпець юнак.

— Можа, нам заняцца фехтаваннем? — задумліва прамовіў Лёднік. — Перад сном, вядома, шкодна, але я чую па тваім дыханні, як цябе перапаўняюць гнеў і нянавісць, а фізічныя практыкаванні — найлепшы сродак з імі справіцца.

— Не хачу! — ледзь стрымліваючыся, каб не пачаць лаяцца на доктара, прамовіў Пранціш.

— Тады паспрабуем выгаварыцца... На каго так угневаўся?

— На свайго бацьку! — нечакана выгукнуў Пранціш, і адчуў, як гараць шчокі ад гневу. — Ён мог не пляжыць сваё майно і матчын пасаг! Не зводзіць маці ў магілу сваімі п'янкамі і бойкамі! І ў мяне было б нармальнае шляхецкае жыццё! Усё Падняводдзе калісьці належала нам. На полі працавалі б мужыкі, а не мы. Я б меў каня, парчовы жупан, шаблю-карабэлу... Ведаеш, як мы дарэшты згалелі? — Пранціш нервова зарагатаў. — Напіліся бацька з суседам і пайшлі ў заклад, хто больш уласнага майна спляжыць — бо рыцар не павінен ад майна залежаць і ў любы момант можа шабляй сабе новае здабыць. Коней параздавалі, футры і жупаны проста пасеклі... Нават пуні спалілі! Бацька перамог, усё без жалю панішчыў ды раздаў, хоць і так няшмат меў. Вось толькі новага нажыць не адолеў. Мне год быў, калі я застаўся па ягонай міласці жабраком. Ён ніколі мяне не любіў! Акрамя кухталёў ды дранага азадку нічога я ад яго не меў! Ненавіджу!

І пачаў біць кулакамі ў сеннік так, што ўзняліся клубы пылу.

— Насамрэч ты любіш свайго бацьку, і ён вельмі шмат для цябе значыць, — ціха прамовіў Лёднік. — Ты сам не заўважаеш, як увесь час спасылаешся на ягонае меркаванне, спрабуеш паводзіцца, як ён. Ты наракаеш, што ён не даў табе багацця... Але ж ён не кінуў цябе, не пайшоў у кліенты да багатага пана, каб лізаць яму аза-

дак і распраўляцца з ягонымі ворагамі. Сумленна апрацоўвае сваю зямлю, цяжка здабывае хлеб і нічога ні ў кога не просіць. Ваяваў за айчыну. Веру дзяд†оўскую захаваў, не збаяўся застацца абмежаваным у правах дысідэнтам. Гэта заслугоўвае вялікай павагі. А ягоныя слабасці... Іх трэба дараваць. Бо і нам нашыя слабасці нехта павінен дараваць. Ты калі апошні раз паслаў бацьку ліст?

Вырвіч яшчэ раз стукнуў кулаком у сеннік.

— Навошта яму мае лісты? Яму пляваць!

— Упэўнены, ён думае пра цябе. Я таксама лічыў, што бацьку на мяне пляваць, і з Еўропы ні разу не паслаў яму звестак пра сябе. А калі вярнуўся, не было ўжо каму сустракаць мяне ў маім доме. А Саламея расказала, ён штодзень пытаўся ў Івана Рэніча, ці не чуваць пра Бутрыма, прыкідваўся, быццам проста паўз іх дом ішоў, а сам у любое надвор'е... З другога канца горада... Але мне цяпер няма ў каго прасіць прабачэння. — Лёднік нахіліўся да Пранціша і паляпаў яго па плячы. — Ну, вышэй нос, Гіпацэнтаўр! Я разумею, што табе хочацца зраўняцца з багацейшымі і знатнейшымі... Але ці не лепей — з самымі адважнымі і разумнымі? Ёсць такі малады французскі мысляр Жан-Жак Русо. Ён кажа, што ўсе людзі маюць прыродныя правы, адну кроў і аднаго Бога. Павінна існаваць грамадзянская дамова — паважаць адно аднаго, не сягаць на волю адно аднаго. Тады ўтворыцца ідэальнае грамадства, дзе не будзе магната і шарачка, пана і мужыка, раба і гаспадара, толькі асабістыя якасці дапамогуць узвысіцца. А якасці ў цябе маюцца добрыя, павер. Цябе ёсць за што паважаць, больш, чым якога разбэшчанага магнацкага сынка, які ледзь чытаць умее і якому цалуюць ручкі прыдворныя шляхцюкі. Мне сябар з Парыжа напісаў, як прынц Кантэ ў оперы ўгледзеў сімпатычную бедную правінцыялачку, пасадзіў на калені і даў, моцна трымаючы, сто аплявух, так, што ў дзяўчынкі пайшла кроў з носу і разбітых вуснаў. А прынц, рагочучы, біў на вачах усяго тэатра і прыгаворваў: «А я не ўмею

даваць аплявухі!». І ніхто, ніводзін высакародны рыцар не рыкнуў.

— Я б заступіўся! — усклікнуў Пранціш.

— Я ведаю, — усміхнуўся Лёднік. — Таму й кажу, што ты варты павагі. Ну, а цяпер, хлопча, давай пачытаем вячэрні канон... Гэта — найлепшы спосаб атрымаць параду і супакой.

«Ведаю, Госпадзе, што няварты чалавекалюбства твайго, але варты ўсялякага асуджэння і пакуты. Але, Госпадзе, ці хачу, ці не хачу, уратуй мяне... Хай не адолее мая злосць Тваёй невымоўнай дабрадатнасці і міласэрнасці: і калі хочаш, учыні мне гэта»...

Словы малітвы сціхлі, але не расталі бясследна. Вырвіч глядзеў на беленыя сцены сухімі вачыма і думаў, што вось, хаця б Лёднік у яго ёсць. Суцешыць, патлумачыць, дапаможа. Да таго ж ён цалкам залежны ад Вырвіча, ад ягонай волі, ён нікуды не падзенецца... Ёсць нешта пэўнае ў гэтым свеце і для недавучанага шкаляра! Цёмная злосная моц, якая жыла ў душы і якой Вырвіч сам баяўся, патроху суцішвалася. Пранціш павярнуўся на бок і задрамаў...

Пабудзіў яго шэпт:

— Саламея, навошта ты так!

— Не будзь дурным. Я занадта доўга чакала. І чакала б яшчэ... Але цяпер у нас няма часу. Магчыма, заўтра... Пазаўтраму... Прыйдзе смерць. І ў чым тады сэнс майго чакання? Калі ты зараз мне адмовіш, не зробіш сваёй, гэта будзе бессардэчна...

— Не мучай мяне. Калі б у мяне не было сэрца, калі б я цябе не кахаў, я б згадзіўся. Але я не магу табе прапанаваць нічога, нават самога сябе. Я больш сабе не належу. Я...

— Ціха, каханы, я ведаю... Я прачытала тую паперу ў клунку. Але ж твой часовы гаспадар — добры хлопчык, адважны і сумленны...

— Ён — шляхціц, з усімі недахопамі сваёй касты, я — яго слуга. Дакладней, раб. Нават калі мы ўсе выжывем, я не змагу з табой ажаніцца. Пакуль не вярну сабе волі.

— Значыць, ты яе вернеш... Чалавек не павінен быць рабом іншага чалавека. Гэта супярэчыць прыродзе і Божай волі.

— Начыталася Вальтэра...

— Цябе палохае, што ты падзеліш каханне з вучонай жанчынай?

— Мяне палохае, што я яшчэ больш прычыню табе зла, звязаўшы цябе са сваёй фатальна нешчаслівай персонай.

— Ведаеш, у гэтую хвілю многія б сказалі, што табе пашанцавала.

— Мне і праўда неверагодна пашанцавала...

— Значыць, ты мяне не адпрэчваеш?

— Я не з лёду... Нягледзячы на прозвішча.

Шэпат змоўк, а тады пачуліся крокі: двое людзей асцярожна падымаліся па лесвіцы наверх, потым рыпнулі дзверы, павярнуўся ў замку ключ...

Пранціш лёг на спіну і ледзь не завыў ад злосці і крыўды. Значыць, ён Лёдніку замінае! Ён не хоча яму служыць! Гнаявіку! Правільна, нават маючы сто дукатаў, Пранціш не зможа пасяліць яго ў палацы і выкупіць лабараторыю для доследаў. Лёднік толькі прыкідваецца, быццам шчыра клапоціцца аб Пранцішы. Ён ненавідзіць яго, свайго гаспадара, хітры і подлы раб! І гэта пасля ўсяго, што яны разам перажылі!

Вырвіч, вядома, дазволіў бы, каб Лёднік ажаніўся з Саламеяй Рэніч, і хай бы яны абодва сталі ягонымі вернымі слугамі, і іхнія дзеці, а ён бы літасціві іх, і мілаваў, і абараняў... Ды што там — адпусціў бы Баўтрамея на волю, але каб пры гэтым абодва засталіся пры ім... З ім... Але цяпер ясна: подлы алхімік пры найменшай магчымасці ад Пранціша ўцячэ, здрадзіць яму, кіне яго! Ён таксама ім пагарджае! Ім, які вядзе свой род ад Палямона! Няхай бацька Пранціша п'янтос, але калі ў карчме адзін мужык па п'янай справе яго штурхануў, выхапіў шаблю і адсек хаму руку. І нічога не было —

па законе ўчыніў. Правільна робіць Паланэя — трэба таптаць тых, хто ўнізе, толькі так застаешся на вышыні! А дазволь толькі прыўзняцца да цябе ніжэйшаму — абгадзяць, сподлічаюць, ухопяць, што можна, і кінуць! «Добры хлопчык», ха!

У душы зноў віравала цёмная злосць, якой Вырвіч ужо не стрымліваў. Ён сам не заўважыў, як праваліўся ў сон, чорны, як адчай, і неглыбокі, як брудная калюга. Скрозь драмоту адзначыў, што Лёднік вярнуўся ў свой ложак толькі на золку. Стары распуснік...

Усю раніцу Лёднік трывожна пазіраў на маладога гаспадара, надзьмутага і маўклівага, як арандатар, якога папярэдзілі аб сканчэнні арэнды, і таксама збольшага маўчаў, бо прапановы пазаймацца лацінай–нямецкім–фехтаваннем–хіміяй–душэўнымі размовамі сустракалі толькі ненавісныя погляды і халодныя рэплікі: «Калі захачу, скажу». Сняданак, прынесены даверанай манашкай Дамінікай, быў праглынуты паасобку. Саламея, відаць, папярэджаная Лёднікам, узяла сваю талерку і схавалася наверсе. Лёднік, пэўна, ахвотна далучыўся б да яе, але не наважваўся. Палачане, відаць, пачувалі сябе няёмка, увязваючы перамены ў паводзінах юнага Вырвіча са сваім начным спатканнем, а Вырвіч ясна бачыў, што яны не могуць схаваць сваё п'янкое, таемнае шчасце, што паміж імі цягнуцца нябачныя ніткі, якіх перарваць не ўдасца ўжо нікому, і ад гэтага шалеў яшчэ больш. Выбух атрымаўся пасля сняданку, калі яны з Лёднікам засталіся сам-насам. Доктар падыйшоў да школяра і ўхапіў за плечы, змусіўшы паглядзець сабе ў вочы:

— Пранцысь, трэба пагаварыць. Так нельга... Твой душэўны стан...

— Пранцысь? — Вырвіч злосна скінуў з сябе рукі доктара. — Які я табе Пранцысь? Ты забыўся, як трэба звяртацца да шляхціца, мужыцкая морда? Як трэба звяртацца да свайго пана?

Вырвіч штурхануў доктара ў грудзі, і той адступіў на крок.

— Пранцысь... Пан Вырвіч, гневам трэба авалодваць. Ты сам пасля пашкадуеш. Канцэнтрацыя...

— Я табе пакажу канцэнтрацыю, хамуйла! — Вырвіч яшчэ раз штурхануў Лёдніка. — У Агалінскага табе, відаць, лепей было, больш пачціва паводзіўся? Той жа багацейшы, чым я, тытулаваны! Яму ў ручку, ножку цалаваў, а са мной — як з роўняй можна, як са шкаляром?

Лёднік апусціў вочы, яго твар абсунуўся, згас.

— Прашу прабачэння ў пана за дзёрзкасць.

Пранцысь ад гневу ўжо нічога не бачыў, кроў шумела ўвушшу. Ён пан, ён можа хлопа свайго «дзяржаць, ужываць, ва ўсім аддаваць, прыдаць, дараваць, замяніць, заставіць і паводле ўпадабання свайго шафаваць і куды хоча абярнуць». Шкаляр атрымліваў пакутлівае і вострае задавальненне ад таго, што доктар перад ім адступае, мізарнее. Нешта ён нядаўна чуў пра такое ненармальнае задавальненне...

— Па-твойму, так у пана просяць міласці? Ці мне трэба было абыходзіцца з табой, як раіў Агалінскі? Калацінай? Ты, значыць, спланаваў, што добры хлопчык Пранцысь адпусціць цябе на волю, і ты над ім пасмяешся? Сыдзеш і цераз плячо сплюнеш? Не цэніш дабрыні! На калені! Руку цалуй, хамуйла!

Лёднік з каменным тварам, апусціўшы вочы, стаў на калені, пачціва ўзяў руку Пранцыся і прыклаўся да яе вуснамі.

Шкаляр глядзеў на доктара, які стаяў перад ім на каленях з апушчанай галавой, але спіна па-ранейшаму была выпрастаная, не сагнутая пакорліва... І яму хацелася раўсці — ад злосці, крыўды, гневу... У цалаванні рукі вышэйшаму за цябе не было нічога нязвыклага альбо ганебнага. Колькі сам Пранціш перацалаваў усялякіх ручак-ножак, чыстых і не вельмі — пану-бацьку, хроснаму, святару, рэктару, дэкану, колькі разоў бачыў, як багатыя і радавітыя шляхціцы не грэбавалі ў сваіх шытых золатам уборах з дыяментавымі гузікамі кідацца ў ногі больш багатым панам, абцалоўваць іх боты і знізаныя пярсцёнкамі рукі...

Ды й самому доктару працэдура дакладна не ўнове. Гэта было звычайнае жыццё! Калі бацька выпраўляў Пранцыся на вучобу, расклаў на дыване ды паводле сармацкага звычаю ўсыпаў бізуноў. А Пранцысь слугу свайго нават ні разу не сцебануў! Але Лёднік, няправільны доктар, які вынайшаў філасофскі камень і адрокся ад яго, умудраўся стаяць на каленях так, што ў гэтым бачылася няправільнасць, несправядлівасць, і Вырвічу было невыносна яго прыніжэнне... І падымаўся гнеў на Лёдніка яшчэ і за гэты свой сорам. Русо, Дыдро, Вальтэр, чалавек не павінен быць рабом...

«Я табе яшчэ пакажу! У Еўропах сваіх адвык ад сармацкіх звычаяў! Ты яшчэ пыл з маіх ботаў сцалоўваць будзеш з пачцівасцю!» — Пранцысь, задыхаючыся, узбег на гарышча, прыпаў да акна, ля якога сам перажыў нядаўна страшэннае прыніжэнне ў размове з паненкай Багінскай. Вось так яно ўсё ў свеце і адбываецца? Адзін аднаму перадаваць злосць, гасіць крыўду аб скуру бліжняга свайго?

За акном зноў нудзіў дождж, барабаніў у шыбы, як надакучлівы старац, што прасіў прытулку. Але з Верхняга, Ніжняга і Рыбнага рынкаў даносіліся крыкі і лаянка, а вулічныя гандляры гарлалі проста пад вокнамі, прапаноўваючы свежую рыбу, злоўленую ў Нямізе, веера з гарадзенскай мануфактуры, пастаўскія хусткі, булкі з Траецкага прадмесця ды іншыя рэчы, якімі грэшнае цела так моцна прывязанае да мітуслівага гэтага свету, што забывае рыхтаваць анёльскія пёры бессмяротнай душы да апошняга палёту, у які не ўзяць анічога — ні літых паясоў, ні налібоцкіх чарачак, ні таго, што з гэтых чарачак так добра п'ецца.

Пранцысь шкадаваў сябе, пакуль унізе не грукнулі дзверы і не пачуліся галасы. Вырвіч збег з лесвіцы і ўбачыў Германа Ватмана, плечы якога абцягваў чорны аксамітны жупан са срэбным шыццём, і найміт здаваўся чорнай скалой. А побач са скалой зіхацела кветка, сама Паланэя Багінская ў сціплай сукенцы паслушніцы, і пазірала вакол вясёлымі фанабэрыстымі вачыма:

— Збірайцеся, пойдзем! Прыехаў мой вельмі шаноўны брат, ягамосць Міхал Багінскі, чакае вас.

Пранцысь пачціва схіліўся, намагаючыся выглядаць спакойна і весела. Бо ясна, што іх размова для паненкі не значыла нічога і ў яе памяці, як нешта надзвычайнае, не адклалася. Трэба, каб яна не адчула ягоную крыўду... Якая стукалася ў скроні, зноў напаўняла чорным гневам...

Хаця што ёй ягоная крыўда? Нікому ў свеце няма справы да Пранціша Вырвіча і ягоных пачуццяў! Што ж, героі Плутарха не чакалі спачуванняў, самі здабывалі павагу і імператарскую карону. Пранцысь Вырвіч знойдзе, як давесці сваім бліжнім, што з ім трэба лічыцца і цаніць яго!

## Раздзел дванаццаты.
## ЯК ПРАНЦЫСЬ ЛЁДНІКА ПРАДАВАЎ

Дзе б чалавек ні пасяліўся — найперш ён думае пра абарону і ўцёкі. Што ён робіць дзеля абароны — ведама ўсім, бо здалёк бачныя земляныя валы, каменныя муры і запоўненыя вадой ірвы. А што рыхтуецца для ўцёкаў — навакольным і не павінна быць бачна. І чым меней яны пра гэта ведаюць — тым надзейней шлях для адступлення. Мала хто здагадваўся, праходзячы па пляцы каля ратушы, што ідзе ён над падземнымі хадамі, якія з’ядноўвалі будынкі ўсяго Верхняга Горада.

Хаця ісці цераз пляц было не даўжэй, чым талерку клёцак з’есці, гасцей з базыльянскага кляштара вялі на сустрэчу з Міхалам Багінскім менавіта праз сутарэнні. Для ўсіх князь Багінскі быў у гэты час за мяжой, займаўся мастацтвамі. Вярнуўся ён у Рэч Паспалітую патаемна, і любы лішні пагляд мог яго таямніцу выкрыць.

Дзесьці ў гэтых сутарэннях, напэўна, і былі схаваныя падчас адступлення войска Пятра І скарбы езуітаў. Пётр у Паўночную вайну жыў у менскім езуіцкім калегіюме, яму дужа спадабалася зладжаная там сістэма навучання,

выкладчыкаў нахвальваў і міласцівіў... Але калі яго-нага саюзніка Аўгуста Моцнага шведы разбілі, як гліняны гаршчок, стаўленне перамянілася. Жаўнеры князя Шарамецьева пачалі перад адступленнем рабаваць горад, як захоплены. У храмы бессаромна ўлазілі, нават у Жоўтую царкву, не паглядзелі, што праваслаўная — братчыкі месцічаў склікалі, ледзь абаранілі свой храм. Вось тады айцы езуіты майно сваё ў сутарэннях і схавалі... Прыйшлі шведы, разгром давершылі, а потым яшчэ і чума заявілася — пошасць любіць крывавыя часы, калі яшчэ да яе прыходу страшнае жніво пачалося... І мніхі, што ведалі таямніцу скарбаў, загінулі.

Пранцысь з цікавасцю паглядаў па баках, гадаючы, за якім паваротам мог быць запаветны ход да скарбаў. Ватман трымаў ліхтар, які асвятляў нізкія вільготныя зводы і рабіў твары падобнымі да твараў мерцвякоў. Асабліва гэта тычылася Лёдніка, ягонае худое змрочнае аблічча дакладна магло напалохаць выпадковага мінака, калі б такія тут траплялiся, але шматлікія сустрэчныя пацукі баяліся толькі святла і шуму. Саламея Рэніч таксама здавалася незямным стварэннем. Бледны твар з вялізнымі адчайнымі вачыма і тонкімі рысамі, дасканала акрэсленыя вусны, гордая шыя, танклявая постава... Пранцысь выпадкова заўважыў цікавую сцэну, якая адбылася, калі яны выходзілі з сутарэнняў па лесвіцы і Ватман прапускаў усіх наперад, падсвечваючы прыступкі ліхтаром. Калі паўз яго апошняй праходзіла панна Рэніч, прыціснуў яе да сябе і паўжартоўна прапанаваў:

— Выйдзеш за мяне, вядзьмарачка? У мяне замак у Сілезіі. Будзеш баранесай. Маю жонку ніхто пальцам не зачапне, ні магнат, ні кароль, а чараў я не баюся.

Саламея акуратна выслізнула з мядзвежых абдоймаў:

— Ваша мосць жартуе... Якая з мяне баранеса? Я простая кабета.

— А ты падумай...

Добра, што Лёднік гэтага не чуў.

Падобна, яны апынуліся ў дольнай зале ратушы, відаць, і прызначанай для таемных сходаў — ніводнага акна, цяжкія зводы, здавалася, ціснулі на самую душу. Свечкі спалохана міргалі, іх агеньчыкі цягнуліся да нябачнага праёма, нібы хацелі ўцячы.

Багінскі на гэты раз быў у сармацкім касцюме, даволі сціплым у параўнанні зараднымі, у якіх ён звычайна з'яўляўся. На ягоных грудзях матляўся залаты медальён, у якім, як казалі, знаходзіцца партрэт жонкі наследніка расійскага прастола і пасмачка яе валасоў: Багінскі яшчэ не страціў надзею адцясніць шчаслівага суперніка па заваяванні сэрца будучай царыцы і працягваў на ўсялякі выпадак удаваць палка закаханага.

Князь Міхал абняўся з малодшай сястрой, пажартаваў над ейным манаскім выглядам, паабяцаў, што хутка верне яе да свецкага жыцця, пры добрых паводзінах, зразумела, і ўсеўся за цяжкі дубовы стол, упрыгожаны разьбой у выглядзе скрыжаваных мячоў. Побач з ім уладкаваўся чарнявы пан з сівымі вусамі і скронямі, з разумнымі цёмнымі вачыма, якога называлі Марыконі — Пранцысь успомніў, што гэта віцэ-маршалак менскага трыбунала, заўзяты вораг Радзівілаў. За спінай Марыконі вырас малады шляхціц з такой фанабэрыстай мордай, якая магла належаць толькі малазначнаму судоваму чыноўніку. Герман Ватман таксама стаў за сваім гаспадаром, падманліва расслаблены, але гатовы вобмірг прыкласці да падлогі любога, хто выкліча незадаволенасць пана. Па правую руку ад Багінскага ўладкавалася маці Альжбэта, ягоная і Паланэі цётка, побач з ёю яшчэ адна кабета, з прыгожым уладным тварам з цяжкаватым падбароддзем — старэйшая сястра Паланэі Алена, жонка маршалка дворнага Патоцкага. Сямейны савет Багінскіх з дарадчыкамі... Лёднік, Пранціш і Саламея стаялі перад імі, як падсудныя.

— Я выканаю, што абяцала ягонае княскае мосці, — ціха прамовіла палачанка ў адказ на бязмоўныя запытальныя

позіркі. — Але абяцаць нічога пэўна не магу. Бо месцы небяспечныя, можна загінуць.

— З табой пойдзе ён, — Міхал Багінскі кіўнуў на Ватмана. Герман шырока ўсміхнуўся, ягоная ўмешка мала каму дадала б весялосці. — Магу паслаць і лепшых жаўнераў, колькі кажаш. А твой жаніх цябе тут пачакае.

— Са мной павінен пайсці чалавек, звязаны са мной крывёй і еднасцю душаў. Іначай не атрымаецца. Сутарэнні не дазволяць мне прывесці чужога чалавека, — цвёрда прамовіла Саламея.

Багінскі і Марыконі перазірнуліся, а Алена з Багінскіх раздражнёна нахмурылася, полацкая Сільфіда ёй відавочна не падабалася.

— Ты хочаш сказаць, трэба знайсці якога твайго сваяка? — удакладніла княгіня Алена.

— Або справа пра які-небудзь вядзьмарскі рытуал? — падазрона папыталася маці Альжбэта.

— Не абавязкова сваяка, — Саламея пачырванела, але працягвала гаварыць. — Паколькі Гасподзь сказаў пра мужа і жонку, што двое будуць адзінай плоццю... Са мной пойдзе доктар Баўтрамей Лёднік.

— Але ж ён пакуль не муж табе, — сярдзіта прамовіла пані Альжбэта. Панна Рэніч на хвілю апусціла вочы, але зноў смела працягвала:

— Перад небам і людзьмі — муж. Дэ факта... Няхай і не дэ юрэ.

Ватман злосна прыжмурыўся, але тут жа ўдавана весела зарагатаў:

— Ну, доктар, ну, пройда...

Лёднік стаяў, як бы гэта яго не тычылася, увесь такі годны і важны. Паланэя спрабавала схаваць усмешку, прыкрываючыся рукавом. Маці Альжбэта пачала гучна абурацца, што распуста пранікла ў святыя сцены, і гэта трэба жорстка караць, але Міхал Багінскі ветліва перапыніў яе сваім мяккім голасам:

— Прабачце, пані-маці Альжбэта, маральнасць — гэта важна, але мне здаецца, для нас важней зараз аб-

меркаваць зусім іншае... За рэліквіяй пойдуць, як я разумею, панна Рэніч і ейны амарат, але Ватман таксама. Як, Ватман?

— Ды няхай сабе ідуць удваіх, — адказаў найміт з крывой усмешкай. — Не праблема, ваша мосць... Калі я пайду следам.

— Узнагарода будзе вам самая шчодрая, — запэўніў князь Багінскі.

— Няхай ваша княская мосць і ўсе прысутныя высокія госці даруюць, але дазвольце нагадаць пра адну акалічнасць, — Пранцысь ледзь дацярпеў, каб не ўмяшацца раней. — Справа ў тым, што гэты Лёднік не ёсць вольным чалавекам і не можа распараджацца сабою па сваім гледжанні. Ён мой пажыццёвы слуга, які прадаў сябе за даўгі.

Пранцысь падаў у рукі князю з самым свецкім паклонам паперу ад Агалінскага, і ўрачыста прамовіў фразу, якая змушала ягонае сэрца пераможна біцца.

— Доктар — мая маёмасць!

Багінскі прабег вачыма паперу і перадаў Марыконі, які пачаў уважліва яе вывучаць. Лёднік утаропіўся некуды перад сабой адсутным позіркам, Саламея сціснула рукі, быццам ёй стала холадна.

— Маёмасць шляхціца — справа святая, — прамовіў Багінскі. — Але я гатовы купіць у пана Вырвіча ягонага слугу за любую суму, якая яго ўсцешыць.

Пранціш задаволена ўсміхнуўся. Вось цяпер доктар адчуе, як трэба цаніць свайго гаспадара!

— Можа быць, і прадам, — прамовіў Пранціш, ад пачуцця салодкай помсты ў яго аж галава круцілася. Ну няхай не ў руку доктар пачне яго цалаваць, няхай хоць папросіць — «Не прадавайце мяне, пан Вырвіч», хоць знак які падасць. Ды хаця б засмуціцца, Пранціш і ягоным спалохам задаволіцца. — Слуга мой наравісты, непаважлівы. Худы, але затое дужы, — Вырвіч схапіў Лёдніка за руку, нібы дэманструючы прысутным. Лёднік павярнуўся да яго і спакойна папытаўся:

— Зубы паказаць?

— Што? — разгубіўся Пранцысь.

— На кірмашы рабоў звычайна яшчэ зубы правяраюць, — роўным голасам патлумачыў Лёднік. Пранцысь дзесьці ў глыбіні душы адчуў, што перагінае палку са сваёй помстай.

— А я б яго купіў! — радасна прамовіў Герман Ватман. — Доктар, зоркавед, золата варыць... Толькі трэба зрабіць яму пэўную аперацыю, каб дзевак болей не псаваў.

— Не забывайцеся, пан, тут дамы! — абурылася маці Альжбэта.

— А што, дамы супраць? — гарэзаваў Ватман. — Яны ўсе зацікаўленыя ў патэнцыі доктара?

На гэты раз свайго канфідэнта перапыніў сам Багінскі, строга азірнуўшыся на яго.

— Дык за колькі слугу свайго прадасі? — сур'ёзна пацікавіўся князь. Пранцысь зрабіў належную паўзу, прыняў важны выгляд і набраў паветра ў лёгкія, каб прамовіць даўно загатоўленае: «Мой слуга не прадаецца! Таму ў сутарэнні з ім адпраўлюся я, каб абараняць яго і панну Рэніч і здабыць рамфею!».

Але прамовіць не паспеў, таму што трыбунальскі віцэ-маршалак Марыконі рыпучым голасам сказаў:

— Ніякай праблемы не бачу! Згодна артыкула дзевятнаццатага, раздзел дванаццаты Статута Вялікага княства Літоўскага, калі вольны чалавек прадае сябе ў няволю, не ў змозе выплаціць даўгі, за ім застаецца права выкупіць сябе ў той жа час, як ён здабудзе адпаведныя грошы. І крэдытор не мае права ўтрымліваць яго.

Багінскі ўсміхнуўся.

— Вось і цудоўна... Колькі там Лёднік вінен?

— Дзвесце дукатаў, — зачытаў Марыконі.

— Усяго! — зноў усміхнуўся князь. — І нашто пайшлі тыя дзвесце дукатаў, а, Баўтрамей?

— На алхімічныя доследы, — сумна адказаў Лёднік.

— І як, знайшоў філасофскі камень?

— Галоўнае, я зразумеў, што яго не варта шукаць, — гэтак жа змрочна адказаў доктар.

— Ватман, дзвесце дукатаў з сабой у нас ёсць? — папытаўся Багінскі. Найміт выцягнуў са сваёй сумкі цяжкі вацок, высыпаў на стол манеты, пералічыў:

— Дзвесце нават з лішнім, ваша мосць!

— Выдатна! Перадай іх Лёднiку.

Ватман акуратна ссыпаў манеты назад ў скураны мяшэчак, лянiва падыйшоў да доктара, кінуў мяшэчак яму ў рукі.

— Так, цяпер пры сведках доктар Баўтрамей Лёднік павінен аддаць дзвесце дукатаў свайму гаспадару, шляхціцу Пранцысю Вырвiчу! — скамандаваў Марыконі. — А вы, пан Раманоўскі, — загадаў чыноўніку, што стаяў за ягонай спінай, — зараз жа гэта ўсё юрыдычна аформіце.

Чыноўнік паслухмяна сеў за стол, расклаў прыналежнаці і пачаў хутка пісаць, пяро аж парыпвала. Князя Багінскага гэтая сцэна, падобна, вельмі забаўляла.

Пранцысь, як у сне, адчуў, што яму ў рукі ўкладваюць цяжкі скрутак, які ён ледзь не выпусціў.

— Бач, як радуецца хлопец, што столькі грошай займеў, — заўважыў Ватман.

— Алхімікі, ведзьмакі, чарнакніжнікі — яны ж апантаныя, — грэбліва прагаварыла маці Альжбэта. — Гэты варты жалю грэшнік усё роўна сваю волю не ўтрымае.

— Вось як... — задумаўся Багінскі. — А што, Лёднік, ты працягваеш свае доследы?

— Я адмовіўся ад алхіміі, астралогіі і ўсіх магічных заняткаў, ваша мосць, — цвёрда прамовіў Лёднік, у якога ад узрушэння гарэлі на худых шчоках чырвоныя плямы.

— Вельмі годны ўчынак, ці не праўда, цётачка і сястрыцы? — задумліва прагаварыў Багінскі, якому спадабалася гульня «дай волю доктару». — І лекар ты, відаць, добры... Дыплом ёсць?

— Нават два, ваша мосць! — прамовіла Саламея Рэніч, вось у яе голас дрыжэў. — Пражскага ўніверсітэта,

доктара вольных навук, і Лейпцыгскага ўніверсітэта, доктара медыцыны.

— Вельмі годна! А што, пан Марыконі, у цябе яшчэ застаўся які каралеўскі патэнт набілітацыі? Ты, здаецца, ад Бруля атрымліваў...

Марыконі пасміхнуўся, пакруціў галавою.

— Ёсць адзін...

— Вось і ўпішы прозвішча доктара. Сёння абы-хто шляхецтва сабе купляе, навалач усялякая, галантарэйшчыкі, бакалейшчыкі... А тут — двойчы доктар, у Еўропе вучыўся.

Ватман зноў зарагатаў, а пані Альжбэта ўсхадзілася:

— Міхал, гэта ўжо занадта! Ты што, хочаш гэтага хама зрабіць шляхціцам? Не ганьбі нашы святыя ідэалы!

— Як кажа Жан-Жак Русо, цётачка, усе людзі маюць ад прыроды роўнасць, і адрозніваюцца толькі асабістымі якасцямі, — насмешна прамовіў пан Міхал.

— Ваша княская мосць, пане-браце, я разумею ваша захапленне Дыдэротам ды іншымі французішкамі, але прадстаўнік нашага старажытнага роду не павінен так абыякава ставіцца да шляхецтва! — ускрыкнула і княгіня Алена і злосна зірнула на Саламею, быццам тая ва ўсім і была вінавата. Але князь Багінскі, падобна, быў толькі рады «паказаць казу» старэйшай сястры і цётцы, якія звыклі з дзяцінства яго павучаць. Княгіня Алена сцвярджала, што нізкіх людзей найлепш заахвочваць бізуном... Пані Альжбэта бурчэла наконт праклятых вальнадумцаў, якімі захапляецца пляменнік, пра ягоныя музіцыраванні і пэцканіну, што ўводзяць у грэх легкадумства, адрываючы ад такіх важных спраў, як палітыка і вайна. Але Міхал Казімір развесяліўся напоўніцу і пачаў абмяркоўваць з Лёднікам нашумелы трактат Русо, ігнаруючы выкрыкі цётачкі, што Русо — лёкай, і філасофія ягоная лёкайская!

Між тым паперы былі складзеныя, падпісаныя высокімі персонамі і зачытаныя. З іх вынікала, што полацкі мешчанін Баўтрамей Лёднік, па-першае, лічыцца адгэтуль

зноў вольным чалавекам, бо разлічыўся з даўгамі, а падругое, ён цяпер становіцца шляхціцам, панам Лёднікам.

— Герб сабе сам знойдзеш! — весяліўся Багінскі. — Прымажашся да якога роду... Хоць да Вырвічаўскага «Гіпацэнтаўра»... Былы гаспадар пазычыць жа табе свайго герба? Ты ж яму цяпер брат у шляхецкай роўнасці?

— Няхай лепей з клісцірных трубак ды ланцэта герб адмысловы складзе! — рагатаў Марыконі.

— Гэта негалантна, — далучылася да тонкіх здзекаў і Паланэя. — Вы ж разумееце, што хутчэй за ўсё гэтым гербам будзе карыстацца і тая панна! А вы — клісцір...

Паны рагаталі, нібыта глядзелі ў балагане на дрэсіраваных медзвядзёў, якіх прымушаюць таньчыць, выяўляць з сябе свецкіх хлюстаў у багатых касцюмах. Пранцысь моўчкі глядзеў, як Лёднік і Саламея Рэніч на каленях дзякуюць дабрадзеям за гэткую высокую міласць. Кланяюцца, стараюцца... А паны ўсё рагочуць... Паланэйка какетліва закідвае галаву, паказвае белыя вострыя зубкі, маці Альжбэта прыкрывае танкагубы рот рукой, абцяжаранай пярсцёнкамі, дарма што мнішка, Багінскі ўжо выцірае слёзы са свайго пульхнага твару... Рогат нібыта ператвараўся ў перліны, якія затаплялі пакой, як у колісь убачаным жахлівым сне.

У шкаляра ў галаве было пуста, быццам пасля добрай папойкі, калі яшчэ не пачалі балець атрыманыя сінякі ды гузакі, але стан «мора па калена» паступова праходзіць.

— Ну вось, на другім тыдні посту адпраўляецеся ў Полацк, — прамовіў, адсмяяўшыся, Багінскі, якому зноў пачало рабіцца сумна. — Сапегі і Радзівілы ў гэты час будуць на сойме ў Варшаве.

— Няхай яны ў Варшаве выракуюць, што хочуць, а мы ведаем, хто стане наступным каралём Рэчы Паспалітае! — абвесціў Марыконі.

— Віват каралю! — выкрыкнуў, аддана вырачыўшы на Багінскага вочы, чыноўнік Рама괣оўскі, жадаючы, відаць, дагадзіць пану перш за другіх, але яго падхалімскага

выкрыку ніхто не падтрымаў, князь дык нават скрывіўся, нібыта раскусіў гнілы арэх, і пан Раманоўскі збянтэжана адступіў у цень.

— Калі рамфея трапіць у твае рукі, пляменнік, трэба будзе неадкладна засведчыць аб гэтым перад усім светам! — папярэдзіла маці Альжбэта. — Цябе падтрымае святы касцёл! Асабліва калі паабяцаеш, што ахвяруеш яму святыню...

— Я яшчэ падумаю, як распарадзіцца гэтай святыняй. І ці варты я яе... — задумліва прамовіў пан Міхал, круцячы ў руках медальён з партрэтам будучай расійскай царыцы з самым мройлівым выразам на мяккім твары. Пані Алена і цётка шматзначна пераглянуліся.

— Вядома, ты, і толькі ты варты ўладання рэліквіяй і польскага трона! — з націскам прамовіла пані Альжбэта.

— Брат, падумай, ты зможаш здзейсніць усе свае планы па паляпшэнні жыцця народа, мужычкоў нашых няшчасных прасвятляць станеш. Пры табе расцвітуць мастацтвы, запросіш, урэшце, свайго ўлюбёнага Дыдро да двара і будзеш з ім раіцца! — хаваючы раздражненне, ліслівa прамовіла княгіня Алена, а панна Паланэя, парушаючы ўрачыстасць моманту, фыркнула.

— Магчыма, і так... — млява прамовіў Багінскі, з тугой гледзячы некуды ў столь і відавочна марачы вярнуцца да флейты альбо мастакоўскіх фарбаў замест трывожных палітычных размоў, якія абяцалі толькі нежартоўныя клопаты.

На ягоным прыгожым санлівым аблічча проста напісана было: адчапіцеся... Я жыву ў свеце Музаў... Такога цяжкавата ўявіць каралём.

У пакоі пад лесвіцай на Вырвіча, нарэшце, навалілася ўсведамленне таго, што ён за гэты дзень натварыў. І як ставіў Лёдніка на калені, і як красаваўся перад Багінскім і ягонымі сёстрамі ў ролі ўладальніка каштоўнага слугі, як спрабаваў слугу прадаць...

Дзвесце дукатаў, плюс раней атрыманыя сто... За гэтыя грошы можна было набыць і каня, і адзенне, і купіць слуг, і нават дом...

А Лёднік быў нябедны, калі пачаў здабываць філасофскі камень, раз такіх даўгоў нарабіў.

Лёднік... Пан Лёднік. Вядома, да новаспечанай шляхты адносіны былі іранічныя, і ніхто з імі, як з «панамі-братамі», не лічыўся. Пляваліся ды абураліся гэтымі «патэнтамі» — раней толькі на полі бітвы вялікі гетман мог рыцарскае званне выбітному вою надаць, альбо сойм такую пастанову прыняць... А тут каралеўскія фаварыты ўказамі, саксонцам падпісанымі, гандлююць! Ганьба! Над фальшывымі шляхціцамі смяяліся, але гэта не былі ўжо мяшчукі, і ўсе прывілеі ім належалі.

Што ж, Лёднік цалкам справіцца з захаваннем сваёй шляхецкай годнасці... Раз яму ўдалося захаваць гэтую годнасць, нават стаўшы рабом.

Вырвіч цяпер можа вярнуцца дадому на ўласным кані... Хоць у карэце. Але больш ніколі нізкі строгі голас яму не раскажа пра шляхі планетаў і ўласцівасці раслінаў, пра Мантэня і Дыдро... Не будзе перад кім даказваць сваю мужнасць і спрыт, і здольнасць разумець самыя высокія матэрыі... Саламея Рэніч больш не назаве яго мілым хлопчыкам і не падорыць усмешку, ад якой хочацца жыць і рабіцца лепшым. І ў полацкія сутарэнні з сабой Пранціша яны дакладна не паклічуць, а ён спадзяваўся там праявіцца героем, самому вынесці на свет Божы рэліквію... Праявіўся. Цяпер — усё...

Пранцысь упершыню падумаў, а што б ён рабіў, каб Лёднік сапраўды зламаўся, стаў яго нахвальваць, цалаваць у ручку, прыніжана цярпець пабоі і радавацца падачкам? Яму патрэбны быў такі Лёднік, прыручаны, на ланцугу? Ці яму патрэбны чалавек, якога ён паважае і чыё адабрэнне так важнае? Настаўнік, якога Бог паслаў яму за шэлег на дарозе да Валожына, якога ён абразіў і ўрэшце прадаў за дзвесце дукатаў?

Пранціш кінуў вацок з манетамі на падлогу, быццам ён апякаў рукі. Якая пустэча... Сам усё загубіў... Адзінае вартае, што ў яго было... Як тады, з Вараняцем! Ён жа так ніколі адкрыта і не прызнаў яго сябрам — каб не прынізіцца. І прамаўчаў, калі таго цягнулі ў карцэр за чужую правіну.

Вырвіч упаў тварам уніз на сяннік. Прасіць прабачэння дарэмна, такое не прабачаюць. Гнаявік... Ён жа атрымліваў задавальненне, прыніжаючы доктара, гэтак жа, як лібертэн Прашковіч у сутарэннях слуцкага замка з дапамогай бронзавага стрыжня. Вось табе праўда, хлопец, пра шляхецкую зухаватасць.

Прайшлі гадзіны, а можа, дні, а можа, стагоддзі... Юнак не зважаў, што там праплывае побач — ён хацеў застацца на дне свайго адчаю назаўсёды.

На лесвіцы пачуліся крокі — Лёднік выходзіў ад сваёй Саламеі... Вось гэта каханне — не пабаялася прызнацца прылюдна ў граху, каб каханага не пакінулі закладнікам.

Пранціш не зварухнуўся. Ляжаў ніцма, і марыў толькі, каб былы слуга нічога не сказаў... Не дабіў атрутным справядлівым словам. Няхай пагардліва маўчыць і абыходзіць былога гаспадара, як кучу гною... А можа, выкліча яго на двубой за абразу — ён жа цяпер мае права! І няхай, няхай заб'е...

Але доктар падыйшоў да Пранціша і прысеў на край ягонага сенніка.

— Ну што, адыграў спектакль? Задавальненне атрымаў?

Як ні дзіўна, у голасе Лёдніка не гучэла пагарды альбо нянавісці, толькі стома і дакор.

— Будзеш выяўляць з сябе паміраючага Цэзара, альбо ўсё-ткі зробіш літасць устаць і павячэраць?

Пранціш не верыў сваім вушам. Пасля ўсяго доктар клапоціцца, каб ён павячэраў?

— Хочаш, каб цябе з лыжачкі кармілі?

Вырвіч адчуў, што з вачэй упершыню за столькі часу пацяклі слёзы. Вось жа ганьба... Нават у слуцкім сутарэн-

ні не плакаў. Яго аж затрэсла ад невымоўнага жалю. А Лёднік раптам крануў яго за плячо:

— Заканчвай істэрыку, у мяне з сабой лекаў няма. Не ведаю, што ты там сабе напрыдумваў, але я цябе не пакіну. І не збіраўся. Хаця часам ты паводзішся проста, як свіння.

Пранцысь замёр, потым сеў і неўразумела зазірнуў у звыкла незадаволены твар Баўтрамея. Той цярпліва, як малому, паўтарыў:

— Не пакіну я цябе... І не ўцяку. Хаця часам вельмі хацелася. Дакладней, мы з Саламеяй цябе не пакінем, калі сам таго не захочаш. Ты ж без нагляду ды на прыкладзе тытулаваных самадураў ператворышся ў чарговага буяша ды пустадомка з дыяментавым гузам на шапцы. А ўсё-ткі праблìскі інтэлекту ў цябе апошнім часам назіраліся.

Вырвіча затрэсла яшчэ больш, ён прыхінуўся галавой да пляча доктара і скрозь слёзы пачаў нешта прагаворваць:

— Я не збіраўся цябе прадаваць! Праўда! Толькі папалохаць... Каб ты сказаў, што хочаш са мной застацца... І каб мяне ў сутарэнні ўзялі...

— Не варта было б табе ісці з намі, — з уздыхам прамовіў Лёднік. — Гэта не на шпацыр. Але, падобна, у атачэнні нашых дабрадзеяў нам больш небяспечна знаходзіцца, чым пад зямлёй. Нам з Саламеяй здаецца, што гэты дождж міласці — ажно з патэнтам на шляхецтва — хавае не вельмі прывабную для нас прышласць. Дзе гаспадар кладзе самы смачны кавалак сыру, ведаеш? У пастцы. І пра лёс рамфеі мы павінны думаць. Князь можа па слабасці характару аддаць яе ў рукі расійскай царыцы, каб падлагодзіцца... Альбо патрапіць святыня ў Рым замест таго, каб умацоўваць сілай сваёй наш Полацак.

— Дык можа... уцячы? — прапанаваў Вырвіч.

— Каб мы былі іншымі — уцяклі б... Але Саламея прысягнула. Выкупіла нашыя жыцці цаной згоды пайсці ў сутарэнні і адшукаць дзіду святога Маўрыкія. Цяпер памрэ — прысягу не парушыць. Але ж і бацьку яна слова

давала хаваць таямніцу... Карацей, зноў паміж жорнамі, хлопец, мы трапляем. Ну, ну, перастань раўсці... Урэшце, дзякуючы тваім выбрыкам, я атрымаў волю і шляхецтва, а ты — грошы. Хаця ці ўдасца скарыстаць табе твае дукаты, а мне маё шляхецтва, невядома. Супакойся, а то змушу заняцца нямецкай зараз жа.

Пранцысь гатовы быў хоць нямецкай, хоць ненавіснай лацінай заняцца, калі доктар зажадае. Жыццю вяртаўся сэнс... Наперадзе чакалі подзвігі! Нават успамін пра Паланэю Багінскую больш не ірваў сэрца.

— Саламея, ідзі сюды! І талерку нясі. Пан Вырвіч выйшаў са стану сусветнае тугі і больш не хоча гуляць ва ўтаймавальніка наравістых слуг.

## Раздзел трынаццаты.
## ЯК ПРАНЦІШ ЗА ГІПАЦЭНТАЎРАМ ХАДЗІЎ

На абразе Прасвятая Багародзіца мела такі прыгожы, рахманы, сумны твар... А яе палаючае любоўю сэрца праціналі ажно сем мячоў! Малады шляхціц Пранціш Вырвіч ад жалю глыбока ўздыхнуў і на хвілю ўявіў, як бы ён абараніў Прасвятую, адбіўшы тыя варожыя мячы сваім «Гіпацэнтаўрам», знуджаным у палоне езуіцкага калегіюма.

Пранціш, вядома, ведаў, што мячы на абразе проста сімвалізуюць той боль, які Прасвятая Дзева перажыла, страціўшы Сына. Без зброі не абыходзіцца нават у святых рэчах... У Апакаліпсісе сказана, што з вуснаў Госпада нашага Ісуса Хрыста сыходзіць меч — сымболь непераадольнай нябёснай праўды... З вогненнымі мячамі стаяць архангелы ля ўваходу ў страчаны рай, каб грэшныя нашчадкі Адама і Евы не ўлезлі да спакусных пладоў, не спаганілі цікаўнасцю сваёю святое месца. З мячом малюецца святы Павал... Мячом святы Пётр, самы баявіты апостал, адсек вуха рымскаму жаўнеру з варты, якая прыйшла схапіць Госпада ў Гефсіманскім садзе... Каб там быў Вырвіч, жаўнер адсе-

чаным вухам не абыйшоўся б! Вядома, вучыць нас Святое Пісанне прабачаць ворагаў, падстаўляць другую шчаку... Але як жа шляхціцу без зброі, асабліва той, што пабывала ў руках бацькі, дзеда і прадзеда? На дзяржальне якой выграваваны «Гіпацэнтаўр»? Нездарма ў дзяржальны мяча ўкладвалі святыя рэліквіі. Іспанскі паладын Раланд, дык той умудрыўся ў свой меч Дзюрандаль укласці зуб святога Пятра, сасуд з крывёй святога Базыля, волас святога Дзяні ды кавалак адзення Прасвятой Дзевы.

У радавым мячы Вырвічаў нічога падобнага не было, ён сам быў рэліквіяй. Дзед Пранцысеў з ім у руках загінуў на полі бойкі. Пранціш у роздуме блытаўся па пакоі і напяваў:

— Ехаў Ліцвін ды па Сініх Водах
Тры дні, тры начы,
Тры дні, тры начы,
Меч крывавячы.

Скокаў Ліцвін, ой ды пад Смаленскам,
Тры дні, тры начы,
Тры дні, тры начы,
Шабляй рубячы.

Кляўся Ліцвін у святой Дуброве
На старым мячы,
На старым мячы,
Чужынцаў сячы...

Увушшу гучэлі павучальныя словы Лёдніка пра сапраўдную адвагу і ўяўную, што спраўджваецца за кошт тых, хто не можа абараніцца. І Вырвічу надта карцела давесці доктару і пекнай панне Саламеі, ягонай сардэчнай сяброўцы, а таксама фанабэрыстай паненцы Паланэі Багінскай, а найперш сабе самому, што ён здатны на адважныя ўчынкі. Сядзець бязвылазна ў кляштары ў чаканні ды навучанні моцы ўжо не ставала. Лёдніку лепей — у яго

Саламея ёсць, ды яшчэ кожны дзень да маці Альжбэты ў якасці доктара ходзіць — як жа кабета без усялякіх балячак! А доктар хоць і схізматык, але з дыпломам, і справу сваю ведае як найлепш. Пачаў лекі для ўсяго кляштара рыхтаваць, дзеля чаго яму адчынілі на першым паверсе скарбніцы яшчэ адзін пакой, ссунуўшы ў кут куфры з дабром. Былы алхімік зладзіў там невялічкую лабараторыю, ганяючы сястру Дамініку на кухню за прыпасамі ды прыладамі. Аптэчку кляштара, да якой Лёдніка ўночы звадзілі на тую ж кухню, ён напалову збракаваў, параіўшы выкінуць запасы мышынага тлушчу, сушаных жаб і кажаноў, настоі на шчанючках ды іншыя неабходныя ў кожным доме рэчывы. А яшчэ ён з Саламеяй дарваліся да кляштарнай бібліятэкі. Пранцысь гэтак жа замілавана мог паглядаць хіба на свежы пірог з зайчацінай пад канец Вялікага посту, як гэтыя двое на пыльныя, пажаўцелыя фаліянты, якімі здаровых пацукоў забіваць можна.

— «Апостал»! Скарынаўскі! — гладзіць пяшчотна старонку, а ў самога аж рука дрыжыць, і ў голасе ад замілавання слёзы. — Цьху, вар'яты!

І калі на брукаванку лёг першы снег, нібыта святы Франтасій пасцяліў дыван дзеля дарагога госця, Пранцысь вырашыў: час выручаць свайго Гіпацэнтаўра!

Натуральна, што Лёдніка ў такія планы не пасвяціш — раскрычыцца, забароніць... Хоць і шляхціц цяпер, але ж натуры настаўніцкай не змяніў, дый шляхецтва свайго нібыта ўсур'ёз не прымаў. Хаця мог, як такія ж «фальшывыя шляхціцы», зараз жа адрасціць вусы, на падараваныя яму ў дадатак да патэнту князкія грошы замовіць адпаведны строй, панадзяваць пярсцёнкі ды пояс і патрабаваць звароту «пан». Але Лёднік ні на гран не змяніўся, быў пачцівы без ліслівасці, і адначасна строгі, патрабавальны ды з'едліва-іранічны, і гэта цешыла. Бо Пранцысь усё ж лічыў такое «шляхецтва» шалберствам — не на полі бойкі здабытае, з рогатам падоранае... І, падобна, Лёднік ставіўся да сітуацыі гэтак жа.

Не, у справе з Гіпацэнтаўрам патрабаваўся іншы паплечнік.

І вось у змрочную пятніцу пашанцавала: манашка Дамініка, пагардліва бліскаючы вачыма колеру выцвілай лістоты, абвесціла, што яе княская мосць ваевадзянка Багінская жадае асабіста перадаць загад сваёй цёткі, маці Альжбэты, якая з раніцы ў ад'ездзе, пану Вырвічу. Што, на думку шкаляра, азначала, што паненка гэтак жа, як ён, нудзіцца і скарысталася ад'ездам цёткі, каб пабачыцца хоць з нявартым увагі, але ж кавалерам і атрымаць сваю долю пакланення і куртуазных размоў.

Сястра Дамініка ўсім сваім выглядам паказвала, што не ўхваляе гэткія вольныя норавы, але ваевадзянка была цяпер у кляштары самай уплывовай асобай, і Вырвіча з належнымі перасцярогамі праводзілі да келлі на першым паверсе. Госця сустрэла прыслуга панны, якой ён раней не бачыў — танклявае дзяўчо з сумнымі цёмнымі вачыма ў сукенцы паслушніцы.

Прыслуга завяла Пранцыся ў перадпакой, па-манаску аскетычны, толькі распяцце на сцяне і драўляная лаўка, і асцярожна пастукала ў дзверы:

— Ваша мосць, прыйшоў пан Вырвіч!

Тое, што панна Багінская падрыхтавалася да прыходу госця, можна было зразумець па тым хаця б, што яна знарочыста не звярнула на ягоны прыход увагі, седзячы ў крэсле, павернутым да акна, але ножка ў вышытым чаравічку была пастаўленая на абцягнуты аксамітам зэдлічак менавіта так, каб той, хто ўвайшоў, адразу пабачыў гэтую маленькую, падобную да чоўніка мятлушкі, ножку і ацаніў дасканалы французскі чаравічак на выгінастым чырвоным абцасіку ў тры вяршкі. Дый замест сукенкі паслушніцы на паненцы была няхай не парадная, але шляхецкая жаўтлявая шаўковая сукенка з галандскімі карункамі. Пакой прыкрашалі прадметы, адрозныя ад манаскага ўставу, якія асабліва выбіваліся раскошай на тле голых сценаў: кітайская шаўковая шырма з паўлінамі, два

люстэркі ў пазалочаных рамах, парцалянавы набор для гарбаты на століку з чырвонага дрэва...

Вырвіч успомніў усё, што вычытаў пра свецкія паводзіны ў трактаце Рэя з Наглавіц «Зерцала альбо жыццё сумленнага чалавека», пастараўся трымацца як мага болей годна, раскланяўся, падыйшоў да ручкі паненкі... Паланэйка зрабіла выгляд, быццам толькі цяпер пабачыла госця, і адразу настроіла голас на халодна-паблажлівы тон:

— А, пан Вырвіч... Я і забылася, што загадвала вас прывесці.

— Заўсёды гатовы служыць чароўнай панне! — ветліва адказаў Пранціш, намагаючыся не ўпусціць у сэрца нікому не патрэбную крыўду.

Багінская павярнула да яго фанабэрысты тварык (а нос напудрыла не дзеля манашак жа!) і строга вымавіла:

— Пан Вырвіч, мушу перадаць вам загад маёй цёткі, яе княскае мосці, маці Альжбэты. Сярод сясцёр бернардзінак пайшлі нядобрыя чуткі пра тое, што адбываецца ў левым крыле кляштара. Таму што да іх далятае лязгат зброі і выкрыкі! Я разумею, што заняткі фехтаваннем неабходныя для мужчын, але ў гэтым месцы мужчын быць не павінна! Перадайце і вашаму доктару: трэба паводзіцца цішэй!

Пранціш самым галантным чынам пакланіўся і запэўніў паненку, што яны выправяцца... Але ёсць адна акалічнасць, якая пры згадцы пра зброю і фехтаванне надрывае сэрца вырвічаўскае...

Паланэйка фанабэрыста прыўзняла броўку, паказваючы, што яе мала кранае, што там робіцца ў сэрцы нейкага загоннага шляхцюка, але ж не перапыніла — яна б зараз, напэўна, і крумканне жабы паслухала дзеля разнастайнасці.

І Пранціш як мага болей выразна распавёў ёй пра сваю ўзятую ў палон зброю, якую мусіць цяпер любым коштам вызваліць. Асаблівы ўпор робячы, што з гэтай зброяй ягоны дзед служыў у палку пад началам дзеда

панны, ваяводы троцкага Марцыяна Багінскага, і паранены быў смяротна ў славутай Хацінскай бітве на Днястры з войскамі Гусейн-пашы. І ўсё, што просіць ад панны — памагчы яму выбрацца ўночы з кляштара, і дае сваё шляхецкае слова, што да раніцы вернецца.

І далібог — вочы паненкі загарэліся, і Пранціш гатовы быў прысягнуць, што ёй больш за ўсё на свеце зараз хацелася б пайсці з ім і перажыць Вялікую Прыгоду. І зразумеў, што не памыліўся, звярнуўшыся да фанабэрыстай магнаткі, за аблiччам якой хавалася гарэзнае бясстрашнае (і бязлітаснае) дзяўчо. Паланэйка пляснула ў далоні, і зараз жа прыбегла прыслуга, спалохана пазіраючы вялікімі цёмнымі вачыма на гаспадыню.

— Ганулька, калі пані цётка вернецца?

— Заўтра, пасля ранішняй службы, ваша мосць, — ціхім пяшчотным галаском адказала прыслуга.

— Тады вось што...

Вырвіч марыў скарыстацца сутарэннямі — але цяжкую пліту адзін нават Ватман не падыме, дый паказаць шлях няма каму. І Пранціша вывела з кляштара Ганулька — самым банальным шляхам, праз дзверы, калі ўсе паснулі. Баязлiўка дрыжэла, як асіна, і спынялася на кожным кроку, нервуючы Пранціша. Як яна прасядзіць у цёмным калідоры да раніцы, чакаючы ўмоўнага свісту Вырвіча?

Вецер падзьмуў у твар калючымі мокрымі сняжынкамі. Воля! А шкаляр і забыўся, якая яна на смак! Пранціш паправіў за поясам пісталет, пагладзіў шаблю: добрая, але ж не свая! Менск спаў на дне чорнай лістападаўскай прорвы, і былі ў гэтай цемры свае пачвары і свае Тэзеі... І як светач Арыядны, свяцілася ваконца панны Паланэі, la belle dame sans mersi — Чароўнай Дамы, якая не мае літасці, дзеля якой варта паміраць, але не варта чакаць удзячнасці і спагады.

Ваколіцы езуіцкага калегіюма Пранціш Вырвіч ведаў, як цыган ведае, на якую нагу пачне кульгаць прададзены ім конь. Колькі разоў шкаляр пакідаў свой пакой у канвенце не праз дзверы... Так што ўскараскацца з дапамогай

знаёмага да апошняй галінкі дрэва да акна спальні малодшага курса не было аніякай замінай. Багацейшыя шкаляры сяліліся асобна, куды ў лепшых умовах, з прыслугай... А тут, у канвенце, напханыя ў пакоі, па колькі змяшчалася, начавалі бурсакі з беднаты. І адзін з іх, той, што быў патрэбны Пранцысю, спаў якраз ля акна... Зусім не выпадкова, бо разумны шкаляр заўсёды рыхтуе сабе шлях да рэтырацыі і пракудаў.

Пранцысь падрапаўся ў акно:

— Міхась! Гулец, ты тут? Міцкевіч!

Да шкла прыліпла заспаная фізіяномія, акно ціха прыадчынілася (разумны шкаляр заўсёды трымае шлях да рэтырацыі і пракудаў напагатове).

— Што за ная тут?

— Міхась, гэта я, Пранцысь! Пранцысь Вырвіч! Толькі ціха...

— Аёй! Матка Боска Чанстахоўска... Перахрысціся! — той, хто шаптаў, пераляканы быў не на жарт.

— На, перахрысціўся... Калі ты ў гэтай цемры забачыў. У імя Госпада нашага Ісуса Хрыста. Усё, вылазь, Гулец, справа ёсць!

Пранцысь саскочыў на зямлю, і хутка ля яго апынуўся жвавы шчаўлік Міхась Міцкевіч, лепшы гулец у косткі і карты за ўсю гісторыю калегіюма. Дзякуючы чаму, а яшчэ свайму авантурнаму адчайнаму характару Міхась і быў прыняты ў банду Вырвіча. І праславіўся тым, што аднойчы выкраў з кабінета рэктара сканфіскаваныя астрагалы — свае шчаслівыя косткі для гульні. Лепшага кампаньёна па вызваленні Гіпацэнтаўра нельга было і прыдумаць.

— Нам сказалі, ты загінуў! — трохі падазрона паведаміў Міхась, відавочна змагаючыся з жаданнем памацаць старэйшага сябрука і праверыць на прадмет прыналежнасці да нячыстай сілы. Пранціш хмыкнуў, тлумачыць ні сваё знікненне, ні ўваскрашэнне не стаў, аднак прымусіў Гульца паклясціся, што нікому не скажа аб сустрэчы. У іхняй бандзе клятваў ніхто не ламаў, і прыду-

малі яны такія заклёны, закавырыстыя ды велягурыстыя, што іх вымаўляць было страшна, не тое што парушыць. Адзін заклён Гулец і прашаптаў Пранцысю на вуха, паабяцаўшы ў выпадку здрады сярод іншага знайсці свае зубы ссыпанымі ва ўласны бот і аддаць пячонку на з'ядзенне гадзюкам.

Калі Пранціш патлумачыў, што прыйшоў па сваю шаблю, Міхась задумаўся.

— Няйначай яна ў рэктара ў кабінеце. Ёсць там такі куфар, куды сканфіскаванае ды ахвяраванае трапляе... Калі ў Шастовіча нож забралі за тое, што парту зрэзаў, ён дакладна бачыў, што айцец Рамановіч паклаў яго туды.

— Ведаю той куфар, — задуменна прамовіў Пранцысь.

— Але на ім замок...

— Гэта не перашкода! — запэўніў Вырвіч, навучаны Лёднікам адчыняць любы замок шпількай усляпую. — Пойдзеш са мной?

— А то! — пасміхнуўся Міцкевіч. — Усё жыццё марыў з нябожчыкам банду стварыць!

Ноччу прыстойным людзям, якія не абцяжараныя вызваленнем радавых шабляў, належыць спаць. Ноччу ніякая навучальная ўстанова працаваць не павінна, калі там не рыхтуюць вупыроў альбо ваўкалакаў.

Але калі Пранцысь і Міхась прабраліся цёмным калідорам да кабінета рэктара, пана Рамуальда Вайніловіча, з-пад дзвярэй прабівалася палоска святла. Пранціш прыслухаўся: ціха. Зазірнуў у адтуліну для ключа: пуста, далібог, пуста! А свечка гарыць, абгарэлы кнот нахіліўся, як п'яны. Нібыта нехта выйшаў на хвілю і зараз вернецца, альбо нябачныя духі ў пакоі балююць. Але айцоў-езуітаў духі павінны баяцца, таму...

— Давай хутчэй, я павартую! — шапнуў Міцкевіч, і Пранціш тузануў дзверы, якія аказаліся адчыненымі. Замок на куфры, вялізным, як човен, ён прыкончыў за пару імгненняў — не тое што на назе Сільфіды ў Слуцкім замку, засталося радавацца, што ў кабінеце

светла — бо сярод наваленага ў куфры дабра сваю шаблю ў цемры ён бы да раніцы шукаў... Там былі складзеныя дылеі і жупаны, срэбныя кубкі і падбітыя футрам кунтушы, кінжалы і куфэрачкі...

Вось ён, Гіпацэнтаўр! Пранціш пацалаваў з дзяцінства знаёмае лязо, надзеў на сябе перавязь з похвамі са скуры вугра...

— Ідуць! — трывожна шапнуў Міцкевіч, і шкаляры замітусіліся, як печкуры ў нераце. На калідоры ўжо чуліся нечыя крокі, таму рэтыравацца не атрымлівалася... Куды схавацца? Міцкевіч першы нырнуў у куфар, за ім сунуўся Пранціш, шчыра спадзеючыся, што ў прыцемку ніхто не зважыць на адчынены замок куфра, і што грымучыя прадметы іх прысутнасці не выдадуць. Нешта цвёрдае адразу ўпілося Пранцішу ў бок...

— Сюды, пан Марыконі!

У кабінет, мяркуючы па галасах, зайшлі трое.

— Дзякую, пан рэктар, што падтрымалі нашыя памкненні дабіцца справядлівасці.

Гэта гаварыў Марыконі.

— Як служка Божы, я не магу пакінуць грэх беспакаранным. Асабліва пасля гісторыі са святым айцом Аблачынскім... — у голасе заўжды вытрыманага рэктара Рамуальда Вайніловіча чуўся гнеў. — Святы айцец дасюль адысці не можа ад ганьбы.

— А вы чулі, што Валадковіч яшчэ і айцоў францысканцаў разагнаў, калі тыя ішлі са святымі сакрамэнтамі і з труною па нябожчыка? А музыкаў прымусіў ісці з ім на гаўптвахту, дзе сядзеў ягоны сябар, такі ж разбойнік, і граць полечкі...

— Чуў, пан Длускі... — змрочна прагаварыў рэктар. — І лічу, што гэтыя злачынствы трэба спыніць.

Длускі быў адным з радцаў магістрату, і Пранцысь зразумеў, што яны прысутнічаюць пры змове супраць Міхала Валадковіча, сябрука Пане Каханку. А паколькі справа гэтая была дужа небяспечнай, не дзіўна, што

змоўшчыкі сабраліся ўночы, у такім месцы, дзе ніхто не западозрыць сход.

Нешта яшчэ больш балюча ўпілося ў бок шкаляра, і Пранцысь пачаў успамінаць гісторыю пра спартанскага хлопчыка, які, каб не зварухнуцца ў прысутнасці старэйшых, цярпеў, пакуль схаванае пад кашуляй лісяня выядала яму вантробы. А між тым змоўшчыкі ажно трэсліся ад нянавісці.

— Ён бязбожнік! Гэта дакладна! Проста ў зале суда выкрыкваў страшэнныя блюзнерствы... А тое, што ён святое распяцце рассек! — крычаў з нянавісцю Марыконі. — Гэта страшней, чым рассечаная рука пана Длускага...

— І гэта праўда, панове... — зазначыў Вайніловіч. — Але мы нічога не можам зрабіць, як не змаглі асудзіць ягонага брата Юзафа за здратаванне шляхціца Яцыны. Пан Міхал выбраны скарбнікам Трыбунала... Паводле закона за рассечаную руку ён можа адліць для пана Длускага срэбную руку, а за блюзнерства — хіба што тры месяцы вежы. І тое сумняюся, што ён іх адседзіць.

— Менская шляхта — за нас! — Длускі ледзь не дыхаў агнём, як слуцкі цмок. — У Быхаве, Варшаве, Вільні, Гародні — паўсюль ёсць людзі, якім радзівілаўскія бясчынствы ў горле пераселі. Полк Масальскага нас падтрымае! Галоўнае — не адступаць! Асудзіць паскудніка на горла! І адразу ж — расстраляць.

— Дык ён на суд не з'явіцца... — засумняваўся Вайніловіч. — У горад прыехаў радзівілаўскі найміт, суддзя Юдыцкі, жыве ў праклятым доме на Падгорнай, а шпегаў рассылае ад Татарскага канца да Залатой горкі. Вынюхаюць, папярэдзяць разбойніка, каб не прыязджаў.

— З'явіцца! — запэўніў Длускі. — Валадковіч даводзіць, што нікога і нічога не баіцца. Ягоны гаспадар расказаў чарговую байку, як з чортам біўся і перамог, дык гэты блюзнер цяпер, напіўшыся, бегае па могілках і выклікае нячыстую сілу на двубой. Вось бы Госпад папусціў, каб яна яму з'явілася ды скруціла паганую шыю!

Не, панове, Валадковіч прыйдзе ў суд, нават калі дакладна будзе ведаць, што яго збіраюцца страціць. Нават яшчэ вярней з'явіцца — каб даказаць сваё бясстрашша і ўсемагутнасць. Тады — ніякай літасці! Законы не для такіх, як ён. Пасля каляднага карнавалу і абвесцім суд!

— А што зробіць з намі пасля ягамосць Караль Радзівіл? — асцярожна папытаўся Вайніловіч. Марыконі раззлавана фыркнуў:

— Радзівілы таксама не ўсемагутныя. Прыйдзе сіла і на іх!

— Вось як... — працягнуў Вайніловіч. — Чуў я, што хутка на Беларусі з'явіцца адна святыня... дужа магутная... І аб'явіцца яна ў руках наступнага караля, якога ніхто не пераможа. І гэта, магчыма, будзе не Радзівіл. Вы нічога не чулі пра гэтую святыню?

Голас рэктара гучаў мякка, як быццам ён асцярожна раскладаў сіло са слоў.

— Нічога, — коратка адказаў Марыконі.

— А што за святыня? — зацікавіўся Длускі.

— Тая, якую варта вярнуць у Рым, святому прастолу, — гэтак жа мякка, але з затоенай пагрозай, прамовіў рэктар. — Запэўніваю вас, што той, хто гэта зробіць, займее магутную падтрымку ад касцёлу... Калі ж не — наклічa на сябе вечны праклён.

— Я б на месцы вашай правялебнасці не надта верыў чуткам, — суха прамовіў Марыконі.

— Наш айцец Ігнацi Лаёла вучыў быць пільнымі да ўсяго... — мякка запярэчыў Вайніловіч. — Пад кожным недарэчным забабонам можа выявіцца рэальная таямніца альбо пракуды д'ябальскія. У Полацку нашыя браты з ласкі караля-нябожчыка Стафана Баторыя збудавалі касцёл Святога Стафана. Падчас будоўлі сустрэліся з дзіўнымі з'явамі... І чуткамі.

Езуіт памаўчаў, відаць, чакаючы каментароў, не дачакаўся і працягнуў:

— Магчыма, пан Марыконі, вы нешта даведаецеся пра пэўную святую рэч, і падкажаце тым, хто на яе палюе, як трэба ўчыніць.

— Калі раптам даведаюся, васпан, падкажу, — холадна запэўніў Марыконі.

— І галоўнае — ні слова пра нашыя намеры нават на споведзі! Лепей да мяне на споведзь прыходзьце! — напаўжартоўна папярэдзіў Вайніловіч.

Калі свечка была затушаная, дзверы кабінета зачыніліся і крокі на калідоры змоўклі, шкаляры наважыліся пакінуць куфар. Пранцысь з палёгкай расцёр знямелы бок...

— Яны ж на ключ кабінет зачынілі! — з роспаччу прашаптаў Міхась. Але Пранціш толькі паблажліва паляпаў малодшага сябрука па плячы... Пасля навукі Лёдніка Вырвіч мог узначаліць банду злодзеяў і шарыцца па дамах, нягледзячы ні на якія засаўкі — праўда, доктар ашалеў бы, каб такое пачуў.

На вуліцы быў холад сабачы... Раптам паваліў мокры снег. Шкаляры подбегам рушылі да інтэрната... Сталі пад дрэвам.

— Ну, слава святому Францыску, абыйшлося! — радаваўся Міхась. — Шабля твая ў цябе, ніхто нас не ўбачыў! Чаго ты кіслы, як капуста?

— Мне не падабаецца справа з Валадковічам... — прыгнечана прызнаўся Вырвіч. — Гэта не высакародна — без суда і закона расстраляць шляхціца.

Дзесьці на Верхнім рынку забрахаў сабака, і яму адазваліся супляменнікі па ўсім горадзе.

— А што табе да Валадковіча? — пацiснуў плячыма Гулец. — Каб перастрэў яго дзесь, думаеш, ён бы цябе дукатамі асыпаў? Лупцаваць бедных шляхціцаў бізунамі, як ён — гэта, па-твойму, высакародна?

Вырвіч уздыхнуў, адчуваючы сябе апошнім дурнем. Але ўжо ведаў, што не можа ўчыніць іначай.

— Трэба яго папярэдзіць.

Гулец ажно падскочыў.

— Ну ты вар'ят! Яго ж і ў Менску няма.

— Можа, праз суддзю... Юдыцкага таго... — неахвотна прагаварыў Вырвіч, успамінаючы непрыемныя хвілі свайго і Лёдніка зняволення, і як Юдыцкі разбіў доктару лоб, і пагражаў праверыць Пранцысева шляхецтва... Але нават дзеля помсты ворагу сармацкія ідэалы прадаваць нельга. Двубой — так... Перайграць ворага, перамудрыць — пачэсна. Схапіць гуртам аднаго ды расстраляць — ганьба! Няхай ён тройчы заслугоўвае. Цяпер Пранціш разумеў, чаму Лёднік збіраўся лекаваць у лесе параненага канваіра, што не перашкодзіла б яму раней ці пазней засячы свайго пацыента шабляй у бойцы. Высакародны чалавек — гэта той, у каго ёсць прынцыпы, якія ён не пераступіць нават дзеля ўласнага выратавання.

Міхась Міцкевіч відавочна не разумеў, чаму атаман раптоўна стаў на бок Радзівілаў, і Вырвіч не стаў яго цягнуць з сабой. Папрасіў толькі скінуць з акна свечку, крэсіва і крэйду.

У Вырвіча намаляваўся цікавы план, які спалучаў салодкую помсту і выкананне сармацкага доўгу. Дом на Падгорнай нездарма быў названы праклятым. Пару гадоў таму жыла там прыгожая паненка, былі ў яе два заляцаннікі, адзін, як водзіцца, стары і багаты, другі — малады і бедны. Паненка ахвотна памяняла б іхнія якасці, што дазволіла б ёй нарэшце вызначыцца, а пакуль тлуміла галаву абодвум. А калі бедны шляхціц пачаў афектавацца, пастанавіла: няхай прынясе ёй асаблівыя лілеі, што растуць толькі ў Нясвіжы, у аранжарэі палаца вялікага гетмана Казіміра Радзівіла Рыбанькі, і аддасць яна ўзамен сваё сэрца.

Добра яшчэ, зорачку з неба не папрасіла.

Шляхціц, аднак, не вагаўся, даскакаў да Нясвіжа і сярод ночы палез у княскі сад. Кветак наламаў, але быў пакусаны сабакамі, злоўлены і прыведзены да самога князя. Нягеглы злодзей шчыра распавёў Казіміру Рыбаньку сваю гісторыю і чакаў пакарання. Але князь расчуліўся, прызнаўся, што й сам зведаў падобныя палкія пачуцці,

і загадаў рамантычнага злодзея адпусціць, аддаўшы яму кветкі са срэбнай вазай у дадатак. І зрабілася б яно ўсё як у казцы, калі б гэта была казка, а не жыццё. Бо закаханы малойчык, прыпёршыся са здабытымі цаной пакусаных лытак кветкамі да каханай, убачыў яе ў абдоймах багатага суперніка, і заставалася яму толькі заесці свой афронт радзівілаўскімі кветкамі. Хлопец, аднак, не меў пры сабе доктара з двума дыпломамі, каб нагадаў яму пра кантроль над дыханнем, і ўз'ятрыўся, як забытае на агні малако. Багацея засек, а каханую схапіў і — разам з ёю — у Свіслач... Так што аранжарэйныя лілеі ўсклалі на свежыя магілкі. Куды падзелася падораная гетманам срэбная ваза — ніхто не апавядаў.

Ну і, натуральна, пайшлі чуткі, што дзеўка стала русалкай і ходзіць, мінакоў зводзіць... Што значыць, пужае ды топіць у Свіслачы. І забойца пры ёй ценем блукае. Сваякі тапеліцы з дома з'ехалі, ніхто не захацеў там сяліцца. А суддзя Юдыцкі, вядомы скупінда, відаць, і пакваліўся на нізкую плату. Але, наколькі Пранціш памятаў, адвагай пан суддзя не адрозніваўся. Так што ў з'яўленне прывіда мусіў паверыць.

Дом быў аднапавярховы, на два канцы, з драўлянымі калонамі на ганку... Каб не памыліцца, дзе начуе суддзя, заставалася толькі кінуць у шыбу камень. Знаёмы віскілвы голас за адным з вокнаў зараз жа аблаяў усіх менчукоў да сёмага калена.

Цяпер засталося вычакаць, і...

Суддзя Юдыцкі сапраўды меў хворую пячонку і праблемы ў ложку, што не дадавала прыемнасці ягонаму характару. Але пры ўспамінах пра тую ноч рабіўся ён жоўтым, як шафран, і злючым, як зграя хартоў, з-пад носа якіх выратаваўся цудоўным чынам кульгавы заяц. Вось ускочыў раптам на аблачынку, ляціць сабе над лесам, рагоча, а яны могуць толькі брахаць яму ўслед...

Да канца свайго судзейскага жыцця не забудзе Юдыцкі, як у акне ягоным мігцеў ненатуральна белы твар, які трохі

нагадваў шкаляра-чарнакніжніка, якога расстралялі гарматамі ў Слуцку разам з д'ябальскай машынай.

— Юдыцкі! Юдыцкі! Святы Франтасій мяне паслаў! — завываў прывід. — Скажы Міхалу Валадковічу, хай не ідзе ў суд, бо загіне!

Суддзя, стоячы на каленях у ложку, спрабаваў маліцца, але ў галаву лезлі толькі артыкулы Статута, датычныя запісаў і продажаў, і круцілася фраза «естлі б які спадок на кого по змерлой руцэ правом прірожоным пріпал».

Жахлівае аблічча раптам знікла, нібыта растала ў начы. Юдыцкі не адразу наважыўся падысці да акна. А калі ўсё-ткі падыйшоў, з запаленай дрыготкай рукой свечкай... Ну не дарэмна ж ён дасягнуў вышынь у судовай справе, якая пры каралях Сасах ператварылася не тое што ў лабірынт, а ў непралазныя нетры, дзе няма ні сцежак, ні дарожак, а з-пад кожнага карча можа скочыць драпежны звер. На лапіку мокрага снегу пад акном, які яшчэ не паспеў растаць, бачыўся ланцуг слядоў, які ніводзін прыстойны прывід па сабе пакідаць не стане.

Крыкі суддзі скаланулі слаўны горад Менск і прыпешылі бег аднаго дзёрзкага і задужа жывога прывіда. Вялікае ягонае шчасце, што замест мокрага снегу зноў лінуў дождж, змываючы сляды. Пранцысь імчаў да кляштара бернардзінак, а галасы пагоні ўжо гучэлі дзесьці на суседняй вуліцы...

— Сюды! — акно на першым паверсе расчынілася. — Трымай!

Пранціш адчуў дотык чагосьці мяккага, не вяроўка — але скручаная тканіна... А караскацца наверх яму не ўпершыню.

— Вось мой Гіпацэнтаўр!

...На асклізлым беразе халоднай Свіслачы, абняўшыся, горка плакалі два прывіды: маладзенькая какетлівая паненка, з валасамі, упрыгожанымі гнілымі стужкамі водарасцяў, і ейны забойца з выедзенымі рачнымі насельнікамі вачыма... Такая спрыяльная ноч для з'яўлення, для пало-

хання даверлівых месцічаў — а тыя месцічы, як пяты ім падсмажваюць, бегаюць проста скрозь празрыстую парачку, не зважаючы ані, толькі сціраюць са сваіх пераляканых фізіяномій нетутэйшую шэрань і шукаюць махляра з перамазаным крэйдай абліччам, як сумленнага прывіда! Вось яна, несправядлівасць жыцця: маскарадныя фігуры ўважаюцца за адзіна праўдзівыя, а адісных жахаў адмахваюцца, як ад павуцінкі бабінага лета! Як жа не заплакаць прывіднымі слязьмі, не зажадаць назаўсёды пакінуць гэты зняверлівы няўдзячны горад, які б мог сваіх прывідаў скарыстаць, напрыклад, дзеля прывабы багатых замежных вандроўнікаў, ахвочых да жудасных цудаў...

І абодва несупакоеныя духі зноў боўтнуліся ў чорныя воды Свіслачы, якая і не такую дрэнь у сябе прымала і яшчэ прыме цягам стагоддзяў.

Пранціш з княжной Паланэяй сядзелі ў цемры, прыхінуўшыся спінамі да цёплага боку грубкі, так блізка адно ад аднаго, што маці Альжбэта асудзіла б абодвух на двухтыднёвае пакаянне. Вырвіч цішком схаваў у кішэню хустачку, ахвяраваную яму княжной, каб сцерці крэйду з твару — файна будзе гэтую хустачку навязаць на шапку, калі давядзецца ісці ў бойку.

— Магчыма, суддзя ўсё-ткі вырашыць, што ты яму прымроіўся, — ціха прамовіла Багінская. — Але рызыкаваць усім дзеля таго, каб выратаваць ворага... Юдыцкі б цябе ў турме згнаіў. Калі ж да майго брата дойдзе, ён палічыць, што ты яму здрадзіў.

— Я не мог іначай.

Паланэя памаўчала.

— Ведаеш, за што мяне ў кляштар саслалі?

— Не...

— За двубой.

Вырвіч пастараўся не выдаць здзіўлення.

— Двубой, па ўсіх правілах. А што? У Вільні дамы б’юцца, у Кракаве, у Парыжы, у Санкт-Пецярбурзе. Жонка спадчынніка расейскага трона Кацярына па некалькі разоў

на год бывае секунданткай у сваіх прыдворных дам. Я выклікала Агнешку Чартарыйскую, сястру свайго жаніха. Адбіла ў мяне першую фігуру ў кадрылі. Кавалера звяла і пасмейваецца яшчэ, лахудра. Кавалер той мне і на прыкуску не варты, але гонар пацярпеў! А галоўнае... Галоўная прычына — яна лічыць, што Багінскія не могуць быць каралеўскай сям'ёй! Мы — толькі прыдворнымі ў Чартарыйскіх, разумееш, можам быць! А брат мой — «мокрая курыца»!

Багінская ўсхадзілася не на жарт. Цікава, астатнія сёстры пана Міхала такія ж амазонкі?

— А на чым вы біліся? — асцярожна папытаўся Пранціш, які чуў, што ў якасці зброі баявітыя дамы часам ужываюць зубы і кіпці.

— А на шпагах! — спакойна адказала Паланэйка. — Я гэтую чапялу адразу ў правую руку параніла, дык яна давай раўсці, як дзіцятка, у якога цацку адабралі. Карацей, шуму... Жаніх у абражаную позу становіцца. Цётухны палацавыя сыкаюць пра заняпад нораваў. І брат сказаў, што з яго хопіць, што шалёныя сястрычкі больш не ўцягнуць яго ні ў якія авантуры, адмовіўся зносіцца з панам Сапегам, сказаў, што ніякай рамфеі не існуе, адны выдумкі... І адправіў да цёткі Альжбэты грахі замольваць.

Багінская ўздыхнула.

— Добра, удалося ўсё зрабіць, як планавалі. Старэйшыя сёстры пастараліся таксама, як маглі, брата настроілі.

Вырвіч, вядома, змаўчаў, што без яго, Пранціша, нічога б у жаночай паловы Багінскіх не атрымалася б.

Калі пераляканыя бернардзінкі, што папрачыналіся ад шуму на вуліцы, памаліўшыся святому Бернару, заснулі, Паланэя праводзіла Пранціша ў скарбніцу.

А на развітанне сказала дзіўным ціхім голасам:

— Слухай... Не хадзі з гэтымі мяшчукамі ў сутарэнне. Не трэба табе.

І нават не адразу адхілілася, калі шарачок Вырвіч пацалаваў яе ў шчочку.

А ў скарбніцы Лёднік і Саламея не спалі. Саламея дарэмна спрабавала супакоіць былога алхіміка і ледзь утрымлівала ад таго, каб выскачыць праз акно альбо палезці ў сутарэнні ў пошуках зніклага шкаляра. Пранцысю нават падалося, што зараз ён атрымае розгамі па тым самым месцы, для якога яны прадназначаныя. На шчасце, розгаў пад рукой не было, а Лёднік займеў такую палёгку, што ягоны былы гаспадар вярнуўся, жывы і здаровы, што гнеў ягоны прайшоўся толькі па вершалінах, як лёгкі вецер.

Затое пры Пранцішы быў ягоны Гіпацэнтаўр! Бутрым, вядома, пабуркатаў пра неразумнага хлапчыску, але Вырвіч так свяціўся гонарам, што доктар не стаў нават спрабаваць ягоны імпэт прыгасіць. Сам зведаў вострае шчасце, калі здабываў невядомыя рэчывы, дыхаючы смяротнымі выпарэннямі.

Затое расповед Вырвіча пра сустрэчу з Юдыцкім доктара ўстрывожыў па-сапраўднаму... Але лаяцца, што Пранціш не павінен быў папярэджваць ворагаў аб небяспецы, Бутрыму і ў галаву не прыйшло. Непакоіла і тое, што пра рамфею даведаліся езуіты — хаця гэта якраз было не дзіўна, з іх усемагутнай шпегаўскай павутой і апантаным збіраннем усіх стражытных таямніц.

Пранціш ляжаў побач са сваёй радавой шабляй і думаў пра Паланэйку. Адважную, як антычная багіня. Яна ж таксама не палічыла дарэмным ягоны ўчынак з Валадковічам і паабяцала захаваць у таямніцы. Больш за тое — шкаляру падалося, што ягоны паход да Юдыцкага выклікаў у яе павагу больш, чым выкраданне Гіпацэнтаўра. Пацалаваць дазволіла... Але ж пры гэтым і не згадвала, што дзесьці ля дзвярэй манастыра, у цёмным калідоры палахлівая Ганулька, а яна ж, падобна, не простая дзеўка, усё чакае вяртання пана Вырвіча, каб упусціць яго ў кляштар.

І Вырвіч, на жаль, ужо не мог не разумець, што калі яны з чароўнай адважнай Паланэйкай сустрэнуцца пасля, на людзях, яна, хутчэй за ўсё, яго проста не пазнае,

або за найвялікшую літасць холадна і ледзь заўважна кіўне галавой з мудрагелістай прычоскай... І нябачны меч зноў праткне сэрца загоннага шляхцюка з блакітнымі вачыма.

## Раздзел чатырнаццаты.
## МІНАТАЎРЫ ПОЛАЦКІХ СУТАРЭННЯЎ

Па дарозе з Менску на Полацак не так шмат заставалася праваслаўных храмаў... А трэба было яшчэ знайсці той, дзе святар праўдзе таемны абрад вянчання ўначы, і ніхто з навакольных вёсак не адсочыць.

Але пан Лёднік, уладальнік свежага патэнту на шляхецтва, падпісанага каралём Аўгустам Сасам і прададзенага за тысячу дукатаў ягоным канфідэнтам графам Брулем невядома каму, упёрся, каб перад небяспечным падарожжам у чарговыя сутарэнні абавязкова асвяціць адносіны з пекнай сяброўкай дзяцінства.

А калі доктар упарціўся, яго можна было забіць, але не адгаварыць.

Свечкі мігцелі, як быццам нейкія мізэрныя істоты, развітваючыся, махалі маленечкімі вогненнымі хусткамі. Цемра па кутах храма ад гэтага здавалася яшчэ цямнейшай, а словы святара пагрознымі... Хаця ён казаў аб вечнай любасці і еднасці душаў. Што Бог з’яднаў, таго чалавек не раз’яднае.

Баўтрамей Лёднік і Саламея Рэніч таксама не выглядалі бесклапотна шчаслівымі, як належала жаніху і нявесце. Яны хутчэй нагадвалі тых, што збіраюцца на смяротную бойку... Хаця так жа і было — паводзіны магнатаў, якія дазвалялі маленькім чалавечкам задавольваць свае капрызы, ды надорвалі іх нечуванымі шчадротамі, прыводзілі на памяць кухараў, што кормяць калядную гусь марцыпанамі, разынкамі ды іншым смакоццем, якое павінна надаць мясу асаблівы прысмак. Вось, калі

ласка — дазволілі палачанам абвянчацца, калі Лёднік запатрабаваў. І Пранцысь, які выконваў ролю дружкі ў свайго былога слугі, здагадваўся, чаму Лёдніку закарцела пашлюбавацца. Каб, калі што, Саламея засталася шляхцянкай, бо жонка пераймае званне мужа. Гэтае «калі што» Вырвічу не падабалася.

Над Саламеяй трымала вянец палахлівая прыслуга панны Багінскай. Ганулька час ад часу кідала на Пранцыся ўстрывожаны позірк, але Вырвіч рабіў выгляд, што гэтага не заўважае. Цені рабілі твар Лёдніка зусім змрочным, і Пранціш па-ранейшаму не мог уцяміць, што ў абліччы доктара прыцягвае жаночыя пагляды. Куртуазны мужчына мусіць быць з акуратнымі светлымі кудзерамі, яснавокі, з усмешкай на вуснах і румянасцю на шчоках. І ўжо ніяк не такі дзюбаносы...

Саламея, у простай светлай сукенцы, павярнулася да жаніха, і трошкі-трошкі ўсміхнулася, ямінка ўтварылася толькі на левай шчацэ, і за гэтую ямінку кожны не сляпы мужчына гатовы быў бы аддаць... ну калі не жыццё, то ўсё іншае. За што доктару дасталася такая кабета? Барон Герман Ватман, відаць, падумаў пра гэта ж, бо гучна ўздыхнуў і выйшаў з маленькай царквы ў глухой вёсачцы між Менскам і Полацкам.

...І ложа, і пошасць адны на дваіх...
І сутарэнні.

На паліцах полацкай аптэкі грувасціліся шклянкі і сасуды так цесна, што між імі нельга было й палец прасунуць. Што цямнела ў некаторых шкляніцах, скруціўшыся ў колцы, віючыся бурымі водарасцямі, Вырвіч нават ведаць не хацеў. А востры пагляд светлых, як блакітны лёд, вачэй аптэкара Лейбы не дадаваў утульнасці, бо здавалася, што аптэкар бачыць наскрозь твае смешныя недахопы, і паблажліва над імі пасмейваецца. Зразумела цяпер, дзе Лёднік набраўся з'едлівасці. Хаця не, у спадара Лейбы

была не з’едліваць, а хутчэй мяккая насмешка — і над светам, і над сабой, змяшаная з сумам і спрадвечным фаталізмам. Быццам чалавек раз назаўсёды сабе сказаў: я ведаю, што вакол дрэнь, але ж я нічога не змяню, таму застаецца толькі горка пасмяяцца.

Але на Лёдніка і Саламею аптэкар паглядаў з расчуленымі слязьмі.

— Бутрым! Дзіцятка! Ты жывы! І ты, дарагая мая! Гасподзь заступіўся, няйначай! Прабач, прабач старога баязліўца — я не змог за цябе толкам заступіцца... Хто я такі? Прыкрыкнулі, і ў мяне язык прыліп да зубоў... А на цябе, бедная дзяўчынка, абрынуліся такія сілы, што я думаў — усё... Не пабачу болей твайго анёльскага аблічча... Божа вялікі, Божа усемагутны... Заступіўся!

Аптэкар доўга абдымаўся з Саламеяй і Бутрымам, потым хітра пасміхнуўся:

— Як я рады, што вы разам. Нарэшце ты, Бутрым, уцяміў, што найчысцейшае золата не ў тыглі, а побач, у чароўным вобліку Саламеі Рэніч.

— Яна — пані Лёднік, — важка прамовіў Бутрым. І Лейба ледзь не расплакаўся, прыгаворваючы, які шчаслівы быў бы ягоны сябар Іван Рэніч, каб толькі мог дажыць да гэтай хвілі. Потым акінуў позіркам даволі сціплыя ўборы былых вучняў і асцярожна ўдакладніў:

— Ты сказаў, Бутрым, яна — пані? Гэта значыць, ты надта высока ўзляцеў, хлопчык?

— Паветраны змей на вяровачцы таксама ўзлятае высока, дзядзька Лейба,— стрымана адказаў Бутрым, і аптэкар перавёў разумны позірк на вокны, за якімі на тле бляклай зімовай раніцы цямнела высокая постаць Германа Ватмана, а дзесьці яшчэ і хаваліся жаўнеры Багінскага. І Вырвіч падумаў, што аптэкар увогуле разумее куды больш, чым паказвае. І наконт Пранціша таксама, якога доктар прадставіў як «высакароднага пана Вырвіча», што меў ласку прытуліць былога алхіміка ў цяжкую часіну.

— Значыць, твае прыгоды не скончыліся, Бутрым... — з асуджэннем прамовіў аптэкар і ад засмучэння нават смешна тузануў сябе за сівыя з рэшткамі рудога колеру пасмы, што звісалі з-пад чорнай шапачкі. — А я спадзяваўся, што ты ўзяўся за розум! Калі даведаўся, што ты да Марціна Радзівіла падаўся, проста пашкадаваў, што больш ніхто не можа адцягаць цябе за валасы, каб не лез, куды не трэба. Як я пачуў, што высакародны юрад вырашыў, што габрэі валодаюць рознымі пажаданымі яму сакрэтамі, ды пачаў кабалу вывучаць, рабінаў да сябе нацягаў — нароўні з алхімікамі ды рознымі махлярамі, мне страшна зрабілася... Ты ж сам мусіў бачыць, ён загадваў гатаваць нашыя стравы, пасвячаць яго ў таемствы, як ён гэта разумеў... Нашага рабі таксама па ягоным загадзе ў Чарнаўчыцы вазілі. Хіба можна гуляцца ў веру! Хіба можна падмануць Бога, хай сотні ліслівцаў табе кажуць, што ты — святы і мудры, як Саламон! Цьху... А ты і такія, як ты, у гэты ж час выклікалі яму духаў, паказвалі свет мёртвых ці завоблачныя гарады, здабывалі з медзі золата ды прарокавалі вар'яту сусветную ўладу... А пасля зноў ва ўсім звінавацілі габрэяў!

Аптэкар асуджальна патрос галавой.

— Бутрым сам пацярпеў, дзядзька Лейба, — ціха прагаварыла Саламея. — Ледзь жывым адтуль выйшаў... Ён адмовіўся ад алхіміі і ўсялякай магіі.

— Але наступствы сваіх учынкаў разблытваць даводзіцца доўга... І, на жаль, не толькі самому, — змрочна прагаварыў Лёднік.

— Баюся, тое, што адбываецца з намі цяпер, наступствы не столькі тваіх учынкаў, Бутрым, як майго бацькі, — скрушна ўздыхнула Саламея.

— Вось яно што... — раздумліва прагаварыў Лейба, зноў кінуўшы хуткі позірк за акно, потым чамусьці на Пранцыся. — Давайце пройдзем у пакой, пасядзім, пагамонім...

Аптэкар запрашальна махнуў рукоў у бок дзвярэй ва ўнутраныя пакоі дома. Лёднік затрымаўся ля паліцаў,

пакратаў шклянкі, нават пагладзіў пяшчотна маленькі столік у самым куце...

— Так, Бутрыме, менавіта тут ты вучыўся таўчы зёлкі... — усміхнуўся Лейба. — Хто б мог падумаць, што з маленькага цікаўніка вырасце сапраўдны дыпламаваны доктар...

— Дзядзька Лейба, — Бутрым кіўнуў на паліцы, — нашто ты трымаеш усялякія бескарысныя рэчывы — настой на крылах кажаноў?

Гаспадар хітра пасміхнуўся.

— Пакуль іх замаўляюць і купляюць, буду трымаць. А чаму не? Шкоды ад такіх рэчываў няма, а карысць у выглядзе жывых грошай ёсць. Да таго ж, хлопец, ты так і не засвоіў, што хвораму дапамагае толькі тое, у што ён верыць, няхай гэта будзе чыстая вада.

Лёднік няўхвальна нахмурыўся, але ўчыняць дыскусію не стаў.

Пакой быў маленечкі, асвятляўся не свечкай, а алейнай лямпай, і дыхаць тут было цяжка ад папяровага пылу: усе сцены завешаныя паліцамі з кнігамі, ад таўсценных фаліянтаў да папірусных скруткаў. Вырвіч падазрона агледзеўся вакол: яму не даводзілася быць у гасцях у габрэяў, увогуле было дзіўна, як Лёднік і Саламея вольна і паважліва абыходзяцца з аптэкарам, і ён да іх са шчырай прыязнасцю... Лейба заўважыў ягоны позірк:

— Няхай прабачыць ваша мосць сціпласць майго жытла. Але тут вам нішто не пагражае. Паверце, часам на мяне гэтак жа скоса паглядалі мае адзінаверцы за сяброўства Іванам, як і на яго — ягоныя... Проста ў кожным народзе ёсць свае дурні і свае мудрацы, здраднікі і героі, правадыры і дзівакі... Ліхвяры браты Іцкавічы, з-за якіх Крычаў паўстаў, абіралі ўсіх, нягледзячы на веру. Гэтак жа, як і другія арандатары — ліцвіны, браты Ваўкавыцкія, што тых жа крычаўцаў мардавалі. А мы з Іванам Рэнічам былі менавіта дзівакамі. Ён — сярод сваго народу, я — сярод свайго... А дзівакі, якія

прагнуць ведаць куды больш, чым дазваляюць звычаі, нікому не падабаюцца, над імі смяюцца, іх баяцца... Затое яны могуць пазнаваць адно аднаго па ўсім свеце, і сыходзяцца на шляху да спазнання, на якім няма розніцы нават між шляхціцам і мяшчуком, няхай прабачыць мяне вашая мосць, але розніца толькі ў глыбіні і смеласці думкі.

— Не кожныя веды ўхваляе Гасподзь, — цвёрда прамовіў Лёднік. — Не ўсё, што мы спазнаем, ідзе на выратаванне душы.

— Табе лепей ведаць, «бедны Фаўст», — нечакана жорстка сказаў аптэкар і адкінуўся на высокую драўляную спінку крэсла. — Чуў пра тое, што Іван так цябе называў? Пісалі мне з Прагі, у якія кампаніі ты хадзіў... Добра, што спыніўся. Але сюды вы прыйшлі менавіта за небяспечнымі ведамі, ці не так?

— Так, дзядзька Лейба, — Саламея кінула пагляд на Баўтрамея, нібы хацела набрацца ад яго смеласці. — Мы павінны пайсці туды, куды... хадзіў бацька. Я знайшла ў ягоных рэчах вось гэты ключ.

Цяжкі, пацямнелы, грубай работы ключ лёг на стол. Усмешка знікла са светлых вачэй аптэкара, ён строга падціснуў вусны, памаўчаў.

— А твой бацька хацеў бы, каб ты зрабіла тое, што збіраешся?

Пані Лёднік апусціла галаву ў кароне цёмных кос, якія па-добраму павінны былі б, як у замужняй жанчыны, хавацца пад наміткай — але ў маладых не ставала ні часу, ні сіл пільнавацца звычаяў...

— Ён не хацеў бы гэтага, дзядзька Лейба. Але ў мяне няма выбару. Я прысягнула, што гэта зраблю... Імем свайго Госпада. У абмен на жыцці дарагіх мне людзей...

— І на сваё жыццё, ці не так? — запытаўся-сцвердзіў аптэкар. — Вось чаму цябе адпусцілі...

— Мы не дамо, каб з паннай Саламеяй нешта кепскае здарылася! — горача запэўніў Пранціш. — І нічога ганебнага не ўчынім.

— А што лічыць ганебным, а? І як сувымяраць ахвяру і карысць ад яе? — нявесела ўсміхнуўся Лейба. — Калі цар Давід паслаў свайго ваеначальніка Урыю на пагібель, ён кіраваўся самым высакародным пачуццём — каханнем. А ганьба якая атрымалася — ледзь адмаліўся. Але ад шлюбу Давіда з удавою Урыі, дзеля якой і ўчыніў цар злачынства, нарадзіўся мудрэц Саламон... Значыць, Урыя загінуў не дарэмна, а? І грэх Давіда пайшоў на карысць?

Вырвіча ажно дрыжыкі працялі: ён зразумеў, што стары аптэкар блюзнерыць па канонах усіх рэлігій... Ці не блісне тут зараз маланка Божага гневу?

— Мы пакладземся на волю Божую, — цвёрда прамовіла Саламея.

— Усё роўна нас у спакоі не пакінуць, дзядзька Лейба, — ціха прагаварыў Бутрым. — Не дадуць ні ўцячы, ні схавацца. А так ёсць шанец, што хоць хтосьці з нас выжыве.

Лейба моўчкі павярнуўся і выйшаў у суседні пакой, шчыльна прычыніўшы за сабой дзверы. У слоіку, які стаяў на ніжняй паліцы між фаліянтамі, у каламутнай вадкасці, раптам заварушылася нешта, і зноў замёрла, толькі ў пыльным паветры растаў такі гук, як бы хто кінуў у глыбокую студню камень.

— Твой бацька пакінуў разгадку шляху да хрысціянскай святыні тут? — не вытрымаў Пранціш, звярнуўшыся да Саламеі. Тая пацiснула плячыма, прашаптала:

— Бацька давяраў дзядзьку Лейбу. Да таго ж тут ніхто б не надумаўся шукаць, нават езуіты.

Аптэкар вярнуўся, трымаючы ў руках куфэрак цёмнага дрэва. Пранціш чакаў пабачыць там што заўгодна — але не тое, што дастала Саламея: клубок тонкай вяроўкі, завязанай вузельчыкамі.

— Што ж, адгаворваць вас — марнаваць свой час, а яго ў мяне не так шмат засталося да сустрэчы з прабацькам Абрамам... Мала я нацярпеўся за апошнія тры гады, дзякуючы Івану... І зноў праклятае сутарэнне мяне

дастае. Каб ім Левіяфан скарыстаўся ды абрушыў добра. І калі думаеце ісці? — змрочна прагаварыў Лейба.

— Зараз жа! — выкрыкнуў Вырвіч, паклаўшы руку на Гіпацэнтаўра.

— Вашая праўда, высакародны пан, адцягваць імгненне, калі ўпадзе на цябе падвешаны на валасіне меч — працягваць свае пакуты... — паківаў галавой аптэкар. — Усё, што я магу — праводзіць вас да ўваходу, як Харон.

Вырвіч чакаў, што ўваход у полацкія сутарэнні акажацца дзесьці ў рамантычным, святым месцы... Але выявілася, што ён... у пограбе полацкага аптэкара Лейбы.

Той проста аднойчы зайшоў туды пасля вясновае паводкі, калі падземныя воды прабівалі ў вільготнай зямлі свае капрызлівыя шляхі, і... праваліўся. Ледзь выкараскаўся наверх. Аказалася, дзед Лейбы, які скарыстаўся з літасцівага дазволу вялікага князя сяліцца юдэям у местах і займацца рамяством, выкапаў пограб рыхтык над падземным шляхам. Сам Лейба больш туды не спускаўся, і хутчэй за ўсё заваліў бы страшны прагал і дзверы ў пограб забіў цвікамі... Ясная справа, сутарэнні звязаныя з храмамі, а калі хтось вырашыць, што габрэй тайна спрабаваў пранікнуць у хрысціянскую святыню!.. Не, лепей далей ад граху... І так жывеш між вострымі лязамі...

І забылася б усё, каб не Іван Рэніч, з якім Лейба падзяліўся бядой. А кнігар куды толькі свой цікаўны нос не саваў у пошуках таямніцаў! Полацкія сутарэнні былі ягонай улюбёнай загадкай. Па тым ходзе, што пачынаўся пад царквой святой Параскевы, яму ўдалося дайсці толькі да першага павароту — далей быў земляны завал. У сутарэннях Святой Сафіі — тое самае, абрынулася скляпенне. Калі езуіты будавалі касцёл Святога Стафана, таксама на падземныя хады напароліся — і Рэніч тут як тут, круціцца пачаў, выведваць. Але ход, каменны, вышынёй як руку падняць, аказаўся затоплены.

А ў пограбе аптэкара нечакана адкрыўся прагал у некранутую частку сутарэнняў.

Што Іван Рэніч там знайшоў — Лейбе не расказваў, але калі ён першы раз адтуль выбраўся, нібы ў смяротнай бойцы пабываў — збіты, брудны, ды яшчэ кульгавы... Гэта, аднак, ахвоту не адбіла, Рэніч пачаў цягацца ў пограб, як на працу. Перапыняўся толькі, каб залячыць раны, аднойчы нават руку зламаў у земляных нетрах. Колькі свечак звёў, вяровак! А заадно перачытваў летапісы, дабіўся доступу, да захаваных парэшткаў архіваў Сафійскага сабора, апытваў старых людзей, што яны чулі...

Аптэкар не ў сваю справу не лез. Напачатку, вядома, спрабаваў прыяцеля ад згубнага захаплення выратаваць. Але пераканаўся, што прывесці да розуму кнігара ніяк не выпадае, і калі перакрыць яму ход у сутарэнні, можа ўвогуле нарабіць глупства і яшчэ бяду на гаспадара пограба наклiча. Рэніч нават грошы пачаў суседу за кожны свой візіт на ягоны двор плаціць, абы не звягаў. Тады Лейба выдаў апантанаму ключ ад праклятага месца і пастараўся забыцца на дзірку ў прорву. Больш, уласна кажучы, туды нават не падыходзіў, дзякуй прабацьку Абраму, пограб на заднім двары.

Але небарака нават спаць па начах перастаў. І кожны раз, як Рэніч залазіў у пограб, садзіўся за малітву... А што, калі гэты апантаны не вернецца, не выберацца? Прыйшоў сумленны хрысціянін у дом да габрэя і знік! Капцы тады і аптэкару, дый усе габрэі места пацерпяць.

Праз год Рэніч заззяў, як новы талер. Аднойчы паказаў пару старадрукаў, не сказаўшы, адкуль узяліся... Лейба не быў такім абазнаным, як сябар, у кніжнай справе, але зразумеў, якая каштоўнасць перад ім, і здагадаўся, адкуль такое багацце. Бібліятэка Сафійскага сабора, згубленая падчас Інфлянцкай вайны, падобна, дачакалася свайго адкрывальніка.

Але таямніца выглядала дастаткова небяспечна, каб не ўзнікала жадання яе раздзяляць. Лейба цалкам уяўляў, колькі ахвочых да падземных скарбаў маецца, і што яны могуць зрабіць з іх уладальнікам. Да таго ж і Рэніч узяў з аптэкара слова, што той не толькі захавае таямніцу

пограба, сам туды не сунецца, але й нікога не пусціць, бо справа небяспечная, ніхто адкуль жывым не вернецца.

Але сам Рэніч язык на замку трымаць быў не здатны... Вось і пайшлі чуткі пра новага захавальніка полацкіх скарбаў, якога абралі прывіды сутарэнняў. Хтось круціў пальцам ля скроні, хтось пераходзіў пры сустрэчы з кнігаром-чарнакніжнікам на другі бок вуліцы... Добра, што нікому і ў галаву не прыйшло б, дзе ўваход у таемнае сховішча. Ну, ходзіць раз на тыдзень кнігар да аптэкара ў госці... Кнігі вывучаюць.

Але, напэўна ж, дабраліся б да Рэніча ў хуткім часе аматары скарбаў... Езуіты пачалі ўжо паціху распытваць суседзяў ды прыслугу, чым займаецца кнігар акрым таго, што кнігі прадае, дзе бывае. Ад полацкага ваяводы Сапегі выведнікі прыходзілі... А ягоная мосць Марцін Радзівіл нават асабіста прыехаў — і наўрад зміры́ўся б з адмовай. Добра, Іван Рэніч змог нешта такое князю нагаварыць, што той згадзіўся пачакаць. Саламея памятае, што бацька пачаў нервавацца і нешта казаць пра пераезд у Прагу.

Але прыйшла пошасць. Кнігар паспеў яшчэ перадаць на захаванне сябру куфэрак з клубком і купіць у яго лекаў...

Яны глядзелі ў чорны прагал. Адтуль цягнула вільгаццю і цвіллю. Ватман сплюнуў уніз:

— Пограб, у якім няма віна, не варты й ладункі без пораху.

Князь Багінскі нервова ўскінуў галаву.

— Хопіць разглядацца! Калі баіцёся, магу паслаць з вамі людзей.

Саламея, апранутая ў мужчынскае адзенне, — неверагодна прыгожы юнак атрымаўся,— цвёрда зірнула на князя:

— Гэта немагчыма, ваша мосць. Дзверы адчыняюць двое... І добра, калі за імі след у след паспее прайсці па чалавеку.

— Так, ці не так — не думай, што вам удасца перахітрыць нас, схавацца, жорстка прамовіла сястра князя Алена, хутаючыся ў футра-ваўчуру. — Нашы людзі па ўсім горадзе.

Паланэя Багінская стаяла ў дзвярах пограба, бо прайсці ўнутр не было ўжо як, дзіўна ціхая, у белым футрачку і блакітнай шапачцы з белай апушкай, і здавалася зусім дробнай у параўнанні з багатыркай-сястрой. На Вырвіча нават не паглядала.

— Я не збіраюся хавацца, ваша мосць, — адказала Саламея. — Я прысягнула... Здрадзіўшы памяці бацькі.

Голас яе здрыгануўся. Лёднік трывожна паглядзеў на жонку і папытаўся ў Багінскага:

— Ваша мосць, а калі рамфею здабыць не ўдасца? Калі гэта проста будзе не ў сілах чалавечых? Прашу ў такім выпадку вашай літасці да маёй жонкі.

— Без рамфеі лепш вам не выходзіць з-пад зямлі, — адказала за брата Алена Багінская. Але Міхал пакрывіўся:

— Ну нашто так... Жанчыну мы ашчадзім, даю слова.

— Не хвалюйцеся, ваша мосць, — мякка прамовіў Ватман, і ў гэтай мяккасці была моц смяротнай атруты. — Я за ўсім прасачу.

Пры гэтых словах Паланэя раптам кінула на Вырвіча нейкі дзіўны позірк, і той адчуў, як яго сэрца абрынулася ўніз з салодкім болем, быццам скакаў з абрыву ў ваду. Яна трывожыцца за яго! Рука сама намацала ў кішэні перапэцканую крэйдай хустачку, якая ўсё яшчэ захоўвала водар вярбены і памаранчу.

У святле ліхтара здавалася, што яны знаходзяцца ў пашчы цмока. І не хацелася нават думаць пра далейшы шлях, і да чаго ён будзе падобны. Калісьці, напэўна, гэта былі вельмі прыстойныя, дыхтоўныя сутарэнні, па якіх можна было хадзіць у параднай чузе, горда задраўшы галаву і цыкаючы на запалоханых прывідаў, якія ведалі сваё месца і пакорліва хаваліся ў шчылінах між каменнямі. Цяпер жа ўрачыстага праходу не атрымлівалася: там-

сям кладка абвалілася, і на падлозе ляжалі завалы з глею і цаглянага друзу, і цалкам зразумела было, чаму пані Лёднік апранула нагавіцы, яшчэ раз пацвердзіўшы, што вучоная жанчына — абраза для прыстойнага грамадства. Праўда, заўважалася, што шлях праз гэтыя завалы загадзя вызвалены, бачыліся нават сляды ад колаў маленькага вазка. Тут праходзіў Іван Рэніч, і страшна ўявіць, колькі яму давялося корпацца, і якім апантаным трэба было быць, каб гэтую справу не кінуць.

Праўда, праз нейкі час шлях стаўся вальнейшым... Цяпер было проста вусцішна. Асабліва калі дайшлі да скрыжавання, ад якога адыходзіліся аднолькава няўтульныя адгалінаванні направа і налева. Саламея дастала недарэчны клубок, адматала да першага вузельчыка, заціснула яго ў руцэ.

— Налева.

Вось яно як... Пранціш здагадаўся, што Іван Рэніч з дапамогай адмысловых вузельчыкаў пазначаў, куды павярнуць. З цікавасці Вырвіч прыстроіўся блізка да Саламеі, каб сачыць, якімі менавіта вузельчыкамі Рэніч абазначаў павароты направа, налева і просты кірунак. Трэба ж, сам кнігар такое вынайшаў альбо ў кнігах вычытаў? Бо ў гэтых лабірынтах без усялякіх пазнакаў немагчыма было ні дайсці некуды, ні выбрацца. Вырвіч з прыкрасцю мусіў прызнацца сабе, што і ён дакладна заблукаў бы.

А Ватман нават не хаваўся — падыйшоў, памацаў вяровачку ў руках панны, не зважыўшы на злосны пагляд Лёдніка, перапытаўся пра вузельчыкі, ухвальна пацокаў языком.

Найміт быў узброены, як на вялікую вайну. Пры баку — турэцкая серпанціна, на другім баку — чакан. За халявамі, напэўна, кінжалы... А вось Лёдніку і Пранцішу дазволілі ўзяць з сабой толькі шаблі, і тое таму, што Пранціш упёрся. Найміт запэўніў, што абароніць спадарожнікаў, калі што, найлепшым чынам, а лішні цяжар у падарожжы замінае.

Час ад часу на галовы пачынала ліцца халодная вада. Пару разоў падзьмула свежае паветра — каб свечка не была абароненая шклом ліхтара, згасла б. Здаралася, пад нагамі адкрываліся прагалы — але прыкрытыя дошкамі, відаць, прыцягнутымі Іванам Рэнічам.

Яны ішлі і ішлі... У цёмных адгалінаваннях, у якія яны не зварочвалі, мроіліся прывіды, нечыя чырвоныя вочы, і здавалася, зараз адтуль нехта выпаўзе, кінецца... Але кідаліся толькі пацукі. Яны прабягалі проста пад нагамі, нібыта аслеплыя і аглухлыя, не маючы аніякага страху перад прыхаднямі, ды ім і не варта было баяцца — бо тут у іх быў свой горад, са сваім каралём, мільённай арміяй, сваімі законамі і звычаямі. І, магчыма, тыя, што выбягалі на святло, былі выведнікамі, шпегамі, і зараз дзесьці ў пацучыным палацы вайскаводцы з белымі, сляпымі ад вечнай цемры вачыма прымаюць рашэнне, як найхутчэй, з якой падлючай хітрасцю загубіць пачвараў, што прынеслі ў іхняе царства агонь і надземную хцівасць.

Нарэшце шлях перагарадзіла сцяна са шчыльна прыгнаных адно да аднаго каменняў. Тупік? Саламея скруціла клубок да канца і перадала шкаляру.

— Беражыце, пан Вырвіч. Вы ж запомнілі, як вытлумачваць які вузельчык?

— Мы што, заблукалі? — падазрона папытаўся Ватман, як бы між іншым паклаўшы руку на дзяржальна шаблі і слізгаючы навакол позіркам. Стары ваяр у кожным тупіку не можа не чакаць нападу.

Пані Лёднік нават не адказала. Яна засяроджана глядзела пад ногі. Замест брукаванкі тут былі шырачэзныя каменныя пліты, якія нагадвалі надмагільныя. Па шырыні праходу іх змяшчалася чатыры. На апошніх плітах, што ўпіраліся ў сцяну, якая перагарадзіла шлях, можна было ўгледзець амаль сцертыя літары, Вырвіч разабраў толькі словы «бліжняга свайго». І яшчэ адна дзіўная рэч: каля левай сцяны на нягегла збітым вазку тырчэў абрубак дрэва, камель амаль з чалавека. Да вазка была прывяза-

ная вяроўка. Не падобна, што гэта прыцягнулі сюды стагоддзі таму... Значыць, прынёс бацька Саламеі. Цікава, навошта? Сцены тараніць?

— Пан Ватман і пан Вырвіч, я папрашу вас адысці падалей. Вось так, дастаткова. І не рушцеся з месца, пакуль я вас не паклічу. А ты, Бутрым, перадай ліхтар пану Ватману.

Голас пані Лёднік быў такі ўладны, што ніхто не стаў ні пярэчыць, ні перапытваць. Саламея павярнулася да мужа.

— Стань вунь на тую пліту...

Доктар паслухмяна адыйшоўся ў самы кут. Саламея апынулася насупраць, у правым куце... Цяпер між імі былі дзве пліты. Гэта было падобна на тое, як расстаўляюць фігуры ў гульні пад назвай шахматы: Вырвіч яе так і не засвоіў, але бачыў, як багатыя хлапцы са старэйшага курса важна перасоўваюць фігуркі, выразаныя са слановай косткі і аздобленыя срэбрам, па клетках драўлянай дошкі. Пранціш памятаў, што большасць фігурак абавязкова будзе «з'едзена» іншымі.

На хвілю запанавала ціша.

Далейшае адбылося так імкліва, нібыта пракаветны скандынаўскі бог Тор уваліў кавальскім малатком па гадзіне так, што яна сплюснулася, вытанчылася да аднаго імгнення. Пліта, на якой стаяла Саламея, раптам правалілася, і тая, што побач, пачала правальвацца... Лёднік адразу ж скочыў за жонкай, і пад яго цяжарам другая пліта абрынулася ўніз, ніхто не паспеў нават ускрыкнуць.

Вырвіч і Ватман кінуліся да прагалу, усведамляючы, што безнадзейна спазніліся... Але жахлівай прорвы не пабачылі — наадварот: пліты павольна падымаліся наверх, пераляканы доктар (а Пранціш упершыню бачыў доктара пераляканым) трымаў у абдоймах Саламею, а на вуснах той лунала мройная, трохі сумная ўсмешка... І разам з тым, як пліты пакрысе вярталіся на свае месца, у глухой сценцы, што перагарадзіла шлях, пачала ўтварацца роўная шчыліна, якая са скрыгатам — камень аб камень —

пашыралася, нібыта нехта рассякаў, рассоўваў мур волатавым мячом.

— Хутчэй! Дзверы зараз зачыняцца! — крыкнула Саламея і пацягнула Лёдніка за руку ў чорную шчыліну. Вырвіч і Ватман рушылі за імі... Як толькі вандроўнікі забеглі ў таемныя дзверы, страшэнны грукат за спінамі засведчыў — праход зачыніўся.

Ватман высока падняў ліхтар, які не выпусціў з рук, нягледзячы ні на што. Яны апынуліся ў пакоі, дзе, аднак, не было ні бібліятэкі, ні рамфеі — толькі фрэскі на сценах. Ясна, што дужа старыя, але нават у цьмяным святле ліхтара бачылася — фарбы не страцілі яркасці. Пранціш пазнаў выявы Барыса і Глеба, Хрыста Пантакратара і нават святога Вацлава. Надпісы на сценах віліся стараславянскай вяззю. Яшчэ адна дзіўната — складзеныя ў куце глыжы, нібыта маленькі курган, пад якім была пахаваная нейкая мізэрная істота.

— І як жа назад? — падазрона папытаўся Ватман. Саламея няўважна махнула рукой:

— Назад прасцей... Націснуць адначасна абедзьвюма рукамі вунь на тыя камяні, што выпіраюць са сцяны.

— Гэта на знак, што нічога з сабой не выносіш, — насмешна і раззлавана патлумачыў Лёднік, які яшчэ не ачуняў ад перажытага, бо вочы ў яго ажно гарэлі чорным гнеўным агнём. — Дойліды, аднак, страшнаватыя жарты тут пакінулі. Ты што, папярэдзіць мяне не магла? Абавязкова было, каб я перажыў тваю смерць?

Саламея вінавата апусціла вочы.

— Абавязкова. Так рабілі ўсе, хто прыводзіў сюды неафітаў. Прабач, але бацька сказаў, каб я, калі прыйду сюды першы раз, учыніла ўсё па правілах. У сутарэнні могуць прайсці толькі чыстыя сэрцам, а людзі, якія гатовыя ратаваць адзін аднаго цаной уласнага жыцця, зусім кепскімі быць не могуць.

— Значыць, калі б я не скочыў за табой... — у голасе доктара ўсё яшчэ чуўся гнеў.

— Дзверы б не расчыніліся. Мы б не загінулі, але і не прайшлі б далей, — спакойна патлумачыла Саламея.

— Чакайце, — захваляваўся Пранціш. — А як жа Іван Рэніч адзін сюды хадзіў?

— Рэніч быў вынаходнікам, — змрочна прамовіў Лёднік. — А я думаў — нашто яму сюды прыцягваць тое бервяно? Неяк ён даведаўся пра сістэму з плітамі. Націснуць напачатку адначасова на дзве крайнія пліты. А калі крайняя правая пачне апускацца — перамясціць вагу з крайняй левай пліты на другую справа. І прыводзіцца ў дзеянне механізм, які адчыняе праход. Вось і ўся ахвярнасць. Не містыка, а механіка.

— Для таго і патрэбныя таямніцы і таемствы, каб не зводзілася ўсё да простай механікі, — раздражнёна адказала Саламея.

— Можа, пані адразу патлумачыць, якой халеры нам яшчэ чакаць? — ветліва папытаўся Герман Ватман. — А то ад нечаканасці хтось сплюгуе свае нагавіцы, зганьбіць святое месца.

Пані Лёднік ганарыста адкінула галаву.

— Вы не ў шынку, каб замаўляць стравы на свой густ. Я звязаная прысягай не толькі з панам Багінскім. Проста рабіце тое, што я вам кажу.

— Ніколі не слухаўся кабетаў, — прабурчэў Ватман, але змоўк. А Саламея прайшла ў далёкі канец пакоя, да сцяны, таксама распісанай фрэскамі. Там быў адлюстраваны Страшны Суд. Асабліва палохалі бясконцыя натоўпы грэшнікаў, дробных, з мезенец, якія сыходзілі ў вогненнае мора, на пакуты... На маленькіх невыразных тварах бачыліся раскрытыя ў адчайным крыку раты. Унізе фрэскі віўся надпіс: «Житейское море, воздвизаемое зря напастей бурею, к тихому пристанищу Твоему притек, вопию ти: возведи от тли живот мой, Многомилостиве».

Ватман падыйшоў блізка да сцяны, памацаў яе, абгледзеў, падымаючы ліхтар ва ўсе бакі, але ніякай шчыліны, што паказвала б на схаваныя дзверы, не знайшоў. Затое

падлога таксама была складзеная са знаёмых каменных плітаў, і найміт асцярожна адступіў назад.

— Там выпрабоўвалася любоў да бліжняга. Тут выпрабуецца вашая вера ў Госпада, — ціха прамовіла Саламея. — Калі мы прымаем святое хрышчэнне, то адракаемся ад нячыстае сілы, тройчы плюем у бок ейнай агіднае выявы...

— О, мы павінны пляваць? — абрадваўся Ватман. — Гэта я магу! Як саломіну паламаць, даплюну куды скажаш. І шкаляр тут мусіць быць спрактыкаваны, праўда? Мы ў школе, памятаю, праз сцябліны трыснягу так сухім гарохам пляваліся! Вось з доктарам праблемы... Надта чапурысты, пачне пляваць — яшчэ ўласнай слінай атруціцца.

Лёднік хацеў ужо нешта рэзкае сказаць, але Саламея сама раздражнёна перарвала жартаўніка.

— Не варта смяяцца над продкамі, якія не маглі пераўзысці нас у цынізме, а нам здаецца — што ў розуме. Той, хто хацеў увайсці ў месца, дзе захоўваюцца святыя хрысціянскія рэчы, мусіў кінуць камень у выяву нячыстага, вось там. Манахі верылі, што чалавек, які мае зносіны са злом, не зможа гэтага зрабіць.

Сапраўды, у куце фрэскі, там, дзе было намалянае пекла з лесам вогненных языкоў, бачылася паскудная выява з рагамі і пысай, падобнай да пысы дзіка, трохі аблезлая — відаць, менавіта ад шпурляння, а можа і плявання, у яе. Вырвіч паслухмяна пайшоў па глыжы — цяпер зразумела было, нашто ў куце гэтая кучка... А Ватман падміргнуў Лёдніку:

— Механіка, кажаш, доктар? Значыць, калі падумаць, усё гэтае пляванне-шпурлянне, выпрабаванне праўдзівасці веры мае на мэце адно: націснуць на тое месца мура, дзе намаляваны Люцыпар, ды ўлучыць чарговую машыну. Пасля падарожжа ў жалезным цмоку мяне нічога не здзівіць.

Ватман лена наблізіўся да сцяны, узважваючы ў руцэ чакан, і дзюбнуў тупым канцом проста ў пысу нячыстай

сілы. Усяго адзін раз. Але ў паганым аблiччы адразу ўтварылася выбоіна, а падлога пад нагамі зрушылася. Шукальнікі скарбаў адскочылі ад сцяны... Пліты паволі апускаліся, адкрываючы ход уніз. Ватман пасвяціў у чорны прагал ліхтаром:

— Прыступкі! Ну што, спускаемся, ці яшчэ якія фокусы трэба ўчыніць?

Угневаная Саламея моўчкі адсунула Ватмана ўбок і палезла ў ход.

За сцяной, аднак, зноў не аказалася бібліятэкі. Вузкі доўгі пакой без акон, без дзвярэй, аднак паветра чамусьці свежае, ясна, што ёсць галаснікі, звязаныя з паверхняй. Тут уся падлога была выкладзеная каменнымі плітамі. Пасярэдзіне ішла вузкая, не шырэй локця, палоска з вузкіх плітаў чырванаватага колеру.

— Ды хто ж усё гэта збудаваў? — вырвалася ў Пранціша. — Няўжо нашыя палачане?

— Думаю, гэта з'явілася задоўга да Ліфляндскай вайны, — задумліва прамовіў Лёднік. — Магчыма, яшчэ і да таго, як пабудавалі Сафію, і акрым палачанаў, тут пастараліся і прыезджыя майстры. Падобнае ёсць у катакомбах Канстанцінопаля... Вядома, лабірынты Егіпта і Кноса куды ранейшыя ды буйнейшыя, параўнанне з імі надта казачна выглядае. Але прынцып паўсюль той самы.

— Ты хочаш сказаць, сюды егіпцяне прыходзілі? — здзівіўся Пранціш.

— Егіпцяне наўрад... А візантыйцы тут дакладна бывалі. Дарэчы, ты ж сам верыш, што вядзеш род ад старажытнарымскага арыстакрата Палямона, — няўважна прамовіў Лёднік і павярнуўся да Саламеі.

— Напачатку выпрабоўвалася моц нашай любові да бліжняга свайго... Пасля — наша хрысціянская вера. Цяпер, паводле логіцы і Святога Пісання, час выпрабаваць нашую надзею? Апошняе, што застаецца чалавеку?

Саламея, раптам саслабеўшы, закрыла твар рукамі і прашаптала:

— Бацька, прабач...

Угледзелася ў твар Лёдніка, прагна, нібыта нешта там шукала — напрыклад, пацверджання, што ён варты такой ахвяры — і рашуча адвярнулася.

— Так, цяпер выпрабаванне надзеі. Бо вам давядзецца спадзявацца толькі на літасць Божую і на мяне. Ступайце за мной след у след. Чуеце? Запаліце паходні... Яны павінны быць вось там, справа ад увахода. Нам спатрэбіцца святло. Глядзіце пільна пад ногі.

У куце сапраўды былі падрыхтаваныя з дзясятак паходняў, добра прасмоленых. Цемру сутарэнняў гэта не разагнала, але ўсё-ткі ад жывога агню зрабілася весялей. Саламея перахрысцілася, прашаптала кароткую малітву і паставіла нагу — асцярожна, як на лёд — на чырвоную паласу. Ступіла крок, другі, трэці, не выходзячы за межы чырванаватых плітак... Ціха. Але як толькі за ёй на чырвонай паласе апынуўся Лёднік, пліты паабапал нават не апусціліся — а праваліліся з глухім грукатам, так, што ўсё задрыжэла, і Лёднік прытрымаў за локаць Саламею, якая трошкі пахіснулася. І вось ужо па абодва бакі зеўрала прорва. Засталася толькі вузкая каменная дарожка у локаць шырынёй, якая ўпіралася ў процілеглую сцяну. Ватман шматзначна перхануў:

— Добры сродак пазбавіцца ад непажаданых гасцей, ці не так, вядзьмарачка? Дзякую, што не скарысталася, я гэтага не забуду.

Лёднік азірнуўся на Пранціша, які мусіў ісці за ім, працягнуў руку:

— Трымайся!

— Яшчэ чаго! — ганарыста закінуў галаву шкаляр. — Ды я па гэтай сцежачцы з заплюшчанымі вачыма прабягуся!

— А вось бегчы не варта, — разважліва падказаў апошні ў іхнім шэрагу Ватман. — Толькі дурань рызыкуе дзеля пустой хвальбы. Давайце, давайце... Тупайце... А то яшчэ што праваліцца, зваліцца ці кашалькі паадбірае.

Лёднік адвярнуўся і нетаропка рушыў за Саламеяй, якая ўжо стаяла ля супрацьлеглай сцяны, і яе паходня здавалася выратавальным маяком.

Нельга сказаць, каб Вырвічу не было страшна. Яшчэ як было. Але ён хутчэй гахнуўся б уніз, чым у гэтым прызнаўся. Ён бачыў, што былы слуга спецыяльна стараецца не адыходзіцца далёка ад гаспадара і ўвесь час насцярожана прыслухоўваецца, касавурыцца, ці сунецца за ім шкаляр, ці не аступіўся, каб паспець ухапіць... Ад злосці, што яго лічаць нягеглым дзіцем, Пранціш нават не запомніў, як прайшоў апошнюю частку дарогі.

— Ну і што, які-небудзь святы, але нямоглы стары праз гэтыя штукарствы прайшоў бы? — прабурчэў Ватман, спрабуючы разгледзець дно ў прорве.

— Думаю, што для святых існуе прамейшая дарога, — суха адказала Саламея. — Кожнаму — такая, якую заслужыў.

Яны стаялі на невялічкай пляцоўцы перад чарговай сцяной... Шэрай, як няведанне. Хваляваўся нават Ватман, бо шумна дыхаў і выціраў спацелы лоб рукавом, ад ягоных уздыхаў нават агонь паходняў гайдаўся.

— Вера, Надзея, Любоў... — задумліва прамовіў Лёднік. — А маці іх — Сафія, нябёсная мудрасць. Думаю, мы дзесьці непадалёк ад храму святой Сафіі.

— Які збіраемся пазбавіць вялікай святыні, — горка прамовіла Саламея, і Лёднік яшчэ больш спахмурнеў.

— Што ж, застаецца толькі памаліцца... — прашаптала жанчына і стала на калені. Патрабавальна азірнулася: мужчыны зразумелі і таксама ўкленчылі. Прайшла хвіля, дзве... Пачуўся знаёмы скрыгат, частка сцяны апусцілася. Але ў нізкі праём можна было сапраўды пралезці толькі ўкленчыўшы.

— Шлях да вышэйшай мудрасці ідзе праз пакорлівасць, — прамармытаў Баўтрамей.

І яны ўвайшлі... дакладней, упаўзлі ў скарбніцу полацкіх сутарэнняў.

## Раздзел пятнаццаты.
## ВЯРТАННЕ РАМФЕІ

У «Бестыарыі» Леанарда да Вінчы згадваецца загадкавая істота пад назвай іхнеўмон. Гэты іхнеўмон жыве ў Егіпце і варагуе з другой пачварай, аспідам. Змагаецца ж ён з тым аспідам, укус якога смяротны, дастаткова арыгінальна: бяжыць у Ніл і выкачваецца ў гразі. Абсыхае — і зноў пэцкаецца. І так з трох ці чатырох слаёў гразі робіць сабе панцыр. Вось тады і хапае аспіда за горла...

Абтрэсваючы са сваёй вопраткі пясок і гліну, Пранцысь адчуваў сябе іхнеўмонам, і дужа хацелася схапіць за горла якога-небудзь аспіда... Напрыклад, таго, які прыдумаў гэткі шлях да святыні. Смірэнне, на думку архітэктара гэтага лабірынта, выяўлялся не толькі ў поўзанні ракача, але і ў выкачванні ў тле і праху, гэта значыць, пяску і мокрай гліне, праз якія вёў вузкі ход, больш падобны да нары.

Але вось Лёднік запаліў паходню, цемра неахвотна расступілася, і нават абыякавы да кніжнае мудрасці шкаляр захлынуўся ад захаплення. Аж да высачэзных зводаў сцены пакою былі завешаныя паліцамі з цяжкога, прамаранага дубу, які і за тысячу гадоў не спарахнее. А на паліцах былі кнігі. У дыхтоўных вокладках са скуры, аздобленых каштоўнымі камянямі, акаваных срэбранымі палосамі, як куфры... Больш сціплыя тамы, без усялякіх упрыгожванняў, але таксама паважныя і самавітыя... Свінцовыя футаралы са звіткамі... Лёднікі толькі з прыдыханнем прагаворвалі назвы: «Codex Sinaitikus», «Іаан Златавуст», «Блуканне Багародзіцы па пакутах»...

Меліся тут і два сталы з крэсламі — таксама з цяжкога дубу, нават з чарніліцамі, пясочніцамі і пер'ямі, як у кожнай прыстойнай канцылярыі, хоць, вядома, атрамант даўно ператварыўся ў чорны пыл, а пер'і ссохлі, пашарэлі.

Азіраючыся, Пранціш заўважыў, што ля ўвахода справа на ўбітых у камень металёвых круках вісяць шэрыя ап-

ранахі, падобныя да расаў, а унізе, пад лавай, ляжаць скураныя поршні, якія ад часу заскарузлі і страцілі форму. На лаўцы пустая медная міса пазелянела ад часу так, што ў ёй можна было настойваць атруту. Ясна — тут належала пераапрануцца і вымыцца, каб не падыходзіць да святых кніг бруднымі. Для паходняў былі прадугледжаныя адмысловыя стойкі, і запас паходняў меўся. Магчыма, яшчэ часоў Інфлянцкай вайны. Памяшканне было надзіва сухое, і ні следу пацукоў — нібыта тут існавала незалежная ад іх падземная дзяржава. Іначай хіба кнігі ацалелі б?

Паходні асвятлялі стракатыя шэрагі пракаветнай мудрасці. Сямейная пара Лёднікаў так, відаць, і прыліпла б да іх... Але Ватман абыякава слізнуў паглядам па паліцах, вышукваючы самае галоўнае, дзеля чаго яны сюды і прыйшлі, і запатрабаваў ад Саламеі, каб прад'явіла...

А галоўнае далёка не заўсёды бывае такім, якім яго чакаеш... Вунь чакалі калісьці ў Ерусаліме месію-цара, у золаце і дыяментах, з вогненным мечам, на чале магутнага войска, а прыехаў жабрак на осліку, які казаў не пра тое, як захапіць зямную ўладу, а пра выратаванне душы і любоў да бліжняга...

Рамфея, дзіда святога Маўрыкія, ляжала ў простым драўляным куфэрачку, які нават патрэскаўся ад часу. Напэўна, шэрая драўніна гэтага куфэрачка была таксама з нейкага святога дрэва, можа, таго самага Перыдэксіёна, пладамі якога харчуюцца галубы, а змеі збягаюць ад яго-нага ценю, але, магчыма, была яна ад тутэйшай простай ліпы, якая толькі і ўмела, што дарыць цень стамлёным спадарожнікам і мёд кветак — тутэйшым пчолам, што бароняць вуллі свае.

Саламея апусцілася на калені перад неглыбокай нішай у сцяне, у якой стаяў куфэрак.

Мужчыны таксама ўкленчылі. Пранцысь і Ватман агалілі шаблі, як спаконвеку рабіла шляхта падчас чытання Свяшчэннага Пісання, няхай за гэты звычай і ўшчувалі

святары. Лёднік агаляць шаблю не стаў, проста апусціў галаву і шаптаў малітву.

Ватман падняўся, падыйшоў і асцярожна адхінуў вечка куфэрка, які не быў замкнуты. Навошта замыкаць рэч, якая ахоўваецца сіламі куды больш магутнымі, чым жалеза? На выцвілай тканіне ляжаў звычайны металічны наканечнік дзіды, перацягнуты срэбным дротам.

— На сілу гэтай рэліквіі спадзяваліся святары і мніхі Святой Сафіі... — дрыготкім голасам прагаварыла Саламея. — Верылі, што пакуль яна тут, не знікне вера, не знікне храм, будзе працвітаць Полацак...

— Але ж калі ірванулі Сафійку жаўнеры Пятра, калі выбухнуў складзены імі ў храме порах, не выратавала рамфея, — заўважыў Ватман.

— Можа быць, таму, што да таго часу храм ужо змяніў веру, і людзі змяніліся? — ціха папыталася Саламея. — І хто мы такія, каб пытацца пра намеры Госпада?

— Вось і не пытайся, — Ватман зачыніў куфэрак і агледзеўся вакол.

— А, дарэчы, назад як? Зноў выпрабаванні?

Саламея, усё гэтак жа стоячы на каленях, прагаварыла:

— Я ж паказвала... Назад проста. Абедзьвюма рукамі націскаеш на выступы ў сцяне.

— А чароўны клубочак ты, шкаляр, не згубіў? — Ватман глядзеў цяпер барвовымі вачыма на Пранціша. Вырвіч ганарыста вярнуў пагляд.

— Не згубіў.

І неяк трывожна сталася шкаляру. Пранціш заўсёды прадчуваў, калі настаўнік збіраецца даць яму пытлю, выкрыўшы чарговую афёру. Зараз прадчуванне проста крычала, што не трэба было Саламеі расказваць найміту, як адсюль выходзіць.

Між тым плечы палачанкі затрэсліся, яна намагалася стрымаць плач... Лёднік прыхінуўся да яе, абняў:

— Скажы, а каб не трэба было мяне ратаваць, ты аддала б ім рамфею? Толькі сумленна прызнайся...

Саламея ўсхліпнула і патрэсла галавой.

Лёднік узняўся з кален і паглядзеў на Пранціша. Нядобра неяк паглядзеў, тужліва, як развітваючыся.

— Значыць, я і мушу зрабіць так, каб рамфея засталася ў Полацку...

Невядома, што прыйшло ў галаву доктару і што ён намерваўся адчайнае зрабіць з сабою і як выратаваць ад магнацкіх рук рэліквію, але Ватман ступіў да яго з-за спіны і нягучна прамовіў з мяккай такой усмешкай:

— Прабач, доктар, нічога асабістага...

Лязо кінжала нібыта вырасла з рукі, якой ён абняў доктара. І нармальны чалавек ляжаў бы ўжо, усміхаючыся смерці перарэзанай шыяй.

Але былога алхіміка ніхто не назваў бы шараговым чалавекам, у бойцы яго цалкам можна было прыпадобіць аспіду, гэткай пругкай атрутнай змяюцы, з якой змагаўся іхнеўмон з дапамогай чатырох слояў гразі. Пранціш памятаў здольнасць доктара пры вонкавым каменным спакоі быць напагатове, як нацягнутая цеціва. І калі Пранціш западозрыў няладнае, дык Лёднік, мусібыць, чакаў нападу ўсю дарогу сюды. Ватман ускрыкнуў і вылаяўся, упусціўшы кінжал: у ягонай далоні тырчэла старажытнагрэцкае сціло. Рэч, звычная сярод рукапісаў, некаторыя з якіх, магчыма, былі напісаныя сваякамі гэтага сціла, але зноў скарыстаная не па прызначэнні.

— Саламея, беражы ліхтар! Ён у цемры бачыць!

Лёднік ужо трымаў шаблю, Пранціш з Гіпацэнтаўрам стаў побач. Бачыць у цемры... Гэта доктар пра Ватмана сказаў, не пра ліхтар жа? Вось чаму ў таго вочы дзіўныя...

Між тым найміт выцягнуў сціло зубамі, нават не паморшчыўся. Ухапіў параненай рукой чакан. У здаровай, левай — ніхто не сумняваўся, што ёю барон валодае гэтак жа спрытна, як правай — прагла адведаць чырвонага цёплага напою серпанціна.

— Доктар, ты проста жыць не можаш без сваёй спіцы. Не ў цябе поруць, дык ты ў іншага яе ўпораш. Вось, хацеў

падараваць табе ды хлопчыку твайму лёгкую смерць — я ж цябе паважаю, у цябе два дыпломы, свежае шляхецтва, жонка-прыгажуня. Але па справядлівасці выходзіць, прымеш ты смерць пакутную.

І раптам скінуў на падлогу паходню, што трымалася ў жалезнай стойцы, тупнуў па прасмоленай палаючай вяршаліне... Полымя сканала ў апошніх смярдзючых скрутках дыму. Вырвічу стала страшна: а калі Ватман загасіць апошнюю паходню ды свечку ў ліхтары? І яны застануцца ў цемры сам-насам з белавалосым Мінатаўрам? А што, калі вочы ягоныя ў цемры пачнуць свяціцца, як у звера? А што, калі ён не чалавек, а пярэварацень? Не можа чалавек быць такім дужым і бязлітасным і бачыць у цемры.

Яны біліся ўдвух супраць аднаго, і бойка была сапраўды няроўнай... Для іх дваіх, бо яны змагаліся адчайна, як маглі, а Ватман адбіваўся нават лена, не губляючы сваёй звычайнай усмешкі, быццам гуляўся, як кот з дзвюма мышкамі. Не наносіў смяротных удараў, толькі драпаў, рэзаў адзежу, скуру... Так, каб усведамлялі: магу дастаць да душы ў любы міг. Хаця Лёднік ужо дакладна не быў слабым воем — у Слуцкай браме ён адзін стрымліваў дзясятак жаўнераў.

— Як там спяваецца ў песні пра нябожчыка, які з'явіўся да нявесты, а, доктар? «А што, калі ўсё разваліцца? Тады з костак булён зварыцца!». На шчасце, жанчыны аддаюць перавагу жывым героям перад мёртвымі. Ці не праўда, пані Лёднік? Я ніколі нічога не меў супраць удоў. Удава — гэта яшчэ лепш, чым цнатліўка, яна жанчына дасведчаная, цэніць мужчынскую ласку...

Лёднік раз'ятрана кінуўся на Ватмана, на падлогу абрынуўся закрануты бясцэнны фаліянт. На скураную вокладку зараз жа наступіў бот найміта, а доктар адляцеў назад з парэзаным рукавом, на якім праступіла чырвань.

— Бутрым! Паходня! — ускрыкнула Саламея, але ні Лёднік, ні Пранціш не змаглі перашкодзіць белавалосаму наблізіцца да апошняй паходні і таксама зваліць яе на падлогу.

Цяпер пакой асвятляўся толькі дрогкім агеньчыкам свечкі ў ліхтары, які ахоўвала Саламея. Палачанка адыйшлася ў кут і ліхаманкава запальвала яшчэ адну свечку, разумеючы, што застацца ў цемры азначае пагібель. Пранціш заўважыў, што куфэрак з рамфеяй пані Лёднік прыхапіла з сабой, цяпер ён стаяў побач з ліхтаром на паліцы, каля фаліянтаў. Вырвіч у мітульзе апошніх хвіляў так для сябе і не вырашыў, чаго хоча ён сам — уручыць святыню Паланэі Багінскай ці паспрыяць, каб яна засталася ахоўваць нябачнай моцай горад, а разам і ўсю Беларусь? Як больш годна ўчыніць для шляхціца?

— Пачакай мяне яшчэ трохі, вядзьмарачка, зараз толькі расчышчу дарогу, а то накідана тут нейкіх карчоў з калючкамі, — бадзёра прамаўляў Ватман, які нават не задыхаўся. — Запэўніваю, мы з табой паразумеемся. Доктар твой — зануда, іртутнай парай паедзены, а я — вясёлы... Смелых жанчын люблю.

І падбіў нагой непадымны дубовы стол, які з глухім стукам паваліўся. «Карчы з калючкамі», гэта значыць, Пранціш з Лёднікам, разляцеліся ўбакі, спрабуючы ўнікнуць удару чакана, які мог бы, напэўна, не толькі чэрап, але і сцяну прабіць. Шабля Лёдніка мільгала так, што здавалася срэбным туманам, яе абрысы расплываліся. Але да Ватмана ён змог дастаць толькі раз, падрапаўшы таму шчаку, чаго гігант нібы не заўважыў. Вырвіч пачынаў думаць пра срэбныя кулі і асінавыя калы, з якімі належыць хадзіць на ваўкалакаў. А тут яшчэ Гіпацэнтаўр, сустрэўшыся з чаканам, адляцеў убок, і лязгат старой сталі аб камяні падаўся шкаляру пахавальным звонам. Лёднік зараз жа захінуў былога гаспадара:

— Адступай да Саламеі!

Ні пісталетаў, ні нажа... Пранціш з адчаем глядзеў, як Лёднік крок за крокам ідзе назад пад націскам Ватмана. Дабрацца да Гіпацэнтаўра, які найміт адшпурнуў нагой далёка да выхаду? Саламея прыціскала да сэрца маленькі нож, ашчаджаны ад дагляду, яе вочы гарэлі рашучасцю

і болем. Вырвіч не сумняваўся, што яна думае зрабіць, калі ейны муж загіне. Шкаляр схапіў свечку, якую Саламея, запаліўшы, прымацавала на левую паліцу, і ўскочыў на не перавернуты яшчэ стол:

— Гэй, самазваны барон!

Ватман кінуў лянівы позірк і злосна вылаяўся: Пранціш трымаў над агеньчыкам свечкі клубок Івана Рэніча. Канец вяроўкі ўжо аблізвала полымя.

— Ну што, застанемся тут усе разам? Як кажуць, ні вашым, ні нашым!

Ватман апусціў зброю, ягоны шырокі твар перакрывіўся ўсмешкай.

— Дарэмна я дазволіў пажыць вам гэтыя лішнія хвілі. Ты, значыць, гатовы памерці, шкаляр?

— Сапраўдны шляхціц заўсёды гатовы да смерці! — выкрыкнуў Вырвіч, і агеньчык падняўся па вяроўцы вышэй. — Нармальная кампанія, святое месца, добрая бойка... Памірайма, панове!

Лёднік абцёр рукавом пот і кроў з ілба, да якога прыліплі зблытаныя цёмныя валасы.

— Ватман, прапаную дамову... Без вяроўкі ты не пройдзеш лабірынт. Няхай жанчына і хлопец выйдуць адсюль, а тут застанемся я, ты і рамфея. Пакладземся на Божы суд.

— Я таксама застануся! — выкрыкнуў Вырвіч, не даючы вяроўцы разгарацца, але трымаючы клубок у небяспечнай блізкасці ад агню.

Барон зарагатаў.

— Ды мне ўсё адно, у якой чарговасці вас забіваць. Лабірынт — гэта сур'ёзна, магу заблукаць... Але магу і выбрацца, памяць у мяне добрая. Жанчыну я і так вазьму сабе жывою, хоча яна гэтага ці не. Апусці, апусці свой ножычак, мая красунька, а то парэжашся!

— У абмен на мяне ты таксама не пакінеш у спакоі рамфею і іх? — горка прагаварыла Саламея.

— Які тут можа быць гандаль? — удавана абражана прамовіў Ватман. — Каханнем не гандлююць, мая пані,

яго заваёўваюць! А ваша чароўная дзіда — гэта проста мая работа. Герман Ватман славіцца тым, што заўсёды выконвае даручэнні.

— Часткай твайго даручэння было забіць мяне і Вырвіча, як толькі знойдзем рамфею? — удакладніў Лёднік, які стаяў у падманліва расслабленай паставе, апусціўшы шаблю, але гэта быў спакой змяі, што звярнулася лянівымі кольцамі і ў любое імгненне кінецца на ворага чорнай маланкай. Ватман па-блазенску развёў рукамі.

— Праца ёсць праца, дружа.

— Саламея, ты чуеш? — нечакана пераможна прагаварыў Лёднік. — Ты вольная ад свайго слова, любая!

Найміт пагардліва хмыкнуў:

— Ну што ж, тады жарты скончыліся. Рыхтуйся, доктар, першым будзеш у смерці на блінах, тварына ты слізкая.

Але першым аказаўся акаваны жалезнымі палосамі фаліянт, які Вырвіч трапна шпурнуў у галаву найміта. Што-што, а шпурляцца шкаляр умеў дасканала. Кнігі легендарнай полацкай бібліятэкі, гэтыя змясцілішчы вышэйшай мудрасці і цноты, паважныя і самавітыя, ляцелі, як найлепшыя снарады, тым больш запас іх быў салідны. Ляцеў магутны «Codex Sinaitikus», адчайна ўзмахвалі пергаментнымі крыламі «Месяцаслоў» і «Жыццяпіс святой Феўроніі», са свістам працінала паветра кранальная гісторыя пра Трышчана і Іжоту... Ватман рыкнуў, кроў з рассечанага брыва залівала ягоныя ваўкалацкія вочы. Шабля Лёдніка ўдарыла яго ў бок, праўда, доктар зараз жа сам атрымаў чаканам па плячы і перакінуў шаблю з правай, знямелай ад болю, рукі ў левую.

Раптам пачуўся каменны скрыгат.

— Хочаш выканаць сваю працу, Ватман? — голас Саламеі пачуўся з супрацьлеглага канца пакоя, ля выхаду, які зноў быў адчынены. Жанчына ў адной руцэ трымала ліхтар, у другой падымала кавалак металу, перацягнуты

срэбным дротам. — Прабач мяне, Госпадзе! — і палезла ў вузкі ход. Ватман адкінуў Лёдніка адным ударам чакана, так, што той стукнуўся галавой аб паліцу, і пабег за Саламеяй.

У пакоі запанавала цемра, у якой згасала чырвонае вока паваленай свечкі і дагараў клубок Івана Рэніча. Шкаляр падняў свечку, якая, на шчасце, разгарэлася зноў, і пабег да доктара. Лёднік ляжаў на падлозе ніцма, ля ягонай левай скроні нацякала цёмная лужынка.

— Бутрым... Чуеш, Бутрым, ты жывы?

І разумеў, што пытаецца дарэмна, зброя ў руках Ватмана хібаў не давала. Шкаляр паставіў свечку, дрыжачымі рукамі перакуліў цела. Цела глыбока ўздыхнула і стрымана застагнала.

— Жывы!

— Часткова.

Бутрым з цяжкасцю сеў, патрос галавой, абцёр з твару кроў.

— Паспеў вывернуцца ў апошні момант. Я ж тварына слізкая... Хаця пару рэбраў Герман мне зламаў. Ён дзе?

— Пайшоў за Саламеяй.

Лёднік узняўся, абапёршыся на шаблю, пастаяў, апусціўшы галаву, каб разамгліўся туман.

— Бяры паходню... Рушым! Хутчэй!

У зале Надзеі іх чакала страшнае відовішча. Саламея стаяла на вузкай дарожцы, трымаючы руку з рамфеяй над прорвай. Перад ёй, на адлегласці трох крокаў, высіўся Ватман з шабляй, якая цягнулася да жанчыны, як гадзюка.

— Падыдзеш — кіну ўніз! — цвёрдым, хаця й задыханым голасам гаварыла Саламея. Лёднік таксама ступіў на чырванаватыя пліты.

— Ватман, суніміся! Давай дамаўляцца — я ж бачу, ты можа ўпершыню ў жыцці не хочаш забіваць!

— Мала што не хачу, ёсць такое слова — трэба! — змрочна прагаварыў Ватман.—А ты, доктар, проста як блыха: здаецца, прыціснуў пазногцем, раздушыў —

на табе, далей скача. Без рамфеі я адсюль не выйду! І вы не выйдзеце.

— Паслухай, ну ўяві, што будзе, калі гэтая рэліквія апынецца ў руках нават такога мяккага чалавека, як князь Багінскі... Хіба ёсць магнат, які не скарыстаецца ёю на карысць свайго самалюбства? Зноў пачнуць свае ж рэзаць сваіх, далучацца чужыя, спаляць гарады, вытапчуць палі... — Лёднік казаў мякка, павучальна... Як быццам падчас душэўнай бяседы. І патрошку пасоўваўся наперад.

— А табе што да гэтага, Фаўст? — насмешна папытаўся Ватман. — Хто ты такі? Недавершаны астролаг, няўдалы алхімік, недапечаны шляхцюк? Ці даўно цябе прадавалі, як цяля на рынку? Ці даўно гэты баявіты хлопчык аб цябе боты выціраў? І раптам — дзяржаўны клопат. Ой, не веру. Гэта ты перад каханачкай сваёй выпрабляешся. Быццам не ведаеш, што і без рамфеі тут будуць рэзаць адзін аднаго. А так хаця б адзін мацнейшы ўладар утворыцца, вакол якога згуртуецца шляхта. І не рухайся далей, я ўсё бачу.

Лёднік спыніў сваё прасоўванне па дарожцы. Аблічча ў Ватмана было страшнае, як на старажытнай ілюстрацыі да «Бестыарыя». Яму таксама дасталося: галава і твар збітыя кнігамі, на баку неглыбокая, але ж рана, адзежа пашкуматаная лёзамі. Але ён усё яшчэ быў неверагодна дужы і спрытны, здавалася, аб яго можна толькі разбіцца.

— Пан Ватман, я выклікаю вас на двубой! — выкрыкнуў Пранціш. — Вы — нягоднік і мужык! Калі адмовіцеся — вам ганьба!

— Ганьбай больш, ганьбай менш, а нябожчыкі не пляткараць, — абыякава прамовіў Ватман, нават не азірнуўшыся, і пасунуўся да Саламеі.

— Красунечка мая, аддай дзіду! Хіба ты не баішся, што за гэткае вольнае абыходжанне са святой рэччу Бог цябе пакарае?

— Бог бачыць мае намеры! Не падыходзь! — прагаварыла Саламея і адступіла далей. Ясна было, што бойка на гэтым мастку над прорвай, дзе дваім ніяк не разысціся —

праўдзівая смерць. Вырвіч паклаў паходню на край пліты, падыйшоў да Лёдніка, які застыў на сцежцы, крануў за плячо, зашаптаў:

— Ты паранены... А я змагу! Падскочу да яго са спіны... Прапусці!

Ватман, нягледзячы, працягнуў у бок доктара і шкаляра руку з чаканам, у той час, як шабля ў другой руцэ па-ранейшаму цэлілася да Саламеі:

— Нават не думайце!

Шкаляру стала вусцішна: няўжо Ватман яшчэ і слых звярыны мае?

Саламея зрабіла яшчэ крок, адступаючы спінай да выхаду... Ватман засунуў чакан за пояс, сціснуў і расціснуў прабітую сцілом руку... А далей зноў было, як падчас начной навальніцы, калі ў святле частых маланак паспяваеш разгледзець толькі асобныя малюнкі, якія не адразу складаюцца ў адзін сюжэт. Найміт кінуўся да жанчыны, спадзеючыся перахапіць рамфею... Але пані Лёднік вельмі трапным, можна сказаць, адпрацаваным рухам, дала яму нагой у тое месца, у якое мужчыне страшней за ўсё атрымаць удар. Прынамсі, у гэтым белавалосы нічым не адрозніваўся ад іншых прадстаўнікоў люду паспалітага, якія паводле закону носяць нагавіцы, бо завыў ад болю і сагнуўся, а яшчэ раз'ятрыўся... А Саламея з крыкам «Прабач, Госпадзе!» расціснула пальцы. Ватман памкнуўся ўхапіць рамфею — і атрымаў ад Чароўнай Дамы такога выспятка ў яшчэ адно не самае прыстойнае месца, што паляцеў услед за рэліквіяй. Нават не ўскрыкнуў. Услед за ім упаў ліхтар... І амаль адразу ж паваліласяі паходня, якую Пранціш зачапіў нагой.

Здарылася тое, чаго яны так баяліся апошнім часам: панаванне цемры. Страшной, усемагутнай цемры сутарэнняў.

Цемра... І ціша. Толькі чуліся сутаргавыя ўздыхі Саламеі.

— Залфейка, ты як? — трывожна папытаўся Лёднік сцішаным голасам, нібыта баяўся, што на шум прыйдуць новыя

белавалосыя, а можа й чарнявыя альбо лысыя Мінатаўры, не такія паблажлівыя, як іх нядаўні спадарожнік.

— Жывая. У адрозненне ад... Крэсіва не згубіў? Тут побач паходні.

— Чакай, зараз я падыйду... Дакладней падпаўзу. Вырвіч, а ты з месца не ўздумай кранацца, пакуль святло не здабудзем!

Калі паходня нарэшце запалала, вандроўнікі ўбачылі адно аднаго. Вядома, наяўнасць у свеце жывых радавала. Знешні выгляд — не вельмі. Асабліва па традыцыі дасталося Лёдніку — відаць, сапраўды планіда ў яго такая была.

Перш, чым пакінуць залу — цяпер яны выходзілі, як і належала чыстым сэрцам паломнікам, з пустымі рукамі — Саламея падышла да края пліты і паўзіралася ў прорву, у якой знік Ватман.

Толькі падняўшыся па прыступках у залу Веры і пачуўшы, як за іх спінамі з грукатам і скрыгатам апускаецца сцяна, яны трохі перадыхнулі. Лёднік знясілена лёг на падлогу, прамармытаўшы сваё ўлюбёнае «не кароста, дык адзёр». І Саламея зноў узялася за лекаванне мужа. Перацягнула яму зламаныя рэбры паласой, ададранай ад кашулі, памацала плячо, на якое таксама абрынулася зброя Ватмана — тут косткі былі цэлыя, хаця сіняк наліваўся здаравучы. Доктар запэўніў устрывожаную жонку, што выжыве... Калі, вядома, не атрымае ад яе ў будучым такіх ударaў у адчувальныя месцы, якія яна, аказваецца, так дасканала ўмее наносіць.

Каб галава ў яго і так не была разбітая, Саламея паказала б, па якім яшчэ слабым месцы ўмее лупіць недалікатных мужыкоў. Бо забойства — не самая лёгкая ношка для душы, не звыклай купацца ў крыві. Тут не да жарцікаў.

Яны ўтрох сядзелі на каменнай падлозе, глядзелі на фрэску з выявай Страшнага Суда, у прыцемку здавалася, што выявы варушацца, і вочы Вялікага Суддзі паглядаюць

проста ў душу... І Пранцішу не хацелася нават думаць, што рабіць далей. Бо выйсця асабліва і не бачылася.

— Доктар, а клубок згарэў...

— Няважна, — прамармытаў Лёднік, які ўладкаваў пабітую галаву на калені Саламеі і цяпер цешыўся дотыкам яе прахалодных пальцаў да свайго вучонага ілба. — Я дарогу памятаю, не цяжэй, чым запомніць размяшчэнне сузор'яў. Але вось ці варта нам ёю вяртацца?

Пранціш не ведаў, што адказаць. Ён глядзеў на выявы грэшнікаў, што ішлі ў вогненнае мора, хаця, напэўна, кожны з іх пры жыцці зусім не спадзяваўся на такі вырак, а хтось і не задумваўся пра лёс сваёй бессмяротнай душы. А можа, былі і такія вартыя жалю дзівакі, якія ганарліва наяўнасць тае самае душы, «бесцялеснае субстанцыі», адмаўлялі, выдумляючы «жывёльны магнетызм» альбо «сусветную механіку». І вось вам — анёл з вогненным мечам... І не ўцячы, і не прыпыніцца.

І не атрымае цяпер Паланэя Багінская з рук свайго вернага рыцара Пранціша Вырвіча рамфею, і не стане сястрой караля, бласлаўлёнага самім Небам...

Але святыня засталася ў Полацку. Назаўсёды...

— Трэба ісці, пакуль не дагарэлі апошнія паходні і свечкі. У нас жа няма такіх вачэй, як у Ватмана... — прамармытаў Лёднік. — І вады няма... І ежы...

— Куды ж нам ісці? — ціха прагаварыла Саламея. — Пашукаць хіба іншыя выхады з лабірынта? Але каля ўсіх храмаў людзі князя. Няма для нас месца на зямлі...

— Ага, засталося есці пацукоў, прывучыць вочы да цемры і тут пасяліцца, — злосна прамовіў Вырвіч. — Шляхціц не павінен нічога баяцца! Нават калі прайграў бойку, а самому не ўдалося загінуць з гонарам на полі — ганьба ўцякаць. Трэба з'явіцца да свайго харунжага ці самога гетмана і з годнасцю прыняць пакаранне. І, калі табе пакінуць жыццё, ісці ў новую бойку.

Вырвіч ускочыў на ногі, ускудлаціў русявы чуб і пераможна ўсміхнуўся. Гіпацэнтаўр з намі!

— Чаго вы кіснеце, як перастоенае цеста ў дзяжы? Пані Саламея абяцала рамфею ў абмен на жыцці мяне і Лёдніка? Багінскі першым парушыў слова, загадаўшы Ватману нас забіць. Значыць, ганьбы на нас няма, што не выканалі сваю частку дамовы. Рамфеі не будзе ў Багінскага — але яе не будзе і ні ў кога з ягоных супернікаў, хай гэтым і здаволіцца. Спадзяюся, ён стрымае хоць слова, што не будзе чапаць пані Лёднік.

— Не называйце мяне пані, пан Вырвіч, — ціха прамовіла Саламея. — Арыядна, якая без дапамогі Тэзея заваліла Мінатаўра, і яе сінія вочы здаваліся вялікімі, як малююць на абразах. — Вы — пан... Вас вырасцілі высакародным і бястрашным ваяром. А мы — полацкія мяшчукі. Патэнт на шляхецтва — гэта проста гульня... Якую ніхто ўсур'ёз не прыняў.

Лёднік пяшчотна пацалаваў вузкую далонь жонкі.

— У Францыі любяць ставіць п'есу Мальера, якая называецца «Мяшчук у шляхецтве». Там такі купец, Журдэн, чалавек някепскі, дужа багаты, але спакушаны славай: карціць яму мець герб і прыдомак да прозвішча. Але толькі выстаўляе сябе на смех, спрабуючы паводзіцца «высакародна». Высокі род паперай не даецца. Вы сказалі правільна, пан Вырвіч. Мы не пацукі падзямельныя, каб бясконца хавацца. Мы вернемся. Раскажам усё, як было. І няхай вырашае Гасподзь.

— Ведаеш, Лёднік, — цвёрда прамовіў Вырвіч, — расказваць буду я. Тое, што трэба расказаць. А ты лепей памаўчы. Адна справа — ісці насустрач смерці, іншая — займацца самазабойствам. З'ясаваў?

Пранціш сам не заўважыў, як зноў загаварыў голасам гаспадара з бяспраўным слугою. Але Лёднік толькі мармытнуў нешта пра «Бог знае круцяля» і скрушна прастагнаў:

— Ё-маё... А кнігі якія пакідаем, Залфейка! Ты бачыла — Полацкі летапіс! Кірыла і Мяфодзій! Хоць бы што прыхапіць... Калі раптам выжыву — не дарую сабе...

Саламея таксама цяжка ўздыхнула, але прамаўчала — ясна, не да кніг цяпер.

Сутарэнні таксама маўчалі, атрымаўшы ахвяру і захоўваючы свае таямніцы. А Вырвіч не мог стрымаць усмешкі, калі падумаў, якую кашчунную карціну пабачаць іхнія наступнікі — скарбашукальнікі ў пакоі мудрасці, які яны сёння так раскалашмацілі.

## Раздзел шаснаццаты.
## ЯК САЛАМЕЯ І ПАЛАНЭЯ СУТАРЭННІ ЎЗАРВАЛІ

У старажытных рукапісах часам можна пабачыць дзіўнае стварэнне: верхняя палова тулава — праўдзівы рыцар, у даспехах, са шчытом. У руцэ замест мяча — бізун. Галава — ад пеўня, замест ног — два змяіныя тулавы.

Цяжка ўявіць жыццё гэткай няскладнай істоты. Але назву яна мае гучную: Абраксас. Не горш, чым Гіпацэнтаўр. Певень сустракае сонца, вястуе пачатак дня і канец панавання цёмных сіл. Шчыт абараняе ад спакус, бізун — наадварот, дае спакусу ўлады. А дзве змяі так і цэляць разпаўзціся, вярнуцца ў звыклыя цемру і тло.

Усё ёсць у душы чалавечай, якую сімвалізуе абраксас. І шукальнікі рамфеі з цяжкасцю пераадольвалі памкненне свайго «змяінага» складніка схавацца, не выпаўзаць на згубнае сонца, да якога, аднак, таксама не маглі не цягнуцца.

Першая, каго пабачыў Пранцысь, падымаючыся па драбінах у пограб Лейбы, была Паланэя Багінская, якая нават ускрыкнула ад здзіўлення, пабачыўшы Вырвіча. Як магла б збыцца мара! Усе дэкарацыі гатовыя... Але...

— Ні слова пра рамфею! — хутка і трывожна прашаптала Паланэя, устала. Прагучаў яе звонкі голас:

— Яны ўжо тут! Зараз самі пабачыце — ніякай таямніцы няма. Проста смелыя мужыны ратавалі кабету, якая па неасцярожнасці ўвалілася ў пограб суседа.

Бутрым, Саламея і Вырвіч жмурылі вочы на марозным сонцы, нібыта начныя птахі. Сонца кідала

скупыя жмені промняў на чарапічныя, гонтавыя ці проста крытыя саломай і аерам дахі слаўнага горада Полацка, жыхарам якога, па праўдзе кажучы, усе падземныя жахі падаваліся куды менш страшнымі і цікавымі, чым мітрэнгі іхняга штодзённага жыцця, з падаткамі падымным, пагалоўным, ваенным, чопавым, паштовым, на соль, на дарогі, з кватарункам войска, з кватарункам дэлегатаў соймаў і соймікаў, ды яшчэ з бясконцымі шляхецкімі разборкамі і нападамі чужынцаў...

Князь Багінскі з сумнай фізіяноміяй паглядаў некуды ў шэра-блакітнае, як модны камзол, беларускае неба, перадаверыўшы тлумачыцца сваім сёстрам. А тлумачыць было трэба. Таму што побач стаяў полацкі ваявода Аляксандр Сапега, на гэты раз не ў парыку і камзоле, а ў спрадвечным сармацкім строі — парчовы жупан, чырвоны кунтуш з саеты з залатымі галунамі, шапка з аграфам — і нават прытупваў ад гневу чырвонымі ботамі па тонкім снежным покрыве. Яшчэ адзін заўважны персанаж сцэны, сівавусы магутны шляхціц у гарнастаевай дылеі паўзверх залатога жупана, з булавой пры баку яшчэ больш ускладняў расстаноўку сілаў, таму што быў гэта сам вялікі гетман Міхал Казімір Радзівіл па мянушцы Рыбанька. Натуральна, кожны з магнатаў быў не сам-адзін, хаця пакуль і без войскаў і вялікай світы. Гэткі прыватны сойм на заднім двары полацкага аптэкара.

— Дзе рамфея, шаноўныя нябожчыкі? — Аляксандр Сапега сціснуў руку на дзяржальне шаблі так, што пальцы збялелі, і, магчыма, быў на валасіну ад таго, каб зрабіць Саламею, Лёдніка ды Вырвіча нябожчыкамі не фальшывымі, а сапраўднымі.

— Няма ніякай рамфеі, ваша княская мосць! — злосна патлумачыла Алена з Багінскіх, якая стала за плячом брата, нібы рыхтуючыся падперці яго, як непахісная калона. — Гэтая дзеўка ўвалілася ў пограб, патрапіла ў старыя сутарэнні. Вы што, бачыце тут якія-небудзь скарбы?

— Не тлуміце мне галаву, вашамосць, — адрэзаў Сапега. — Мы ўсе ведаем, за чым вы пасылалі гэтую кабету. Але вы не маеце права забіраць святыню сабе!

— Чаму гэта не маем права, ваша мосць? — атрутным голасам папыталася пані Алена. — Наш род не горшы ад вашага!

— Пане-браце, — густым уладным голасам прамовіў Радзівіл. — І сёстры... — ён кінуў насмешны позірк на княгіню. — Давайце не будзем высвятляць, чый род магутнейшы. Мы з'явіліся на мірныя перамовы. Мы хочам даведацца праўду... Ці ёсць у Полацку дзіда Отана, і калі ёсць, у чыіх руках ёй належыць знаходзіцца.

— Вядома, у руках святога касцёла! — ветліва абвесціў усмешлівы пан у чорным строі, рэктар езуіцкага калегіюма, які, падобна, валодаў здольнасцю непрыкметна прысутнічаць там, дзе трэба, як і належала прадстаўніку знакамітага шпегаўскага ордэна. — Мы павінны перадаць святыню ў Рым.

— Няхай дазволена мне будзе падаць голас, вашыя мосці, але рамфея была ад пачатку перададзена праваслаўнаму храму! — азваўся хударлявы немалады шляхціц са світы Казіміра Рыбанькі, ягоныя вочы аж гарэлі праведным гневам. — Яе мусяць захоўваць праваслаўныя ліцвіны! Хопіць адбіраць у нас апошняе!

Нібыта каб астудзіць гарачыя галовы, ударылі званы — на Сафіі, у Богаяўленскім храме, на званіцы храма святога Стафана... Людзі пачалі хрысціцца, шаптаць малітвы. Твары трохі палагаднелі.

— Панове, вы дзеліце скуру ваўка, які яшчэ спакойна вые на поўню, — прамовіў Радзівіл. — Мае браты, Марцін ды Геранім, звіхнутыя на цудах і духах, могуць колькі заўгодна ў іх верыць... Цуды — гэта на тэатральнай сцэне, пра іх мая жонка-нябожчыца п'ескі пісала. А мне даклалі, што дзіда Отана, яна ж — дзіда святога Маўрыкія, захоўваецца сабе спакойна ў Вене, ніхто ў ейнай сапраўднасці не сумняецца, і ахоўваюць яе

аўстрыякі так, што толькі вайной здабыць. Дзе вашая... рамфея? Гэта вы гэнай бандзе даручылі яе здабываць? Якая Слуцак чараўніцтвам ледзь на каменьчыкі не разнесла, калі верыць майму брату? Кабеце хоць спадніцу апраніце, далібог, сарамацішча!

Вось цяпер усе позіркі скіраваліся на выпаўзняў з сутарэнняў, упэцканых і пабітых, як пасля баталіі. Вырвіч паклаў руку на дзяржальна Гіпацэнтаўра, ступіў наперад, укленчыў і прачула прамовіў:

— Вашыя мосці, панове, спадзяемся на літасць Вашых велікадушных сэрцаў і Боскую міласць. Даю шляхецкае слова, што мы не вынеслі з сутарэнняў ніякае святыні, толькі нашыя грэшныя душы, якія Гасподзь дазволіў нам зберагчы ў страшэнных выпрабаваннях...

— Я ж сказаў — рамфеі ў іх няма! — пакрыўджана заявіў Міхал Багінскі, нават на крык сарваўся. — Няма ніякай рамфеі!

— Вось яна, мой князь! — пачуўся раптам гучны хрыпаты голас, і з пограба вывалілася, пахіснуўшыся, велізарная застрашлівая постаць.

— Хал-лера... — мармытнуў Лёднік і скасавурыўся на жонку, якая закрыла твар рукамі.

Але гэта была не халера. А ў гэтых абставінах значна горшае з’явішча. Пранціш ускочыў на ногі і схапіўся за Гіпацэнтаўра. Езуіт пачаў уголас чытаць малітву супраць нячыстага духа. А скрываўлены і брудны прыхадзень, які з задаволенай усмешкай на збітым твары працягваў гаспадару жалезны наканечнік дзіды, абвёў бяздоннымі вачыма, якія патроху пачыналі прывыкаць да дзённага святла, пейзаж з фігурамі, ацаніў стратэгічную абстаноўку, перастаў усміхацца і змог вымавіць толькі адно, але дзіўна сугучнае выснове доктара:

— Халера.

Сапега ўз’ятрыўся:

— Ну што, будзеце, вашыя мосці, мне яшчэ вочы зацярушваць?

Ватман трымаў рамфею ў руцэ, як быццам яна была бомбай з запаленым кнотам, вось толькі ў які бок яе кінуць?

Саламея кінулася наперад, адштурхнуўшы мужа, упала на калені, перажагналася:

— Вашыя мосці, гэтая святая рэч ахоўвала стагоддзямі нашу зямлю! Яна не павінна пакідаць свайго месца! Падумайце, вашыя мосці, заклікаю імем Госпада нашага Ісуса Хрыста, нельга з-за такой святыні ўсчыняць грэх братазабойства і славалюбства! Няхай і надалей яна захоўваецца ў Полацку! А каб не патрапіла рэліквія ў варожыя рукі, дазвольце, мы вернем яе на месца і шлях закрыем так, што ніхто болей не знойдзе!

Радзівіл задумліва пагладзіў сівыя вусы:

— Нешта ў гэтым ёсць, рыбанька... Ні вашым, ні нашым, але роднай зямлі...

— Рамфею прынёс наш слуга! Значыць, яна наша! — крыкнула Алена Багінская, штурхнуўшы брата ў спіну. Той нахмурыўся.

— Сапраўды, давай яе сюды, Ватман!

— Ні з месца! — крыкнуў Сапега. — Ваша мосць падмануў мяне падступна, забраўшы гэтую кабету, якую я выратаваў ад несправядлівага суда яго мосці, брата вялікага гетмана, ды яшчэ ваша мосць падстроіў выгляд, быццам яна скочыла з акна ў рэчку і ўтапілася. І ўвогуле, яго мосць князь Багінскі зараз павінен быць, здаецца, у Цюрыху? Музіцыраванню вучыцца, ці не так? Раз таемна вярнуўся, значыць, рыхтуе закалот. Я патрабую, каб князь Багінскі перадаў рамфею мне!

Два здаровыя паюкі, што стаялі за спінай ваяводы, напалову выцягнулі шаблі.

— Я таксама магу прыпомніць, што гэтая кабета была арыштаваная жаўнерамі майго брата за скалечанне ягонага слугі, і прад'явіць свае правы на рамфею, — грозна рыкнуў Радзівіл, і ўсе змоўклі. — Вашае шчасце, што ў Гераніма ныркі прыхапіла. Так што яму зараз нават да кароны не дацягнуцца, калі б яе і за аршын ад яго паклалі.

А то б тут шастапёры ўжо кракавяк па галовах выстуквалі ды гарматы брахалі. Таямніца, таямніца… Каб не верны суддзя Юдыцкі, які пазнаў, што адзін з гэтай банды жывы, мы б і не ведалі пра вашыя змовы. Але ж даведаліся! А раптам дойдзе і да караля? Яго каралеўская мосць таксама не будзе супраць завалодаць такім трафеем. А як да Вены дойдзе? Тады — дзе рамфея апынецца?

— Можа быць, Божым судом усё вырашыць? — прапанавала пані Алена. — Кожны з прэтэндэнтаў выставіць байца...

— А вы, вядома, свайго Ватмана! — злосна прамовіў Сапега. — Ён хоць і пашкуматаны цяпер, але ўкладзе любога. Несправядліва.

Ватман не стаў больш радасным ад звесткі, што яго могуць выставіць на двубой.

Сонца схавалася за абрысам Сафіі, і храм здаваўся караблём з двума мачтамі, на які мог сесці любы, але дапялі прыйсці толькі адзінкі, вось яны цяпер і адплывуць услед за сонцам у свет святла, а тут застануцца грэшнікі смакаваць імгненні пагібелі. Абраксас ірваўся ў розныя бакі сваёй супрацьлеглай натуры, кукарэкаў, сычэў і сцябаўся, і ніхто не ведаў, чым гэта скончыцца.

Сойм перанеслі з вуліцы ў апусцелы дом Івана Рэніча. Каб не было спрэчак з рамфеяй, яе даверылі трымаць Саламеі, патомнай захавальніцы. Святыню паклалі ў самы прыгожы куфэрак, які маглі знайсці, з чырвонага разнога дрэва, няўважна вытрасшы з яго нечыя каралі ды сыкгнеты. Натуральна, што пані Лёднік ахоўваў цэлы набор жаўнераў — ад кожнай партыі.

Пакуль магнаты займаліся стратэгічнымі справамі, дакладней, крычалі адно на аднаго за зачыненымі дзвярыма, Ватман стамлёна прысеў на лаўку, прыкладаючы да раны на баку хлеб з павутой, найлепшы сродак для зажыўлення. Лёднік дык проста знясілена ўлёгся на падлогу, і Саламея лекавала ягоныя раны такім самым хлебам, намагаючыся не глядзець на белавалосага мужчыну,

якога амаль забіла. А Вырвіч круціў у руках хустачку Паланэйкі, нібыта ў роздуме, і краем вока сачыў, ці заўважае гэта гаспадыня хустачкі, якая была тут жа. Куфэрак з чырвонага дрэва стаяў на століку пад распяццем, у куце. Тры жаўнеры на варце з цікаўнасцю пазіралі на яго, гадаючы, што за каштоўнасці там могуць знаходзіцца.

— Ты казаў, Герман, я жывучы... Куды мне да цябе! — парушыў зацятае маўчанне Лёднік, не адплюшчваючы вачэй. Ватман ашчэрыў зубы ва ўсмешцы.

— Каб я дазволіў забіць сябе бабе? Хутчэй Вавель у зямлю праваліцца.

— Ды як жа ты выбраўся? — шчыра пацікавіўся Вырвіч, пабачыўшы, што Ватман пакуль не збіраецца кідацца на іх, каб дабіць.

— А як два пальцы ў рот сунуць, — наймiт пазяхнуў і зручней выцягнуў ногі — лаўка была для яго занадта нізкай. — Прорва выявілася не такой... прорвістай. Калі за вамі зачыніліся дзверы, пліта, на якой я ляжаў, паднялася. Ляжаў, ляжаў, ачуняў... Гляджу — і рамфея тут жа. Вось толькі красунькі маёй няма.

Саламея ўздрыгнула, але на Ватмана вачэй не падняла.

Лёднік ветліва папытаўся:

— А горла мне будзеш пераразаць?

— Зноў загадаюць — перарэжу.

Паланэя, якая нібыта была паглынутая размовай са сваёй канфідэнткай Ганусяй, перарывіста ўздыхнула і вінавата зірнула на Вырвіча. Значыць, усё-ткі ведала, што ў сутарэнні яны адпраўляліся на смерць. Што ж, хто такі ёй бедны шляхцюк… Пранціш непрыкметна скамячыў хустачку і схаваў у кішэню.

У пакой забег улан, увесь спацелы, з вырачанымі светлымі вачыма, не зважаючы на варту, закалаціў у дзверы, за якімі віраваў высокі сход.

— Ваша мосць, вялікі гетман! Маскоўцы ў горадзе! Сотні тры! На чале з Аляксеем Мельгуновым! Зайшлі з каралеўскім дазволам на кватараванне!

Магнаты выскачылі з пакоя, на хаду выцягваючы шаблі.

Сапега павярнуўся да Багінскага.

— Ты дазвол здабыў, ты пра рамфею данёс, вашамосць? Мусібыць, сябруку Рапніну распавёў?

Багінскі пачырванеў ад гневу.

— Паасцярожней са словамі, пане-браце. Я даносчыкам ніколі не быў.

Княгіня Алена, адзіная кабета патаемнай рады, злосна тузанула брата за рукаў:

— Намякнуў, відаць, што маеш, чым зацікавіць няшчасную будучую царыцу... Ці ёй самой цыдулку паслаў, каб суцешыць? Святы Антоній, дапамажы захаваць розум...

Пані, відаць, збіралася сказаць нешта яшчэ больш рэзкае, але стрымалася, успомніўшы, што ў размовы ёсць непажаданыя і небяспечныя сведкі. Езуіт ціха выпарыўся, нібы яго тут і не было. Радзівіл адрывіста папытаўся ў ваяводы полацкага:

— Ваша мосць, колькі маеце тут ваяроў?

Сапега злосна бліснуў шэрымі вачыма.

— Сто гусараў каралеўскай харугвы... Ды маіх людзей трыццаць. Я ж не ваяваць ехаў...

Радзівіл нахмурыўся.

— У мяне ўсяго дваццаць янычараў. Хацеў захаваць сваю паездку сюды ў таямніцы... У карэце без гербоў ехаў. Пакуль войска сюды прыгоніш...

— У мяне тут сотня чалавек, — прызнаўся Багінскі. — Па горадзе, па наваколлі раскіданыя невялікімі атрадамі. Але я не збіраюся ваяваць супраць маскоўцаў. Пане-браце, не будзем гарачыцца. Урэшце, мы ж не ведаем мэтаў Аляксея Мельгунова! Ён пры двары ніякага ўплыву не мае — ён з бліжняга кола спадчынніка, Пятра Фёдаравіча. Я проста не разумею, што ён тут робіць…

— Прыбліжаны Пятра? — змрочна гукнуў Радзівіл. — Прынца, закаханага ў Фрыдрыха, якому расейцы нядаўна пяты падсмажылі? Вось вам яшчэ адзін прэтэндэнт на рэліквію, панове — Пётр Фёдаравіч. Не ведаю, для сябе альбо для прускага сябра стараецца.

— Гэта зусім кепска… — прамармытаў Багінскі, да якога нібыта толькі цяпер дайшла сур'ёзнасць сітуацыі. — Калі Пётр перахапіў цыдулку да Кацярыны… Яе дакладна сашлюць!

— Пра сябе думай! — злосна прашыпела княгіня Алена. — Табе, вашамосць, нешта тлумачыць — што зорак да неба дабаўляць.

— Значыць, так… — вялікі гетман узважваў у руцэ булаву. — Дзеўку з куфэркам — у той пакой… І бараніць, як уласнае сэрца! Пораху запас сюды, пісталетаў... Ну што, пане-браце, не першы раз на полі бойкі!

Ватман лена ўстаў, распрастаў плечы і падыйшоў да гаспадара:

— Што загадае ваша мосць?

Багінскі толькі роспачна адмахнуўся:

— Што цяпер загадаеш? Біцца будзем! Вылез жа ты не ў час... І гэтых выпусціў. Паланэя чакала, каб цябе папярэдзіць, а тут яны... Эх... Я так і думаў, што дрэнна скончыцца.

Лёднік паспеў моцна пацалаваць жонку і выйшаў, пахінаючыся на хворы бок. А Паланея наблізілася да Вырвіча, які пачціва схіліўся перад магнаткай.

— Пан Вырвіч… Гэта вам.

Пранціш падняў вочы: Паланэя працягвала яму прыгожы кінжал, такога ён у руках ніколі не трымаў — персіянскай работы, з тонкай чаканкай на пазалочаных похвах, упрыгожаных смарагдамі. А на дзяржальне — вялікі дыямент. Пранціш выцягнуў з похваў лязо: яно ззяла, як люстэрка.

— Гэта каб пан Вырвіч і надалей мог сябе абараніць найлепшым чынам! — з лёгкай, не крыўднай, насмешкай прамовіла Паланэйка і хуценька збегла, не чакаючы галантнай падзякі. Пранціш здагадаўся, што гэта было такое выбачэнне за здраду Багінскіх. Ватман, які назіраў гэтую сцэну, выразна хмыкнуў, але Вырвіч не звярнуў увагі на ацалелага найміта. У душы шкаляра граў цэлы аркестр, як у Слуцкім тэатры. Храбры пан Вырвіч

пабываў у сэрцы Полацка, ён прайшоў, як Тэзей, жахлівы лабірынт, яго дачакалася Чароўная Дама… А цяпер засталося здабыць славу на полі бойкі!

Нехта з янычараў Радзівіла заспяваў старажытную рыцарскую малітву святому Юр'ю, якую звычайна спявалі перад бітвай:

— Зброя вапалчаецца, мечэве абнажаюцца,
агонь прэціць, кола дзярзаець.
Скары агнём ізвараемы суць,
усё воінства ўва подзвігу ёсць…

І бойка пачалася.

Атрад расейцаў не чакаў супраціву. Як даносілі Мельгунову шпегі, здабываць рэліквію будуць усяго некалькі чалавек, таемна, не прыцягваючы ўвагі. Задача была — не даць нікому надоўга затрымаць яе ў руках, а то ўладальнік яшчэ набудзе нечуваную моц і нябёснае спрыянне. Таму пасланцы Пятра і спяшаліся, не вычэквалі. А што ля ўвахода ў сутарэнне будзе не толькі Багінскі, але нават вялікі гетман, ніхто, нават сам Багінскі, не прадбачыў.

Брукаванка Полацку не першы раз была залітая крывёй — нібыта смерць спадзявалася, што, палiваючы камяні, яна вырасціць сабе адданае войска. Але нашто ёй войска? Людзі і так служаць смерці, зацята адбіраючы жыцці адно ў аднаго. Метал стукаў аб метал, нібы выбіваўся жудасны рытм смяротных скокаў. Асабліва страшна атрымлівалася, што брукаванку засцілала тонкае покрыва снегу, і кроў проста крычала на белым тле.

У бітве не было магната і шарачка — былі воі. Пранціш бачыў, як звычайна мройны, млявы князь Міхал Багінскі сячэцца з двума прыхаднямі, і ягоны твар такі ж засяроджаны і жорсткі, як і ў іх. Як стары гетман валіць ворагаў палашом — спакойна, акуратна, быццам гаспадар выконвае звыклую сваю працу. А жвавы Сапега ўмудраецца махаць шабляй і адстрэльвацца з пісталета адначасова. Там, дзе праходзіўся Ватман, утваралася дарога. А за Лёднікам,

які яшчэ нядаўна ледзь мог стаяць, Пранціш проста не паспяваў сачыць — ведаў толькі, што ў хвілю смяротнай небяспекі той, хутчэй за ўсё, апынецца побач. Так і сталася — Лёднік вырастаў за спінай Пранціша, і побач валіўся чужы жаўнер, і доктар паспяваў яшчэ выкрыкнуць нейкае важнае павучэнне...

Расейцы таксама не былі баязліўцамі. Смерць усё пашырала свой карагод, хаця за што тут біліся і паміралі, ведала толькі некалькі чалавек. А месцічы проста зачыняліся ў дамах і маліліся Госпаду... Ім не прывыкаць: што ні соймік, пабоішча. Што ні суд, крывавая звада.

Праз нейкі час Вырвіч больш не адчуваў сябе на свяце. Па-праўдзе, ён толькі цяпер зразумеў, што вайна — гэта сапраўды проста цяжкая праца, якую трэба выконваць вельмі старанна і цярпліва. Мірачыся з тым, што не кожны твой геройскі ўчынак будзе заўважаны і ацэнены — не тэатр, панове. Але, здаецца, пакуль не схібіў… Жывы. Толькі русявы чуб зрэзаны чужой шабляй. Ды ніяк не пазбавіцца ад таго гідкага адчування, якое перажыў, калі загнаў падораны Паланэяй кінжал у бок вусатаму казаку, што і зрэзаў Пранцішаў чуб. Біццё чужой крыві перадавалася праз лязо, нібыта на нейкае імгненне Вырвіч і забіты ім чалавек сталі адной істотай... А потым вочы казака згаслі, з іх знікла душа. Страшна бачыць гэтак блізка, вочы ў вочы, як пакідае цела душа.

Вырвіч апусціў Гіпацэнтаўр, які раптам зрабіўся неверагодна цяжкім, выцер шапкай спацелы твар і паспрабаваў аддыхацца. Як там вучыў Лёднік… Кантроль… А дзе, дарэчы, Лёднік?

— Гетман у небяспецы! — закрычалі побач. Пранціш агледзеўся: на тым баку пляца ўтварылася нейкая куча… Туды ўжо нехта бег, прыпусціў і Пранціш з Гіпацэнтаўрам… Але пакуль наблізіўся, куча распалася. Казімір Радзівіл спрабаваў узняцца з брукаванкі, снег вакол яго быў увесь чырвоны. Вялікага гетмана захінаў сабой сын полацкага гарбара і двойчы доктар, ледзь утрымліваючы абедзьвюма рукамі шаблю. А вакол ляжа-

лі прыхадні. Большай часткай мёртвыя. І шмат, дзясяткі са тры. Ляжала і некалькі радзівілаўскіх янычараў, іх белыя суконныя жупаны шчодра афарбаваліся чырванню.

— Ваша мосць, куды вас паранілі?

Да Радзівіла беглі, падымалі, ратавалі… Пранціш падхапіў Лёдніка, які ўжо валіўся з ног, дапамог апусціцца на брукаванку. Доктар, і без таго не смуглявы, зараз быў белы, як новая папера, і ўвесь у крыві. «Нічога, ён жывучы…» — круцілася ў галаве Пранціша.

— Ды адкасніцеся, я нармальна… Вунь таму дзецюку памажыце, — гэта раўнуў гетман, і да Лёдніка адразу павярнуліся, падбеглі, пачалі перавязваць раны.

Раптам пачуўся страшны свіст і конскі тупат. Вершнікі з крыламі за спінамі, у якіх з жудкім высцём біўся вецер, у аперaных шлемах пранесліся па брукаванцы, як прывіды.

— Ваша мосць, гусары з'явіліся! — узрадавана крыкнуў нехта. — Маскоўцы бягуць!

Цяпер кроў на снезе здавалася чорнай. Дый стапталі збольшага той снег, агаліўшы брукаванку, а з камянёў — што ўзяць? Колькі па іх прайшло ўжо мінакоў, праехала калёс, колькі на іх памерла народу, не пакінуўшы следу. І наступныя пакаленні будуць хадзіць па гэтай брукаванцы, не падазраючы, што праходзяць па месцы чыёйсці смерці.

Казімір Радзівіл Рыбанька падыйшоў да Лёдніка, той з дапамогай Пранціша так-сяк узняўся.

— Назавіся, хто такі, — уладна загадаў гетман.

— Баўтрамей Лёднік, доктар, сын полацкага мяшчука Гаўрылы Лёдніка, — прахрыпеў той.

— Значыць, не шляхціц… — задумліва прамовіў гетман.

— Ваша мосць, яму далі патэнт на шляхецтва! Яго мосць князь Багінскі… — улез Пранціш. Гетман перавёў на школяра цяжкі позірк.

— Патэнты гэтыя — цьху, ганьба! Нічога яны не значаць. Я б такіх новых шляхціцаў у балаган адпраўляў, замест медзвядзёў. А ты хто ёсць?

— Пранціш Вырвіч з Падняводдзя, герба «Гіпацэнтаўр»! — Пранціш падпёр плячом Лёдніка, які так і мерыўся зваліцца, а зараз гэта было недарэчы.

— Чарнакніжнікі абодва? — са змрочнай насмешкай папытаўся Радзівіл.

— Гэта паклёп, ваша мосць! — горача запэўніў Пранціш. — Мы абодва добрыя хрысціяне, доктар нават адмовіўся гараскопы складаць, каб гаданнем не грашыць! Ну скажы, што так, Бутрым!

Вакол пачалі збірацца ацалелыя людзі, нехта крычаў:

— Віват! Перамога!

Гетман дастаў з похваў свой палаш і звярнуўся да доктара:

— Значыць, так, рыбанька. Патэнт свой можаш парваць і выкінуць, гонару ён табе не дасць. Бо набілітацыю можа ўчыніць альбо Трыбунал, альбо вялікі гетман на полі бітвы за выбітны подзвіг. Вось другі прэцэдэнт і маем перад сабой. Так, панове?

Навакольныя ўхвальна загулі.

— Вы ўсе бачылі, як гэты ваяр выратаваў жыццё вялікаму гетману, і як біўся, не шкадуючы сябе, з надзвычайным майстэрствам і мужнасцю. Давай, рыбанька, на калені станавіся...

Лёднік упаў на калені, не ад таго, што спяшаўся выканаць загад, а ад слабасці. Гетман ударыў яго палашом па плячы:

— Пасвячаю цябе, Бутрым Лёднік, у рыцары... Ды патрымайце хтось дзецюка, каб не дзюбнуўся. Пояс падайце... Абвяжыце яго. Вазьмі гэтую шаблю, цалуй яе і кляніся, што будзеш да скону служыць сваёй радзіме, свайму каралю і свайму пану, і без жалю аддасі жыццё за Айчыну. Дару табе і тваім нашчадкам вёску Караблі, і валодаць табе і тваім нашчадкам адгэтуль гербам «Кораб»... І яшчэ тысячу дукатаў даю на гаспадарку. Дарчую падрыхтуйце шаноўнаму пану...

Пранціш не столькі сачыў за абрадам, колькі глядзеў, каб доктар не паваліўся, сапсаваўшы ўрачыстасць. Але доктар вытрымаў усё ажно да таго моманту, як шляхта пачала крычаць «Віват пану Лёдніку»! Вось тут ён і прыклаўся шчакой да полацкай брукаванкі. Гетман задаволена прыгладзіў вусы:

— Адважны вой! Як шабляй валодае! Ніколі такога не бачыў. Ну, калі памрэ — дык пахаваем, як шляхціца.

І рушыў сабе далей.

Пранціш паклікаў двух янычараў, доктара паклалі на чыйсьці плашч і панеслі да дому Рэнічаў. Месца знайшлося ў пераплётнай майстэрні, якая была побач з домам. Тут таксама пабывалі жаўнеры, пра што сведчыла стаптаная падлога і перавернутыя верстакі.

Непрытомнага Лёдніка паклалі на лаву. Пранціш паслаў нейкага паштовага па ваду, і калі той прынёс вядро, абцёр твар параненага мокрай анучай. Доктар уздыхнуў, расплюшчыў налітыя крывёй вочы.

— Вады...

Напоены доктар знайшоў сілы прыўзняцца і агледзець пакой.

— Дзе Саламея? Дзе ўсе?

— Пра пані Лёднік не ведаю. А ўсе — там, на вуліцы, чуеш, равуць, віно п'юць у гонар вікторыі. Ты хоць памятаеш, што ты цяпер не толькі двойчы доктар, але і двойчы шляхціц? І цяпер тваё шляхецтва ніхто не аспрэчыць! Да таго ж, ты багацей за мяне на цэлую вёску. Шчаслівы канец, пан Лёднік!

На двары сапраўды раўлі пераможныя песні:

— Гой-гой, вайна рыхла, покуль сціхла,
Распачаці святкаваці!
Келіх пенна піва,
Піва яно жыва!

Гой-гой, ад суседа няхай беда,
Выпі ныне — хвора згіне,
Лісся, піва, ныне
Ў шчаслівай гадзіне!

Двойчы шляхціц зноў зняможана ўлёгся.

— Гэта толькі пачатак, хлопча. Нічога яшчэ не скончана, і будзе яшчэ горш, пакуль...

Раптам дом скалануўся... Ды што там — свет скалануўся, і што яшчэ не пападала з паліц — то ўпала. Пранціш кінуўся да акна, але праз маленькія слюдзяныя шкельцы нічога не было відно. Гарматы, ці што? Лёднік сеў:

— Выбухнула пад зямлёй... Там, дзе пограб... Памажы, трэба паглядзець!

На вуліцы рабілася немаведама што. Зноў чуліся крыкі магнатаў, асабліва выразна — тонкі голас Аляксандра Сапегі, які быццам абурана сцябаў паветра:

— Злодзеі! Дзе рамфея?

Пранціш схапіў за крысо радзівілаўскага ад'ютанта, юнака з чырванаватым носам і пышнымі светлымі вусамі, які напэўна ж быў не апошні піток на знакамітых нясвіжскіх балях:

— Пане-браце, што адбылося?

Той махнуў рукой:

— Ды паны замкнулі ў пакоі нейкую дзеўку, а яна знікла, ды яшчэ скрала нешта. Вось цяпер шукаюць.

Пранціш і Лёднік пакульгалі да пограба, які хаваў уваход у сутарэнні. У вокнах дома Лейбы мігцела свечка, і Пранціш уявіў, як стары аптэкар пералякаўся за апошні дзень, і што перажывае ён цяпер, не ведаючы, можа, пара ўцякаць альбо ўжо і бескарысна ўцякаць. Перад пограбам зноў сабраліся магнаты, якія падазрона паглядалі адзін на аднаго. І айцец езуіт зноў быў тут як тут. Побач з ім узмахвала рукамі захутаная ў футра княгіня Алена з Багінскіх, і нават Герман Ватман стаяў сабе скалой, адпіваючы з велізарнага кубка віно.

— Напэўна, напачатку трэба знайсці жанчыну, — мякка падказаў езуіт. — Наўрад яна магла сысці далёка.

Але жанчыну не трэба было шукаць, таму што яна выскачыла з пограба. І не адна — за ёй бегла Паланэя Багінская. Абедзве перапэцканыя, і крычалі самым нявартым гжэчных паняў чынам:

— Бяжыце! Зараз выбухне!

І сапраўды выбухнула. І добранька так. На месцы пограба засталася яміна.

Багінскі падскочыў да Паланэі, схапіў за руку:

— Дзе рамфея?

Дзяўчына вызвалілася:

— Ах, пане-браце, здарылася такая жахлівая прыгода, страшнае няшчасце... Я не пайшла з сястрыцай хавацца ў манастыр, бо згубілася па дарозе, і папрасілася ў пакой да гэтай пані. І раптам пачалі ламіцца ў акно казакі. Мы давай страляць у іх, адагналі, але былі пэўныя, што да нас зноў палезуць... І вырашылі схаваць рамфею ў самым надзейным месцы.

— Гэта дзе? — падазрона папытаўся Аляксандр Сапега, які ўважліва прыслухоўваўся да расповеду.

— Там, дзе яна і была некалькі вякоў! — цвёрда сказала Саламея Лёднік.

— Ах ты... — Сапега ажно кулакамі затрос. — Дадумаліся, курыцы бязмозгія!

— Асцярожна, пане-браце. Ты гаворыш пра маю сястру, — злосна нагадаў Багінскі і зноў перавёў вочы на перапэцканы тварык з блакітнымі і такімі бязвіннымі вачыма: — А выбухнула што?

— Ах, ваша княская мосць, мой вялікадушны браце, гэта і ёсць нешчаслівы выпадак! У нашым пакоі пакінулі бочачкі з порахам... Вось мы і надумаліся іх схаваць таксама. Каб казакі не забралі ды чаго не ўчынілі... — Паланэйка даверліва ўзмахнула вейкамі — ай, якая наіўная, але добрая дзяўчынка перад вамі... Хіба яна магла прадбачыць, што здарыцца?

— Ясна. Рамфея ў сутарэннях, а сутарэнні абваліліся, — са змрочнай усмешкай выказаўся Радзівіл. — Абваліліся як, рыбанька, добра? Разабраць няможна?

— Ой, добра абваліліся, Ваша княская мосць, вялікі гетман! — запэўніла пяшчотным галаском Паланэя Багінская. — Ніякай чалавечай магчымасці разабраць завалы няма!

Гетман прыгладзіў сівыя вусы, паглядзеў на вытанчанае, велічнае аблічча Саламеі, на круцельскі тварык малодшай Багінскай, хмыкнуў:

— Гэта ты, вашамосць, Чартарыйскую на двубой выклікала?

— Каюся, вашамосць вялікі гетман, сорамна мне за такія непрыстойныя паводзіны, — сціпла апусціла вочы Паланэя.

— Каб я так віно піць саромеўся... — прабурчэў гетман. — А ты, пані, скалечыла паюка майго брата?

— Я толькі вочы яму содай прамыла, ваша мосць, прысягаю сваім вечным жыццём! — прамовіла сваім глыбокім нізкаватым голасам Саламея.

Вакол распачаўся гвалт, гучэлі прапановы даць дурным бабам бізуноў і зараз жа пачаць разбіраць завал. Але вялікі гетман гукнуў голасам, якім прывык аддаваць каманды на полі бойкі, перакрываючы любы шум:

— Ану, сціхніце! Хацелі Божай волі? Вось вам Божая воля! Рамфея застанецца там, дзе і была. І пакуль людзі на гэтай зямлі не паразумнеюць, там, напэўна, і застанецца. Усё, па дамах!

Кінуў на развітанне Паланэйцы:

— Жадаю табе добрага мужа, рыбанька! Каб змог цябе зацугляць.

Спыніўся паглядам на Саламеі:

— Гэх, быў бы я маладзей... Буду праязджаць паўз ваш маёнтак — заеду, пані Лёднік.

І пайшоў разам са сваёй світай. Сапега злосна мармытнуў на развітанне:

— Колькі грошай... Клопатаў... Колькі крыві пралілося... І ўсё на камарыны піск сышло. Феміны... Нельга на іх пакладацца... — і горка ўздыхнуў, успомніўшы, відаць, жонку, якая дарыла свае міласці маладому Брулю, ды так і не вымяняла на іх для мужа булавы гетмана польнага.

А Багінскі нават не захацеў слухаць нараканні старэйшай сястры і заявіў, што палітыка — нішто ў параўнан-

ні з музыкай, і яго вынаходніцтва педалі для арфы ёсць куды больш важным для гісторыі, чым усе сёстрыны інтрыгі. Лепей ён мануфактуру з машынамі зафундуе з дапамогай свайго новага найміта, вучонага немца.

Ватман жа, пакульгваючы, падыйшоў да Лёднікаў і Вырвіча, дапіў віно, шпурнуў пусты кубак за спіну:

— Кепскім я быў шкаляром, не лепшым, чым ты, шчагол... Але запомніў, як нам расказвалі, што калі пераможнага ваяводу правозілі з трыумфам па вуліцах Рыма, за ягонай спінай стаяў чалавек, які шаптаў яму: «І гэта праходзіць» ды іншыя гадасці. Я заўсёды буду за тваёй спінай, доктар... А добра ўсё-ткі, што я не перарэзаў табе горла, га?

Саламея абдымала Лёдніка і плакала — ад жалю і палёгкі. Радзівілаўскі ад'ютант падбег, сунуў доктару дарчую на маёнтак і грамату на шляхецтва, ветліва развітаўся з панам-братам. Другі шляхціц, праходзячы, стукнуў доктара па плячы, ад чаго той ледзь не перагнуўся ад болю, і прапанаваў пану-брату Бутрыму Лёдніку пайсці ў дом ваяводы, добра выпіць з нагоды вікторыі. Трэці шляхцюк па ўсіх сармацкіх звычаях запрасіў на Масленіцу ягамосць пана Лёдніка пагасцяваць у свой маёнтак ля Дрыбіна... Той самы гонар аказвалі і ягамосці пану Пранцішу Вырвічу, які ганарыста паклаў руку на Гіпацэнтаўр, і паварочваўся так, каб усе бачылі каштоўны кінжал, хаця ў прыцемку наўрад хто звяртаў увагу на ягоную зброю. Саламея разгублена папыталася доктара:

— Чаму яны так з табой?

— Твой муж вялікага гетмана на полі бойкі ратаваў, і гетман яго паводле Статута і сармацкіх звычаяў у рыцары пасвяціў, — з шырокай усмешкай патлумачыў Пранціш. — Так што ты — пані Лёднік герба «Кораб», уладальніца вёскі Караблі і тысячы дукатаў. Толькі вось што я параю, вашамосць пані... Давай адвядзем доктара ў дом, пакуль ён яшчэ на нагах трымаецца.

А ў Пранціша быў княскі кінжал з дыяментам і смарагдамі і яшчэ адзін пацалунак, на гэты раз у вусны, ад Паланэі

Багінскай. Ягонай неверагоднай Чароўнай Дамы, якая здольная біцца на двубоі, прабірацца скрозь лабірынты і ўзрываць бочкі з порахам. Было і абяцанне пачакаць аддаваць каму сваё сэрца, пакуль малады Вырвіч не стане генералам. Вядома, калі гэтая падзея не зацягнецца ў часе.

Назаўтра на брукаванцы зноў свяціўся бялюткі снег, ажно шкада ступіць, парушыць ягоную чысціню, і нібыта не было ўчора крывавай бойкі... Целы, праўда, там-сям ляжалі. Ад целаў моцна патыхала гарэлкай і чуўся моцны храп. За вікторыю шляхціц п'е, пакуль з ног не зваліцца — калі смерці не ўдалося яго зваліць. У сутарэннях дзесьці пад святой Сафіяй ззяла нябачным святлом рамфея.

— Калі ж вы вернецеся ў Полацак, а, дзеткі? — тужліва пытаўся стары Лейба, углядаючыся ў аблічча Лёднікаў. — І ці вернецеся? Свет вялікі... І вы цяпер вялікія людзі.

— Вернемся, дзядзька Лейба, — запэўніла Саламея. — Бо мы занадта малыя ў параўнанні з Полацкам, каб забывацца на яго.

— Можа, дарэмна ты, Бутрым... прабач, вашамосць, пан Лёднік, не згадзіўся пайсці служыць у войска вялікага гетмана... Адразу ж чын немалы абяцалі, — сумнiўна прамовіў аптэкар. — І пан Вырвіч кар'еру б неблагую зрабіў.

— Дзядзька Лейба, ты можаш уявіць мяне з раніцы да вечара за піравальным сталом, пад які я валюся, напіўшыся, а потым, ледзь прадраўшы вочы, лезу абараняць свой гонар ад пана-брата, і мы сячэм адзін аднаго шаблямі з-за крывога позірку альбо штуршка ў плячо? — мякка прагаварыў Лёднік, апрануты, згодна свайму новаму статусу, у шляхецкі строй, хаця й без дыяментавых «гузаў» ды кідкай аздобы. — А мой гонар, «свежага шляхціца», дакладна будуць выпрабоўваць, каму не лянота. А можаш уявіць, як я гарланю на сойміку ў абарону не самага разумнага, але пакорлівага дэпутата, якога падтрымлівае мой патрон?

— Так, гэта цяжка ўявіць, — пасміхнуўся Лейба. — А высакародны пан Вырвіч?

— Пакуль што я — з імі, — коратка адказаў Пранціш.

— Яму давучыцца трэба, — прамовіў Лёднік. — Што толку, калі зараз ён прызвычаіцца да жыцця ў магнацкай рэзідэнцыі, і стане такім, як пан Міхал Валадковіч? Той жа таксама не без клёку быў, дужы, адважны... А як скончыў: расстралялі свае ж ліцвіны ў сутарэннях Менскай ратушы. І ніхто, акрым Пане Каханку і ягоных падхлебнікаў, добрым словам не спамяне.

— Шляхціц усё роўна вайны не ўнікне! — весела выкрыкнуў Пранціш. — Fac et spera, дзейнічай і спадзявайся! Мне генералам трэба стаць!

— Будуць, будуць яшчэ ў цябе подзьвігі... — буркатліва прамовіў Лёднік. — На ўсіх нас бітваў хопіць, часы ліцвінаў чакаюць бурлівыя. І пакуль ёсць магчымасць — трэба заняцца нечым стваральным. А Віленская акадэмія — неблагое месца і для навуковай працы, і для атрымання адукацыі.

— Тым больш у пана Вырвіча там знаёмы прафесар цяпер маецца, — дадала з усмешкай Саламея.

— Што не дасць яму ніякіх патуранняў, — строга зірнуў на Пранціша Лёднік. Вырвіч фыркнуў, паправіўшы новую пухнатую шапку з аграфам: студэнты акадэміі яшчэ не ведаюць, які падаруначак атрымалі ў асобе прафесара Бутрыма Лёдніка. Ганяць будзе, як хорт зайцоў! Пранціша вунь як заганяў, рыхтуючы да залічэння ў студыёзусы.

А ў Акадэмію хацелася — Лёднік абяцаў, што там знойдуцца вучоныя механікі не горшыя ад Пфальцмана. Пранцішу карцела самому паспрабаваць зладзіць машыну, яшчэ лепшую за жалезную чарапаху, якая б ездзіла хутка і далёка. Філасофія таксама была не самай нецікавай навукай, як раней думаў Вырвіч. А астраномія! Паглядзець на зоркі ў тэлескоп, пабачыць рух каметаў! Так, цяперашні Вырвіч дужа адрозніваўся ад таго школяра, які паўгады таму зрабіў неверагодна выгадную пакупку за мядзяны шэлег.

Лейба выцер слёзы і адступіў да весніцаў. Полацак лена прачынаўся, дзівячыся цішыні раніцы, якую ніхто не паспеў зганьбіць крыкамі, стрэламі і лаянкай. Малады фурман, які чакаў ля новенькай брычкі сваіх гаспадароў, у чарговы раз абыйшоў экіпаж, паправіў наладаваныя куфры, шматзначна зірнуў на неба: развіднела зусім, ці не час у дарогу?

— Ну што, рушым? — Пранціш, які ўжо сядзеў конна, нецярпліва азіраўся, ледзь стрымліваючы свайго — уласнага! — каня, белаплямістага дрыгканта, што так і рваўся паляцець у далёкія далі, дзе чакаюць новыя авантуры і подзвігі.

І яны рушылі па дарозе з Полацка на Вільню.

*2011 г.*

Выдавецкі дом «Звязда»

## Тлумачэнне некаторых гістарычных тэрмінаў:

***Амарат*** — каханак.

***Банда*** — так у XVIII стагоддзі называлі каманду, гурт.

***Гіцаль*** — памочнік ката, слова ўжывалася як лаянка.

***Гуз*** — дыямент, якім упрыгожвалі шляхецкую шапку.

***Дысідэнты*** — так у Рэчы Паспалітай называлі вернікаў-хрысціян, якія не належалі да каталіцкага веравызнання: прыхільнікаў арыянства, кальвінізму, лютэранства, сацыян, анабаптыстаў, квакераў, менанітаў, а пасля Берасцейскай уніі 1596 года і праваслаўных.

***Казакі*** — не толькі сацыяльная супольнасць, але таксама і від лёгкай кавалерыі.

***Канфідэнт*** — давераная асоба.

***Карусель*** — прыдворны рыцарскі турнір.

***Кумпан*** — блізкі сябар.

***Ліберум вета (liberum veto)*** — права кожнага шляхціца адмяніць рашэнне любога сойму альбо забараніць ягоную працу.

***Ліхвяр*** — той, хто пазычаў грошы і жыў з атрыманых працэнтаў.

***Магістрат*** — гарадская рада.

***Маршалак*** — вялікі маршалак кіраваў вялікакняскім дваром і сенатам, павятовы — ачольваў мясцовы ўрад, вёў павятовы соймік, трыбунальскі — кіраваў судовымі пасяджэннямі.

***Сармацкі касцюм*** — традыцыйны шляхецкі ўбор, складаўся з жупана, кунтуша, пояса ўсходняга тыпу, шапкі з футрам. У Рэчы Паспалітай яго насілі паралельна з нямецкім (французскім) строем еўрапейскага ўзору, але прыхільнікі традыцый «чужую моду» не ўхвалялі.

***Трыбунал*** — галоўны суд ВКЛ.

***Фамілія*** — групоўка магнатаў, якую ачольвалі Чартарыйскія.

***Фартуна*** — улюбёны вобраз куртуазнай літаратуры, удача.

***Харугва*** — рота шляхецкай кавалерыі, у якой было ад 30 да 200 чалавек.

***Шэлег*** — дробная мядзяная манета, роўная адной трэці меднага гроша.

***Янычары*** — від войскаў у ВКЛ.

Літаратурна-мастацкае выданне

*Святло мінуўшчыны*

**РУБЛЕЎСКАЯ** Людміла Іванаўна

**АВАНТУРЫ ПРАНЦІША ВЫРВІЧА,
ШКАЛЯРА І ШПЕГА**

*Раман прыгодніцкі і фантасмагарычны*

Рэдактар *В. К. Жолтак*
Мастак *Я. К. Вашчанка*
Вёрстка *Л. В. Міхеева*
Стыльрэдактар *В. К. Жолтак*

Падпісана ў друк 25.10.2012. Фармат 84×108 1/32. Папера афсетная.
Афсетны друк. Ум. друк. арк. 14,28. Ул.-выд. арк. 13,25.
Тыраж 1600 экз. Заказ .

Установа «Рэдакцыя газеты «Звязда».
ЛИ 02330/936 ад 11.10.2010.
Вул. Б. Хмяльніцкага, 10А, 220013, г. Мінск.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства
«Друкарня “Перамога”»
ЛП 02330/0494182 ад 03.04.2009.
Вул. Таўлая, 11, 222310, г. Маладзечна, Рэспубліка Беларусь.

Выдавецкі дом «Звязда»